**Іван Мележ**

# Мінскі напрамак

*Раман у двух тамах*

*Том першы*

Дзяржаўнае выдавецтва БССР
рэдакцыя мастацкай літаратуры
Мінск 1958

# КНІГА ПЕРШАЯ
# Хмары на світанні

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ
### Раздзел I

#### 1

Шабуніха на хвіліну стала. Грэбелька раптам перарывалася, далей была густая іржавая твань.

Жанчына зморана паглядзела наперад: сухое месца віднелася праз паўсотні крокаў. Людзі, што ішлі туды, грузлі ў твані ледзь не да пояса.

З Аўдоццяю Шабуніхаю было трое дзяцей: хлопчык год дванаццаці; дзяўчынка, худая, кволая, на год ці на два маладзейшая за хлопчыка; трэцяе дзіця, гадоў трох, яна несла ў хустцы, перавязанай цераз плячо. Аўдоцця з жалем паглядзела на дачку, як бы для таго, каб пераканацца, ці пройдзе тая. Непакоячыся аб дзецях, яна зусім забылася пра сябе, хоць і адчувала ў нагах, ва ўсім целе вялікую стому.

— Андрэй, стань з таго боку, вазьмі Вольку за руку, — загадала маці хлопцу.— Памагаць будзеш ёй... Цыц ужо ты! — строга крыкнула яна малому, што нясціхна вёў за спіною: ны-ы, ны-ы.

Аўдоцця мацней сціснула тонкую руку дзяўчынкі і маўкліва ступіла следам за ўсімі. Ногі адразу ўехалі вышэй кален у мяккую цеплаватую гушчу. Праз два крокі яна адчула галлё, — гэта былі, відаць, рэшткі грэбелькі, якую спехам наслалі на падатным грунце.

Церабіліся па твані марудна. Дзяўчынка крывілася, хочучы заплакаць, але стрымлівалася. Андрэй падбадзёрваў яе:

— Хіба гэта гразь! От мы на тым тыдні лавілі рыбу, дык прыходзілася ўлазіць па шыю — і то нічога...

Выбраўшыся зноў на сухое месца, Шабуніха, не спяшаючыся, выцерла пот з ілба, павярнулася назад. Глядзела нерухома ўдалеч. На твары з рэзкімі, амаль мужчынскімі рысамі, з плямамі засохлай крыві і гразі застыў адзін нязменны выраз трывогі і зморанасці.

У тым баку, куды глядзела Аўдоцця, над абрысам лесу клубілася чорная хмара дыму. Яна паднялася высока, закрыла сонца. За ёй — цёмна-шэрыя, невыразныя воблакі, падобныя да дыму, здаецца, што гэта не воблакі, а таксама дым. Усё неба зацягнута дымам.

Чым больш аддаляецца Аўдоцця ад таго лесу на беразе балота, тым вальней становіцца ёй. І разам з гэтым мацнее, уздымаецца неспакойная думка:

«Што там?»

Там, дзе засталіся партызаны, дзе яе Змітро.

Каля Шабуніхі праходзілі, нё спыняючыся, людзі, такія ж, як і Аўдоцця, стомленыя, устрывожаныя, маўклівыя. Старыя, маладыя, пажылыя, дзеці, з клункамі, без клункаў. Часам між людзей паслухмяна брылі каровы і коні, і здавалася, яны таксама разумеюць усё, што адбываецца навакол.

Тысячы ног тапталі нетрывалую грэблю, вялікае балота хлюпала, чвякала, уздыхала. Побач грэблі гарбаціліся павозкі, зваленыя набок, ляжалі коні, каровы — адны мёртвыя, другія — яшчэ жывыя — біліся, намагаючыся вырвацца з твані.

Шабуніха адвярнулася, паправіла на сабе хустку, узяла за руку дачку і пацягнулася далей.

— Божа мой... Божа мой... — пачула поруч з сабой Шабуніха.

Яна азірнулася на голас, убачыла старую жанчыну са схуднелым, зняможаным тварам. За плячыма ў старой вісеў клунак, напэўна, з дамашнім скарбам.

— Божа мой... І — куды? Куды, — каб ведалі!..— пыталася яна, ні да каго не звяртаючыся.

— Пра што ты? Што — куды? — не зразумела Шабуніха.

—Усё сяло знялася з месца. Усё кінулі... І пайшлі... Куды! Куды!..

— Дык нашто ж ты ідзеш, калі шкадуеш? — няласкава, з папрокам адгукнулася Аўдоцця.

— Э-э, нашто... Куды хочаш пойдзеш, абы не заставацца на пакуту гэтаму душагубу. Божа мой... Божа мой...

Аўдоцця ішла маўкліва. У галаве не было ніякіх думак, жыло адно жаданне — дайсці б хутчэй. Легчы на траву, выпрастаць здзервянелую спіну, даць спачын натруджаным нагам.

— Любка! Люба-а!— клікаў нечы асіплы голас.— Люба-а! А-а-а...

Аўдоцця ўбачыла непадалёк малую дзяўчынку, што ішла адна. Сукенка малой на плячы была парвана, тонкія ножкі залеплены граззю. Шабуніха пацягнула яе за вострае плячо.

— Гэта не цябе клічуць?

— Не... — абыякава адгукнулася тая, нават не зірнуўшы на Аўдоццю.

— А як цябе зваць?

— Воля Рыгорава... З Забалоцця я...

А жанчына, што цягнулася побач, усё шамкала: «Што ж гэта? Што гэта?»

Голас гэты кружыўся вакол галавы Шабуніхі назойліва, як камарыны гуд. У нейкую хвіліну ён абарваўся, Аўдоцця пачула новае: «Ой, не магу». Яна не адразу дайшла да сэнсу таго, што сказала старая, і мімаволі азірнулася. Жанчына памутнелымі вачыма пазірала на траву, збіраючыся сесці.

— Што ты?— з непакоем схапілася за яе руку Шабуніха. — Не трэба спыняцца.

Старая дыхала зморана, з хрыпам. Нейкі час маўчала, нібы не разумела, што ёй кажуць, потым абыякава кіўнула галавою:

— Усё роўна... Не магу больш.

Аўдоцця ўзяла яе падпаху, падтрымала. Старая, адчуўшы падмогу, абаперлася і выпрасталася крыху.

— Пойдзем удзвюх, — сказала сурова, але спагадліва Шабуніха. — Так лягчэй?

— Лягчэй, — прашаптала жанчына.

Яны разам пабрылі па грэблі. Потым грэбля кончылася, і яны пайшлі па куп'і. Пачаўся дробны забалочаны лясок, у якім худыя алешынкі-недаросткі мяшаліся зрэдку з бярозкамі. Абмінулі моўчкі вялікую варонку ад бомбы, напоўненую да паловы рудой балотнай вадою. На вывернутай зямлі пры дарозе ляжалі забітыя з пачарнелымі тварамі. Над імі ніхто не плакаў, не жахаўся. У кожнага сваё гора.

Аўдоцця час-ад-часу ўстрывожана пазіралаў хмарнае неба, недаверліва прыслухоўвалася, ці не набліжаецца няроўнае перарывістае завыванне. Не разабраць. Адно было чуваць — ззаду густа траскочуць кулямёты, раз-по-раз даносяцца глухія моцныя выбухі.

Яна зноў спынілася і паглядзела назад. Там муж, Змітро, — там многа знаёмых партызан б'юцца насмерць з гітлераўцамі.

Ці ўтрымаюцца? Ці выжывуць?.. Грудзі Шабуніхі сціснула туга. «Змітро, беражыся, глядзі!» — нема падумала, папрасіла яна.

Аўдоцця прыцягнула да грудзей галоўку сына, моцна прытуліла.

## 2

Праз дзве ці тры гадзіны Шабуня атрымаў паведамленне, што гітлераўцы прарваліся да брыгаднай пераправы. На шчасце, іх удалося затрымаць. Каб спыніць немцаў зусім, партызаны мост цераз рэчку ўзарвалі, а грэбельку на багністым узбярэжжы ў некалькіх месцах замініравалі. Атрады адышлі добра.

Аднак гэта рэзка пагоршыла становішча роты Шабуні, якая прыкрывала адыход атрадаў. Адступаць можна было цяпер толькі

праз гнілое, дрыгвяное балота. Але самая большая бяда, пэўна, была ў тым, што немцы адразу ж супраць роты ўзмацнілі націск. Адна за адной пачаліся шалёныя атакі.

Снарады і міны са свістам лажыліся спераду, ззаду, збоку. Здрыгалася зямля. Шыбалі ўгару цёмныя стаўбуры дыму, вогненна бліскала полымя. То ў адным месцы, то ў другім узляталі маладыя сасонкі, вырваныя з карэннем, кружачыся, падалі з павольна асядаючым пяском; згары сыпаліся ссечаныя асколкамі галінкі.

Адна міна ўцэліла ў ствол сасны. Коратка бліснула полымя, і дрэва пераламалася. Тонкая стромкая вяршыня, акрэсліўшы лапчастаю макаўкаю дугу, моўчкі апусцілася на зямлю. Застаўся цяпер тырчаць толькі камель з вострым белым верхам.

Туравец — камісар брыгады — разам з другімі ляжаў на траве, хаваючыся за камлі дрэваў. Здавалася, што зараз на галаву ўпадзе міна, хацелася ўціснуцца глыбей у зямлю, каб ніякі асколак не зачапіў.

Калі раптам сціхла, Туравец не адразу пачуў, што настала цішыня, бо ў вушах яшчэ звінела. Ён атрос пясок, які насыпаўся за каўнер, прачысціў вушы...

Было так ціха, што ламала скроні.

Па пясчаным адхоне поўз, растаючы, горкі белаваты дым. Ад яго душыла ў грудзях і шчымела ў горле.

— Зараз пойдуць...— сказаў поруч Шабуня, поўны, з абвіслымі вусамі, немалады чалавек.

У голасе камандзіра роты Туравец пачуў непрыхаваную трывогу. Ён мімаволі зірнуў на Шабуню, — той глядзеў наперад, дзе былі гітлераўцы. На яго віслых вусах — чамусьці кінулася ў вочы камісару — ліпелі камячкі пяску.

— Ся-стру-у! — перадалі па ланцугу. Туравец заўважыў, як Ніна — сястра — праз хвіліну прабегла паўз яго.

Шабуня, не адрываючы позірку ад гітлераўцаў, гаварыў:

— Нічыпар, як ты думаеш: Ярмак, пэўна, цяпер далёка?.. Знік з-пад самага іх носа. Нам і не легка зараз будзе дагнаць яго... Мы знімемся, як толькі пачне цямнець. Я буду вясці, я тут добра ведаю кожную сцежку... — ён запыніўся і раптам вылаяўся: — Пайшлі... От, свалата!

Туравец, які сачыў за полем, убачыў наводдалек постаці. Яны былі ледзь прыкметны на цёмнай зубчатай сцяне ельнічку.

Гітлераўцы ішлі павольна, нястройным ланцугом, то сціскаючыся ў купкі, то разыходзячыся. Каб не гэты рух адсюль здавалася б, што яны стаяць на месцы.

На полі там і тут былі відаць трупы ў шэра-зялёнай вопратцы, енчылі непрыбраныя раненыя, а гітлераўды зноў ішлі. Пазіраючы на далёкія постаці, Туравец адчуў, як сэрца напаўняе напружанае чаканне.

— Упартыя!.. чортавае племя! — вылаяўся Шабуня.

Гэта было трэці раз. Трэцяя атака.

У чаканні атакі Туравец неяк заўважыў вялікую рудую мурашку, што спакойна і дзелавіта паўзла з паклажаю па пясчанай лысінцы між рэдкіх кусточкаў травы. «Бач ты! — здзівіўся і чамўсьці ўзрадаваўся камісар. — Тут, здаецца, канец свету, а яна і не шманае: маўляў, што мне да вас, да ўсяго, у мяне свой клопат!..»

Раптам з ельнічку, адкуль выбеглі салдаты, вынырнула прыземістая, падобная да чарапахі машына і, пакалыхваючыся з боку на бок, рушыла, пераганяючы пехацінцаў. Следам за ёй паказалася другая.

— Танкі! — крыкнуў нехта.

Шабуня на адзін міг кінуў на камісара быстры позірк, у якім былі відаць неспакой і трывога. Ён нібы шукаў падтрымкі ў камісара. У наступную хвіліну Шабуня ўжо камандаваў:

— Бранябойшчыкі-і-і... па танках!.. Падрыхтаваць гранаты!..

На адной машыне бліснуў агеньчык, і на ўзлессі нізка, са свістам ірвучы паветра, шугануў снарад.

Туравец, схапіўшы дзве гранаты, што ляжалі ў ямцы між карнявішча, крыкнуў на хаду Шабуню: «Я ў першы ўзвод!» Ён, нагінаючыся, хутка пабег між дрэваў. Над галавой шуганулі яшчэ некалькі снарадаў, але камісар нічога не заўважаў. Толькі, калі ўпаў каля аднаго партызана першага ўзвода, пачуў поруч стрэл бранябойкі. Кароценькі бранябойшчык з густым чубам, які спускаўся на лоб, хутка зарадзіў ружжо зноў і нібы прырос да яго, не зводзячы вачэй з сваёй цэлі, не заўважаючы нічога іншага.

Забітага камандзіра ўзвода замяняў Васіль Крайко, бялявы, з блакітнымі вачыма, хлопец у нямецкім афіцэрскім мундзіры і пілотцы з зоркаю. Ён быў насцярожаны і не па гадах суровы.

— Ну, што, салдаты,— горача?— знарок весела прамовіў Туравец.

Вася нічога не сказаў, але на твары мільганула скупая, ледзь прыкметная ўсмешка. Камісар асцярожна выглянуў у бок немцаў, — танкі, прыземістыя, злавесныя, упарта набліжаліся. Яны рушылі паволі, напэўна, таму, што баяліся адарвацца ад пехацінцаў, якія, хаваючыся за бранёй, ішлі ўслед за танкамі.

— Дай наперад чалавека з гранатамі,— сказаў камісар. — Больш надзейнага выберы...

Па выразу твару Васіля Туравец бачыў, што ён ведае, які чалавек патрэбны. Значыцца, не трэба гаварыць, што гэты чалавек можа і не вярнуцца адтуль, але што паслаць туды чалавека неабходна. Ён павінен затрымаць машыну, не дапусціць яе сюды.

У тую ж хвіліну Туравец заўважыў, што паблізу хтосьці ўскочыў і, утуліўшы галаву ў плечы, баязліва кінуўся наўцёк да зараснікаў, якія былі ззаду.

Камісар, быстры і рашучы, ускінуў аўтамат, — у чорных вачах бліснулі жорсткія агеньчыкі.

— Куды? Стой!— гнеўна крыкнуў ён і пусціў чаргу. Уцякач прысеў нерашуча. — Назад!

Той неахвотна паслухаўся, згорбіўшыся, як мага, падаўся да свайго месца.

— Эх ты, ваяка!— насмешліва сказаў Туравец.— Танкаў напалохаўся! Не бачыў іх ніколі?

У гэты час ён пачуў радасны вокліч Васіля. «Што такое?» — Туравец зірнуў на яго. Хлопец, не зводзячы вачэй з поля, ашалела, радасна крыкнуў зноў:

— Гарыць!

Адзін танк стаяў нерухома і густа дымеў. У радах гітлераўцаў, што ішлі за ім, пачалося замяшанне. Некаторыя пападалі на зямлю, каб аберагчыся ад куль, іншыя збянтэжана сталі.

Аднак другі танк не павярнуў назад, ён прыпыніўся і адкрыў па ўзлессю лютую, бязладную стралянiну, а потым, зароўшы, ірвануўся з месца і, як раз'юшаны звер, паімчаў наперад. У адказ яму спорна загрукалі бранябойкі.

Схапіўшы гранаты, Крайко выглянуў з-за дрэва, выбраў зручную хвіліну і ўюном спрытна папоўз да варонкі каля пасечанага кусточка, насустрач гітлераўцам.

— Чаму сам? — хапіўся Туравец.

Вася ўжо нічога не чуў. Яго бялявая чупрына паказалася ў ельніку і знікла, — кусты схавалі яго.

— Гра-на-а-а-ты! — крыкнуў Туравец, але ў грукаце стралянiны словы яго мала хто пачуў. Ён паспешна ўставіў зіхатлівыя медныя запалы і паказаў гранату, заціснутую ў руцэ. Танк амаль бесперастанна сек з кулямёта.

Туравец азірнуўся на партызан, як бы правяраючы, ці не падвядуць.

Ён пачуў у перапынку між чэргаў натужны шум матора. Зямля дрыжала. Туравец выглянуў — танк ішоў не на яго пазіцыю, а збочыў,

кіраваў прыкладна туды, дзе знаходзіўся камандны пункт Шабуні. За танкам пыхкаў струменем дымок і валаклася хмарка пяску.

Зноў мільгнула між хмызняку, збоку ад танка, жвавая бялявая галава, хутка ўскінулася рука. Яны адразу ж зніклі зноў з вачэй, і амаль у той жа міг з-пад гусеніцы ўдарыла полымя. Танк, як ляцеў, раптам з разгону асеў на адзін бок, падкінуўшы карму. З разлёту ён зрабіў круты круг і павярнуўся да Тураўца кармой, нібы хацеў уцякаць.

Тут, адчуўшы, што кулямёт б'е не ў яго бок, Туравец зноў выглянуў. Танк стаяў, як укапаны, нахіліўшыся, ахутаны пылам і дымам. Вежа яго хутка паварочвалася, і праз які міг з кулямёта пачалі секчы па партызанах, абараняючыся, пакуль падыдуць пехацінцы. Але перад танкам быў даволі шырокі прасцяг, з якім цяжка было ўправіцца. Вежа яго цяпер безупынна круцілася. Ён нагадваў параненага звера, які не можа ўжо кінуцца наперад, але яшчэ мае сілы агрызацца.

У яго то адсюль, то адтуль кідалі гранаты, большая частка якіх не далятала. З розных кірункаў у яго сыпаліся кулі.

Танк пачаў дыміцца. Дымок цягнуўся спачатку скупымі струменямі. Потым на вежы падняўся люк, і разам з клубамі дыму, што густа выбухнуў угару, адтуль вываліўся танкіст.

Тады ўвесь агонь быў скіраваны на пехацінцаў, якія набліжаліся да сваёй машыны. Гітлераўцы не спыніліся, не залеглі, а яшчэ напорней кінуліся наперад. Вось яны ўжо абышлі машыну. Яны ўсё бліжэй, бліжэй. Ужо добра, ясна відны іх злосныя, потныя, распаленыя твары, мокрыя, зліплыя валасы...

Яны ўжо каля самага ўзлесся!..

Тое, што было далей, Тураўцу помніцца незвязанымі, зблытанымі ўрыўкамі. Кароткай чаргой з аўтамата ён ва ўпор забіў аднаго салдата і раптам заўважыў, што дыск апусцеў. Збоку на яго навáліўся гітлеравец-аўтаматчык, замахнуўся прыкладам, і, мусіць, Туравец не ўправіўся б абараніцца, але нехта з партызан акурат у той міг ударыў аўтаматчыка прыкладам па галаве.

...Ледзь толькі націск немцаў паслабеў і яны сталі адступацца, Туравец, як падхоплены хваляй, выскачыў з лесу. Цела яго было дужым і лёгкім.

— Першы ўзвод! За мной!

Не азіраючыся, ён пабег за ўцекачамі, адчуваючы, што партызаны рушылі следам...

Толькі пасля таго, як партызаны сталі вяртацца назад, радуючыся перамозе, Туравец заўважыў, што левая рука яго ные і рукаў

намок ад крыві. Кроў запырскала гімнасцёрку і штаны. Калі яго параніла?.. Ён адчуў, што рука нібы налілася свінцом. Падтрымліваючы яе здаровай рукой, заціснуўшы пальцам артэрыю, Туравец пайшоў да акопа.

— Дайце, я перавяжу, таварыш камісар, — пачуўся раптам голас Васіля Крайко.

Туравец здзіўлена павярнуўся: ён думаў, што Васіль застаўся на полі, і паслаў ужо людзей падабраць яго. Аж не — жывы і нават не паранены! Аб тым, як Вася выратаваўся, ён не запытаўся, прымаючы з задавальненнем самы факт.

Вася пачаў перавязваць Тураўцу рану. Хлопец яшчэ гарэў ад нядаўняй узбуджанасці, і рукі яго непаслухмяна дрыжалі.

— Далі мы ім, таварыш камісар! Я думаю, больш не сунуцца.

— Не суінуцца, кажаш? Чорт іх ведае, сунуцца ці не, — адказаў камісар.— А што далі, то далі! Па-сапраўднаму адсыпалі.

— Поўнаю меркай!

Туравец агледзеўся. Усюды былі сляды нядаўняй бойкі. Ляжаў побач забіты гітлеравец, другі, крыху далей, яшчэ курчыўся ў перадсмяротнай агоніі. Каля іх сядзеў, прытуліўшыся да камля, мёртвы партызан. Калі Туравец убачыў гэта, твар яго спахмурнеў і радасць сцішылася. Адразу больш заныла рана, — не ў тым месцы, дзе яна была, а вышэй, у локці.

Услед за гэтым ён пачуў, як нехта сказаў:

— Камандзіра роты забілі...

— Каго? Шабуню?..

Туравец, устрывожаны, прытрымліваючы параненую руку, пабег да Шабуні.

Змітро ляжаў на траве, дзіўна непадобны на сябе. Твар яго быў бледны, бяскроўны, як у мёртвага; віслыя рудаватыя вусы здаваліся рэдкімі, і на іх ўсё яшчэ ліпелі пясчынкі. Вочы былі заплюшчаны.

Каля яго на каленях, рупліва аглядаючы рану, стаяла Ніна.

Камісар хутка нахіліўся да Шабуні, прыклаў руку да яго грудзей і адчуў ціхія, кволыя ўдары сэрца.

Шабуня стомлена, з намаганнем расплюшчыў вочы, але позірк яго быў чужы і невідучы. На міг вочы запыніліся на гімнасцёрцы камісара, потым абыякава глянулі некуды ў неба і заплюшчыліся.

— Што ў яго?

— У грудзі і жывот...—сказала Ніна.

Яна выняла бінт, пачала рабіць павязку. Перавязвала Ніна ціха, асцярожна, баючыся зрабіць балюча, твар яе пры гэтым перасмыкаўся раз-по-раз ад болю, нібы раненай была яна сама.

Туравец адной рукой дапамог ёй павярнуць Шабуню на бок.

Шабуня раптам апрытомнеў,— у цьмяным позірку мільганула занепакоенасць. Туравец адразу нахіліўся да яго.

— Ну, што... фрыцы?..

— Адбілі, Змітро. Адагналі фрыцаў. Ледзь уцяклі гады, падмазаўшы пяты. А многа палажылі тут назаўсёды. Абодва танкі спалілі.

— Адбілі, — паўтарыў Шабуня, і памаўчаўшы, як бы збіраючыся з думкаю, прамовіў ціха: — Шкада...

— Чаго шкада? — не зразумеў Туравец.

— Паміраць... шкада...

Шабуня зноў заплюшчыў вочы. Туравец паклаў яму пад галаву згорнуты пінжак, каб зручней было ляжаць, і загадаў хлопцам вынесці Змітра да ўзбалотку, дзе былі ўсе раненыя. Ніне сказаў:

— І ты ідзі туды, даглядай за ім. Зрабі ўсё, што можна...

Паглядзеўшы сумна ўслед Шабуню, Туравец паклікаў Дразда, нізенькага, з чырвоным тварам чалавека, які быў камандзірам другога ўзвода, і загадаў прыняць роту.

Прысеўшы потым каля дрэва, абапёршыся спіною аб шурпаты паранены ствол, каб перадыхнуць, ён неўспадзеўкі пачуў, як у перапынкі між рэдкіх стрэлаў мірна шумяць-гамоняць вяршыні сосен ды дзяўбе недзе сухадрэвіну дзяцел: дук-дук-дук-дук.

Сонца хавалася за дрэвамі. Яно прабівалася праз галлё сосен, кідаючы негарачыя чырванаватыя, як звычайна перад вечарам, праменні на гонкія бронзавыя ствалы, на траву.

Туравец заклапочана думаў аб тым, як ён будзе з партызанамі выбірацца адсюль, з гэтага лапіка зямлі. Ім цяпер застаўся адзін шлях — па балоце, па незнаёмых гнілых сцежках. Карта тут мала чым можа дапамагчы, на ёй толькі відаць вялізная, з блакітнымі рыскамі пляма. Яна не гаворыць аб тым, як тут можна прабіцца змораным людзям, якім трэба несці на сабе раненых і зброю.

«Тут жа Дрозд працаваў да вайны старшынёй калгаса!»— узрадавана ўспомніў ён. Туравец паклікаў Дразда, запытаўся, ці добра ён ведае балота, ці зможа цераз іх правесці ўночы.

— Цяжкавата, Нічыпар: балоты разліліся вельмі.

— Разліліся...

— Але нічога, — супакоіў Дрозд Тураўца, — думаю, што выведу...

### 3

Як толькі павечарэла, Туравец даў загад адыходзіць. Карыстаючыся цемраю, партызаны з палёгкай пакідалі ўзлессе, на якім прабылі поўны грозных падзей час.

Па ціхіх, стрыманых галасах, што адразу пажвавелі, Ніна Лагуновіч адчувала, як палягчэла на душы ў людзей. Іх мала непакоіла тое, што будзе заўтра, яны ведалі, што перабылі дзень, пражылі як трэба, па-салдацку, а цяпер пойдуць — і не будзе зараз трывогі такой і смерці.

Ніна таксама паспакайнела. Яна была спакойнай больш за ўсё таму, што Туравец з імі, разам з ротаю: Туравец тут і, значыцца, усё, што можна і трэба, — будзе зроблена.

Вечар быў ціхі і цёплы. Гітлераўцы адпачывалі. З-за ельнічку даносілася чужая п'яная песня з выкрыкамі ды час-ад-часу кулямётныя чэргі дазорных, якія, мусіць, нудзіліся ў адзіноце...

«Ну, вось, Аляксей, мы і скончылі дзень! Нялёгкі быў гэта дзень», — праплыло ў Ніннай галаве. Ён даўно быў далёка, яе Аляксей, яе друг, яе муж, але яна ўвесь час адчувала яго поруч і часта, ці ў горы, ці ў радасці, нібы размаўляла з ім.

Даўно не бачыліся Ніна і Аляксей. Ён пайшоў у армію яшчэ да вайны, зімою, калі Ніна вучылася ва ўніверсітэце, на апошнім курсе. Толькі паўгода яны і пражылі разам. Затое, якія гэта былі паўгода: іншыя, напэўна, пражыўшы ўсё жыццё, не маюць столькі шчасця, колькі яны за тыя хуткія месяцы.

З першага ваеннага лета ад яго не было ніякіх вестак. Яна ведала толькі, што ён недзе на фронце, можа, нават недалёка ад яе, ад Мінска, бо яго часць была пад Брэстам. Калі Мінск пачалі бамбіць, ёй вельмі не хацелася пакідаць дом, куды ён мог раптам забегчы або прыслаць вестачку. Толькі на пяты дзень гэтых страшных бамбёжак Ніна выйшла з горада, намерваючыся дабрацца да Магілёва, а адтуль паехаць да сваякоў, што жылі пад Масквой.

Але адысці ёй удалося недалёка: наперадзе немцы высадзілі дэсант. Ніне прыйшлося вярнуцца ў Мінск...

У той страшны год у яе нарадзілася дачка... І тады, і пасля, калі яна з падпольшчыкамі разносіла лістоўкі і калі яна жыла ў атрадзе, усе гэтыя тры доўгія гады разлукі, Аляксей быў амаль заўсёды з ёю. Робячы што-небудзь, Ніна думала, як бы на гэта паглядзеў Аляксей. І калі здавалася, што ён быў бы задаволены, радавалася.

Дзе ж ты цяпер, Аляксей?!

...Яна ішла па ахутанаму змрокам узлессю, якое было густа ўсеяна варонкамі. Між ствалоў сосен усюды валялася ссечанае сукаватае галлё.

Стала спускацца з пагорка ўніз і неўзабаве апынулася на куп'істай мяккай сенажаці. Шум крокаў, заўважыла Ніна, адразу змяніўся: не было чуваць больш трэску сухіх галінак, ногі аднастайна шор-

халі ў высокай някошанай траве. У твар патыхнула халоднай балотнай вільгаццю.

Цемра хутка гусцела — закрывала не толькі кусты наводдаль, але і траву пад нагамі. «Як яны вядуць у такой цемры?»— здзіўлена падумала Ніна пра Тураўца і Дразда, якія ішлі ўперадзе.

Усе брылі моўчкі, — адчувалася, што людзі вельмі стаміліся. Было толькі чуваць, як хлюпаюць ногі ды часам рэзка бразгае жалеза.

Хутка мясціна, па якой ішлі, пагоршылася — пачалася дрыгва.

Пад нагамі, пад тванню, у адным месцы Ніна адчула крохкі слізкі пласт. «Лёд яшчэ...»

Партызаны, якія неслі Шабуню, часта спыняліся адпачыць: Шабуня быў поўны целам, важкі.

Напэўна, ад начной прахалоды да яго зноў вярнулася прытомнасць.

— Хто вядзе роту? — перамагаючы боль, запытаў ён.

— Дрозд...

— Дрозд?.. — Ён памаўчаў і сказаў, каб паклікалі Тураўца.

Туравец неўзабаве падышоў.

— Нічыпар, ты?.. Прашу... — Шабуня гаварыў нязвычна, перарывіста, з прыдыханнем. — Паклапаціся, Нічыпар, пра маіх... малых... Перадай жонцы... — ён памаўчаў, відаць збіраючы сілу, але так і не дагаварыўшы, што перадаць, запытаўся: — Ты чуеш?

— Чую, Змітро, — чую!

— Нічыпар...

— Што?

Ён раптам ціха, але рашуча прамовіў:

— Пакінь мяне...

— Чаму гэта — пакінуць?

— Хопіць, Нічыпар... мучыць людзей...

Шабуня спакойна скончыў:

— Мне ўсё роўна мала засталося...

Ніна ведала, што Шабуня пражыве нядоўга. Яна дзівілася вынослівасці гэтага чалавека, які страшэнна пакутаваў ад раны. Ён ні разу не застагнаў, толькі калі было вельмі балюча, моцна лаяўся.

Ніна чакала, што Туравец адкажа на просьбу камандзіра роты. Заспакоіць, што ён выжыве? Скажа няпраўду, якую гавораць слабым і даверлівым?..

— Не плявузгай глупства, Змітро!— знарок няласкава, строга, быццам загад, прамовіў Туравец.

Ніне спадабаўся такі тон размовы з Шабунем. З ім інакш нельга.

Нібы падмацоўваючы свае словы, камісар здаровую рукою ўзяўся за біла насілак, Шабуня паспрабаваў пярэчыць, але нечакана замармытаў штосьці незразумелае, — пачалося трызненне.

Наперадзе цьмяна зашарэла шырокая паласа вады.

«Што гэта?— стала ўзірацца Ніна.— Лужына якая ці балота? Ці, можа, рэчка?» — Пабачыўшы, што Дрозд паслаў у разведку двух чалавек, Ніна намацала купіну і апусцілася на яе. Карыстаючыся прыпынкам, іншыя партызаны таксама адпачывалі ды ціха перагаворваліся.

— Давайце сюды! — вынырнула з цемры постаць.

Усе заварушыліся, група выцягнулася ўсцяж вадзяной паласы. Гэта была рэчка. «Відаць, Турэйка»,— падумала Ніна.

Перш за ўсё пачалі перапраўляць раненых. Рэчка была даволі глыбокая, і насілкі з параненымі прыходзілася несці на плячах. Калі першыя перабраліся на той бок, Ніна, палажыўшы камсамольскі білет і іншыя дакументы пад хустку, каб не замачыць, пайшла таксама ў ваду.

З кожным крокам Ніна апускалася ўсё глыбей.

Паверхня вады ўжо даходзіла да грудзей, а дно ўсё зніжалася. Вада была такая халодная, што ў яе заняло дыханне.

«І як гэта ніякая хвароба не адужае мяне?» — мімаволі падумала Ніна.

Калі выйшла на бераг, доўга не магла сагрэцца, яе трэсла ад холаду. Адзенне хлюпала і ліпла да цела.

Усе адразу хутка рушылі далей, стараючыся ў хадзе хоць крыху сагрэцца.

4

Павеяў лёгкі, жвавы ветрыік: пачышала світаць. Кароткая вясновая ноч канчалася, але неба на ўсходнім баку, зацягнутае хмарамі, было цёмнае, панурае.

Туравец дазволіў спыніцца. Людзі, стомленыя, знясіленыя ад бяссоцня і трывогі, адразу валіліся на зямлю і засыналі, — адно чуўся глухі стогн раненага, які часам суцішаў свой боль салёным моцным словам.

Людзі спалі непрабудна, хоць дождж не пераставаў і рэдкія, з кволым лісцем галіны дрэваў, што былі над імі, амаль не ахоўвалі ад вады.

Прысеўшы каля куста, Туравец таксама паспрабаваў заснуць, але ў яго так балела галава і гарэлі вочы, што сон не прыходзіў.

Праз нейкі час вецер разагнаў хмары ў вышыні і дождж сціх. Адразу пасвятлела. Відаць, ужо ўзышло сонца, але яно не магло прабіцца праз хмары, што аблажылі небасхіл.

Цяпер, калі непакой сцішыўся, Туравец стаў больш адчуваць, як ные параненая рука.

Павязка за ноч аб'ехала, намокла на дажджы, бінты скруціліся, як жгуты. Туравец паправіў іх другой рукой, рассунуў так, каб яны лепш прыкрывалі рану: «Хоць бы не было гангрэны. Гэтыя эскулапы, не задумваючыся, могуць адхапіць руку».

Туравец сеў на траву і, стараючыся не вярэдзіць раненую руку, зняў боты, выкруціў мокрыя анучы, — прыціскаючы адзін іх канец нагамі да травы. Ён аж змарыўся з непрывычкі, пакуль пераабуўся...

Ён крыху адышоў ад мясцінкі, дзе спалі ўсе, адшукаў маленькую лужыну. Яе акружалі з трох бакоў раскідзістыя кусты. На галлі алешын з пупышак, якія толькі палопаліся, выглядвалі вострыя згорнутыя лісточкі, акропленыя ранішняю расою. Вада была такая празрыстая, якая можа быць толькі ў лесе і ўвесну, у ёй, як у лепшым люстры, адбіваліся кусты і цьмянае неба.

Туравец спыніўся на самым беражку, дзе расла светла-зялёная мокрая трава, якая мякка слалася пад нагамі, пахіліўся над вадою, убачыў сябе: схуднелы, аброслы твар, смаляныя калматыя валасы. Не было калі і пагаліцца! Нахіліўся і, стараючыся не патрывожыць раненую руку, зачэрпнуў жменяй вады і пырснуў у твар. Калі, скінуўшы кроплі з твару, ён адступіўся ад берагу і выцерся краем вільготнай споднняй сарочкі, — стаў адчуваць сябе больш бадзёра і свяжэй.

З-за блізкіх кустоў вырвалася і прашумела чарада качак: фр-фр-фр. Ён правёў іх вачыма, мімаволі прывычна разлічваючы, колькі трэба б «выносіць» ствол стрэльбы.

«Крыжакі. Качак у гэтым годзе процьма».

Ён быў заядлым паляўнічым, але думкі пра качак адразу адышлі: не да таго, не да іх. Занылa ў грудзях: эх, Шабуня, Шабуня...

На нейкую хвіліну хмары на небасхіле разарваліся, і з іх цікаўна глянула сонца. На мокрым ад расы лісці зазіхацелі ранішнія праменні. Сонечны прамень нібы пранік у сэрца камісара, у якім стаяў змрок мінулай ночы.

Туравец адчуў, што вельмі галодны.

Ён пашукаў у кішэнях — нідзе не было ніводнай хлебнай крошкі. Стаў успамінаць, калі еў апошні раз, — ён спехам сяк-так падсілкаваўся ўчора ўранку, а потым усё — бой, бой, клопат, так што не было калі пра яду нават падумаць...

За смуткам пра Шабуню, за ўсімі думкамі стаяла адна, галоўная, якая непакоіла яго ўвесь час: «Што з брыгадай? Што з іншымі атрадамі?»

Ён ведаў, што брыгада павінна пераправіцца і сабрацца ў Загальскім лесе, як яны дамовіліся з Ермаковым. Але ці ўсе ў парадку пераправіліся, у якім стане атрады, ці гатовы яны да бою, — гэтага ён не мог сказаць. Які настрой у людзей пасля ўчарашняга дня? Хацелася ўсё гэта ведаць, а ён у такую хвіліну вымушаны сядзець у нейкім балоце, трывожыцца ад невядомасці.

Да яго з дзіўным, вінаватым тварам падышла Ніна і, не гледзячы ў вочы, сказала:

— Шабуня... памёр.

Хоць вестка, якую Ніна прынесла, не была нечаканая, яна выклікала ў камісара адчуванне горычы і бездапаможнасці. Нічога не гаворачы, Туравец устаў, пайшоў за Нінай.

Шабуня ляжаў выцягнуўшыся, нерухомы і непрывычна спакойны. За ноч ён страшэнна -схуднеў, так што цяжка было пазнаць; вусы звіслі ніжэй, робячы твар вузейшым і доўгім.

«Паміраць... шкада», — згадалася раптам Тураўцу. Прыгадалася, што зусім нядаўна Шабуня непакоіўся, як будзе дабірацца да сваіх...

— Ідзі, адпачні, — зірнуў камісар на Ніну, — хутка пойдзем.

Нахіліўся, пацалаваў таварыша, адчуўшы да шчацэ мяккі дотык вусаў, выняў з яго кішэні партбілет, усе дакументы, асцярожна, быццам баючыся разбудзіць, накрыў палаткаю.

Неяк не хацелася верыць, што Шабуня памёр. Камандзір роты быў адным з тых, хто разам з Тураўцом ствараў брыгаду. Тураўцу заўсёды здавалася, што Шабуню нельга ніяк аддзяліць ад яе.

І вось Шабуні ўжо няма...

Горкая крыўда сціснула горла Тураўца. Сум напоўніў яго сэрца, і ад гэтага ўсё навокал зноў пацямнела. Апанаваны горам, ён пайшоў, не выбіраючы дарогі, абы-куды, стараючыся суцішыць боль.

Ён натрапіў на вартавога. На варце быў юны парывісты Крайко, які падарваў танк. Ён стаяў, прытуліўшыся спіною да невысокая балотнай бярозкі.

— Не спіцца, таварыш камісар? — вывеў ён з забыцця Тураўца. — І мне таксама — ну, праўда, — не хочацца спаць, хоць і аўтамат проста з рук валіцца.

Ён, было відаць, узрадаваўся, што ёсць, з кім пагаварыць, што можна парушыць нудную, цягучую маўклівасць, якая акружала яго.

— Шабуня памёр, — сказаў Туравец.

— Памёр? — перапытаў Крайко.—Эх!

У гэтым «эх» Туравец адчуў няўцешную крыўду і боль.

— Добры камандзір і чалавек быў... незаменны.

— Камуніст быў добры.

Васіль некалькі хвілін маўчаў.

— Таварыш камісар, — парывіста сказаў ён, — а калі я... падам у партыю, могуць прыняць?

— Думаю, могуць.

— Вы ведаеце, — загаварыў даверліва Васіль, — я даўно хацеў сказаць вам аб гэтым, ды неяк не асмеліўся. У партыю ж людзей асобых прымаюць. Не то што сумленных, бо і я таксама сумленны, а асобых — самую гвардыю. А цяпер — падам...

— Падавай.

— Не можа быць, каб не прынялі, а? Я гэтых фашыстаў буду так біць, так біць!..

5

Пабудзіўшы некалькі партызан, камісар папрасіў іх выкапаць на невялічкім-узгорку, паблізу двух блізнят-бярозак, магілу для Шабуні. Ён паспрабаваў і сам капаць, але рабіць гэта адной рукой было вельмі нязручна, і ён аддаў рыдлёўку. Адышоўшы крыху ўбок, Туравец зняў гімнасцёрку і разаслаў на кусточку, каб высахла.

Сонца ўзнялося над хмарнай аблогай, і ўсё навокал урачыста зіхацела. Было незвычайна свежа і чыста. Такія раніцы, ведаў Туравец, бываюць толькі вясною; яны падымаюць і бадзёраць чалавека,— само паветра такое, што лье ў сярэдзіну сілу.

У гэты час яго ўвагу кранула адна акалічнасць: Туравец заўважыў, што прачнуўся Грэчка. Цікаўнасць камісара была выклікана тым, што Грэчка ўвесь час спаў трывожна, стагнаў у сне і прасіў аб нечым. Цяпер той сеў, пачухаў галаву, агледзеўся вакол соннымі здзіўленымі вачыма. Як толькі вочы яго ажылі, на твары лёг пакутны цень. Грэчка занепакоена ўлавіў на сабе позірк і зірнуў на Тураўца, — камісару здалося, што ён хоча аб нечым запытацца, але не асмельваецца. Калі Грэчка азірнуўся, Тураўцу раптам успомнілася, што гэтак ён паглядзеў учора, уцякаючы ад танкаў, калі камісар спыніў яго.

Грэчка ўстаў цадышоўшы крыху, убачыў раптам Шабуню. Ён хутка, амаль спалохана адвярнуўся ад нябожчыка і падаўся прэч. Спыніўшыся каля лужы, партызан стаяў некалькі хвілін, як бы ў глыбокім роздуме. Туравец бачыў толькі яго калматую галаву і плячо, якія віднеліся між двух лазовых кустоў. Вярнуўся ён не памыўшыся, з чорнымі тарфянымі плямамі на твары.

Грэчка лёг, але не заснуў і хутка зноў падняўся. Ён дастаў з кішэні кавалак хлеба, стаў паволі жаваць і ўсё панура маўчаў, паглыблены ў нейкія свае думкі.

Туравец неўзабаве загадаў яму будзіць усіх.

Ніна доўга не магла адолець сну.

— А-а? Устаць? Добра, зараз, — прамармытала яна, не расплюшчваючы вачэй, але, калі Грэчка адышоў, зноў заснула.

У другі раз партызан быў больш настойлівым, не адступаўся датуль, пакуль яна не ўстала. Цяжка было Ніне расплюшчваць быццам склееныя вейкі, ранішняе зіхатлівае святло рэзала засмужаныя, хмурыя вочы. Можа, лепш было б, каб яна не лажылася зусім.

Ужо амаль усе сабраліся, і Ніна, як толькі сагнала сон, заспяшалася, каб не адстаць ад іншых. Яна спехам памылася, выцерла твар і рукі ручніком і хуценька прычасала скалмачаныя, крыху кучаравыя, валасы.

Шабуню хавалі маўкліва і проста. Апошняга развітальнага залпа не было, бо недзе блізка маглі таіцца немцы. Не было слёз, усіх трывожыла няпэўнасць становішча.

— Шукаць трэба сваіх хутчэй,— сказаў Крывец, пажылы кулямётчык, калі на невялікім шэрым капцы Дрозд паставіў вешку. — А то як пчолы, што адбіліся ад вулля.

Грэчка адразу адгукнуўся:

— А што там — невядома яшчэ. Можа, і там не рай. Ад брыгады, мусіць, цяпер рожкі ды ножкі.

Туравец, які ўжо чакаў каманды Дразда ісці, запытаўся з іроніяй у Грэчкі.

— Адкуль у цябе, прыяцель, весткі такія?

Грэчка, прыладжваючы мяшок за плечы, падняў позірк на камісара і панура запытаў:

— Дзе ж брыгада?

Туравец адчуў, як усе сціхлі, чакаючы адказу.

— Як — дзе? Брыгада там, дзе ёй трэба! — прамовіў ён спакойна і цвёрда. — А цябе, прыяцель, прашу язык за зубамі трымаць, каб не матляўся лішне. А то прыдзецца пакараціць.

— Нават, калі што і сталася з ротаю, дык яна ж не адна, — адгукнуўся Крывец.

— І другія так жа... драпаюць, — не ўтрымаўся Грэчка. Ён, ні на каго не пазіраючы, паварушыў плячыма, правяраючы, як сядзіць мяшок, узяў у рукі вінтоўку.

Але тут да яго парывіста ступіў Васіль, сціснуўшы аўтамат і змерыўшы Грэчку бязлітаснымі блакітнымі вачыма, якія гарэлі ад гневу і абуранасці.

— Што? М-мы драпаем? — прамовіў, заікаючыся ад узрушэння, Крайко, гатовы зараз ухапіцца загрудкі. — Кажы: м-мы драпаем?

Ніжняя, па-юнацку пухлая губа яго дрыжала. Грэчка разгублена аглянуўся вакол, шукаючы падтрымкі, але сустрэўся з насцярожанымі, непрыхільнымі позіркамі.

— Ну, прывязаўся. Хіба я ведаю, як другія.

— Не ведаеш — не кажы!

Туравец, які сачыў за гэтай сцэнай, загадаў выступаць. Лепшага адказу на словы Грэчкі і не трэба было. «Раскіс сам ды яшчэ над другімі каркае!» — падумаў камісар непрыязна і рашыў, што трэба будзе наглядаць за Грэчкам.

Крайко неахвотна адступіўся ад Грэчкі, з сілай кінуў аўтамат за плячо.

— Драпаюць! Бач ты, зараза...

Ён доўга не мог супакоіцца.

Прыкры ўспамін аб размове з Грэчкам не пакідаў і камісара.

Прайшоўшы крыху, ён, нібы правяраючы настрой людзей, азірнуўся назад і ўбачыў непадалёк Ніну. Туравец заўважыў,— светлы, з тонкімі рысамі твар, на які выбіваліся з-пад хусткі пасмамі жытнія валасы, за гэтую ноч асунуўся і пашарэў. Яна ступала за ім, гледзячы на сляды, як бы баялася згубіць сцежку.

Пасля гэтага вочы Тураўца сустрэліся з позіркам Васі. Ад чыстых, даверлівых вачэй хлопца, ад адчування, што гэтыя людзі вераць у яго, камісара, прыкрасць знікла.

Раптам наперадзе, там, дзе ішоў пярэдні дазор, прагучала аўтаматная чарга і некалькі асобных стрэлаў.

Усе адразу спыніліся. Іх абступаў вакол часты хмызняк, над якім дзе-нідзе ўзносіліся рослыя асіны і вольхі.

Туравец паслаў Васю Крайко наперад:

— Даведайся, што здарылася.

Там перастрэлка памацнела, і камісар, не чакаючы Крайко, стаў прабірацца між кустоў наперад, трымаючы аўтамат напагатове. Па дарозе ён спаткаўся з Васем, які вяртаўся назад. Хлопец сказаў, што партызаны наткнуліся на групу гітлераўцаў.

— Колькі іх?

— Кажуць, цяжка даведацца. Фрыцы хаваюцца ў зарасніку... Але калі меркаваць па страляніне, таварыш камісар, іх небагата.

— Калі меркаваць па страляніне?— У Тураўца была звычка перапытваць,— перапытваючы, ён зірнуў на таго, хто казаў, як бы хочучы яшчэ штосьці даведацца.— Ну, брат,— гэта рызыка. Або, або...

Магчыма, гэта была ўсяго адна з невялікіх вандроўных дэсантных групак, якія часта гітлераўцы пасылалі ў раёны блакады, каб нарабіць больш панікі. Але верыць вельмі ў гэта не прыходзілася, бо частка карнікаў магла да часу сядзець ціха або знаходзіцца дзе-небудзь непадалёк. Гітлераўцы, мусіць, таксама не ведалі пра сілы партызан, — атрымаўшы адпор, яны не высоўваліся асабліва, абмяжоўваліся перастрэлкаю.

Туравец і Дрозд рашылі не завязваць бою, ён не абяцаў нічога добрага. Партызаны стаміліся, патронаў і гранат мала, — а самае галоўнае,— трэба хутчэй дабірацца да сваіх.

Не чакаючы, пакуль гітлераўцы апамятаюцца, Туравец загадаў адыходзіць, — трэба абысці засаду.

Перабягаючы ад куста да куста, прыкрываючыся невялікай заслонай, партызаны пачалі паспешліва аддаляцца ад месца сутычкі. Неўзабаве стрэлы сталі чуваць справа, пасоўваючыся назад, потым зусім сціхлі. Немцы не адважыліся ісці за імі ці, можа, страцілі след.

Як бы там ні было, адышлі добра. Але калі праз некалькі кіламетраў, прадраўшыся цераз хмызняк, выбраліся ў сасновы лес і на прывале праверылі людзей, то выявілася, што прапаў Грэчка.

— Хто ведае, што з ім?— запытаўся Туравец, акідваючы позіркам людзей, што сядзелі і ляжалі навокал. — Ён не быў ранены?

— Здароў быў... Ды яго каля немцаў і блізка не было. — Я бачыў, ён спыніўся пераабуць бот.

— Уцёк з-зараза, — сказаў з упэўненасцю Вася,— ручаюся, уцёк.

Добры, жаласлівы кулямётчык Крывец, пыхнуўшы папяросаю з лісця, запярэчыў:

— Ну, сказаў! Пэўна, адстаў дзе-небудзь ці заблудзіўся.

## 6

Грэчка ў гэты час быў далёка.

Калі завязалася перастрэлка, ён адчуў, што справа набывае небяспечны паварот, што, калі не ўцячы зараз жа з роты, не мінуць смерці. І Грэчка стаў думаць толькі аб тым, як бы непрыкметна адлучыцца, каб ратавацца аднаму.

Аб гэтым ён думаў увесь час пасля ўчарашняга дня, але ўсё не адважваўся, ды і не было зручнага выпадку. Цяпер жа небяспека

прыдала яму больш рашучасці. Ён бачыў, што трэба дзейнічаць неадкладна, і стаў нецярпліва чакаць зручнага моманту.

Як толькі партызаны адышлі ад немцаў і кулі перасталі свістаць над галавою, Грэчка прыпыніўся.

— Пераабуцца трэба!— мармытаў ён больш сам сабе, бо яго ніхто не слухаў, ніхто не пытаўся ў яго.— Эх, чорт, усю нагу сцёр рубец!..

Застаўшыся адзін, крыху перачакаўшы, ён, утуліўшы галаву ў плечы, стаў асцярожліва азірацца, ці не сочаць за ім. Пераканаўшыся, што не сочаць, што ён адзін, Грэчка пачаў амаль наўколенцах ад куста да куста адступаць далей ад сваіх. Потым выпрастаўся і, ужо не стрымліваючыся, не тоячыся, пабег на ўсю моц, як дзік ад пагоні. Ён не шукаў дарогі, пёр напрасткі, ламаючы густое вецце лазняку, алешніку, абдзіраючы твар.

Толькі выбіўшыся з сілы, задыханы, спыніўся і азірнуўся навакол.

Ззаду наводдалек яшчэ чуліся стрэлы, але тут было ціха. Спакойна, мірна.

Хоць лісце толькі распускалася, вакол абступаў прыцемак,—летам у гэтым месцы, мусіць, зусім цёмна. Гушчар.

Грэчка палез цераз гнілое, асклізлае ламачча, глыбей у зараснік.

Баяцца цяпер, здаецца, не трэба...

Грэчка пайшоў павольней. Сэрца яго ад нядаўняга бегу, ад перажытага непакою яшчэ шалёна білася.

На зламаным, напалову струхлелым дрэве, з якога ўжо лапінамі адвалілася кара, прысеў адпачыць.

Тут, калі да яго з адпачынкам прыйшло душэўнае супакаенне, ён убачыў у сваіх руках вінтоўку, якую дасюль нямаведама чаму трымаў. Грэчка здзіўлена пакруціў яе, нібы разглядаў упершыню. На твары яго раптам з'явілася злосць на яе, з якой было столькі прыкрых часін, якой ён павінен быў служыць, якую даглядаў, цягаў на сабе, намульваючы плечы. І ён з усяе сілы стукнуў яе ложай аб пень. Тады размахнуўся і шпурнуў далёка за куст.

Неспакойны позірк яго перабег на палатняную сумку. Калі Грэчка раскрыў яе, у вочы весела бліснулі патроны — іх было дзесятка паўтара; ён з той жа злараднасцю, з якой кідаў вінтоўку, выбраў іх па аднаму і падэшвай ботаў моцна ўтаптаў у чорнае гнілое лісце, якое тут мокла ўсюды.

Калі ўбачыў, што сумка апусцела, яго недарэчна крануў запознены жаль: ён яшчэ нядаўна трывожыўся, што тут было мала патронаў.

«Няма дурных лезці ў пельку», — падумаў Грэчка, адчуваючы ў сабе прыліў упартасці, злосці. Ісці на згубу сваю, на пагібель?.. Не, няма дурных!..

«Няхай ідуць тыя, у каго няма галавы, каму не хочацца жыць».

А ён не пойдзе.

Ён хоча жыць.

Аднаму, як-ні-як, лягчэй уратавацца. Любая нара, любы вывaрацень табе схова, ніякі чорт цябе не знойдзе, калі ты адзін. А то паўзе гэтакі хвост, столькі народу— увесь час на віду, як які-небудзь табун...

Ну, вось і абышлося ўсё, дзякуй богу. Выбраўся так, што не заўважылі, здаецца. Не заўважылі. А калі і заўважылі, не вялікі страх, не да яго ім цяпер, сваю шкуру выратаваць бы, не да яго, канечне...

Аднак, нягледзячы на гэтыя развагі, неспакой з сэрца чамусьці не ападаў.

Раптам ён здрыгануўся: здалося — што з паўзмроку з-за плецiва галля штосьці цікуе.

Ён трывожна азірнуўся. На крывой галіне, узмахваючы крыламі, каб утрымаць раўнавагу, сядзела чорная глюгастая птушка, сочачы за ім вострым драпежным вокам.

Грэчка дрыжучымі рукамі схапіў асклізлы сук і люта шпурнуў на яе. Груган неахвотна ўзляцеў. «Чорт цябе прыцёг сюды, пачвара!»

Грэчка пачаў абдумваць, што трэба зрабіць.

Тут недалёка яго хата. Ён зойдзе да жонкі, набярэ хлеба, сала і перасядзіць навалу. А там, там будзе відаць.

Неяк трэба будзе перачакаць.

Ён падняўся і, прыслухоўваючыся да наваколля, пайшоў туды, дзе, па яго разліку, была яго вёска.

## Раздзел II

### 1

Дарога была несамавітая: то грузлі у балоце, то прадзіраліся праз гушчары, то ўброд цягнуліся цераз нейкія лужыны, заросшыя аерам ды асакою. Раненыя, ды і іншыя партызаны, вельмі знемагліся. А самае прыкрае, напэўна, было тое, што ўсе пачалі адчуваць голад, таму што больш за суткі нічога не елі.

Васілю Крайко, як і ўсім другім, не цярпелася хутчэй прыйсці ў брыгаду. Але яму не цярпелася не толькі таму, што хацелася адпачыць, што таміў цяперашні непакой,— гэта ён пераносіў, як і ўсе, — Васілю вельмі хацелася пабачыцца з Валяй Залескай, сястрой са

шпіталя. Ён, напэўна, нікому не прызнаўся б у гэтым, але амаль увесь апошні час думаў пра яе.

«Як толькі прыдзем, убачу яе... абавязкова!» — рашыў ён сабе ў думках. Васіль не сумняваўся ў тым, што гэта так і будзе, бо ўсяго, чаго вельмі жадалася яму, ён дабіваўся. Такі ўжо характар у яго.

Справа і злева раз-по-раз бухалі гарматы. Над галавою, невысока, з натужным рэвам, ад якога стагнала зямля, сунуліся непаваротлівыя важкія бамбардзіроўшчыкі. Васю Крайко выразна былі відаць тупарылыя шкляныя насы, жоўтыя наканечнікі на крылах з чорнымі крыжамі. Самалёты ляцелі па аднаму, па тры, несучы смертаносны груз, і неўзабаве там, куды яны кіравалі, было чуваць нутраное, важкае: гух, гух, гу-гух... Назад яны вярталіся палягчэўшыя, равучы спакайней, нібы спатоліўшы сваю прагу да крыві.

Часта, вышукваючы здабычу, з уедлівым звонам праносіліся вёрткія і быстрыя «месершміты».

Заўважыўшы самалёт, усе спяшаліся дзе-небудзь схавацца.

Васіль увесь час стараўся быць каля камісара. Хлопец з павагай назіраў за ім, — каму-каму, а Тураўцу было клопатаў! Вася бачыў, як ён уважліва сачыў за маршрутам. У гэтым бездарожжы было лёгка збіцца, ноччу і ўдзень ім прыходзілася нярэдка кружыць— абыходзіць азёрцы, балотныя выгары. Шкадуючы людзей, стараючыся хутчэй дабрацца да брыгады, Туравец увесь час вышукваў зручнейшыя сцежкі. Разведваў іх сам, пытаўся ў Дразда, правяраў па карце.

Ён быў, здавалася, нястомны. Ступае лёгка, калі-нікалі падбадзёрыць жартам. Васілю прыемна было ісці поруч з ім; радавала, што такі чалавек сказаў: яго, Васю, могуць прыняць у партыю.

Калі яны прабіраліся праз зараснік, то натрапілі на некалькі чалавек, схуднелых і ператрывожаных. Гэта былі людзі з блізкай вёскі, якія ратаваліся ад гітлераўцаў. Пажылая жанчына з сумнымі чорнымі вачыма, каля якой маўкліва ціснулася двое дзяцей, запыталася ў Васі:

— Няўжо могуць яны сюды дайсці? Ці, можа, партызаны не прапусцяць?

У яе вачах быў страх. Яна толькі сёння ўранні выратавалася ад смерці: выскачыла з сяла, якое ўжо акружылі карнікі.

Тут хавалася некалькі сем'яў: жанчыны, старыя і дзеці. Паблізу, прывязаная да бярозкі, звешвала галаву рабая, з белай лысінкай карова, мыза якой была абвязана хусткай.

Людзі згаварыліся перасядзець разам у лазняку, пакуль не сціхне блакада, калі можна будзе вярнуцца ў сяло.

Неўзабаве партызаны напаткалі дзяцей, што сядзелі купкаю пад арэхавым кустом, на якім толькі што пачыналі распускацца жоўтыя лісточкі.

Убачыўшы ўзброеных людзей, дзеці перапалохана ўскочылі. Іх было чацвёра. Большая з іх, хваравітая, з доўгімі нашчэнт абадранымі худымі ножкамі дзяўчынка, схапіла на рукі хлопчыка, прыціснула да худых грудзей, як бы абараняючы. Яна глядзела нахмурана, з-пад крутога ілба. Было відаць, што хоць яна і бяссільная, але ўсё-такі не дасца ў рукі без бою.

Дзяўчынка з круглымі вачыма, у зрэбнай кашулі, разадранай да пояса, загаласіла:

— Мама-а! Мама-а! А-а-а!

Яна раптам упала ніцма, затрэслася, стала біць маленькімі бруднымі кулачкамі па зямлі.

— Дурныя, чаго ж вы баіцеся? Мы ж партызаны, — сказаў Вася.

— Гэта ж партызаны!— прамовіў большы хлопчык такім голасам, нібы зрабіў раптам важнае адкрыццё, ён паказаў на ордэн Чырвонай Зоркі на гімнасцёрцы камісара. Хлопчык быў, можа, равеснікам старэйшай дзяўчынкі. Твар яго да самых вачэй закрывала вялікая шапка з паламаным шырокім казырком.

Ніна паспрабавала падняць дзяўчынку, але тая вырывалася з рук і драпалася пазногцямі, мармычучы пасінелымі губамі: «У-у-у... ма...»

Дзіця не слухалася ўгавору.

— Замоўкні, зараз жа! — неспадзявана строга, па-мацярынску прыкрыкнула Ніна.

Васіля здзівіла, што яна, заўсёды ласкавая і добрая, так сурова абыходзіцца з малою, але ён не сказаў нічога, — ён верыў Ніне. Калі яна так гаворыць, напэўна, гэтак і трэба.

І праўда, малая адразу сціхла, спалохана скурчылася і з асцярогай паглядзела на цёцю. Ніна лагодна прамовіла:

— Вось так!

— Яна ў нас гэтак ужо трэці раз,— загаварыла старэйшая дзяўчынка, усё яшчэ не выпускаючы з сваіх рук хлопчыка. — Як толькі напалохаецца, дык і пачне лементаваць: «Мама». На ўвесь лес. Мы ёй сказалі, што кінем, калі яна будзе так крычаць. Тады яна сказала, што больш не будзе.

— Дзе ж вашы бацькі? Чаму вы адны? — запытаўся Туравец.

Выявілася, што дзеці ўжо другі дзень ходзяць па лесе адны, не могуць ніяк натрапіць на сваіх людзей. Яны не баяліся цемры і

адзіноты ў вялікім лесе, у іх маленькіх сэрцах жыў страх перад гітлераўцамі. Толькі б не спаткаць іх!

Старэйшая дзяўчынка, якая трымала на руках брата, паскардзілася, як сталая:

— Гора мне з ім, ён жа яшчэ дзіця. А ў нас мамы няма... Спалілі фашысты...

Хлопчык з вялікай шапкаю, аказалася, быў сынам камандзіра ўзвода ў атрадзе імя Кутузава.

Другая дзяўчынка Галя, — якая плакала, — згубіла маці, калі наляцелі самалёты. Напалоханая, яна ўскочыла з зямлі і, не цямячы нічога ад жаху, пабегла, а калі апамяталася і пачала шукаць маці, той нідзе не было. Невядома дзе падзелася. Пад вечар дзяўчынка напаткала другіх дзяцей, такіх як сама, якія прынялі яе і падбадзёрылі.

Яны згаварыліся шукаць партызан, а каб смялей было, хадзілі ўсюды разам.

Туравец загадаў забраць дзяцей.

— Пойдзем з намі,— сказала Ніна,— да партызан, да тваёй мамы.

Дзяўчынка ўсё яшчэ ўсхліпвала, размазваючы кулачком па твару слёзы, але ўжо зусім паспакайнела і хліпала проста таму, што не магла адразу суняцца.

Яна падала Ніне руку і сказала даверліва:

— Пойдзем. А я думала, што вы паліцэйскія і заб'еце нас.

Стараючыся ісці поруч, зірнула сваімі васільковымі вачыма знізу:

— Цёця, а... у вас скарыначкі няма? Мне дужа есці хочацца...

2

Перад вечарам прыйшлося спыніцца, бо людзі змагліся.

Набліжалася навальніца. Хоць быў яшчэ дзень і сонца яшчэ не заходзіла, вакол усё пацямнела, нібы вечарам. Дрэвы, якія абступілі з усіх бакоў людзей, гулі глуха і цягуча. Ад іх гулу на сэрцы Ніны стала трывожней. Вецер хутка гнаў цёмна-сінія дымныя хмары, засцілаючы імі ватныя клубістыя воблакі, што яшчэ нядаўна былі на небе.

Воддаль час-ад-часу гуркатала, нібы ад выбухаў гармат. Потым загрымела бліжэй, непаспешліва, перакатам, басіста.

— Гром?!—не паверылася Ніне.

— Гром!..

— Першы! Яшчэ не грымела...

Не прайшло і паўгадзіны, як хмары закрылі ўсё неба. Яны паўзлі так нізка, што, здавалася, чапляліся за вяршыні дрэваў, і спод іх быў увесь пашматаны і вісеў клоччам.

Трэба было зрабіць буданы для начлегу. Людзі, адразу забываючыся на стому, узяліся за працу. Застукалі весела, як бы спрачаючыся, цесакі і нажы, затрашчала галлё, лес напоўніўся жвавым гоманам.

Ніна завіхалася разам з усімі, стараючыся ўправіцца да таго, як пачнецца дождж. У Ніны былі памочнікі — дзеці, якія заўзята, з радасным галасам дапамагалі ёй і Васю.

Раптам вецер сціх. Усё насцеражылася і замерла. Толькі, не спыняючыся, несліся і несліся хмары.

Калі пачаў крапаць дождж, Вася накрыў жыллё палаткай і скамандаваў дзецям забірацца ў сярэдзіну. Хлопчыкі паслухмяна палезлі. Галька ж, зазірнуўшы ў цемру будана, спынілася і баязліва крыкнула:

— Не відна нічога!

— Не бойся, дурненькая.

Ніна забралася следам за ёю, прытуліла да грудзей.

Над галавою моцна трэснула, асвятліўшы змрок будана кідкім полымем.

— Ма-ама!..

— Ціха ты — гэта гром!

Ёй было чуваць, як у дзяўчынкі часта калоціцца сэрца, — Ніну ўсю напоўніла мацярынская пяшчота. Яна моцна прыціснула дзіця.

— Якая ты смелая, — прамовіла дзяўчынка.— І цёплая, — дадала яна, памаўчаўшы.

Ніна ўсміхнулася.

Пасля іх запаўзлі Дрозд, Вася і два партызаны — раненыя. Дзецям стала зусім нястрашна, хоць знадворку гулі сосны, а тут нічога не было відаць. Палатка ўгары ад дажджу лапатала.

— Дождж добра, — для азіміны акурат, — раптам пачуўся ў цемры голас Дразда.

Хтосьці працягнуў задуменна:

— Та-ак, для азіміны акурат...

— Залаты! — ахвотна, задаволена адгукнуўся Дрозд.

Ад Дразда чуць гэта было больш, чым ад каго-небудзь, натуральна. У яго неяк мала было вайсковага — ні ў вобліку, ні ў паводзінах, ён нават даваць каманды па-вайсковаму дагэтуль не навучыўся: «Зрабі, Сяргей, тое»; «Пайдзі, паглядзі, Іван, ці не немцы там». Яго ў вочы называлі камандзірам, а за вочы «старшынёй калгаса», лічачы, што апошняе больш адпавядала. Жартавалі, што ён вёў дакладны ўлік

нягоднiцы, як агню, баюся. Я там, каля iх быў i толькi адышоў, як яна, праклятая, — гухнула!.. На што яна табе?

— Сухары цi сала хаваць!— засмяяўся Шашура.— Выплаўлю тол, будзе пустое месца, як у банцы, дык я туды i буду складваць, а пасля... закручу ўзрывацелем. Нiхто не пакваiпiцца на дабро мае!

— Ну, не дуры. Скажы па праўдзе.

Шашура перастаў смяяцца, прамовiў загадкава:

— Не магу... Тайна важная!

Ужо вечарэла i перастрэлка станавiлася вялаю. У зацiшку з нямецкага боку пачулася:

— Iва-ан!.. Хадзi! Булку дам!.. Ром!..

Ад немцаў данёсся рогат. Гэта было не ў першы раз: гiтлераўцы ведалi, што партызаны галадаюць, i вельмi ахвотна забаўлялiся гэтым.

— Хадзi ты!.. У нас сала ёсць... Шнапс!.. I курка... — выгукнуў хтосьцi з партызан.

— Хадзi, кветачка! Куляй пачастую! — крыкнуў Шашура. — Высунь галаву, любачка!..

Калi надышла цёмная майская ноч i навокал пацiшэла яшчэ больш, Шашура са сваёй бомбай выбраўся з акопчыка i, як яшчарка, папоўз да карнiкаў.

Апоўначы ў баку немцаў раптам ускiнулася ўгару полымя i загрымеў выбух. У неба, адразу залiўшы ўсё зыркiм святлом, узляцелi ракеты, пачуўся перапалоханы лямант, крыкi каманды. Усхапiлiся i партызаны, але нiхто не ведаў, што здарылася.

Немцы пачалi бязладную страляніну, якая яшчэ доўга не сцiхала. Калi зноў супакоiлася, у Крыўцоў акоп уваліўся мокры, выпэцканы граззю Шашура.

— У-ух!— выдыхнуў ён задаволена, усмiхаючыся на ўвесь шырокi рот. — Ну-у, пакармiў фрыцаў! Падарваў «усюдыход».

— Гэта ты з тою бомбаю?— здагадаўся, яшчэ не верачы, Крывец.

— А то з чым жа! — прамовiў абыякава падрыўнiк, як бы яго ўжо гэта не цiкавiла, i запытаўся аб iншым: — Хочаш булкi нямецкай паспытаць?

Ён палажыў на каленi Крыўца булку хлеба i круг каўбас.

— Дзе дастаў?

— Еж. I не пытайся! Цiкаўнай Варвары, кажуць, нос адарвалi!..

Ён любiў, каб пра яго справы рабiлi здагадкi, выдумлялi казкi. Цiкавей так!

## 2

Валя стаяла задумлiвая i сумная.

Што гэта з ёю? Цэлы дзень не выходзіць з галавы Васіль! Ніколі такога раней не было. Ці то перавязвае раненага, ці гаворыць з кім-небудзь, — усё думае пра Васіля. Ён быццам неадступна ходзіць услед.

І чамусьці на сэрцы трывожна. Сэрца прадчувае нешта нядобрае... Калі прыходзіць хто-небудзь з атрада Кутузава, Валя прыслухоўваецца — можа пачуе што-небудзь пра яго.

Ой, гэтая любоў! Расцвіла не ў час, як кветкі на прадвесні. Хіба цяпер пра любоў думаюць! Але ж не, яна не слухаецца Валіных разваг, ёй трэба сваё. Толькі захопішся справаю, забудзешся, а ў памяці зноў паўстае ўчарашні дзень, яго спахмурнелы твар: «Чаму ты не адвучыш гэтага..?»

Раўнівы які! І чаго ён хмурыцца з-за камбрыга, які ёй ніяк не падабаецца. І ўслед за гэтым да сэрца падступае цёплая хваля: раўнуе — значыцца, любіць! Каб не любіў, не злаваў, не раўнаваў бы.

Усё-такі, як ні думай, яна вінавата. Чаму ж яна ўчора не сказала пра гэта? Памірыліся б, і ўсё было б добра сёння. У яе заўсёды так: спачатку зробіць глупства, а пасля каецца.

Яна ўсю ноч дзяжурыла, а цяпер адпрасілася ў Марыі Андрэеўны на гадзіну-дзве спаць, і вось замест таго, каб адпачываць, думае пра Васіля.

Што ж, пра такога хлопца варта думаць. Пэўна ў свеце няма такога шчырага, сінявокага і... адчайнага! Толькі б усё з ім было добра! Каб ні адна куля не зачапіла.

А можа, чым гадаць і трывожыцца, лепш пайсці да яго, пабачыць і сказаць, як яна любіць, — горача, аднаго-адзінага, назаўсёды...

Валя адразу як бы схамянулася, хутка падалася да сцежкі, якая вяла да яго атрада. Яна можа ўправіцца пабыць там і вярнуцца назад у час. А што не паспіць — невялікая бяда! Ці першы раз ёй прыходзіцца па двое сутак не спаць? Ды ёй сёння і не хочацца спаць.

Валя ішла хутка і лёгка, яе як бы нёс на крылах вецер. Сэрца білася нецярпліва: хутчэй, хутчэй! Быццам падганяла. Столькі радасці, столькі пяшчоты да «адчайнага» свайго было ў ім!

Калі Валя стала падыходзіць туды, дзе біўся атрад, то падумала: «Смяяцца хлопцы будуць, што прыйшла».

Ну, і няхай смяюцца! Ёй усё роўна, што скажуць іншыя.

Час-ад-часу поблізу выбухвалі міны, чуліся блізка стрэлы.

Валі было крыху страшнавата, але яна стрымлівала сябе. Яна не хоча быць горшай за Васіля, а ён жа тут ваюе ўжо другія суткі. Валя спытала ў сустрэчнага партызана, дзе тут Драздова рота, і стала смела прабірацца туды.

Яна амаль у поўны рост падышла да акопчыкаў. Шчасце яе, што фашысты не заўважылі. Шашура першы раптам са свайго акопчыка ўбачыў яе поблізу і крыкнуў:

— Лажы-ся!

Яна не паслухалася адразу.

— Лажыся, заб'юць! — крыкнуў Шашура строга. Яна апусцілася на зямлю і па яго загаду паўзком дабралася да акопчыка.

— Ты куды гэта, каліна-маліна, сабралася? — запытаўся з хітраватай усмешкай падрыўнік.

Яна адказала проста:

— Мне трэба пабачыць Крайко Васіля. Справа да яго ў мяне ёсць.

— Якая ж гэта справа? А-а, сакрэт!

І заўсёды гэтаму падрыўніку ахвота пасмяяцца з чалавека, прымусіць пачырванець.

— Сакрэт.

— Толькі для аднаго яго?

— Для аднаго.

Шашура ўсё з той жа хітрынкай, усміхаючыся, прамовіў:

— Шкада! Сакрэт гэты, сястрыца мілая, нельга перадаць!.. Туды нельга зараз прайсці: фрыцы прастрэльваюць. Прыдзецца, сястрычка, да ночы пачакаць.

— А можа, зараз усё-такі можна?

— Ніяк нельга. І Ермакоў забараніў. Ужо аднаго няўдачу так падрэзалі...

— А як ён... Вася, жывы?

— Жывы! А чаму яму, твайму Васю, не жыць? Сядзіць сабе ў зямлі ды пастрэльвае! Што ж усё-ткі перадаць?

— Скажыце, каб ён зайшоў да мяне... калі можна. Я яму скажу штосьці важнае.

Яна вярталася назад павесялелай. Што ж, што не пабачыліся, ёй можна радавацца: Вася жывы. А будзе жывы, прыдзе, і яна раскажа ўсё, усё.

## 3

Усю ноч прачакалі самалёт з фронта, — марна, не дачакаліся яго. На світанні прышла радыёграма, што вылецець не ўдалося з-за нялётнага надвор'я на трасе.

Гэты, пяты, дзень блакады быў асабліва цяжкі. «Юнкерсы» бамбілі атрады, як ніколі дагэтуль, часта і моцна. Шалелі драпежныя «месеры», што амаль увесь час круціліся, гулі над лесам. Да ўсяго пачаў

грозны наступ голад. Людзі другі дзень нічога не елі, ім выдавалі толькі па кавалачку нясоленага мяса. Туравец бачыў, як у акопах курчылася чацвёра чалавек ад болю ў жываце: даваліся ў знакі балотная брудная вада і недаваранае мяса.

У атрадзе Кутузава парторг паскардзіўся Тураўцу на камандзіра ўзвода Калібярду:

— Не пазнаць чалавека, нібы падмянілі ные ўсё, як нямазаныя вароты...

Туравец ведаў Калібярду. Перад самай блакадай ён два разы ўдзельнічаў у разгроме гарнізонаў, дзе праславіўся як спрытны і баявы камандзір. Камісар спачатку распытаўся пра Калібярду ў палітрука роты, а потым, як бы між іншым, пагаварыў ад душы з байцамі, каб ведаць іх настрой і думкі. Некаторыя байцы, заўважыў ён, былі прыгнечаны.

Тады Туравец паклікаў камандзіра ўзвода.

Камісара амаль абурыла, што Калібярда не далажыў, як звычайна рабілі ў гэтым выпадку партызаны, але ён змаўчаў. Насцярожаны, Туравец адразу заўважыў, што Калібярда і з аблічча змяніўся: паходка стала павольная і вялая, позірк вадзяністых вачэй нейкі бясколерны, няўлоўны. Ён, відаць, не сачыў за сабою, бо адзенне было страшэнна неахайнае, брудны каўнер некалі белай рубашкі расхрыстаны.

Туравец спакойна, стрымана загадаў:

— Зашпілі каўнер!

— Зараз...

Ён нехаця вузлаватымі пальцамі зашпіліў гузікі.

Крывая ўсмешка на твары быццам гаварыла: «Калі вам так хочацца, я зраблю, але мне ўсё роўна».

— Зашпіліў...

— Ну, вось і добра.

— Добра?— усміхнуўся крыва Калібярда.— Што ж, я рады... што вы задаволены.

Туравец зрабіў выгляд, што не заўважыў іроніі, задумаўся нявесела.

— Давай шчыра пагаворым,— прамовіў ён. — Не тоячыся. Як таварышы. Ёсць? — Калібярда маўчаў. — Вось скажы, чаму ты так апусціўся? Не чысцішся, няголены...

Калібярда нерашуча, відаць, вагаючыся ці варта гаварыць без патайкі, адказаў:

— А чаго галіцца? Да якога свята? Іншыя любяць рыхтаваць белую сарочку на смерць, а я не хачу... Мне ўсё роўна, як... — Ён спыніўся, змоўк.

— Як паміраць?.. Што ж ты не дагаварваеш?

— Няхай... паміраць...

— Ты што ж, думаеш, што нам выйсці адсюль не ўдасца? Толькі праўду кажы.

Ён гаварыў знарок мякка,— Туравец часта ў такіх выпадках, каб лепш выведаць, хітраваў; больш прамы Ермакоў недарма лічыў яго хітруном.

Калібярда цяпер і не думаў таіцца. Чаго тут, калі на тое пайшло, баяцца гаварыць, калі жывеш між зямлёй і небам. Тым больш, што камісар быў быццам лагодны і сам, здавалася, засмучоны.

— Нашто тут закрываць вочы, — пасмялеў Калібярда. — Не вам казаць, справа наша — дрэнь!.. Папаліся ў нерат — ні ўзад, ні наперад...

— Ну, а што ж рабіць? Ты скажы, што ты раіш рабіць? Не сядзець жа так ды чакаць, калі фрыц прыдзе і пачне сваёй лапаю душыць?..

— Ваша справа, што рабіць. Вы камандуеце, вам і галаву ламаць.

— Не, ты скажы, што ты раіш рабіць?

— Што я думаю?.. Мне здаецца, разумней за ўсё адпусціць людзей. Няхай кожны, як можа, выбіраецца...

— Ты, значыць, раіш распусціць брыгаду? — прагаварыў Туравец, ледзь стрымліваючы гнеў, хоць знешне і здаваўся зусім спакойны. — Можа, гэта і разумней, але шкада брыгаду. Як жа гэта? Была яна і раптам не будзе?.. Акрамя таго, з намі ж жанчыны і дзеці!

— Я не хачу сказаць — распусціць брыгаду. Пасля яна зноў збярэцца...

— А жанчыны, дзеці?

— А што дзеці? Хоць хто выйдзе жывы.

— Дзеці, вядома, не выйдуць...

— Іх немцы не павінны пагубіць...

— Не пагубяць?..

Туравец, памаўчаўшы, раптам панура прамовіў:

— Ты, канешне, не выберашся.

Калібярда хутка і насцярожана кінуў позірк на камісара. У бясколерных вачах блiснула штосьці — недаўменнасць ці спалох.

— Чаму?

— Ты ўжо амаль памёр. Жывы нябожчык...

— Вы жартуеце, але не дарэчы. Я не бачу, з чаго тут смяяцца. Становішча такое...

Туравец устаў, спакойна перапыніў:

— Так, так. Становішча невясёлае. І хныкаць таму нельга. Тут ніхто не пашкадуе, не вытра слёзы. Людзям самім горка. А фашысты не разумеюць жаласных слоў.

Ён сціх, уважліва паглядзеў на партызана, нібы яшчэ не верачы, што ўсё тое чуў ад яго.

— Хто ў цябе намеснік? Баравік?

Калібярда кіўнуў галавою.

— Здасі яму ўзвод.

Калібярда насцярожана зірнуў на Тураўца.

— Я ж па шчырасці,— разгублена прамовіў ён.— Таварыш камісар...

— Я сказаў усё!

Туравец не стаў слухаць. Не дадаўшы больш ні слова, ён холадна, з пагардай прайшоў міма.

Калібярда хвіліну стаяў збянтэжаны, а потым заспяшаўся ўслед за Тураўцом, які знік за дрэвамі. Гэта быў інстынктыўны рух. Ступіўшы некалькі крокаў, Калібярда спыніўся нерашуча.

Яго зноў апанавала абыякавасць. Іскрачка, што ўспыхнула раптам, згасла. Ён ужо не шкадаваў, не трывожыўся. Можа, і лепш, што здымуць, бо з яго здымуць вялікую адказнасць, якая ўсе дні гняла яго.

Успамінаючы нядаўнюю размову, Туравец адчуваў то пагарду, то злосць, лаяўся ў думках: «Раскіс! Размяк! Смаркач!..»

Ён думаў пра тое, што трэба зараз жа людзям паказаць, якая ім пагражае хвароба, каб пачаць выганяць яе. Зрабіць гэта будзе не так легка, бо абставіны спрыяюць хваробе. Трэба, каб усе камандзіры, палітрукі як след зразумелі, як небяспечна ў цяперашні час, у іх становішчы, бязвер'е.

Так, так, — ніякага вагання, ніякага сумнення, што пераможам мы. Гэта цяпер галоўнае!

Перадаць гэту веру ўсім! Запаліць усіх!

Туравец звязаўся з Ермаковым і пераказаў сваю размову з Калібярдою. Камбрыг параіў Тураўцу:

— Зняць зараз жа! Гнаць з камандзіраў!

— Я ўжо зняў яго, — адказаў Туравец.

## 4

Калі Туравец вярнуўся ў штаб брыгады, камбрыг адразу працягнуў радыёграму:

— Павінен быць самалёт. Няўжо і сёння надвор'е падвядзе?.. Сядай, камісар, хачу параіцца.

Камбрыг коратка выказаў тое, над чым многа думаў у гэты дзень, перадаў апошнія разведвесткі.

— Я думаю — сёння, што б ні было, трэба прарывацца... Калі самалёт не прыляціць, без боепрыпасаў будзе цяжка, але, сам ведаеш, марудзіць нельга.

Ермакову ўспомнілася ноч прарыву: няўжо і цяпер будзе тое ж?.. Не, не, гэта не павінна паўтарыцца!..

— Як сказаў Дантон: патрэбны — дзёрзкасць, дзёрзкасць і яшчэ раз дзёрзкасць! — прамовіў Ермакоў.

Гэта былі любімыя словы Ермакова, за якія Туравец празваў яго жартам «Дантонам 20-га стагоддзя».

— Дзёрзкасць... Як пад Каржоўкай яны? — запытаўся Туравец.

— Вось і мяне Каржоўка вабіць! Разведчыкі кажуць, што там батарэя працітанкавых гармат і каля роты пехацінцаў. У сяле стаіць нейкі штаб. Пачуваюць яны сябе, па ўсіх прыкметах, упэўнена.

Ермакоў адразу, без паузы, як рабіў звычайна, урывіста выказаў галоўнае:

— Увогуле, ёсць два варыянты, Нічыпар Паўлавіч: на Рылёўскі лес і... на Каржоўку. Як ты?

Туравец адказаў не адразу. Абапёршыся локцямі на стол, дзе ляжала карта, ён стаў разглядаць — у каторы раз — такі знаёмы квадрат яе, пафарбаваны амаль увесь у зялёны колер, з чырвонымі, падобнымі на лук, падкоўкамі, кружочкамі, стрэлачкамі — старымі, якія ён ведаў, і новымі, толькі што пастаўленымі алоўкам камбрыга, — з усімі знакамі, што абазначалі варожую абарону. Ён асабліва прыглядаўся да подступаў на Рылёўскі лес і на Каржоўку.

Неспакойны, хуткі Ермакоў хадзіў вакол стала і з нецярплівасцю чакаў,— не падабалася яму павольнасць камісара. Узняўшы позірк ад карты, Туравец зноў стаў распытваць пра вынікі разведкі, пра паводзіны карнікаў у баку Рылёўскага лесу.

— Мая думка — біць там, дзе менш чакаюць, — сказаў ён, нарэшце.

— Дзе гэта?

«Вось хітрун: ніколі адразу не скажа ўсё што думае»,:— падумаў Ермакоў.

— Дзе? А вось дзе. Гітлераўцы, мусіць, упэўнены, што мы, лясныя людзі, пойдзем у лес. А мы возьмем ды зробім наадварот, а? Ударым на Каржоўку?

Ермакоў перастаў вагацца. Ён таксама аддаваў перавагу «другому варыянту», але толькі цяпер выбраў канчаткова — на Каржоўку.

Ісці прыдзецца па адкрытым месцы, але затое ўдар будзе, відаць, неспадзяваны для гітлераўцаў.

Прарывацца парашылі а другой гадзіне ночы, спадзеючыся дачакацца прылёту самалёта. Адкладваць прарыў на пазнейшы час не маглі,— ночы былі ўжо кароткія, а ім, пасля прарыву, пакуль зоймецца дзень, трэба пастарацца адысці падалей.

— Мы ўсё, камісар, улічылі? — задумаўся пад канец Ермакоў. — Не памыліліся ў чым-небудзь? У нас сёння, як у мінёраў. Памылка — смерць!.. — Так, права на памылку мы не маем...

## Раздзел VII

### 1

У тыя дні ваенны лёс прывёў у гэтыя мясціны нямецкага лейтэнанта Клямта.

Дывізія, у якой служыў лейтэнант, пасля баёў стаяла пад Барысавам, атрымлівала папаўненне. Пасля двухмесячнай падрыхтоўкі яна ўжо збіралася для, адпраўкі на фронт, калі раптам прышоў загад, што дывізія часова перадаецца на барацьбу з партызанамі.

Для Клямта навіна гэтая была неспадзяванай. Ён ведаў, што на ўсходзе набліжаліся грозныя летнія баі, і ў думках рыхтаваўся да іх. Звыклы кірунак думак павінен быў перайначыцца. Збіраўся на ўсход у акопы, а прыдзецца накіравацца на поўдзень, паляваць на партызан, усталёўваць цішыню і парадак.

Да гэтага лейтэнанту не прыходзілася ваяваць з партызанамі.

Те, што ён пабачыў на месцы, дзе пачыналіся баі, нямала здзівіла яго. Тут, выявілася, была не адна дывізія, стаялі напагатове танкі, самалёты, гарматы. Можна было падумаць, што тут немцы збіраюцца пачаць генеральнае летняе наступленне.

Над вёскамі і над лясамі чорнымі хаўтурнымі хмарамі ўздымаліся дымы пажараў. Тысячы салдат прачосвалі ўсе закуткі, усе гушчары, усе дарогі.

На ўзлеесках і палях важка, пагрозна рычэлі танкі, у гушчарах прагна лескаталі аўтаматы. Лясное рэха разносіла крыкі каманд. У небе бесперапынна шнырылі «месершміты» і «юнкерсы», драпежна прыглядваючыся да кожнай істужкі-сцежкі, да кучаравых зялёных лапін. То там, то тут наваколле ўздрыгвала ад моцных абвальных выбухаў бомб, якія шматавалі паркую веснавую зямлю, калечылі, разварочвалі маўклівыя хаты. Як у бойцы, падалі, раскінуўшы шырока галлё, дрэвы.

Усе вёскі палілі. Усюды пакідалі страшныя і сумныя папялішчы.

Усіх, хто быў звязаны з партызанамі, калі толькі яны пападаліся, бязлітасна вешалі ці расстрэльвалі. Многіх вешалі і проста без усякай «віны», без якой-небудзь прычыны...

2

За кіламетр ад сяла высіўся невялікі ўзгорак, на якім у першую вясновую зеляніну пачыналі прыбірацца бярозы.

Неўзабаве пасля таго, як адышлі партызаны, сюды з траскатнею пад'ехалі нямецкія матацыклы і бронемашына. Прыпыніўшыся на некалькі хвілін, яны хутка запылілі па дарожцы ў кірунку лесу, не заязджаючы ў сяло. На змену ім да ўзгорка пад'ехала цугам некалькі ваенных грузавікоў, напоўненых салдатамі. Калі машыны спыніліся, салдаты, штурхаючы адзін аднаго, шумліва высыпалі на дарогу. З кабінкі трэцяй машыны жвава выскачыў вялікі, вуглаваты ў рухах маёр, камандзір батальёна. Ён паклікаў Клямта і з ім хутка падняўся на ўзгорак.

На ўзгорку, прыкрытыя кустамі і зацененыя бярозамі, стаялі крыжы — гэта былі рускія могілкі. Маёр акінуў позіркам сіні лес, потым сяло — доўгі рад хат, што цягнуўся непадалёк, — і сказаў Клямту:

— Якая цішыня! Спакой! Можна падумаць, што яны таксама спакойна і мірна жывуць... Мне таптацца тут няма калі, можна ўпусціць здабычу. Але тут таксама трэба навесці парадак, калі мы ўвайшлі сюды.

Сяброўскім жэстам ён кіўнуў на сяло.

— Вазьміце гэта сабе.

Клямт адразу выпрастаўся. Ён глядзеў на высокага маёра, як на дрэва. Лейтэнант быў кароткі і тоўсты; для таго, каб здавацца вышэйшым, ён насіў фуражку з незвычайна высокім верхам.

— Я даю на гэта дзве гадзіны,—працягваў маёр.— Рабіце, што падабаецца, па свайму густу, я, дарэчы, пабачу, які ён у вас. Пасля тут павінны быць цішыня і спакой. Пакажыце, якія мы жорсткія і бязлітасныя да непакорных, асабліва звярніце ўвагу на партызанскія сем'і. Жанчын, здаровых, можна з салдатамі адвесці ў лагер — яны будуць працаваць. Але не захапляйцеся гэтым. Галоўнае, каб было тут ціха. Разумееце?

Маёр любіў часам гаварыць не па-ваеннаму, паўнамёкамі, і меў звычку пытацца: «Разумееце?»

Лейтэнант, мяркуючы на выразу, з якім ён слухаў маёра, разумеў: ён, відаць, ведаў, што трэба, каб было тут ціха.

Пад'ехаў матацыкл разведкі, і маёр стаў спускацца з узгорка. Паслухаўшы даклад разведчыка, ён скамандаваў салдатам садзіцца ў машыны. Зірнуўшы на Клямта, які сышоў услед за ім, напомніў:

— Значыцца, у вас дзве гадзіны.

Машыны, абагнуўшы могілкі, накіраваліся да лесу. Засталіся толькі Клямт і яго салдаты. Лейтэнант некалькімі словамі перадаў загад: акружыць вёску, — яна звалася Паплавы,— не выпускаць ні аднаго чалавека.

Салдаты, прыгінаючыся, пачалі разбягацца па полі, абыходзячы вёску справа і злева. Клямт нейкі час стаяў на могілках. Залажыўшы тоўстыя рукі за спіну і расставіўшы цыркулем ногі, ён з могілкавага ўзгорка сачыў за ланцугамі салдат. У яго было прыемнае адчуванне блізкай перамогі, багатай здабычы, якое сплятАлася з жаданнем уладарнічаць, пахваляцца сваёю сілаю. Гэты дзень пераносіў яго думкаю да добрых часоў вайны ў Францыі. Як тады прыемна было ўваходзіць у гарады, ганарыста пазіраючы вакол сябе...

Гэта ўжо амаль забылася, і вось яно раптам вярнулася тут. Ён бачыў у полі постаці сваіх салдат і адчуваў, здавалася, кожным мускулам сваю моц. Клямт уяўляў сябе амаль палкаводцам, нібы па полі беглі паслухмяна не чародкі салдат, а батальёны, палкі...

Каб прыкрыць левы фланг, каля якога ў ляску маглі быць партызаны, ён загадаў страляць па ўзлессі з мінамётаў.

На ўзлессі пачалі вырастаць сінія кучаравыя кусцікі выбухаў, расплываючыся ў хмарку.

Ад сяла лейтэнаята аддзяляла невялікае роўнае поле, і яму добра было відаць усё, што там рабілася. У вёсцы ўзнялася паніка. Каля хат усюды трывожна мітусіліся людзі. Відаць, чуючы, што на ўзлессі ірвуцца снарады, людзі кінуліся ў адваротны бок, да дробнага хмызняку. Не дабегшы датуль, яны раптам спалохана падаліся назад, бо наткнуліся на салдат. Дабеглі да сваіх хат не ўсе, некаторыя палеглі ў полі мёртвымі. Да могілак даносілася няроўная аўтаматная страляніна.

Салдаты, сціскаючы, як пятлю, круг, падыходзілі да хат. Клямт сышоў з могілкавага ўзгорка, сеў у машыну і паехаў у вёску.

На вуліцы білася роспачнае галошанне жанчын, дзяцей, злосныя крыкі і лаянка салдат, часта ў лямант урываліся чэргі аўтаматаў. Усюды — па агародах, па дварах і хатах, шукаючы людзей, бегалі, шнырылі салдаты. Некалькі з іх, штурхаючы аўтаматамі і пагражаючы, гналі на пляц жанчын і дзяцей. З двара двое салдат у расшпіленых куртках, сагнуўшыся, валаклі цяжкія, туга напакаваныя клункі

з хатнімі рэчамі. Убачыўшы лейтэнанта, абодва, не выпускаючы здабычы, выструніліся і прывіталі яго.

На пляцы ў сярэдзіне сяла невялікай купкай ціснуліся адзін да аднаго перапужаныя людзі — жанчыны, дзеці, старыя. Да іх падводзілі з вуліцы новых. Натоўп занепакоена пазіраў на два ручныя кулямёты, што ставілі салдаты. Напэўна, па гэтай прычыне яны амаль не звярнулі ўвагі на лейтэнанта, які паволі ўязджаў на пляц. Калі Клямт вышаў з машыны і паважнаю, уладнаю хадою накіраваўся да натоўпу, адтуль раптам вырваўся пранізлівы крык:

— Сяло-о паляць! Людзі-і-і!

У натоўпе ўсхвалявана зашумелі. Сапраўды, сяло гарэла. З абодвух канцоў яго ўздымаліся, хутка раслі, злосліва акрэсліваючыся на чыстым блакіце неба, чорныя клубы дыму. «А ў мяне ж там усё-о засталося, адной лыжкі не вынесла!..» — залемантаваў хтосьці, але голас гэты адзінока патануў у даўкай цішыні.

Большасць нема, з жахам маўчала, насцярожана пазіраючы на кароткага, з высачэннай фуражкай лейтэнанта.

— Дзе астатнія? — запытаўся Клямт.

Ён стаяў, як і на могілках, залажыўшы рукі за спіну і выпнуўшы грудзі. Обер-ефрэйтар Келер, які быў пры Клямту за перакладчыка, пераказаў пытанне па-руску, марудна падбіраючы належныя словы. Стары, што стаяў наперадзе натоўпу, нізенькі, згорблены, з жоўтым, як воск, маршчыністым тварам, з рэдкай жоўта-сівай барадой, пераступіў з нагі на нагу, прашамкаў:

— Некаторыя ўцяклі, а некаторыя ляжаць вунь... па дварах ды на вуліцы... сам бачыў.

Обер-ефрэйтар передаў адказ па-нямецку.

— Ён жартуе? Скажы, Келер, мяне не цікавяць тыя, што ляжаць, а жывыя! — Пачакаўшы, пакуль Келер перакладаў, ён працягваў: — У каго ёсць там, у лесе, дачка, сын або муж?, родзічы?

Лейтэнант спыніўся, прайшоўся перад натоўпам туды-сюды.

— Таму, хто скажа, я пакіну дом, хлеб, карову. Ну, я чакаю. Скажыце, Келер, я чалавек нецярплівы, не люблю марна чакаць. — Усе маўчалі. — Можа, вы не ўмееце гаварыць? Умееце? І не хочаце.

Клямт выбраў наўгад траіх жанчын,— салдаты сілком адарвалі іх ад натоўпу, — і сказаў, што яны будуць расстраляны, калі людзі не выкажуць партызанскіх сем'яў.

— Не карай іх, пан начальнік, — уступіўся стары.— Яны нявінны. У нас партызан няма. Было два, дык пайшлі ў лес з сем'ямі, з усім... забралі ўсіх з сабой...

Ён гаварыў такім тонам, што, каб лейтэнант не быў недаверлівым чалавекам, ён мог бы падумаць, што гэта сапраўды так.

— Якія ж мы партызаны? Старыя ды жанкі! — здзіўлена прамовіла адна з трох жанчын. — Няма ў нас нікога.

Дзве маўчалі, не зводзячы з лейтэнанта ўстрывожаных вачэй.

У гэты час салдаты падбеглі з каністрай да вялікага драўлянага будынка, што стаяў перад пляцам. Тут некалі была, відаць, школа. На двары яшчэ дагэтуль стаяў адзін круглы пацямнелы слуп, а на зямлі, сярод рамонку і палыну, блішчэлі дзве калісьці ўтаптаныя, як ток, лапіны. Напэўна, гэта была валейбольная пляцоўка.

Салдаты забеглі ў будынак, прынеслі туды саломы. Неўзабаве яны выскачылі на ганак, аблілі яго з каністры і падпалілі. Агонь хапіўся за ступенькі, хутка пабег па слупках, пайшоў у дзверы. Барвовае святло з сярэдзіны білася ўжо на шырокіх вокнах. Потым з аднаго акна выбухнуў чорны клуб дыму, шуганулі іскры. Лейтэнант хвіліну сачыў за агвём.

— А-а, маўчыце?!— закрычаў раптам раззлавана Клямт.

Яму прыйшла новая думка.

— Скажы, Келер, яны будуць спалены!

Па натоўпу прайшоўся шум.

Клямт махнуў салдатам, каб пачыналі. Ён, чорт пабяры, зломіць у гэтых маўкліўцаў упартую непакору. Ён прымусіць іх адрантвець ад жаху, прасіць літасці, поўзаць перад ім пакорліва на каленях.

Салдаты падхапілі траіх і пацягнулі да агню. Жанчыны ўпіраліся, карнікі штурхалі іх аўтаматамі ў спіну, лаяліся. Адной заламалі, звязалі рукі. Яе раскалыхалі і кінулі ў акно. Стогн прайшоў па натоўпу.

— Што ж гэта ён робіць, людзі-і?

— За што яе, ірад?

Пачуўшы гэтыя словы, Клямт здагадаўся пра іх сэнс па тону. Ён рэзка павярнуўся да натоўпу. Хто сказаў гэтыя словы, яму было невядома, але позірк чамусьці прыкавала да маладой жанчыны з дзіцём на руках. Валасы яе былі растрапаны і спадалі на плечы, на загарэлай шчацэ падкоўкаю сінеў шрам. Яна дрыжала ад узрушэння, і ў шырока адкрытых вачах гарэла такая нянавісць, што твар лейтэнанта наліўся крывёю.

— Schweigen![1] — крыкнуў Клямт і вылаяўся.

---

[1] Маўчаць!

Ён даў знак, і салдаты, як сабакі, спушчаныя з ланцуга, кінуліся да жанчыны, пацягнулі яе з натоўпу. Яна, абараняючыся, перадала дзіця суседцы. Клямт заўважыў гэта і загадаў, каб забралі і дзіця.

— Дзіця за што? За што дзіця! — крыкнула яна салдату, які груба ўхапіў малое, што нема закрычала ад болю. Салдат штурхнуў яе.

Яна паспрабавала вырваць дзіця:

— Людцы, дачушачку маю!..

Гітлеравец аўтаматам ударыў яе ў спіну.

— Дачушачка мая!.. Бі, душагуб, бі!..

На момант вочы яе, страшныя ў гневе, поўныя нянавісці, непакорныя, спаткаліся з позіркам Клямта. У іх была нейкая незвычайная ўладная сіла. «Яна — вар'ятка!» — падумаў мімаволі лейтэнант.

— Каб на вас пагібель, на сабак!

— Was... was?[1]

Келер не паспеў перакласці.

— Каб вы здохлі ўсе, нелюдзі вы!.. Гады вы!.. Няма на вас пагібелі...

Лейтэнант нецярпліва адступіў некалькі крокаў назад, выхапіў пісталет, тры разы стрэліў.

— Каб вас!..

Жанчына пахіснулася назад, потым з намаганнем выпрасталася, шукаючы рукамі ў паветры апору, ступіла крок наперад і павалілася моўчкі на зямлю. Лейтэнант паклаў пісталет, які яшчэ дыміўся, у кабуру і павярнуўся да перакладчыка.

— Келер, паўтары пытанне.

Людзі маўчалі. Лейтэнант адабраў некалькі жанчын, — іх адвялі ўбок, — потым махнуў да астатніх.

— Aller![2] — ён мясістай рукой рэзкім жэстам пракрэсліў крыж.

Павярнуўшыся і не азіраючыся, павольна пайшоў да машыны. Імпэтны жалезны ляскат кулямётаў заглушыў апошнія крыкі людзей.

## 3

Машына павольна прабіралася праз вуліцу. Гарэлі хаты, і над вуліцай слаўся едкі дым. Горача патыхала ад вялізных вогнішчаў, і ён час-ад-часу прыкрываў твар далоняю. Часам з вогнішчаў сыпала снапы іскраў, шпурляла навокал галавешкі.

За сялом, каля могілак, машына зноў спынілася. Лейтэнант вышаў і сеў на ўзгорак, пазіраючы на сяло. Гарэлі цяпер усе хаты, стаякі

[1] Што... што?
[2] Усіх!

дыму па ўсім сяле ўсцяж уздымаліся ўгару, зліваючыся ў небе ў чорную нерухомую хмару.

Клямту чамусьці ўспомнілася жанчына, якая праклінала яго, і яму, што здаралася рэдка, стала трывожна. Самым непрыемным было тое, што яна была падобна на вар'ятку. Ён баяўся вар'ятаў. У маленстве адна абарванка-вар'ятка сказала, што яго з'ядуць сабакі. Ён тады пасмяяўся, а пасля здарылася так, як гаварыла яна. Аднойчы, калі малы Клямт вяртаўся са школы, яго ледзь не разарвалі сабакі. Ён два месяцы праваляўся ў бальніцы, а знакі ад зубоў сабачых засталіся назаўсёды. З таго часу лейтэнант баяўся ўсё жыццё вар'ятак. У яго быў перад імі забабонны страх.

Неўзабаве вярнулася ўся рота, і Клямт забыў аб гэтай прыкрасці. Салдаты, выпэцканыя ў сажы, закураныя, як качагары, цягнулі розную здабычу — сала, курэй, адзенне. Келер пастроіў іх і далажыў лейтэнанту, што скончылі аперацыю.

— Келер, ім трэба чысціць адзін аднаго швабраю.

Звяртаючыся да салдат, дадаў:

— Мы сёння добра папрацавалі. Я задаволены вамі...

Калі лейтэнант дазволіў распусціць строй, салдаты стомлена разышліся: адны мыцца, другія смажыць курэй.

Клямт падумаў сам сабе: «Вольф пахваліць, напэўна...»

Клямт і Келер разаслалі палатку з зялёнымі і цёмнымі плямамі маскіроўкі і прымасціліся на ёй. Обер-ефрэйтар прынёс пляшку рому і некалькі кружкоў свежых каўбас, якія ён дастаў у гэтым сяле.

— А! — прычмокнуў Клямт і пацягнуў адзін кружок да сябе, панюхаў: — З часначком!.. Яны вельмі смачныя, калі падсмажыць!..

Ён аддаў іх кухару. Калі іх прынеслі, Клямт, выпіўшы алюмініевую чарку з фляжкі і пачаставаўшы Келера, нецярпліва накінуўся на каўбасы. Абодва елі моўчкі; адзін неахвотна і панура, другі спяшаючыся і прагна, не выціраючы тлушчу, што цёк па падбародку.

Толькі насыціўшыся і адкінуўшыся на бок, каб прылегчы зручней, Клямт пацікавіўся:

— Што табе напісала Ільза?

— Ільза? Featur Рознае піша...

— Сумуе, піша?

— Так.

Цьмяна-сонныя вочы Клямта неспакойна ўспыхнулі.

— Брэша! Жанчына верная, пакуль ты з ёю. У обер-лейтэнанта Штумпфа жонка зблыталася з італьянцам... У ефрэйтара Каца без яго дзіця нават нарадзілася. Яна пісала яму пяшчотныя лісты. Кац іх

насіў цэлаю вязкаю ў кішэні. А пасля прыходзіць аднойчы вестка — маці піша — нарадзілася дзіця... Любоўныя лісты нарабілі!

— Ільза не такая.

— Не такая! Усе мы лічым іх не такімі... А наогул, гэта правільна... гады ідуць, чаго ж марна чакаць, час губляць...

— Хопіць пра гэта, лейтэнант. Прашу.

Калі б лейтэнант быў больш назіральным, ён заўважыў бы, што ефрэйтар нечым усхваляваны і прыгнечаны. Лежачы на спіне, прыплюшчыўшы вочы, ён штосьці думаў сваё і нават да заўвагі Клямта пра Ільзу аднёсся амаль абыякава.

— Лейтэнант, вам не здаецца,— загаварыў з панурай задуменнасцю ефрэйтар, — што не салдацкая служба... ваяваць з жанчынамі?

— Чаму?

— Для салдата ёсць фронт...

— Салдат павінен рабіць тое, што яму скажуць.

— Але на гэта ёсць... спецыяльныя людзі.

— Ім хапае таксама. Ты наіўны, Келер! Наіўны, як дзіця. Хіба тут не вайна?..

— Вайна? З дзецьмі...

— А што?! Глядзі, — ён абцасам прымяў і прыціснуў траву, потым адставіў бот убок.

Трава ў ямцы з-пад абцаса дзе-ні-дзе пружыніста ўзнімалася.

— Заўтра яна, Келер, уся выпрастаецца. Каб не паднялася, яе трэба ірваць з коранем.

Ён вырваў жмут травы з зямлёю, змяў і кінуў прэч.

— Усё роўна, — п'яным непаслухмяным языком прамармытаў ефрэйтар. — Кроў, дзеці... бр-р.

«Ён плявузгае такое, за што можа не паздаравіцца», — лейтэнант неспакойна азірнуўся, іх, здаецца, ніхто не слухаў: падвыпіўшы, салдаты шумелі кожны на свой лад. — «Ці, можа, ён разыгрывае мяне?..» Клямт хацеў асекчы лёгкадумца, але Келер апярэдзіў:

— Вам не хочацца дамоў?

— Не, не хочацца!..

— Добра там... — з зайздрасцю прамовіў Келер. — Раскоша! Зайздрошчу. А тут хоць павесься з нуды.

Клямт падумаў, што размову гэту трэба канчаць, і непрыязна, з ноткай узлаванасці, адрэзаў:

— Хутка нуда твая скончыцца!

Клямт кіўнуў туды, дзе доўгім зубчатым, радам сінеў лес і чуліся выбухі і страляніна...

## Раздзел VIII

### 1

Грэчка амаль тры дні блукаў адзін па лесе.

Вярнуцца дамоў не давялося. Ён у першы ж дзень падышоў да сяла, але зайсці туды пабаяўся, бо ў вёсцы былі фашысты.

Грэчка здалёк, стоячы на ўскраі лесу, назіраў за тым, што рабілаея, прадчуваючы нядобрае. Потым да яго дайшла страляніна, а следам за гэтым пачалі ірвацца на ўзлессі снарады.

Грэчка кінуўся назад у гушчар.

На другі дзень, раніцай, на невялікім хутарку яму ўдалося дасаць крыху хлеба, і ён два дні хаваўся ў вільготным паўзмроку лясной гушчыні, прыслухоўваючыся да таго, што рабілася навокал. Там і тут чулася аўтаматная страляніна, а часам гарматныя выбухі.

Ен стараўся аддаліцца ад іх, але страляніна паступова набліалася з усіх бакоў.

Аднойчы Грэчка ледзь не наткнуўся на гітлераўцаў.

Адтуль, куды кіраваў ён, шукаючы цішыні, данеслася нямецкая гаворка. Ён адразу прыпаў да зямлі і ўбачыў непадалёк у прагаліне палявую кухню і групу салдат, што сядзелі на траве. Зброя іх ляжала на зямлі. Яны абедалі. Не помнячы сябе, Грэчка стаў адпаўзаць назад, потым ускочыў і пабег.

Ён спыніўся ў густым лазняку, сеў пад куст і стаў прыслухоўвадда. Хутка там, адкуль прыбег ён, пачулася страляніна. Потым данесліся стрэлы з другога боку. Яны паступова набліжаліся.

«Прачосваюць лес», — падумаў уцякач.

Нечакана ён пачуў поруч трэск галля і мігам ускочыў.

З зарасніку на яго выбегла жанчына з ускудлачанымі валасамі.

Яна вяла за руку дзіця. У вачах жанчыны быў жах. Убачыўшы раптам перад сабой незнаёмага чалавека, яна спалохалася, але, прыгледзеўшыся, ціха, спакутавана ўскрыкнула:

— Божа! Ды гэта ж свой, здаецца!

Цяжка і часта дыхаючы, яна падышла да Грэчкі.

— Як добра, што свайго чалавека спаткала! А то ж перапалохалася... Ледзь уцякла ад іх... Смерць, думаю, прышла... Як добра, што свой чалавек тут... Дзе нашы, далека?

Уся яе надзея была цяпер на Грэчку, яна пазірала на яго, як на паратунак.

Той незадаволена адступіў, мармычучы:

— Я таксама адзін...

Не, ён не хацеў браць на сябе чужы клопат. Ён хоча быць адзін, адзін.

Але жанчына не адставала, ішла ўслед.

— Выратуй, дапамажы, саколік! Не кідай, вазьмі нас... Не кідай... Куды ты, не кідай! А божа!

Грэчка раззлаваўся, вылаяўся. Не стрымліваючы больш сябе, баязліва рынуўся наўцёк ад яе. Адбегшы далей, убачыўшы, што яе няма, ён спыніўся.

Страляніна і воклічы ўсё набліжаліся.

У нейкую хвіліну Грэчка непадалёк пачуў жахлівы адчайны крык жанчыны і стрэлы.

«Тая напэўна»,— мільганула ў Грэчкі думка. У яго грудзях пахаладзела. Ён зашыўся глыбей у куст, з жахам заўважаючы, што лісце яшчэ не зусім распусцілася, што куст свеціцца скрозь, што ўхавацца цяжка. Гітлераўцы з крыкамі набліжаліся, угары пасвіствалі кулі.

Уцісну ўшыся тварам у зямлю, ён нічога не бачыў, думаючы аб адным, каб як-небудзь гэта навала прайшла міма.

Раптам ля яго пачуўся голас, які прагучаў, як стрэл:

— Устаць!

Грэчка спіною адчуў, што гэта адносіцца да яго, але не варухнуўся, нібы прыклеены да зямлі.

Нехта злосна стукнуў яго наском бота ў бок, і тады ён падняўся. Перад ім стаяла некалькі гітлераўцаў з аўтаматамі.

Ён анямеў, чакаючы, што зараз жа яго застрэляць або прыдумаюць нейкую жахлівую смерць.

З таго, што гаварылі салдаты, ён не разумеў нічога, хоць адзін з іх крыху гаварыў па-руску. Да Грэчкі дайшло толькі адно слова «партызан», якое выплыла з туману, што напаўняў галаву. Уцякач пакруціў галавою, адмаўляючыся: не, не... не!

У тую хвіліну да іх падышоў паліцай.

Грэчка ўбачыў знаёмы чорны чуб, начэсаны на вока, і яго ахапіла двоістае пачуццё — і трывогі і палёгкі. Гэта ж Тыталь! Ён ведае Грэчку, не раз яшчэ заходзіў да яго ў хату, частаваўся самагонам.

Тыталь падбіваў яго некалі ў паліцыю, а Грэчка не паслухаўся. Ён хацеў жыць ціха, не звязваючыся ні з паліцыяй, ні з партызанамі. Жыць спакойна ды чакаць, як яно будзе далей... Але потым сталася так, што давялося пайсці ў лес. «Пайшоў сабе на пагібель, дурань», — шчыра пакаяўся ён цяпер.

— Ну, папаўся, галавешка? Не паслухаў? — сказаў са злой радасцю Тыталь.

— Не п-паслухаў... Дурны быў... Д-дурны быў, Якавачка...

— Паразумнееш — на тым свеце, галавешка.

— Не загубі, Якаў! — заенчыў Грэчка. — Пашкадуй... Аддзякую дабром. Я ўцёк адтуль, ад іх, я кінуў... хай яны прападуць.

Надзея на Тыталя абудзіла ў яго сілу і прагу збавення.

Тыталь быў няўмольны:

— Каяцца ўздумаў перад смерцю! Можа што маеш жонцы сказаць? Гэта я магу зрабіць.

Карнікі нешта гаварылі пра яго — Грэчка бачыў гэта па жэстах — аднак здагадацца пра змест іх гаворкі не мог. Можа, прыдумваюць смерць яму. І ён зноў стаў прасіць Якава заступіцца. Той нічога не абяцаў, але падышоў да аднаго з гітлераўцаў, мусіць старшага, і стаў нешта паціху даводзіць.

Грэчку павялі.

З ім пайшлі Тыталь і адзін салдат, іншыя засталіся. Тыталь ступаў спераду, а немец — за спіной. Грэчку ўвесь час хацелася азірнуцца. Нельга было адкінуць прыкрае адчуванне, што ззаду цэляцца ў спіну.

Ён уздрыгваў ад кожнага трэску сучка, і ў сярэдзіне ў яго замірала.

2

Калі лес наперадзе расступіўся, у Грэчкі зноў абудзілася надзея. Значыць, не на расстрэл.

Аднак на душы было цяжка, і ён, згадаўшы раптам Тураўца, пашкадаваў, што не пайшоў разам з усімі. Як бы там ні было, усё-такі ў атрадзе не так — там ты не адзін, а з другімі, і страх не гэтакі.

На ўзлессі, на беразе рачулкі, былі таксама гітлераўцы. Адзін з іх, голы да пояса, пырскаў на сябе з вядра халоднай вадою і задаволена крактаў. Цела яго пакрылася дробнымі курынымі пупышкамі. Два немцы непадалёк нешта пражылі на скавародзе.

Тыталь сказаў да Грэчкі мякчэй:

— Сам лейтэнант Клямт... будзе дапытваць цябе. Не таіся, кажы ўсё чыста, што ведаеш, можа, злітуюцца... Эх, галавешка!

Клямт перастаў плюхацца, і салдат абцёр яго сялянскім вышываным ручніком. Скура Клямта заружавелася.

Прычасаўшы гладзенька, з роўным праборам зямлістыя, падобныя на мочаны лён, валасы, ён без мундзіра падышоў да Грэчкі.

— Партызан?

— Я ўцёк... Я ўцёк ад іх, — спяшаючыся загаварыў Грэчка, не зводзячы з афіцэра вачэй, якія чакалі, малілі. — Я не партызан.

Гукнуўшы перакладчыка, Клямт пачаў распытваць яго пра брыгаду.

Грэчка, таксама хапаючыся, нібы баючыся, што яго спыняць, не дадуць дагаварыць, пачаў расказваць усё, што ведаў. Ні разу ўцякач не падумаў пра людзей, якіх выдаваў. Іх цяпер для яго не існавала, ім кіравала адна прага выратаваць сваё жыццё, і гэта прага засланяла ўсё, што рабілася на свеце. На хвіліну прамільгнула думка, што за такі ўчынак у брыгадзе, калі б ён папаў туды зноў, расстралялі б адразу, але яна знікла, не пакінуўшы ў душы следу.

Ён бачыў перад сабой аднаго Клямта.

Лейтэнант, слухаючы яго, рабіў адзнакі на карце. Скончыўшы допыт, Клямт узяў тэлефонную трубку, выклікаў нейкую «Эльбу» і стаў перадаваць весткі, пачутыя ад Грэчкі.

Як толькі размова з «Эльбаю» скончылася, Грэчка зразумеў, што наступіла хвіліна, калі будзе вырашацца яго лес.

Але Клямта гэты лёс цяпер зусім не цікавіў. Надзяваючы пададзены салдатам мундзір, ён зірнуў на палоннага так, нібы таго зусім не было перад ім. У чужым позірку вадзяністых вачэй лейтэнанта Грэчка прачытаў свой прысуд—канец.

Ён кінуўся на зямлю, просячы літасці:

— Пан капітан... пан капітан...

Клямт па-ранейшаму не хацеў яго заўважаць.

Адзін салдат тузануў Грэчку за руку, ударыў у бок аўтаматам.

Неспадзявана за Грэчку ўступіўся Тыталь.

— Дайце, гэр лейтэнант, яго мне. Мне трэба людзей: работы — філь, а людзей — ніхт.

Клямт сказаў пагардліва, што гэты нягоднік заўтра таксама можа перабегчы назад да партызан.

— Не пойдзе, я яго ведаю... Там яму адразу «копф» скруцяць, няхай толькі паткнецца. Я магу паручыцца за яго, гэр лейтэнант.

І Клямт уступіў. Калі гэты Тыталь ручаецца, няхай застанецца. Сапраўды людзі патрэбны, а знайсці іх цяжка. Ён махнуў пухлай, кароткай рукой салдатам, і тыя пакінулі Грэчку.

Грэчка ўзняўся на ногі і насцярожана азірнуўся навокал, яшчэ не верачы, што небяспека так шчасліва мінула.

— Век не забуду твае ласкі, Якаў, — кляўся ён, калі ўдвух з Тыталем адышлі ад Клямта. — Пакуль буду жыць... Да скону буду верным другам, хай табе жывецца лёгка.

— Глядзі ж! Прасі тут начальства за цябе,важдайся з дурнем!.. Ну, ды, чорт з табой! Слухай ты, з сённяшняга дня будзеш служыць са

мной... Усё глупства каб выкіінуў з галавы. Глядзі! — пагрозна і важна прамовіў замест адказу паліцай.

— Што ты, што ты, Якаў! Цяпер я навучаны. Буду помніць навуку гэту доўга...

— Кінь ты выць! Як баба. «Буду помніць, буду помніць!» Паспрабуй забыць!.. Туды, назад, дарогі табе цяпер няма. Галаву адкруцяць адразу.

Тыталь даў даведку, што Грэчка служыць у паліцыі, і той рушыў у кірунку свайго сяла. Ён ішоў лёгка, і ўсё спявала ў ім — жыву, жыву.

Але пазней, калі першая радасць крыху прыціхла, калі лее і стрэлы засталіся далека ззаду, Грэчку пачала апаноўваць трывога. Хада яго пацяжэла. Ён ужо цягнуўся павольна і разважаў нявесела з одумам:

«Як жа я буду ў паліцыі? Я ж не хацеў ісці туды, а цяпер буду! Я ж хачу, каб убаку, каб ціха перасядзець».

Яму ўспомніўся раптам Туравец, і Грэчка так занепакоіўся, нібы той і цяпер меў над ім уладу.

Што ж рабіць? Грэчка нейкі час разгублена стаяў на полі, каля сцежкі, якая вяла ў сяло. Ісці ці не ісці? Ён не мог нічога прыдумаць іншага, акрамя таго, што яму падказвалі абставіны, куды яго вялі апошнія падзеі.

«А, што будзе, тое будзе!» — падумаў ён, нарэшце, І, стараючыся не разважаць, няцвёрдай хадою пакіраваў да вёскі.

## Раздзел IX

### I

Другую ноч на поплаве дзяжурыла некалькі групак людзей. Усе атрады былі ўжо гатовы да выступлення. А камбрыг усхвалявана, нецярпліва прыслухоўваўся да начнога шуму. Сонна пастрэльвалі недалёка кулямёты, раскаціста бухнулі некалькі разоў гарматы. Сёння ён непакоіўся яшчэ больш: «Прыляціць ці не прыляціць?» Пазіраў у хмурнае неба, слухаў, як шуміць угары, у лісці, вецер. Надвор'е было мала лепшае, як учора. Камбрыг раз-по-раз запальваў кішанёвы ліхтарык і, падставіўшы пад святло гадзіннік, паглядаў на яго.

А што, калі не прыляціць? Ермакоў адчуваў, як сэрца пачынае біцца мацней і нібы напаўняецца холадам. Пойдзем на прарыў усё роўна. Ен можа ў дзесяты раз, седзячы тут, стараўся перабраць у думках, ці ўсё зрабіў, што належыць, да выступлення.

Прайшла гадзіна, другая, а самалёта не было. Ермакову не сядзелася, ён то выклікаў сувязных ідаваў загады, то неспакойна хадзіў і, каб сцішыць нецярплівасць, насвістваў песню. Блізка апоўначы ён улавіў далёкі гул самалёта. Камбрыг пачуў, відаць, раней за іншых, бо ўсе яшчэ маўчалі. Гул, спачатку вельмі ціхі, падобны на шум пчалінага рою, паступова мацнеў.

— Ідзе! Самалёт!—загаманілі ўзрушана навокал.

Ермакоў загадаў, каб запалілі вогнішчы. Увесь поплаў ажыў, там і тут заблішчалі ў цемры агні.

Самалёт набліжаўся, гул перайшоў у рэзкі рокат. Раптам ён сціх. Выключыўшы маторы, нявідны самалёт стаў ціха падыходзіць да поплаву. Усе ўбачылі яго чорны абрыс зусім блізка, над самымі дрэвамі. Шырокія вялікія крылы пранесліся ў цемры над поплавам, як віхор, са свістам і шолахам, і праз хвіліну камбрыг заўважыў каля сябе цьмг.яы абрыс парашута, які адносіла ўбок.

Ён сам разам з трыма партызанамі кінуўся да парашута. Гэта быў мяшок, напакаваны скрынкамі. «Напэўна, патроны». Ермакоў хутка перарэзаў стропы, якімі пакунак быў прывязан да парашута, і загадаў несці.

Мяшок быў такі важкі, што два здаровыя хлопцы ледзьве паднялі. Адзін з іх сумысля закрактаў з натугай і сказаў задаволена:

— От, кабан! Пудоў на сем!..

Развярнуўшыся, самалёт зноў прайшоў над поплавам. Гітлераўцы, апамятаўшыся, адкрылі ўслед яму страляніну, наўздагон паляцелі markup рознакаляровыя ніткі трасёраў — сінія, жоўтыя, белыя. Самалёт, равучы магутнымі маторамі, пачаў набіраць вышыню. Не вяртаючыся больш сюды, ён пайшоў назад, дадому, і стаў паступова аддаляцца. Гэта было чуваць па гулу, які ўсё суцішаўся.

— Дзякуй, дзякуй, дружок!.. — сказаў Ермакоў невядомаму лётчыку.

Яму хацелася завіхацца, камандаваць.

— Ну, як, Мамедаў, цяпер можна ваяваць? А-а, Мамед?! — крыкнуў ён весела партызану, што прынёс мяшок.

— Заўсёды трэба, калі камандзір загадвае, — адказаў разважліва хлопец. — Але цяпер лепш. Патроны ёсць, гранаты ёсць, усё ёсць!

Партызаны зносілі мяшкі ў адно месца. Калі сабралі ўсё, выявілася, што двух мяшкоў не хапае — мусіць, упалі ў размяшчэнне немцаў ці ў лес. Прадстаўнікі ад атрадаў, якія стаялі па-ранейшаму на баявых пазіцыях, неадступна хадзілі каля Ермакова. Сачылі за кожным рухам камандзіра і камісара, якія распорвалі мяшкі, стараліся

дапамагчы, трэба ці не трэба. Калі Ермакоў пачаў размяркоўваць, прасілі, каб ім вызначылі больш, даводзілі сваё права на гэта.

Як толькі камбрыг падзяліў усё, партызаны, павесялелыя, сталі разыходзіцца, амаль не адчуваючы на сябе прыемнага цяжару скрынак з патронамі і гранатамі.

Неўзабаве атрады сталі непрыкметна і хутка збірацца да месца, адкуль брыгада павінна была пачаць прарыў.

Атрад Кутузава размяшчаўся ціха ў негустым лясочку перад самымі «варотамі», наперадзе іншых; два другія атрады стаялі за імі, справа і злева.

Партызаны садзіліся на сырую, вільготную ад расы зямлю, стараючыся не бразгаць зброяй, шэптам перагаварваліся.

— Эх, каліна-маліна, зацягнуцца б, — уздыхнуў Шашура, — хоць бы «бычка»!.. А, Вась?— сказаў ён да Крайко, які сядзеў поруч. — У сярэдзіне, як у пажарным насосе, смокча... Ну, проста, у пячонцы смаліць.

— От, знайшоў аб чым шкадаваць! — абыякава адгукнуўся Вася. — Людзі думаюць пра жыццё, а ты пра «бычка».

— У каго якая схільнасць, Вась... Ты, скажам, некурашчы і не разумееш, што такое — хацець курыць!..

Ён шумна ўздыхнуў:

— Эх, брат, хочацца зацягнуцца!..

Уздыхнуўшы яшчэ раз ад гэтай нягоды, сказаў:

— А жыццё? Чаго пра яго думаць, Вась?! Жыць будзем, калі не памрэм!.. Чаго ж тут думаць?..

Наводдаль ад іх, між жанчын, сядзела Ніна маўклівая, нерухомая, прыціскаючы да сябе Гальку, якая спала на яе каленях.

«Спіць і хоць бы што... Няхай спіць!» У Ніны была такая пяшчота да дзяўчынкі, нібы гэта была яе родная дачушка. Яна ў гэты вечар чамусьці асабліва багата думала пра дачушку. Дзе цяпер Людка? Таксама, можа, спіць...

Ніна адчула, як свежы халадок прабег ад шыі па спіне. Яна кінула позірк у неба. Угары ў галлі мігцела зорка. Па верхавінні дрэў трывожна хадзіў вецер. Нібы яго таксама непакоіла чаканне бою. Унізе было цёмна і сыра, як у глыбокім склепе. Галя спрасонак паварушыла ад холаду плячыма, прыціскаючыся да Ніниных грудзей.

— Спі, спі! — Ніна накрыла яе краем свайго жакета.

«Чаго гэта яны марудзяць?» — падумала яна пра Ермакова і Тураўца.

Ермакоў з Драздом, з сувязнымі і разведчыкамі былі наперадзе, назіралі за варожымі пазіцыямі.

Гітлераўцы былі зусім недалёка. Блізка раз-по-раз рэзка лязгалі кулямёты, нібы папярэджваючы пра тое, што там не спяць. Часам добра былі чуваць чужыя галасы, рэзкія, адрывістыя. Тады Ермакову хацелася кінуцца наперад і рукамі душыць тых, хто там страляў і гаварыў, каб яны маўчалі, век маўчалі.

Камбрыг ведаў, што ўсе, хто за спіной, узброеныя і няўзброеныя, як ніколі, спадзяюцца на яго. І ён рабіў усё, што належала, асабліва ўважліва.

Ён непакоіўся, каб атрады да часу яе выдалі сябе, добра ведаючы, што для поспеху трэба, каб удар быў нечаканы. Пакуль што ўсё ішло добра, але насцярожанасць у яго не праходзіла. Ён нецярпліва чакаў, калі падыдуць на месца апошнія ўзводы, прыспешваў камандзіраў атрадаў цераз сваіх сувязных.

— Давай! — сказаў, нарэшце, камбрыг Драздзу, рота якога павінна была пачынаць.

Дрозд знік у цемры.

Наперад насцярожана падаліся маўклівыя людзі. Крокі іх мякка танулі ў вільготнай, роснай траве. Людзі адразу схаваліся ў хмызняку.

Раптам блізка ўспыхнула злая, імклівая чарга з нямецкага кулямёта. Адразу ж у адказ прагучаў выбух, і ўслед рассыпаўся шматгалосы пагрозны крык. Угары пырснулі і павіслі некалькі ракет.

Ураз паднялася страляніна. Зямля гула, стагнала, крычала. Цемру шматавалі кароткія барвовыя выбліскі.

— Наперад, таварышы! Наперад!

Ермакоў павёў у атаку асноўную групу.

Як толькі грымнуў выбух, Вася Крайко разам з усімі сваімі байцамі кінуўся наперад. Перад ім прайшоўся нібы вогненны шквал, што скасіў поруч некалькі чалавек, але Вася не спыніўся. Ён цяпер бег па чыстым полі, не заўважаючы, аднак, гэтага, — толькі на нейкі міг здзівіўся, што перад вачыма стала святлей.

Прабегшы некалькі крокаў, ён нечакана праваліўся ў нейкую яму, стукнуўся галавою аб нешта цвёрдае так, што зашумела ў скронях. Аўтамат выпаў з рук.

Васіль уміг ускочыў і раптам адчуў каля сябе чалавека. Хлопец адчуў яго яшчэ да таго, як убачыў. Ён хутка павярнуўся, мімаволі халадзеючы: «прапаў!»

Хоць ён і чакаў, што зараз у любую хвіліну спаткаецца з ворагам, гэтая сустрэча выдалася неспадзяванай.

Гітлеравец парывіста ўскінуў руку да Васі, але хлопец ірвануўся ўбок. Слепячае святло ўдарыла недзе каля скроні.

Хлопец інстынктыўна хапіў цяжкую лімонку, што была ў кішэні, і па-баксёрску, з усёй сілы сунуў у твар ворага. Той хіснуўся, але ўстаяў. Вася ўдарыў у другі раз, наўзмах, па сківіцы. Гітлеравец стаў асядаць. Распалены бойкаю, Вася ўпаў на фашыста і ўдарыў у трэці раз, у чацвёрты. Потым, калі ўпэўніўся, што вораг мёртвы, падняўся, выпрастаўся, на міг зморана аддыхаўся.

«Бач ты, зараза», — прашаптаў ён, крыху спакайнеючы. Толькі цяпер ён пачаў ясна адчуваць небяспеку, якая зараз адышла. Ён нагнуўся, вобмацкам адшукаў аўтамат. Выбраўся з ямы.

Тут ён заўважыў, што навокал ідзе зацятая рукапашная бойка. Былі чуваць адрывістыя пагрозныя крыкі, востры лязгат жалеза, лаянка, часам лямант якога-небудзь гітлераўца...

2

Каля Васіля, лаючыся, хрыпелі і тузаліся дзве постаці. Вася падскочыў на падмогу. Што тут рабіць? Абодва счапіліся так, што не разняць.

Ён па голасу ўгадаў, каторы з іх гітлеравец, і, злаўчыўшыся, размахнуўся прыкладам. Гітлеравец адразу іврануўся і сціх.

Партызан, задыханы, змораны, з намаганнем падняўся. Васіль пазнаў, гэта Шашура!

— Ну, здаравенны, чорт... Ніяк, каўбаснік, не даваўся, — нібы апраўдваўся падрыўнік, адплёўваючы з рота кроў.

Яны кінуліся наперад, у гушчу бойкі. Васіль заўважыў у святле ракет варожую каску, узмахнуў аўтаматам. Гітлеравец, войкнуўшы, паваліўся... Яшчэ аднаго дапамог дабіць Шашура...

Прабеглі некалькі крокаў наперад. Насустрач вынырнула раптам постаць.

«Хто?» — Вася насцярожана падняў аўтамат. Замест адказу ўгару хутка падняліся рукі, а тады ўжо абодва пачулі незразумелае чужое мармытанне.

— У палон, мусіць, просіць... Ці — «капут Гітлер»... Што з ім рабіць?

— Бес яго ведае! — прамовіў разгублена Шашура.

Гітлеравец, скарыстаўшы хвіліну замяшання, нечаканана ірвануўся назад.

— Стой! — крыкнуў Шашура.

Вася ўскінуў аўтамат, але страляць стрымаўся: навокал было многа сваіх...

«Уцёк, з-зараза!»

— А мне, прызнацца, і цяпер, хоць і вайна яшчэ, добра... асабліва поруч з вамі,— жартаўліва сказаў ён.

— Ах вы, насмешнік гэтакі! Не прымушайце мяне бянтэжыцца! — яна засмяялася. — Чым так злосна жартаваць, раскажыце лепш, як вы жылі да вайны. Мне гэта вельмі хочацца ведаць!

— Вельмі?— ён пільна, доўга паглядзеў на яе.— Што ж вам расказаць?

— Усё, што хочаце. Усё будзе цікава... Хоць з маленства пачынайце... — яна зірнула на яго ўважліва, са спачуваннем. — Вы, здаецца, сіратою былі?..

— Сіратою...

— І рана засталіся?

— Бацьку не помню зусім... Казалі, надарваўся, падымаючы бярвенні на зруб. У нашым жа сяле было... Цесляром наймаўся к людзям, падрабляў... Маці помню, але цьмяна. Памерла ад сухот, калі мне яшчэ не было і шасці...

Ён задумаўся.

— З кім жа вы жылі?

— Спачатку ўзяў дзед. Праз пяць гадоў, — так на прадвесні — яго пахавалі побач з маці маёй... Тады забраў чужы чалавек Яўхім Стручок, аднавяскоўвец, дабрадзей. «Не прападаць жа дзіцяці! Трэба ж каму-небудзь даць божаму стварэнню прытулак!..»

— Што, цяжка было? — запыталася, улавіўшы ў словах Тураўца іронію.

— Амаль звычайна... Зарабляў на кавалак хлеба: летам пасвіў жывёлу, зімой дагледаў яе, вазіў дровы... Аднойчы на кірмашы купіў ён каня. Конь быў ліхі, натурысты, але прадавалі танна, і Стручок пакваліўся. Скупы быў вельмі, беражлівы. Перадаў ён каня мне, аб'язджаць, прывучаць. Ліхая жывёліна трапілася, недарма танна яе аддалі! «Зверам», дарэчы, звалі, імя — лепшага да яго характару і не знойдзеш! Доўга нікога і блізка не падпускаў. Хадзіў я, хадзіў каля яго, і задобрываў, і строгасцю спрабаваў, — не даецца, дый годзе. Звер і звер, нічога іншага не скажаш. І вось аднойчы наважыўся я сесці на яго. Ледзь толькі ўхапіўся, ён як ірванецца, скочыць, захрапе. Пакруціўся, паскакаў ды і паляцеў па вуліцы, у поле. Я ўпіўся ў грыву, ашчаперыў нагамі бакі яго, ні жывы, ні мёртвы ляжу. Вось яна, смяротная мая часіна, думаю!.. У полі ён як крутне раптам, я і паляцеў з усяго разгону. Добра, што ралля была!.. І то, мусіць, з гадзіну праляжаў непрытомны.

Марыя Андрэеўна мякка дакранулася да яго локця. Нібы шкадуючы, нібы супакойваючы.

— Нічога, усё-ткі аджыў! Толькі шрам над левым брывом застаўся...

— Я думала, гэта з вайны...

— З таго дня... Вярнуўся я, кульгаючы, дамоў, — Стручок як накінецца: «Дзе конь? Ты яго не знайшоў? Дык чаго ж ты, воўчае племя, прыперся назад? Ты думаеш, што за цябе будуць хадзіць другія?..» — «Жаласна неяк выходзіць, амаль лірыка»...— падумаў Туравец і стаў гаварыць больш стрымана.— Я, вядома, не пайшоў шукаць. Непаслухмяны, упарты быў страшэнна. Таму, мабыць, і ад «Звера» не адступіўся, пакуль не прывучыў. Яшчэ тры разы ляцеў я з яго потырч, а потым дзікая душа «Звера» ўсё ж памякчэла. Прымірыўся, стаў слухацца... Мяне тады, — усміхнуўся Туравец, — звалі «цыган». Смуглы быў, чорны. Дзеці на вуліцы крычалі ўслед: «Цыган, цыган, вядзі каня на выган»...

— І доўга вы былі ў Стручка гэтага?

— Два гады. Потым кінуў яго і падаўся ў горад. Наняўся за вартаўніка на прыстань... Цікавая пара настала. Недалёка быў фронт, на вуліцах хадзілі вясёлыя, узрушаныя салдаты. Я аднойчы трапіў на мітынг — яны тады былі ледзь не штодня. Гаварылі там пра рэвалюцыю, пра зямлю, пра вайну, гаварылі эсеры, меншавікі, бальшавікі, я нічога толкам не зразумеў, але агульны настрой, хваляванне зрабілі мяне нібы п'яным. Я на дзіва самому сабе перамяніўся. Раней усе мае думкі абмяжоўваліся тым, як зарабіць капейку ды пражыць дзень. Я марыў толькі прыкапіць грошай і вярнуцца ў вёску, ладаваць гаспадарку... Цяпер я раптам стаў цікавіцца падзеямі, якія кіпелі вакол. Ёсць, аказалася, і іншыя рэчы, не менш цікавыя за сваю гаспадарку. Спрабаваў я ў галодныя часы зноў жыць у вёсцы, але прабыў толькі з год. Мяне вельмі пацягнула ў «свет»... На торфараспрацоўках, куды я прыехаў на заработку мяне выбралі брыгадзірам. Гэта была мая першая выбарная пасада, добры пачатак «кіраўнічай кар'еры»...

Туравец, гаворачы гэта, стаіў лагодны смех.

— Вам, мусіць, нялёгка было ў райкоме працаваць? Без адукацыі?..

— Нялёгка. Прышлося давучвацца на хаду.

— Як?

— Вечарам, часам — і начамі. Вярнуўшыся з паездкі па калгасах... Многаму навучыла партыйная работа, знаёмства з рознымі людзьмі... Двойчы быў на парткурсах, у Мінску, у Маскве... Вельмі дапамог мне ў вучобе адзін чалавек...

— Хто ён?

— Мая жонка.

Успаміны пра жонку звычайна выклікалі боль, — цяпер жа ён адчуў нібы дакор сабе. Зося паўстала перад ім як суддзя, нібы ён быў вінаваты перад яе памяццю, што палюбіў іншую. Цяжка было ўспамінаць яе тут, гаварыць пра яе, але ён не хацеў нічога ад Марыі Андрэеўны ўтойваць, не хацеў пакідаць недагаворак.

— Калі мы пазнаёміліся, Зося толькі гады два як скончыла тэхнікум. Яна ахвотна ўзялася дапамагаць мне. Я, здаецца, тады не раз крыўдзіў яе — спазняўся ці не прыходзіў на заняткі. Вінаваты былі бясконцыя раз'езды... Але я стараўся вучыцца, і гэта яе супакойвала. Я неяк хутка пачаў пасля заняткаў заседжвацца ў яе пакоі, апавядаць пра свае клопаты. Зося расказвала пра сваіх вучняў, кожнага з якіх я неўзабаве ведаў, як свайго знаёмага. Затрымаўшыся дзе-небудзь у раёне, я ўжо вельмі шкадаваў, што прыходзіцца заняткі прапускаць. Шкадаваў цяпер, мусіць, больш таму, што не мог пабачыць Зосі... Настаўніца! — прамовіў Туравец з сумам, з пашанай. Ён пастараўся сум свой схаваць, знарок згадаў: — Калі яна стала жонкаю,— я часта, жартуючы, называў яе настаўніцаю. «Ну, як, настаўніца, зачакалася, мусіць? Вінават, затрымаўся»...

Яна адказвала: «Вінават! Адгаворка адна і тая ж. Не ведаю, што і рабіць з такім вучнем, непаслухмяным!..»

Туравец нечакана прамовіў:

— Яна загінула на другі дзень бамбёжак. Я быў у райкоме, калі мне пазванілі... Не ўправілася выйсці. Бомба трапіла проста ў дом...

Ён зноў загаварыў не адразу, задуменна і шчыра:

— Мне шанцавала ў сямейньгм жыцці. Вельмі шанцавала. Мы былі шчаслівыя... Ведаеш, мне часам здаецца, што я, прызнаюся, быў не варты яе. Гэта — зусім шчыра. Яна была чалавек, якіх мала! Калі я чаго-небудзь варты, у гэтым, напэўна, больш за ўсё яе заслуга...

Марыя Аядрэеўна, адчуваў ён, слухала гэта з нейкай насцярожанай увагай.

Скончыўшы, Туравец паспакайнеў: цяпер яна ведае ўсё.

— Вось, як на споведзі!..

— А я была нешчаслівая, — прамовіла Марыя Андрэеўна, і ў голасе яе пачуліся ноткі раўнівай крыўды.

Туравец папрасіў расказаць, але яна запярэчыла стрымана:

— Не цяпер. Пазней як-небудзь... калі толькі вас будзе цікавіць...

Яна думала аб нечым сваім, і Туравец адчуў, як між іх пралягла нябачная мяжа. Адчуванне блізкасці адразу знікла.

Яны так ехалі доўга, і блізкія, і чужыя. Апусціўшы галаву, нібы дрэмлючы, Марыя Андрэеўна нешта моўчкі думала, нешта ўспамінала, сваё, патаемнае, куды яна не хацела яго ўпускаць, дзе ён быў

непатрэбны, нежаданы. Тураўцу здавалася, што яна цяпер была вельмі далёка ад яго...

— Вы, напэўна, думаеце, што я скрытная і не ўмею дзякаваць за шчырасць, — загаварыла раптам яна. — Выпытала ў вас, што хацела, а сама маўчу... Не, я люблю шчырасць, Нічыпар Паўлавіч, і ўмею на яе адказваць. Проста, кажу ад душы, не хацелася псаваць настрой і свой і ваш... У мяне сямейнае шчасце было горкім...

Марыя Андрэеўна паглядзела ў вочы Тураўцу доўгім позіркам.

— Гісторыя мая вельмі простая, звычайная!.. Я выйшла замуж яшчэ ў інстытуце. Жылі спачатку вельмі добра, шчасліва жылі. А пасля — мы тады працавалі ўжо — ён ашукаў мяне... Я выпадкова даведалася... З таго дня мы сталі чужымі...

Яна сціхла, напэўна, усё ўспамінаючы зноў.

— Нейкі час мы жылі ў адной кватэры. Спачатку не гаварылі, потым ён, Анатоль, спрабаваў памірыцца. Прасіў прабачыць, забыць. Кляўся, за дачку непакоіўся... А я не ўмею нічога ні забыць, ні даравацаь... Тады ён пераехаў на другую кватэру. Часта, праўда, заходзіў праведаць Светку. Калі пачалася вайна, ён пайшоў на фронт. Перад адпраўкай Анатоль на некалькі хвілін забег да нас, абняў і пацалаваў дачку. Развітаўся са мною і сказаў: «Калі толькі буду жывы, я вярнуся да цябе! Без цябе я не магу жыць. Не будзь жа такой неміласэрнай...» З фронта ён прыслаў яшчэ некалькі лістоў... Можа, ён цяпер любіў пасапраўднаму... А я? — Яна задумалася. — А я?.. Не ведаю, — люблю крыху, можа, ці проста шкадую — жаночае сэрца літасцівае... І наогул, часта не разумееш, што ў ім там у сярэдзіне такое.

Яны пад'ехалі да лесу. Дарога ішла паўз самыя дрэвы, і чорнае галлё схілялася над ёю, нібы страха.

— Ах, Нічыпар Паўлавіч, што мне рабіць, не разумею. Вы думаеце, я не ведаю, што вы мяне любіце? Ведаю.

— А вы?

— І я вас люблю.

— Шчыра?..

Ён выпусціў лейцы, пяшчотна ўзяў яе за руку, але Марыя Андрэеўна, смеючыся, легка адштурхнула яго.

— Лю-ю-блю! Прызнаюся, — нам жа не па дваццаць. У нашы гады любяць прасцей і мудрэй... А вось, як далей быць з вамі,— не ведаю. Думаю пра Светку, пра яе будучыню, часам пра. Анатоля і стрымліваюся...

— Маша, я ёй буду добрым бацькам...

Марыя Андрэеўна запярэчыла мякка:

— Не будзем пакуль больш гаварыць пра гэта, добра? Пачакаем, паглядзім. Паглядзім, як далей будзе... А тады я скажу, выращу... адзін раз на ўсё жыццё, канчаткова. Добра?

— Добра. Але... лепш, каб цяпер.

— Які вы ўпарты! Ну, так і быць, пастараюся хутчэй... А калі я выращу сказаць — не? Як тады?

— А вы пастарайцеся сказаць і хутчэй, і — так!..

Мінулася поле, пачаўся рэдкі лясок. Яна паставіла каўнер свайго паліто і сказала зморана:

— Вы ведаеце, я трэція суткі не сплю. Я падрамлю, седзячы. А вы не едзьце вельмі хутка і дзе-ні-дзе мінайце ямы. Інакш я, чаго добрага, магу выпасці з вашай карэты, і вам прыдзецца адказваць.

Яна ўткнула твар у каўнер. Як ні ціха стараўся ехаць Туравец, але тачанка ўсё ж калыхалася, падскоквала на нявідным карнявішчы, дзе-ні-дзе правальвалася ў ямы.

Марыя Андрэеўна, відаць, вельмі змарылася. Задрамаўшы, яна прытулілася да яго пляча, і ён баяўся паварушыцца.

Вакол, асабліва ўгары, дзе віднелася неба, паступова святлела. Набліжалася раніца.

Ён бачыў, што Марыі Андрэеўне нязручна, адсунуўся і палажыў яе галаву на свае калені. Яна не прачнулася. Адчуўшы, што пасвяжэла, Туравец асцярожна выцяг з-пад сябе крысо шыняля і накрыў яе. Калі б трэба было, ён, здаецца, узяў бы яе на рукі і паціху, каб не разбудзіць, нёс бы.

Ён бы хацеў, каб гэтае падарожжа працягвалася доўга.

«Я люблю. Я зноў люблю...» Тры гады назад, калі. Ён так гараваў аб вялікай страце, у яго не магло быць такога ў думцы. Ён лічыў, што ўсё ўжо без звароту мінулася. Ён тады не мог і думаць пра тое, каб зноў ладзіць сям'ю. А вось прайшоў час, і маладосць вярнулася. Ці маладосць?

Паволі надыходзіла раніца. Туравец бачыў, як паступова яснела неба і чырванелі вяршыні дрэў. Абуджаўся лес, ад якога дыхала велічным спакоем і сілаю.

Гледзячы на яе валасы, што выбіліся з-пад хусткі, на шыю, на бесклапотны, даверлівы ў сне твар, ён адчуў, што шчасце без яе немагчыма.

## Раздзел IV

### 1

Сяло Аксаніна, дзе прайшлі першыя гады маленства, Чарняхоўскі ледзьве помніў: калі яму было толькі сем год, бацькам давялося

перабрацца на новае месца. Пан Навінскі, у якога бацька Івана быў «пры конях», купіў у другога пана новы маёнтак, і конюху са сваёй сям'ёй давялося ехаць за ім.

Яны сталі жыць у Вербаве.

Жыццё ў Вербаве збоку амаль нічым не рознілася ад ранейшага. Як і да гэтага, у бацькі не было ні сваёй зямлі, ні нават уласнага «кутка»: жыць даводзілася, як на татары, у панавай хане «для конюхаў», за якую пан штомесяца «выварочваў» частку бацькавага жалавання.

Ад сяла была блізка станцыя Вапнярка. Станцыя тады здавалася малому Ясю, як звалі Чарняхоўскага ў сяле, нейкім казачным краем. Пазіраючы на паравозы, слухаючы свісткі, лязг буфераў, ён нямеў ад захаплення. Машыністы, сцэпшчыкі, стрэлачнікі былі героямі яго мар. Калі Яся пыталіся, кім ён будзе, малы адказваў цвёрда:

— Ці машыністам, ці стрэлачнікам.

На гэтай станцыі Ясь стаў потым вучыцца ў школе. Вучоба давалася яму лёгка, асабліва арыфметыка. Бацька быў вельмі задаволены, што Ясь так добра рашае задачы, — ён лічыў арыфметыку «галоўнай навукай у жыцці».

— Калі чалавек, сынку, умее добра лічыць, ён — ого! Такога, сынку, ніхто не ашукае...

Ясь быў жвавы, неспакойны і вясёлы. Па нейкай няпісанай умове вербаўскія дзеці выбралі яго сваім верхаводам. Ва ўсіх гульнях, у паходах Ясь быў заўсёды ў першай ролі...

А між тым у Вербаве адбываліся незвычайныя падзеі.

Прышла рэвалюцыя. Пан Навінскі ўцёк, і сяляне падзялілі панскі хлеб, некалькі мяшкоў якога прынёс дамоў і задаволены бацька. Але хутка зноў надышоў кепскі час. Пану Навінскаму ўдалося вярнуцца з немцамі, і хлеб, які яшчэ застаўся, адабралі, а бацьку прагналі з «двара».

Сталі галадаць...

І тут неспадзявана здарылася яшчэ горшае няшчасце. Ад тыфу злеглі бацька і маці, злеглі, а праз некалькі дзён памерлі. Амаль у адзін час.

Ясь стаў сіратою, разам з пяццю сваімі сёстрамі і братамі...

Яму тады было дванаццаць год. Ясь пачаў сам «зарабляць хлеб»: летам і ўвосень ганяў на пашу вербаўскую жывёлу, пёкся цэлымі днямі на сонцы, мок на дажджы, стыў у асеннюю непагадзь.

Школа была закрыта, але яму хацелася вучыцца. Урываючы грошы са свайго маленькага заработку, ён хадзіў на «заняткі» да хворага настаўніка.

— У цябе, Ясь, добрая галава, — сказаў яму неяк настаўнік. — Калі ты вырасцеш, ты будзеш вялікім чалавекам.

— Вядома,— згаджаўся Ясь, не зусім разумеючы слоў настаўніка, — калі я вырасту, я буду вялікім...

З Вербава ён падаўся на чыгунку і стаў працаваць рамонтным рабочым. Летам мянялі шпалы, выполвалі траву на пуці. Зімой таксама працы хапала: узяўшы лапаты, выходзілі на «дарогу», адкідвалі з яе снег, ставілі агарожы з абодвух бакоў насыпу...

На другую зіму, крыху папрацаваўшы падручным слесара ў чыгуначных майстэрнях, ён уладзіўся праваднiком на таварных ад Вапняркі да Адэсы — суправаджаў важныя грузы.

У тыя гады, адным з першых уступіўшы ў камсамольскую ячэйку, Ясь жыў, можна сказаць, ужо кіпучым, багатым жыццём.

Абстаноўка была трывожная: недалёка ад сяла дзейнічалі банды.

— Калі прыдуць бандзюкі, нас усіх пераб'юць, — сказаў аднойчы пасля сходу, што зацягнуўся да позняга вечара, хтосьці з камсамольцаў. — Яны даўно ўжо вострацъ зубы...

— Не пераб'юць! Мы мацней за іх... — адгукнуўся спакойна Ясь.— А калі і паткнуцца,— возьмем стрэльбы ды так іх спаткаем!..

Ён быў заўсёды смелы і рашучы. Можа, за гэта яго так любілі, паважалі і слухаліся...

Ён не ведаў, куды падзець энергію, якая бурліла ў ім. Чым толькі ён ні займаўся ў клубе: выступаў у спектаклях, у аркестры іграў, спяваў у хоры, «выпускаў» газету, пісаў у яе артыкулы і нават вершы. Здольны да музыкі, ён умеў іграць на ўсіх струнных інструментах, якія былі ў вёсцы.

Гарачы хлопец з чорнай чупрынай, апрануты ў вялікую не па росту гімнасцёрку, у сіняе з бліскучымі леямі галіфэ, быў лепшым прамоўцам ад камсамольцаў на вербаўскіх дыспутах. Асабліва ўдала выступаў малады прамоўца на дыспуце: «Ці ёсць бог?» У Яся была на дзіва добрая памяць, — столькі розных вестак і фактаў ён помніў, і гаварыў ён з такім натхненнем, што ніхто не мог пераспрачаць яго.

Ужо тады можна было заўважыць у ім багата адоранага таленавітага чалавека, кіпучая натура якога шукае сабе шлях.

І вось шлях гэты адкрыўся — Яся, які працаваў ужо шаферам у Новарасійску, паслалі ў пяхотную школу, у Адэсу. Ён паехаў з камандзіроўкай акружкома камсамола...

Але пяхотная школа не задаволіла хлопца, — ён любіў тэхніку, — і Чарняхоўскі неўзабаве папрасіўся, каб яго перавялі ў артылерыйскую школу.

Чатыры гады пасля школы ён служыў у артылерыі, увесь час вучачыся, набываючы вопыт звычайнай камандзірскай работы: быў і камандзірам узвода, і зампалітам камандзіра батарэі, і камандзірам разведкі батарэі. Заўсёды, усёй душой, аддаваўся партыйнай рабоце. Амаль увесь час Іван Данілавіч быў то членам партбюро палка, то сакратаром партячэйкі. Ён любіў палітработу, мусіць, не менш, чым камандныя справы.

— Вось дзе ваша прызванне: палітработа, — гаварыў яму не раз тады камісар палка. — У вас талент палітработніка!..

І гэтыя гады, і ўсе наступныя былі запоўнены вучобаю. Год за годам ён рос, здзіўляючы таварышаў і сваёй прагай да вучобы, і працалюбівасцю, і ведамі. У Акадэміі механізацыі і матарызацыі Чарняхоўскі быў заўсёды выдатнікам...

Але заняткі не «высушвалі» яго. У яго хапала часу і на многае іншае. Ён вельмі захапляўся спортам, прычым не якім-небудзь адным, а многімі: быў і лыжнікам, і валейбалістам, і баскетбалістам, і стралком.

Калі ён вучыўся на трэцім курсе, у Акадэміі праводзілі пераход на лыжах з Масквы ў Нарафамінск. У дзень пераходу сакавіцкае сонца прыгрэла, і снег пачаў хутка таяць. Ісці было вельмі цяжка. Многія курсанты, сышоўшы з лыжні, паехалі на машыне.

— Кідай, Ваня! Здавайся... вясне! — параіў яму таварыш.

Чарняхоўскі не здаўся, дайшоў да канца, і не проста дайшоў, а заняў першае месца на курсе...

Любіў ён па-ранейшаму музыку, любіў спяваць, асабліва ўкраінскія песні...

Скончыўшы Акадэмію, Чарняхоўскі некалькі год служыў у Беларусі — у Бабруйску і ў Гомелі. Перад вайной яго перавялі ў Рыгу.

Вестку пра вайну Іван Данілавіч пачуў у лагерах пад Шауляем, куды яго танкавая дывізія прыехала з Рыгі на летнія заняткі...

Ён пачынаў вайну палкоўнікам, а праз тры гады быў ужо генерал-палкоўнікам, камандуючым фронта. Ён рос так хутка не таму, што яму шанцавала. Не, Чарняхоўскі не быў проста «шчасліўцам». Тыя выдатныя аперацыі, якія ён праводзіў, камандуючы дывізіяй, а пазней корпусам і арміяй, якая праславіла сябе пад Варонежам пераправай цераз Дняпро, вызваленнем Кіева і многімі іншымі баямі, — не былі выпадковымі ўдачамі. У кожнай удачы былі вынікі вялікіх ведаў і вопыту Чарняхоўскага, набытага многімі гадамі вучобы, яго ваеннага таленту, і, апрача таго, — агромністай, часта нявіднай пабочнаму воку, падрыхтоўкай да ўсіх бітваў тысяч салдат і афіцэраў, усёй найскладанай «гаспадаркі».

Чарняхоўскі часта напамінаў афіцэрам, што важнейшая асаблівасць савецкай ваеннай навукі — гэта старанная падрыхтоўка аперацыі і забеспячэнне яе ўсім неабходным. Ён строга караў тых, хто спадзяваўся на «авось», на «як-небудзь», здымаў іх з адказных пасад, не лічачыся ні са званнямі, ні з заслугамі.

— Той, хто хоча лёгкай работы — выпадкова стаў камандзірам, — часта гаварыў ён афіцэрам.

2

Чарняхоўскі амаль паўтара сутак ездзіў па пярэдняму краю, знаёмячыся са становішчам у розных часцях.

Цяпер камандуючы вяртаўся ў штаб фронта.

Адкінуўшыся на мяккую спінку, прама, як бы ганарліва трымаючы галаву, ён сядзеў за рулём аўтамашыны, спакойна і звыкла круцячы баранкай. Чарняхоўскі веў машыну сам не ў першы раз за гэтыя дні: ён не аднойчы загадваў шаферу памяняцца месцамі — і садзіўся за руль.

Шафёр адчуваў сябе без справы няёмка, і ў яго быў строгі і прытоена вінаваты выгляд. Хоць ён і ведаў, што камандуючы калісьці быў таксама шафёрам, вазіў дырэктара завода ў Новарасійску, ён усё ж не мог прызвычаіцца да таго, што прыходзіцца сядзець «пасажырам».

— Водзіце вы смела… — прамовіў шафёр, якому было прыкра маўчаць.

— Люблю — каб з «ветрыкам»!..

У Чарняхоўскага фуражка была па-юнацку крыху ссунута набакір.

Машына імчала па дарозе, мінаючы вёскі і палі. Твар генерала халадзіў ранішні вецер, які ўлятаў у машыну. Халадок гэты быў прыемны, ён праганяў санлівасць, што апаноўвае чалавека на світанні.

Машына адышла ўжо далёка ад пярэдняга краю.

Генерал-палкоўнік заўважыў наперадзе, на другой дарозе, некалькі танкаў, што хутка імчалі наперарэз. Танкі ішлі адзін за адным. Убачыўшы «трыццацьчацвёркі», камандуючы прыўзняўся на сядзенні.

Гэта быў родны, блізкі сэрцу малюнак. Чарняхоўскі доўгі час быў танкістам; з пачатку вайны, амаль цэлы год, ён камандаваў танкавай дывізіяй. Колькі разоў прыходзілася самому вадзіць «трыццацьчацвёркі» па ваенных дарогах і ў бой!

Праехаўшы яшчэ крыху, Чарняхоўскі заўважыў у хмызняку каля дарогі прыкрытую галлём «трыццацьчацвёрку».

Ён спыніў машыну. Накінуўшы плашч-накідку, рассоўваючы мокрае вецце, падышоў да танка. Поблізу стаяла яшчэ адна «трыц-

цацьчацвёрка», па знаку на вежы якой ён даведаўся, што тут машыны са славутага гвардзейскага корпуса.

Каля танка якраз завіхаўся баец. Ён толькі павярпуўся, каб ісці, напэўна, да свайго люка, калі сустрэўся з Чарняхоўскім.

Танкіст паспешліва і насцярожана акінуў позіркам чалавека ў плашч-накідцы, не зусім упэўнена прывітаўся.

— Што вы тут робіце? — Ваюем...

Баец раптам казырнуў і бегам падаўся да люка.

— Пачакайце, таварыш...

— Няма калі... Зараз камандзіра паклічу...

І ён схаваўся ў люку. «Прыём не вельмі далікатны», — падумаў камандуючы, не скідаючы плашчнакідкі.

Праз хвіліну з машыны саскочыў другі танкіст. Прывітаўшыея, ён папрасіў дакументы, і Чарняхоўскі падаў пасведчанне.

Раскрыўшы яго, танкіст здзіўлена і вінавата зірнуў на камандуючага.

— Выбачайце, таварыш генерал. Вінаваты. Не бачыў яшчэ ніколі... Чуць — чуў многа, а бачыць... — ён схамянуўся і назваў сябе:

— Гвардыі старшы лейтэнант Лагуновіч. Аляксей далажыў, чым займаецца яго рота, якая з батальёнам удзельнічала ў начных занятках.

— Чаго ж стаіць рота, таварыш гвардыі старшы лейтэнант?

— Затрымка. Чакаем вестак ад разведкі... Чарняхоўскі запытаўся, ці часта бываюць у брыгадзе начныя заняткі.

— Два-тры разы кожны тыдзень, таварыш генерал. Камандуючы пацікавіўся, ці даўно Аляксей у брыгадзе і ці даўно на фронце.

— Дарэчы, з якіх мясцін вы родам?

— З Мінска, таварыш генерал... — Сям'я дзе?

— Па той бок...

— Там... — спачувальна, крыху нахмурыўшы прыўзнятыя дужкі броваў, прамовіў камандуючы.

Да іх гэтым часам падышло некалькі танкістаў. Спачатку саскочыў з вежы Быстроў, за ім зараджаючы, потым ад суседняй машыны падышоў Колышаў; Сонцаў, які так недарэчна спаткаў генерал-палкоўніка, адседжваўся ў танку.

— Чым жа вы займаліся апошнімі днямі? — глянуў Чарняхоўскі на Быстрова.

— Гарматы прыстралялі, таварыш генерал. Экіпажы зладжвалі...

— Зладзілі?

— Так. Цяпер вось пачалі замяняць адзін аднаго...

— Гэта добра... А вы даўно ў брыгадзе? — акінуўшы танкістаў хуткім, але вострым позіркам, запытаўся Чарняхоўскі ў Колышава.

— Адзінаццаць... дзён, таварыш генерал.

— Як вам здаецца, таварыш танкіст, у добрую вы брыгаду трапілі?

— Брыгада — добрая, таварыш генерал. Праслаўленая...

— Праслаўленая? Гэтага мала... Слава, як і гімнасцёрка, можа пакрывацца пылам і старэць...

— Абновім, таварыш генерал! — адгукнуўся рашуча Быстроў. Ён непрыхільна зірнуў на Колышава: не мог адказаць як след.

— Абновіце? Ну-ну, глядзіце. Я не люблю, калі словы на вецер кідаюць... — Чарняхоўскі зноў загаварыў да Аляксея:— А на занятк і ў вас заўсёды выязджаюць без аўтаматчыкаў?

Аляксей ды і некаторыя іншыя збянтэжыліся.

— Не... Мінулы раз, таварыш генерал, мы былі з аўтаматчыкамі...

Тут старшага лейтэнанта паклікалі да рацыі.

Аляксей папрасіў дазволу ў камандуючага перадаць, каб там пачакалі, але Чарняхоўскі сказаў:

— Не. Чакаць ім нельга.. Вайна не чакае... Рыхтуйцеся, таварышы, добра рыхтуйцеся. Вам тут, на Беларусі, выпадзе асабліва важная праца...

Ён паправіў на плячах плашч-накідку.

— А вы, таварыш старшы лейтэнант, запомніце, што на занятк і трэба ездзіць у поўнай гатоўнасці. Кожны раз... Ідзіце.

— Ёсць!..

Танкісты бегам падаліся да сваіх танкаў, а Чарняхоўскі хутка пайшоў назад.

Праз хвіліну яго машына зноў ляцела па дарозе...

3

Штаб 3-га Беларускага фронта размяшчаўся кіламетрах у чатырох ад гарадка Краснае.

Тое Краснае, якое праславілася яшчэ пры Кутузаве, стала цэнтрам, што кіраваў мнагатысячным войскам фронта. Гарадок, вызвалены яшчэ паўгода назад, ляжаў увесь у руінах, сярод якіх дзе-ні-дзе чарнелі каробкі спаленых дамоў. Ён здаваўся паўпустым, амаль нежылым, як і ўсе такія разбураныя гарадкі.

Зусім інакш ішло жыццё ў сасняку за горадам, дзе быў штаб фронта. У бліндажах, выкапаных між дрэваў, ні днём, ні ўночы не сціхала напружаная неўтаймаваная праца.

Над бліндажамі, гойдаючы ўгары высокія макушкі, шумелі сосны. Тонкія і стройный, яны нагадвалі вартавых.

Камандуючы яшчэ здалёк убачыў знаёмы абрыс ляска.

Абапал дарогі мільгалі, адбягаючы назад, рады старых ліп, некаторыя з якіх пачалі сохнуць, — угары часта чарнела бязлістае голле.

На скрыжаванні дарог стаяў помнік воінам 1812 года, каля яго віднелася групка салдат, што, мусіць, накіроўвалася на пярэдні край...

Сасняк імкліва набліжаўся. Калі машына падбегла да шлагбаума, што перахопліваў дарогу на ўзлессі, вартавы, які вышаў ад дашчанай будкі, спачатку намерыўся было спыніць яе, але пазнаў камандуючага і адразу прапусціў.

У сасняку машына ішла ціха, мінаючы камялі гонкіх бронзавых дрэваў і шызую гушчэчу параснiку.

На разгаліне дарог, з якіх адна вяла да гаража, генерал-палкоўнік спыніў машыну і вышаў з яе.

— Перадай механіку — хай наладзіць рухавік,— сказаў шаферу, папраўляючы на плячы плашч-накідку, — у адным цыліндры — стукі...

Стаў чакаць члена Ваеннага Савета, які ехаў следам. Нядаўна тут, відаць, прайшоў дождж — пясок на дарожцы прыбіла, ён пацвярдзеў і стаў наздраватым, нібы пакрыўся васпінкамі.

Далей генералы пайшлі пеша.

Нягледзячы на ранні час, тут пульсавала жыццё. З аднаго бліндажа выбег, трымаючы ў руцэ лісток спісанай паперы і на хаду праглядаючы яго, малады чарнявы афіцэр. На дарозе трапіліся яшчэ два афіцэры і дзяўчына-сувязістка, якія некуды спяшаліся.

Чарняхоўскаму было прыемна бачыць ажыўленне ў гэтую раннюю пару. Калі падышлі да сцежкі, па якой члену Ваеннага Савета трэба было павярнуць улева, Чарняхоўскі прамовіў, што нядрэнна было б сёння выбраць час і схадзіць у лазню...

— Змыць дарожны пыл!.. — стомлена, але тонам адабрэння адгукнуўся Емяльянаў. Ён падаў руку генерал-палкоўніку: — Ну, наездзіліся мы за гэтыя двое сутак, Іван Данілавіч!..

Чарняхоўскі накіраваўся ў свой дом, сцены якога, пафарбаваныя ў зялёны колер, з рудымі палосамі, выглядалі між сосен. Камуфліраваны, старанна замаскіраваны, драўляны дах быў амаль цалкам накрыты густымі галінамі-лапамі.

Ён раптам пачуў угары над сабою знаёмы металічны трэск і спыніўся, агледзеўся — на сасне, на медзяным ствале з тонкімі, падобнымі на слюду лісткамі кары, вісела невысока галавой уніз вогнен-

на-рудая вавёрка. Пушысты хвост яе падняўся; на сухіх баках хадзілі рэбры. Яна, напружана прыгнуўшыся, глядзела ўважлівымі вачыма на Чарняхоўскага.

Шчоўкнуўшы, ступіла некалькі крокаў па ствале і спынілася зноў, потым пачала хутка спускацца. На зямлі яна стала на заднія лапкі, азірнулася вакол і паскакала заклапочана да суседняга дрэва. Там нешта шукала — Чарняхоўскі крануўся, — і яна, спалоханая, адразу сіганула на дрэва, як маланка, паляцела па ствале, так што пасыпалася ўніз кара.

Камандуючы зачараваўся яе жвавасцю і спрытам. Узляцеўшы на крывы сук, вавёрка скокнула ў паветра і на нейкі міг распласталася, выцягнулася ў блакітнай вышыні, як птушка, а потым мільганула ўжо на зялёнай галінцы, якая адразу загайдалася.

«Бач ты, скакуха!» — мімаволі вырвалася ў Чарняхоўскага.

Ён стомлена падняўся на прыступках, над якімі ўгары выступаў невялікі прыдашак.

У прыёмнай дзяжурыў юны, русявы, кірпаносы лейтэнант, каторы, убачыўшы генерала, паспешліва ўстаў і прывітаўся.

Чарняхоўскі, амаль не прыпыняючыся, папрасіў, каб падалі матэрыялы, што прыйшлі на яго імя.

Ён прайшоў у кабінет. Кабінет быў самым вялікім пакоем у доме. Тут стаяў у кутку рабочы стол, да якога прымыкаў другі, даўжэйшы, ля сцен былі канапа, некалькі стулаў. Недалёка ад рабочага стала вісела вялікая карта фронта, зацягненая сіняй шторкаю.

Лейтэнант прынёс радыёграмы, данясенні, дакладныя, і Чарняхоўскі, не распранаючыся з дарогі, стаў хутка і моўчкі праглядаць іх.

— Ёсць яшчэ ліст, таварыш генерал. — Ад'ютант падаў маленькі самадзельны канверт. Чарняхоўскі мелькай зірнуў на адрас: «У дзеючую армію, на Заходні фронт, камандуючаму фронтам генералу тав. С». «С», відаць, значыла,— Сакалоўскаму, які камандаваў былым Заходнім фронтам.

Чарняхоўскі паглядзеў на танкі і самалёты з чырвонымі зоркамі, намаляваныя ўгары ліста, і стаў чытаць.

Прачытаўшы, ён нахмурыўся, паклаў ліст у кішэню. «Ад сястры, можа... Ці ад Аліка», — падумаў паручэнец, які не бачыў адраса на лісце.

Чарняхоўскі адным рухам расшмаргнуў плашч-накідку, аддаў яе падбегшаму ардынарцу, адрывіста кінуў паручэнцу:

— Камароў, выклічце на восем трыццаць начальніка тылу... На дзевяць — камандуючага паветранай арміяй. Пераключыце тэлефоны!.. Усё?— зірнуўён на ад'ютанта.

— Быў ваш брат, падпалкоўнік Чарняхоўскі, Аляксандр Данілавіч, таварыш камандуючы.

— Даўно?

— Ад шаснаццаці трыццаці да семнаццаці.

— Паехаў?

— Так точна. Ен быў праездам.

Брат камандуючага служыў на гэтым жа фронце ў адной танкавай брыгадзе, намеснікам камандзіра. Бачыцца ім у гэтыя дні даводзілася вельмі мала, і Чарняхоўскі пашкадаваў, што не спаткаліся.

У пакоі для адпачынку, маленькім і вузкім, у які вялі дзверы з кабінета, здалося яму, было душна, і ён адчыніў акно. Зняўшы кіцель і боты, ён на хвіліну прылёг на салдацкі ложак, накрыты простай байкавай коўдрай, і адчуў, як прыемна, лёгка стала целу. Пазяхнуў і — адразу схамянуўся:

«Так, чаго добрага, засну».

Ён з намаганнем устаў і, памыўшыся на двары, пад умывальнікам, прыбітым да сасны, паружавелы, больш бадзёры вярнуўся ў пакой, пачаў апранаць чысты кіцель. Кіцель станавіўся, заўважаў ён, цеснаватым, — у Чарняхоўскага варухнулася думка: «Пачынаю паўнець. І хаджу многа, а ўсё чамусьці паўнею...» Ён прычасаў густыя непаслухмяныя валасы, акінуў сябе позіркам: камандуючы любіў акуратнасць у адзенні, — і вышаў у кабінет.

Узяўшы з краю стала, дзе ляжалі свежыя газеты, апошні нумар «Праўды», Чарняхоўскі прылёг на канапу, палажыўшы галаву на рубчастую мулкую бакавінку. Гэта цвёрдая сялянская канапа, на якой звычайна ляжаў генерал у рэдкія хвіліны адпачынку, трапіла ў яго кабінет «часова», але калі потым замянілі яе мяккай, плюшавай, Чарняхоўскі на дзіва для многіх загадаў вярнуць ранейшую.

— Вы што, другую спальню ў кабінеце думаеце зрабіць? — сказаў ён ад'ютанту.

Што праўда, то праўда, спаць на гэтай канапе было не соладка. Чытаючы газету, Чарняхоўскі ўвесь час мяняў паставу галавы: муляў пракляты рубец. Але калі Камароў праз некалькі хвілін зазірнуў у кабінет, то ўбачыў, што камандуючы, прыгнуўшы няёмка галаву, спіць, трымаючы разгорнутую газету на грудзях.

Паручэнец ціха прычыніў дзверы і пераключыў тэлефоны на прыёмную.

Хвілін праз дваццаць прыбыў начальнік тылу, і Камароў са строгім дзелавым выглядам зноў увайшоў у пакой.

— Таварыш камандуючы!

Чарняхоўскі паварушыў брывом, нібы адганяў муху, і прачнуўся.

— Што такое?

— Прыбыў начальнік тылу.

— Прыбыў?.. Добра.

Ён устаў, прывычна абцягнуў кіцель і, правёўшы рукою па твары, як бы сціраючы рэшткі сну, сказаў:

— Прасі.

Чарняхоўскі ступіў насустрач таму, хто ўвайшоў, і прывітаўся.

— Далажыце, таварыш генерал, — прамовіў ён далікатна, мякка, заходзячы за рабочы стол, — якія ў вас змены адбыліся за апошнія двое сутак?

— Ёсць... — начальнік тылу разгарнуў папку, якую трымаў у руках.— За гэты перыяд намі атрымана... Першае — зброя і боепрыпасы...

Ён, заглядваючы ў папку і час-ад-часу ўздымаючы чакальны позірк на камандуючага, стаў павольна, сіплаватым голасам называць лічбы эшалонаў са зброяй, наменклатуру боепрыпасаў — род, калібр, маркі. Пасля кожнага пункта ён рабіў паузу, як бы чакаючы заўвагі ці пытання Чарняхоўскага, але той маўчаў.

Камандуючы ўважліва слухаў, але амаль нічога не запісваў. Толькі раз ці два ён зрабіў нейкія адзнакі ў запісной ледэрынавай кніжачцы, якую выняў з кішэні. Начальніка тылу гэта не бянтэжыла: ён, як і іншыя блізкія да камандуючага людзі, ведаў, што ў таго, хто слухае, на дзіва моцная памяць, якая трымае самыя разнастайныя весткі пра ўвесь фронт, пра дывізіі і нават палкі...

І генерал чытаў, час-ад-часу паглядаючы на Чарняхоўскага.

— Добра. Далажыце, колькі цяпер боекамплектаў гранат ў часцях, на ДОП'ах[1], у арміях, на складах фронта?

І зноў генерал чытаў, стараючыся стаяць прама, а Чарняхоўскі слухаў, таксама стоячы, машынальна круцячы ў руках вастразатачаны сіні аловак.

— Гаруча-змазачныя матэрыялы...

— Пачакайце... — Тарэц алоўка легка стукнуў па сталу. — Бранябойных патронаў у нас па графіку павінна быць тры боекамплекты? Чаму пакуль толькі два з паловай?

— Два эшалоны з патронамі затрымаліся ў Маскве — на акружной... Адзін — з бранябойнымі патронамі.

— А як справы з аўтамабільным маслам спецыяльным? — запытаўся Чарняхоўскі, успомніўшы нейкі мінулы даклад.

— Яшчэ не ўлажыліся ў графік, таварыш камандуючы.

---

[1] Дывізійны абменны пункт.

— А колькі ж вы будзеце ўкладвацца?

— Чыгунка, таварыш камандуючы, падводзіць.

— А вы гаварылі з чыгуначнікамі?

— Гаварыў...

— Ну, і што?

— Абяцаюць выручыць...

— Абяцаюць. А між тым, не ў першы раз не спраўляюцца з графікам.

— Я гаварыў з імі пра гэта.

— Відаць, недастаткова добра гаварылі, калі ўсё па-ранейшаму.

Ён прайшоўся па пакоі, засунуўшы рукі ў кішэні. Генерал моўчкі сачыў за ім, апусціўшы папку і трымаючы між лісткамі палец, замест закладкі.

— Што ж, я з імі пагавару!.. Дзе эшалоны з аўтамабільным маслам?

— На падыходзе, таварыш камандуючы.

Чарняхоўскі зноў вярнуўся за стол.

— Далажыце, колькі ўсяго эшалонаў на станцыях разгрузкі, на падыходзе, якія?

Выслухаўшы адказ, камандуючы хвіліну памаўчаў, пакручваючы аловак.

— Я загадаў пры перавозцы войск і ўзбраення захоўваць строгую маскіроўку. А ўсё-такі да апошняга часу ёсць выпадкі, калі шафёры едуць ноччу з поўнымі фарамі...

— Парушаюць... Я папярэджваў людзей, таварыш генерал.

— За парушэнне маскіроўкі — шафёраў адразу здымайце з машын, а камандзіраў прыцягвайце да адказнасці...

— Ёсць, таварыш генерал. Я сёння ж прыму меры.

— Усё, можаце быць вольны.

Пасля яго Чарняхоўскі выклікаў камандуючага паветранай арміяй, намеціў на бліжэйшыя дні план «апрацоўкі» з паветра важнейшых чыгуначных вузлоў.

Генерал-палкоўнік прыняў яшчэ некалькі сваіх падначаленых. Ён ведаў становішча ўсяго фронта і выразна ўяўляў сабе дэталі будучага, цяпер ужо блізкага, наступлення.

Калі для многіх іншых камандзіраў наступленне было марай, то генерал-палкоўнік ужо рэальна адчуваў характар будучай бітвы. Яна акрэслівалася ўсё больш па меры таго, як прыбывала і прыбывала ўзбраенне, як раслі штабялі артылерыйскіх снарадаў на складах.

Позна ўвечары яму паведамілі, што непадалёк, на прыфрантавым аэрадроме, прызямліўся генерал Малінін, камандзір аднаго

партызанскага злучэння, які ляціць з Масквы на фронт. Чарняхоўскі загадаў зараз жа Камарову паехаць па яго і запрасіць у штаб.

Ён зняў трубку тэлефона:

— Васіль Макаравіч?.. Зайдзіце, калі ласка, хзілін праз пятнаццаць да мяне. Справа ёсць...

Чарняхоўскі выняў з кішэні самаробны канверцік з лістом, на якім былі намаляваны танкі і самалёты. Паглядзеў на малюнак і стаў зноў чытаць.

«Дарагі таварыш камандуючы генерал! Гэта пішуць да вас з Л. дзіцячага дома Коля і Сярожа Крушыны, Шурка Хмялеўскі і Лёня Зелянкоў, — адразу называлі сябе аўтары ліста. — Мы ўсе з вялікім гонарам чытаем пра геройскія справы нашых байцоў і афіцэраў Чырвонай Арміі, а таксама і слухаем па радыё кожны дзень. Нашы бацькі таксама на фронце ваююць, толькі ў Лёні Зелянкова і Шуркі Хмялеўскага не ваююць, бо яны загінулі на фронце. Жывем мы ў цяперашні час добра. Мы тут вучымся ў школе. У нас ёсць нары і пасцелі. Адно толькі пагана, што далёка дровы насіць з лесу і ваду з рэчкі, бо няма на чым вазіць. А мы яшчэ не акрэплі пасля лагера. А так усё добра. Не думай, дарагі таварыш генерал, што мы скардзімся на цяжкасці. Мы іх перажываем, бо на фронце нашы байцы перажываюць яшчэ большыя...» Чарняхоўскі прыпыніўся, задуменна ўзняў вочы: па яго твары як бы прабег цень.

«Мы падрыхтавалі для Чырвонай Арміі пяць пасылак і паслалі іх. Мы хочам запытаць Вас, ці не трэба Вам яшчэ чаго? Напішыце, якія Вам патрэбны падарункі? Мы ўсё зробім!!!»

Далей ішоў адрас, прыпіска: «Выбачайце, што пішам не сакрэтны Ваш адрас, бо мы яго не ведаем»,— а далей быў намаляваны нямецкі самалёт, што падае і дыміцца...

Камандуючы, паглядаючы на гэты самалёт, узяў аловак і непаспешліва, паглыблены ў свае думкі, падкрэсліў словы: «далёка дровы насіць з лесу і ваду з рэчкі, бо няма на чым вазіць... не акрэплі пасля лагера». Ён так націснуў аловак, што графіт зламаўся.

Начало наплываць, набліжацца далёкае-далёкае: успаміны, як сам калісьці бадзяўся па дарогах. Адганяючы згадкі, узяўшы ручку, ён хуткім энергічным подыркам стаў пісаць:

«Дарагія рабяты! Пісьмо Ваша перадалі мне. Дзякую за яго. Вы пытаецеся, які патрэбен фронту падарунак. Адказваю — вучыцца добра, настойліва. Гэта галоўны падарунак. Перадайце прывітанне ўсім Вашым выхавацелям і таварышам ад салдат і афіцэраў фронта!»

Чарняхоўскі размашыста, але разборліва распісаўся. Узяўшы трубку тэлефона, выклікаў начальніка тылу і папрасіў падрыхтаваць падарункі для дзіцячага дома.

Увайшоў член Ваеннага Савета, і Чарняхоўскі папрасіў яго сесці.

— Зараз будзе тут госць — Малінін, партызанскі генерал. Ён павінен прыехаць з хвіліны на хвіліну... А пакуль, Васіль Макаравіч, вось — пачытайце.

Чарняхоўскі падаў ліст і стаў назіраць за тварам генерала, пакуль той чытаў.

— Цяжкавата дзецям! — складваючы лісток, паспачуваў Емяльянаў. — Вы, здагадваюся, рашылі падтрымаць іх...

— Так. Вось...— камандуючы даў лісток, на якім было напісана, што трэба адправіць дзетдому.

— Гэта правільна... — Добры, чулы Емяльянаў задаволена пацёр рукой шчаку. — Трэба берагчы іх...

Неўзабаве нячутна ўвайшоў Камароў і хутка, хвацка далажыў, што генерал-маёр прыбыў, — паручэнец ледзь не сыпнуў прывычна «па вашаму загаду», але спрытна паправіўся «па просьбе!»

— Прасі...

У пакой ступіў рослы, апрануты ў новую палявую форму генерал. Ён светлымі ўважлівымі вачыма з-пад цёмных брывей глянуў на камандуючага і проста, глухаватым голасам адрэкамендаваўся: — Малінін.

Вышаўшы з-за стала, Чарняхоўскі ветліва пацiснуў руку і, пазнаёміўшы з генералам Емяльянавым, папрасіў госця сесці.

— Я, прызнацца, уяўляў вас больш грозным з выгляду, — пажартаваў камандуючы. — Думаў, што ў вас барада да пояса...

— Я таксама ўяўляў вас інакшым — старэйшым!..— падтрымаў жарт Малінін.

Чарняхоўскі запытаў, што новага чуваць у Маскве.

— Што новага ў Маскве? Агульныя навіны вы ведаеце лепш за мяне, усё-ткі звычайна бліжэй да сталіцы, чым мы — лясныя людзі...

— Бліжэй, то бліжэй, ды вы ж толькі што з Масквы, — масквіч можна сказаць...

— Які я масквіч?! Я і тыдня не быў там. Ды і то — ходзячы па сталіцы, думаў пра свае лясы... Працы там многа засталося нязробленай...

— Лясы і лясныя людзі нас, таварыш Малінін, цяпер таксама вельмі цікавяць... Як ніколі. Таму мы і папрасілі, каб нам дапамаглі спаткацца. Як там у лясах вашых?

Чарняхоўскі зірнуў на генерал-маёра ўважлівымі, без усмешкі, вачыма:

— Блакады яшчэ ідуць?

— Дзе-ні-дзе ідуць...

— Значыцца, фашысты не зусім прыціхлі?

— Крыху прыціхлі. Непакояцца за фронт — усе іх карныя дывізіі з нашага раёна падаліся ў бок фронта...

— Што там цяпер у сёлах?

— Сумна ў сёлах. Вярнуліся на старыя мясціны — пазнаць нельга. Праязджаў я нядаўна па такой вёсцы — Паплавы. Была калісьці зялёная, уся ў садах, з багатымі калгаснымі пабудовамі, — я яе добра ведаю, працаваў там гадоў дзесяць назад дырэктарам МТС... А цяпер — толькі попел і жахлівае запусценне... За адзін дзень гітлераўскія карнікі забілі дзвесце трыццаць чалавек. Некалькі чалавек спалілі зажыва ў школе. Адну жанчыну кінулі разам з маленькім дзіцём... Вось што ў нас... Тысячы людзей па-зверску забіты і спалены... Папялішчы і — трупы...

Чарняхоўскі апусціў галаву. Твару яго амаль не было відаць, — святло лямпы выхоплівала рэзкія, дугамі, бровы ды неспакойнае, без адной ніткі сівізны, плеціва валасоў.

— Цяпер заняліся сяўбою... — мімаволі прыцішыў голас Малінін. — Сеяць вельмі цяжка, бо ўсё папалена, мала-мала засталося коней, плугоў. У Паплавах, напрыклад, няма ніводнага каня. Прыйшлося мабілізаваць коней у брыгадзе — Ермакоў там у нас камандуе. — Ён падрабязна і дакладна расказаў пра абстаноўку.

— Часта пытаюць,— кінуў на Малініна цікаўны, мяккі позірк Емяльянаў, — калі пачнецца наступленне?

— Ну, такое пытанне, мусіць, у кожнага, калі не на языку, то ў галаве... Часта, таварыш генерал-маёр...

Па тым, як глянуў на члена Ваеннага Савета Малінін, Чарняхоўскі здагадаўся, што той сам чакае адказу: калі.

— Рыхтуемся, таварыш Малінін. Ніводнага лішняга дня стаяць не будзем... Але ў нас будзе вялікая просьба, — каб падтрымалі, пасуседску, калі прыдзе час!..

— За гэтым астаноўкі не будзе! Падтрымаем, колькі змогі. Думаю, што хутка пачуеце наш галасок.

Чарняхоўскі і член Ваеннага Савета ведалі, на што намякае Малінін: ім паведамлялі ўжо, што рыхтуецца «канцэрт». Камандуючы, радуючыся гэтаму, разам з тым сказаў Малініну, што было б вельмі добра, каб партызанскія сілы ў часе наступальных баёў арміі ўзмацнілі свае ўдары з тылу. Ён даў некалькі парад, як і чым можна лепш

дапамагчы франтавікам, як наладзіць узаемадзеянне з армейскімі часцямі...

Закончыўшы дзелавую размову, Чарняхоўскі запытаўся ў Маліна, колькі той думае пабыць на фронце.

— Думаю сёння ж адправіцца дамоў.

Ён падзякаваў Емяльянаву, які запрапанаваў павячэраць разам, падзякаваў і — адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што ночы цяпер невялікія і, чаго добрага, можна запазніцца.

Пашкадаваўшы, што Малінін так хутка адлятае, Емяльянаў падаў руку генералу і папрасіў:

— Перадайце прывітанне сваім лясным салдатам. Скажыце, што мы вельмі спадзяемся на такіх памочнікаў...

Чарняхоўскі націснуў кнопку званка і загадаў паручэнцу, які ўвайшоў:

— Камароў, паедзьце з генералам і прасачыце, каб яго добра ўладзілі.

Ен вышаў з Малініным на двор, правёў да машыны. Вярнуўшыся ў пакой, Чарняхоўскі і Емяльянаў пачалі абмяркоўваць розныя апаратыўныя справы.

— Ну, Малінін ужо, напэўна, падняўся ў паветра, — прамовіў член Ваеннага Савета. — Вы ведаеце, Іван Данілавіч, я сёння адчуў сябе вінаватым. Без віны вінаватым...

— Так, трэба фарсіраваць падрыхтоўку да наступлення...

Калі Емяльянаў вышаў, Чарняхоўскі выклікаў ад'ютанта і перадаў пісьмо ў дзетдом.

Выняўшы з кішэні запісную кніжку, ён стаў падлічваць, колькі яшчэ патрэбна падвезці снарадаў.

...Позна ўночы, скончыўшы працу, камандуючы вышаў з дома. Неба высілася спакойнае і зорнае. Адсюль да пярэдняга краю было каля сарака кіламетраў, і сюды дакатваўся глухаваты грукат выбухаў.

Угары, нізка над лесам, прайшло ў бок фронта некалькі самалётаў, — ён на зорнай чарнаце адрозніў іх сілуэты: бамбардзіроўшчыкі. Чарняхоўскі ўспомніў размову з Малініным, падумаў, колькі людзей там, на Беларусі, чакаюць яго салдат.

Але хіба наступлення чакаюць толькі па той бок фронта? Яго чакаюць і на пярэднім краі байцы, і людзі на Урале і Далёкім Усходзе. Уся краіна чакае, увесь свет.

4

Тураўца і Ермакова тэрмінова выклікалі на нараду ў штаб злучэння.

Калі яны прыехалі, у штабе былі ўжо ўсе камандзіры і камісары брыгад. Начальнік штаба папрасіў зайсці ў пакой камандзіра злучэння.

Малінін, у новай генеральскай форме, па-таварыску прывітаўся з кожным за руку, прабег позіркам па прысутных, нібы правяраючы, ці ўсе прышлі.

Туравец заўважыў, што ў пакоі толькі камандзіры і камісары брыгад, і падумаў, што будзе нешта сакрэтнае і важнае.

Ён не памыліўся. Малінін пачаў сваё выступленне словамі пра важнасць справы, для якой іх паклікалі.

— Мы маем задачу: у ноч на 20 чэрвеня зрабіць вялікі «канцэрт». Аперацыя праводзіцца па спецыяльнаму загаду Штаба партызанскага руху,— падкрэсліў ён.

Малінін быў вопытны партыйны работнік, якому толькі ў час вайны давялося ўзяцца за ваенную справу. Як і многія іншыя партызанскія кіраўнікі, ён прайшоў усе курсы «лясной акадэміі»: спачатку кіраваў невялічкім атрадам, які сам сабраў і які пасля вырас у брыгаду, нарэшце, узначаліў цэлае злучэнне з некалькіх тысяч байцоў. За гэты час ён стаў ваенным спецыялістам.

Адначасна Малінін быў і партыйным кіраўніком падполля, сакратаром абкома. Хоць яму даводзілася доўгі час быць камандзірам, ён дагэтуль захаваў многія ранейшыя цывільныя звычкі ў адносінах да падначаленых, з якімі генерал вітаўся проста за руку, ці то быў камандзір брыгады, ці радавы аўтаматчык. Не хапала, магчыма, у генерала і таго, што называюць вайсковай выпраўкай. Генеральскі новы кіцель выглядаў на ім неяк сціпла, як раней сіняя шарсцяная гімнасцёрка.

Слухаючы Малініна, Туравец мімаволі пераглянуўся з Ермаковым: вось для чаго прывезлі такую безліч толу і дэтанатараў!

План аперацыі захапіў камісара сваёй шырынёй і смеласцю. На гэты раз «канцэрт» рыхтаваўся нават больш магутны, чым ранейшыя.

Туравец разумеў, што бой на «жалезцы», напэўна, будзе толькі ўступам, што сапраўдны «канцэрт», куды больш велічны, пачнецца пазней. Ён адчуваў, што надыходзяць вялікія, даўно чаканыя падзеі. Можа, гэта і ёсць пачатак свята.

Пасля нарады Малінін папрасіў Тураўца застацца. Туравец быў з ім добра знаёмы яшчэ з даваеннага часу, калі цяперашні генерал працаваў сакратаром гаркома. У іх былі добрыя прыяцельскія адносіны.

Малінін узяў Тураўца за руку, прапанаваў:

— Пройдземся.

Яны вышлі з зямлянкі, па сцежцы падаліся на адхонны ўзгорак. Унізе быў даволі глыбокі яр, у якім густа буялі вялікія і дробныя дрэвы. Завостраныя вяршыні большых дрэваў, якія раслі ў яры, — бяроз, асін, алешын, — былі ўпоравень з узгоркам.

— Хараша, а? Тут на прыволлі, у цішыні вельмі добра... падумаць. Я сюды часта зазіраю... Начштаба мой нават пажартаваў неяк, ці не спатканне з дзяўчынаю я тут назначаю...

Ён нечакана абарваў гаворку, захоплены новай думкаю.

— Чуў я, жаніцца збіраешся? — Малінін светлашэрымі вачыма дапытліва, з хітрынкай паглядзеў на Тураўца. — Паклічаш?

Туравец ад нечаканасці збянтэжыўся.

— Адкуль ты гэта, Іван Іванавіч, узяў?..

— Няпраўда, можа?

— Пакуль, можна сказаць, няпраўда. А далей... а за далейшае — каюся, грэшны — баюся ручацца! Чыстая праўда, Іван Іванавіч, табе аднаму прызнаюся.

Туравец падумаў, хто б гэта мог нагаварыць на яго. Яны так рэдка бачыліся з Марыяй, амаль ніколі не былі ўдваіх. Туравец нікому не казаў пра сваё пачуццё да Марыі, імкнуўся быць у дачыненні да яе стрыманым, такой жа стрыманай, нават нібы абыякавай да яго, здавалася і Марыя Андрэеўна. Хто б мог ведаць, што там у яго, у яе на душы? Але ж нехта падгледзеў!

— Цябе ў Мінск сакратаром райкома назначаем. Хутка на новую работу пойдзеш,— прамовіў неспадзявана Малінін, спакойна і проста, нібы гаварыў: пойдзеш у другую брыгаду.

— Ну, што ты, Іван Іванавіч?!— здзівіўся Туравец. — Жартуеш?..

— Зусім сур'ёзна!— ён ледзь-прыкметна ўсміхнуўся аднымі вачыма, і ўсмешка нібы гаварыла: аб іншым не пытайся, здагадвайся сам.

— У цябе ў раёне хлебазавод, станказавод, тэатр, дванаццаць школ... дзевяць з іх спалены... Падумай, як ты іх аднаўляць будзеш. Скажы, што ты будзеш рабіць, калі заўтра вызваляць Мінск і ты вернешся ў райком? — нечакана паставіў Малінін пытанне рубам.

— Я ўжо думаў пра гэта, —прызнаўся Туравец. — Толькі, можа, абстрактна...

— Наш зварот — не абстракцыя. Яшчэ да таго, як прыдзеш у Мінск, Нічыпар, — ты павінен ведаць, з чаго пачынаць. Абдумай загадзя. Падбяры людзей, якія будуць выконваць твае планы. Між іншым, у Маскве ўжо меркавалі, як будзем араць і сеяць увосень палі, на якіх мы пакуль ваюем, чым дапамагчы Мінску, усёй рэспубліцы. ЦК падрыхтаваў тысячы работнікаў, якія чакаюць толькі сваёй пары, каб з першага ж дня, з першай гадзіны пачаць ладзіць мірнае жыццё.

Туравец з захапленнем слухаў гэтыя словы, якія лепш за ўсё гаварылі пра веру ў заўтрашні дзень.

— Дарэчы... Памазгуй, Нічыпар, як вы дапаможаце Чырвонай Арміі людзьмі. Вайна не канчаецца тут. Падрыхтуй людзей, каб перадаць іх арміі. Трэба даць арміі такіх салдат, каб яны чэсць нашу неслі высока, каб чырванець не прышлося.

— За маіх, Іван Іванавіч, не прыдзецца! Эх, значыць, хутка зноў заводскія сходы... стаханаўцы на бюро расказваюць пра свой вопыт. Станкі грукочуць у цэху... Або — сядзяць барадачы і падлеткі ў сапраўднай лекцыйнай зале і слухаюць якога-небудзь рабочага-летуценніка, які зазірае ў камунізм!

— Нялёгка будзе спачатку, Нічыпар.

— Горка... Балюча. Цяжка. Але я не думаю пра гэта. Галоўнае — вярнуцца!

Яны сталі ўспамінаць гарком, бяссонныя ночы, клопаты таго часу, сустрэчы, падзеі, таварышаў. Усё, што нядаўна здавалася яшчэ недзе наводдаль, цяпер наблізілася, стала хвалююча рэальным, нібы ўжо здзейснілася. Доўгія гады вайны непрыкметна адступілі, прыцьмелі, быццам успамін.

Яны развіталіся па-прыяцельску, не ведаючы, што наступны раз убачацца ўжо ў Мінску.

5

Ехаць у брыгаду бліжэйшай дарогай было небяспечна, бо немцы, у якіх побач было некалькі моцных гарнізонаў, часта наладжвалі на ёй засады, і камбрыгу і камісару прышлося зрабіць вялікі круг цераз суседнюю партызанскую зону.

Пад'язджалі яны дамоў толькі ўранку.

Усё званчэй, залівісцей звінелі птушыныя галасы. Раса паступова высыхала, і лес напаўняла густая, паркая духмень, у якой мяшаліся пахі травы, сосен, суніц. Шэрсць на сівым Тураўцовым кані замакрэла, закучаравілася ад поту.

— Якое табе дрэва асабліва падабаецца? — перапыніў надакучлівае маўчанне камісар, акідваючы вачыма нізкарослы саснячок, што абступаў дарогу.

— Якое? — адарваўся Ермакоў ад сваіх думак. — Не люблю асіну. Кепска гарыць...

— Кепска гарыць? Эх ты, сухар!.. Я люблю дуб — моцны, дужы. У яго, брат, і пах моцны, востры. Як спірт... Дрэвы, яны як людзі — у кожнага свая натура. Елкі — стройныя, строгія, задуменныя і мала разгаворлівыя. Хвоі — тыя весялейшыя, раскінуць медныя свае галі-

ны ўгары, ахвотна гавораць з ветрам, ківаюць нешта яму. А асіны зусім не любяць маўчаць. І вечна трывожныя, клапатлівыя,— нервовыя, можна сказаць...

Праехаўшы яшчэ, Туравец заўважыў — над ельнічкам справа важка ўздымалася чорная птушка.

— Крумкач!

Туравец працягнуў руку да ардзінарца, узяўшы вінтоўку, весела бліснуў вачыма Ермакову:

— Дазволь, камбрыг?

Не злазячы з каня, прыцэліўся. Ляснуў стрэл.

Груган усё так жа ляцеў, важка ўздымаючыся. Туравец, слухаючы кпіны камбрыга, хутка перазарадзіў вінтоўку і зноў прыцэліўся, птушка ляцела хутчэй. Пасля стрэлу груган секунду ішоў па-ранейшаму, а потым стаў хутка валіцца на бок.

— Ну, бачыў?!

Ермакоў адказаў з насмешачкай, што ў такую хмару любы ўцэліў бы.

— Я і перщы раз уцэліў. Ён жывучы, гад.

Туравец расшпіліў пінжак і каўней белай палатнянай рубашкі, выцер хусцінкай круты лоб.

— Што, прыпаравае? — зірнуў на яго Ермакоў.

Камбрыг, які ў апошні час, пасля блакады, стаў прыкметна таўсцець, сядзеў у сядле, ладна, ледзь сагнуўшыся, злёгку хістаючыся ў такт конскай хадзе.

— Прыпарвае...— Туравец паклаў змакрэлую хусцінку ў кішэню.

Яны зноў ехалі моўчкі.

Ермакову ўспомнілася Валя, і радасны настрой, прынесены сонечнай раніцай і набліжэннем да дому, змяніўся непакоем.

І чаго на яго шляху трапілася гэтая ганарлівая дзяўчынка, і чаго яго гэтак цягне да яе?.. Яго, праўда, увесь час цягнула да жанчын. Быць з імі, адчуваць сябе любімым, заваёўваць іх прыхільнасць, — было яго заўсёдным жаданнем...

І такая ўпартая, скажы. Няма ёй, гэтай дзяўчынцы, ніякай справы да яго, да таго, што ён, усімі паважаны, відны чалавек, камбрыг, пра яе думае. Можа, ён і думае столькі пра яе, калі цвяроза паглядзець, звычайную, нічым не асаблівую, таму, што яна гэтакая — упартая і абыякавая. Ён не ўмее адступацца.

А адступіцца ўсё ж прыдзецца. Слова даў на сходзе, усе гэта чулі, сам казаў — цвёрдае слова. Ну і бог з ёю. І наогул, падалей бы, мусіць, ад іх, — столькі прыкрасці, асабліва цяпер, калі ён, камбрыг, навіду...

Туравец амаль усю дарогу думаў над словамі Малініна. Сапраўды, можа так здарыцца, што праз які месяц — другі ён вернецца ў горад. Ад гэтай думкі на душы ў Тураўца было весела і па-святочнаму легка. Яму неяк мала ў той час даходзіла, што горад разбураны, што многае там будзе выклікаць горкія ўспаміны. Балюча было прыгадваць першыя дні вайны, смерць жонкі... Але радасць, якая яго захапіла, была такой хвалюючай, чаканай, што прыглушыла, прыцішыла ўсё.

З учарашняга дня, ад размовы з Малініным, у Тураўца ў настроі, у думках, ва ўсёй душы шмат што змянілася, перайначылася. Адно, што было раней, хоць і любым, але далёкім, наблізілася, памацнела, а другое, дасюль звыклае, неяк паглушэла і адышло. Тое, што ўлілося ўчора, цяпер амаль адно займала яго, хвалявала, рабіла Тураўца як бы памаладзелым, нецярплівым.

Туравец у думках хадзіў па заваленых вуліцах горада, аглядваў анямелы, спустошаны цэх станкабудаўнічага завода. Ён накіроўваў камуністаў на хлебазавод, каб у першы дзень даць гораду хлеб. Трэба ўлічыць настаўнікаў, пазнаёміцца з імі. Школы трэба аднавіць... Думаў камісар пра ўсе свае будучыя клопаты з такой ахвотай і цікавасцю, што амаль не прыкмячаў, як ідзе час.

Між тым яны ўжо набліжаліся да лагера. Сівы, у яблыках, неспакойны конь Тураўца, пачуўшы блізкасць лагера, заспяшаўся і галасіста заіржаў. Дарога спусцілася ў неглыбокую лагчыну, пасярэдзіне якой, ахінутая высокай вільготнай травой, цякла ціхая празрыстая ручаіна. Конь, ступіўшы ў яе, пацягнуўся да вады.

Далей дарога ўзбівалася на невялікі, але круты ўзгорак, Туравец раскілзаў каня і, пакуль ён піў, моўчкі назіраў, як разыходзіцца, круціцца каля конскай мызы вада. Спатоліўшыся, конь ускінуў галаву, матнуў ёю і фыркнуў: у паветры весела бліснулі кроплі вады...

На ўзгорку Туравец аддаў каня ардзінарцу і да лагера ішоў пеша. Саскочыў з каня і Ермакоў. Ісці пасля доўгай язды, ад якой занямелі ногі і адзервянела спіна, было лёгка і прыемна.

— Каго нам паслаць у Мінск? — загаварыў Ермакоў.

Ім у штабе загадалі паслаць разведчыка ў Мінск. Патрэбны былі новыя падрабязныя весткі аб размяшчэнні ваенных аб'ектаў у горадзе.

Ермакоў і Туравец сталі меркаваць, каму можна даручыць такое заданне. Абодва лічылі, што паслаць трэба каго-небудзь такога, хто быў у Мінску і добра ведае горад.

Прыпомнілі некалькі чалавек, якія маглі б падысці для такой справы, нарэшце, камбрыг згадаў Лагуновіч Ніну. Яна, на думку Ермакова, магла б справіцца лепш за іншых.

Туравец задумаўся.

— Лепш то, можа, лепш... Але...

— Што яшчэ?

— Разумееш, маці ж яна. Дзіця ў яе. У Мінску... Маці, разумееш?

— Ну, дык што?

— А калі там здарыцца што-небудзь?..

— З кожным можа здарыцца. Ніхто не засцярожан ад гэтага.

— Ну, вось, я да таго і кажу... небяспечна...

— Ну, а другія што — не такія людзі?

— І такія, і не такія. Яна ж — маці, разумееш?

— Ведаеш што, Нічыпар: адна — маці, другая — сястра, у таго — брат, — Ермакоў гаварыў рэзка і рашуча. — Па-мойму, яна падыходзіць. І няма чаго тут думаць і выдумляць...

— Што ж, Ніну, дык Ніну.

Туравец уздыхнуў.

— Займіся ты разведкаю, Нічыпар Паўлавіч, — папрасіў мякчэй камбрыг. — Бо мне з «рэйкамі» будзе клопату, аж залішне.

Яны гаварылі ціха. Ардзінарцы вялі коней ззаду і таксама аб нечым размаўлялі.

З-за кустоў вышлі, прывіталі іх вартавыя партызаны, якія стаялі пры дарозе. Слухаючы з лагера людскія галасы, што станавіліся ўсё больш чутнымі, Ермакоў і Туравец мімаволі паскорылі хаду.

Абодва адразу падаліся ў штаб, каб даведацца, што тут здарылася, калі яны адсутнічалі. Ермакову здавалася, што ён даўно ўжо не быў у брыгадзе, і таму камбрыг чакаў нейкіх асаблівых навін. Ён адчуваў сябе так, нібы вярнуўся ў родную сям'ю з далёкага падарожжа. Брыгада, і сапраўды, даўно стала яму і домам і сям'ёй.

Габдулін быў акурат у штабе. Ад яго Ермакоў і даведаўся, што адбылося за апошнія дні.

Пасля гэтага камбрыг падаўся ў свой будан, пераапрануцца з дарогі, а камісар застаўся, загадаў дзяжурнаму, каб паклікалі Лагуновіч.

Хвілін праз дзесяць дзяжурны вярнуўся.

— Яна была ўночы на аперацыі. Цяпер недзе спіць, у будане няма. Знайсці яе?

— Не трэба. Калі прыдзе, няхай зойдзе да мяне.

## Раздзел V

### 1

Раніцай група, у якой была Ніна, вярнулася з разведкі. Калі Ніна ўвайшла ў свой будан, там ужо ўставалі.

— Ты ведаеш, Ніна, — падбегла да яе Валя, — мне сніўся твой Аляксей. Такі ён вясёлы ды прыгожы. На кані ўсё ехаў, а ў каня таго ў грыву заплецены розныя шаўковыя істужкі. Як убачыў мяне, пад'ехаў на кані, пра цябе спытаўся: «Дзе, кажа, мая Ніна, правядзіце да яе». Потым нешта пачаў расказваць пра сябе, дзе ён быў і што рабіў, але я нічога не помню. Хоць забі тут, — не прыпомню!..

— А камісар наш, такі праўда, — закахаўся, — загаварыла гарэзна, бліснуўшы чорнымі прыгожымі вачыма, жанчына, якая латала кофту. — Праўду кажу! У Марыю Андрэеўну.

— Што ж, яна жанчына харошая, — сказала Ніна.

— А я вось не веру, — запярэчыла Валя.

— У што? У тое, што Туравец можа закахацца? У, ты, дурная. Я, любка, мужчын наскрозь бачу. На што другое розуму ў мяне не хопіць, а тут, будзь пэўна. Ох, і мужчына гэта! Ён толькі такі стрыманы. Ведама, камісар! Тут толькі зірні на каго-небудзь прыхільней, дык вочы, накшталт маіх, адразу заўважаць. А так, ён умее моцна любіць. Яшчэ як моцна!

— Выдумляеш ты, сама не ведаеш што.

— О, я не ведаю? Ты паглядзі, якія вочы ў яго — цыганскія! Ох, у маладосці, відаць, быў зух! Не адну, напэўна, прысушыў.

— Шчаслівая будзе Марыя Андрэеўна, — уздыхнула Ніна. — Рада я за яе!

— І ты будзеш, Нінка, шчаслівая! Чуе мае сэрца, будзеш шчаслівая, — запэўніла яе Валя, пачуўшы ў голасе Ніны нотку суму.

— А я і так шчаслівая, — сказала яна, адчуўшы, што Валя хоча супакоіць яе. — Я шчаслівая... Хіба не шчасце так любіць?

Жанчына, што латала кофтачку, уважліва паглядзела на Ніну і недаверліва ўсміхнулася.

— Няпраўду ты кажаш, Нінка. Ты толькі дым у вочы пускаеш, каб супакоіць сябе. Якое гэта шчасце — сохнуць па чалавеку, які невядома дзе тры гады?

— Не сохнуць, а любіць,— папраўіла яе Ніна, хвалюючыся.

— Якая ж гэта любоў?.. — здзівілася чарнявая. — А я вось не люблю нуды. Не ўмею доўга сумаваць. Здаецца, і люблю моцна-моцна, а пройдзе месяц-другі і абавязкова завабіць хто-небудзь новы. Колькі разоў я любіла, а такой любові нешта і не было...

Ніна не адразу знайшла, што адказаць.

— Значыцца... не любіла ты! — прамовіла яна з запалам.— Не любіла... І ўвогуле, —дадала яна, — нічога ты не разумееш у гэтым.

Ніна выйшла да студні, памылася і хутка вярнулася ў будан. Шчокі яе пасля ўмывання паружавелі. Яна ўзяла са століка маленькае люстэрка, на адваротным баку якога быў малюнак — дзеці купаюцца ў рэчцы.

З люстэрка зірнулі на яе шэрыя, стомленыя вочы. У чатырохкутніку былі яшчэ відаць роўны, крыху кірпаты нос, заклапочаны лоб і ўскалмачаныя русявыя валасы. Яна прычасалася. Ніна была прыгожая няяркім, сціплым хараством. Асабліва прываблівыя былі яе вочы — шэрыя, часам блакітныя, як бы засмужаныя; яны пазіралі з нейкай светлай удумлівасцю і сардэчнасцю. Прыгожа акрэсліваліся мяккія, нібы прыпухлыя вусны.

Ніна запыніла позірк на маршчынках, што выразаліся пад вачыма. «Вось, старэць пачынаю...» У галаве прамільгнула: «Аляксей, відаць, таксама пастарэў?»

У будане было тлумна, і яна рашыла, узяўшы з сабою коўдру і жакетку, паспаць дзе-небудзь на двары.

За буданамі трава была вытаптана. Хадзілі і размаўлялі непадалёк партызаны. Ніне захацелася адысці далей, у цішыню, адной схавацца ў сакавітай высокай траве. Яна крыху паблукала між дрэў, шукаючы прынадную мясцінку.

У адным месцы яна натрапіла на Васю, які корпаўся ў невялікай блакітнай скрынцы; ён зірнуў на яе насцярожана і разам з тым вінавата, нібы яго засталі за інтымным заняткам. Аказалася, што ён рамантуе сапсаваную нямецкую рацыю.

— Нашто яна табе?

— Як нашто? Рацыя нашто? — здзівіўся Вася.

— Атрымліваецца што-небудзь?

— Пакуль нічога. Тут штосьці я не магу разгадаць... Але я дайду, ну праўда. Быць не можа.

— Вядома дойдзеш. Ты такі,— падбадзёрыла яго Ніна і пайшла далей.

Нарэшце, каля высокай раскідзістай бярозы яна спынілася. Бяроза была стройная, занізі клейкіх з дробненькімі зубчыкамі лісточкаў ледзь-ледзь трапяталі на тонкіх галінках. Трава пад дрэвам расла густая, дружная і цёмная. Ніна паслала коўдру, згарнула жакетку замест падушкі пад галаву і лягла, падкурчыўшы ногі.

Каля твару назольна віліся камары. Прыйшлося завязаць хусцінку так, каб схаваць амаль увесь твар.

Вакол было ціха, зялёна, прыгожа; сэрда яе невядома чаму поўніла адчуванне незвычайнага шчасця.

Потым галіны ўгары і кавалкі чыстага неба ў прагалінах ціха закалыхаліся, падняліся ўгару і ціха-ціха кудысьці паплылі. І яна таксама паплыла, адчуваючы, як ёй з кожнай хвілінай робіцца ўсё лягчэй...

Калі яна прачнулася, грудзі сціснуў глухі смутак. Ёй снілася Люда. Ніна цяпер не магла ўспомніць, што іменна бачыла, засталося толькі адчуванне чагосьці светлага, нейкай радасці. Яна прачнулася з усмешкай,— у першую хвіліну, яшчэ ў паўсне, няўцямна азірнулася вакол, і, калі стала прыходзіць да явы, усмешка пачала гаснуць. То быў толькі сон!

Ніна ўспомніла слова за словам усю нядаўнюю размову ў будане, і ў сэрда паліўся неадольны жаль да сябе, да Люды... Яна ўткнулася ў траву і бязгучна зарыдала. Плечы яе ўздрыгвалі.

— Нічога, нічога ты не разумееш,— прамовіла яна.

Калі выплакалася, на душы стала лягчэй. Ужо не было жалю, быў спакой. «Вось, дзівачка, расплакалася невядома чаму»,— падумала Ніна, збянтэжаная за тое сваё пачуццё.

Яна развязала хустку і легла на спіну.

Неба высілася па-летняму высокае і лагоднае. Сінь яго была не яскравая, а затуманеная, малочная. Недзе ў ім, — здалося, у недасяжнай вышыні, — варушылася сплеценае бярозавае галлё і нязвычна цёмнае, амаль чорнае лісце.

Угары з галіны на галіну жвава пераскоквала маленькая вяртлявая птушка, залівалася вясёлаю песняю: фі-ур-рр-фі-у.

Пра што яна спявала?

Ніна ўслухоўвалася ў яе прываблівую незразумелую песню і хацела разгадаць. Ёй успомнілася, як гэтае жаданне спасцігнуць птушыную мову турбавала яе некалі ў маленстве. Яна забіралася ў гушчыню саду, у вішняк, дзе асабліва батата было птушак, і цэлымі гадзінамі слухала, выдумляючы свае тлумачэнні незразумелым гукам.

Птушка саскочыла на самую ніжнюю галінку, паглядзела зблізку ўважлівымі вочкамі, ціўкнула здзіўлена і, узмахнуўшы крылцамі, схавалася ў веццi. Ніна слухала цяпер, як трапятала-шапталася між сабой лісце... Хораша ў чэрвеньскім лесе!

Ціха і спакойна было навокал. Па руцэ яе, пакрытай светлым кволым пушком, якая ляжала на грудзях, поўз муравей. Дайшоўшы да далоні, ён спыніўся, нібы падумаў аб нечым, потым спакойна павярнуў назад. Яна, прыўзняўшы руку, сачыла за ім.

Ніна прагна, з вострай увагай прыглядалася да ўсяго, лавіла гукі жыцця.

Але дзіўна! Чамусьці, чым прыгажэй паўставаў свет перад ёю, тым больш горка рабілася ў яе на душы.

Перад затуманенымі вачыма зноў паўстала дачка. Яна смяялася і працягвала да маці рукі.

«Дзе ты цяпер, Людачка?»— занепакоілася Ніна, і ў грудзях яе заныла.

Ёй успомніліся доўгія восеньскія дні і ночы ў Мінску. Яна сядзіць цэлымі днямі ў хаце, песціць малую. Шые маленькія сарочкі, ціха спявае песні, неспакойна прыслухоўваецца да шуму на вуліцы... Тая цеплыня, якая раней была скіравана на аднаго Аляксея, цяпер перайшла на дачку. Любоў да Люды і клопат пра яе сцішалі скруху па мужу...

Дні былі трывожныя. Казалі, што немцы падышлі да Масквы. І хоць трэба было ўвесь час дбаць аб Людзе, здавалася, што няёмка гэтак сядзець. Яна ірвалася да справы.

Яна знайшла справу, сапраўдную справу. Але ўсёткі часамі ёй здаецца, што не хапае нечага вельмі неабходнага. Не хапае дачушкі. Хацелася б папесціць яе, пагаварыць, падурэць... Прыціснуць бы пухлыя шчочкі, нагрэць вады ды паставіць малую ў ванну і пеністым мылам мыліць кволыя з ямачкамі плечы, ружовыя распараныя ножкі. А потым, захутаўшы ў прасцінку, несці да ложка і, паклаўшы ў пасцелю, схіліцца над ёю і расказваць-выдумляць казкі або цалаваць. О, каб зараз пабачыць яе, зацалавала б усю!

Нехта з паэтаў калісьці пісаў, што прырода заспакойвае, уціхамірвае боль. Няпраўда. Калі бачыш гэтае хараство, вельмі хочацца шчасця. Абуджаюцца патаемныя жаданні: хутчэй бы атрымаць ад Аляксея вестку, абняць бы дачушку, жыць у Мінску, усім разам, рабіць сваю любімую справу — вучыць.

Калі яно гэта зноў прыдзе? Як тады добра будзе!

Чаму яна раней не ўмела так адчуваць шчасця? Чаму шчасце па-сапраўднаму пачынаеш шанаваць тады, калі яно мінецца? Яна тады многага не разумела... Цяпер Ніна ведае, што такое шчасце. Яна навучыць дачку цаніць яго...

Ці хутка прыдзе яно, тое шчасце? «Цяпер ужо, напэўна, нядоўга чакаць,— падумала з надзеяй Ніна. — Цяпер блізка... Няхай бы хутчэй ішло!»

Пахла травою, вільготным мохам, кветкамі! Пах быў не такі, як у сярэдзіне лета. Не адчувалася яшчэ ў ім той духмянасці і спякотнай вяласці, якія бываюць пазней. Трава буяла свежая, светла-зялёная.

Так добра было вакол!

2

Ніна ўскочыла, узяла коўдру і жакетку і пайшла да лагера. На тым месцы, дзе яна ляжала, цяпер застаўся след прымятай травы ды зламаная сцяблінка званкоў.

Калі Ніна вярнулася да будана, яе спаткала Валя Залеская.

— Ой, Ніна! А цябе тут шукалі...

— Чаго?

— Хто іх ведае. Прасілі, каб ты зайшла да камісара...

Ніна занесла коўдру ў будан, хутка памылася і пайшла да Тураўца. Ёй хацелася адгадаць, чаго яе клічуць: Ніна любіла гадаць заранёй. «Напэўна, зноў пашлюць выступаць з лекцыяй, — прыйшло ёй на думку, — не інакш выступаць. Чаго ж яшчэ?»

Туравец акурат быў дома, чытаў газеты, што прывёз са штаба злучэння. Убачыўшы Ніну, ён устаў, прывітаўся і сказаў дабрадушна:

— А, з'явілася!.. А я тут ужо непакоіцца хацеў!..

Туравец дакорліва паківаў галавою, усміхнуўся, але ўсмешка адразу сышла з вуснаў. Ён папрасіў яе зайсці ў зямлянку.

Ніна адчула, што не для лекцыі паклікаў ён, нешта іншае скажа.

Сеўшы за столік каля цемнаватага акенца, Ніна з запытаннем зірнула на камісара. Твар яе быў пасля сну ясным, нібы маладзейшым, — свяціўся маладосцю і хараством. Ніна цяпер была падобна на дзяўчынку, якая нічога горкага яшчэ не бачыла ў жыцці і глядзіць на ўсё адкрытымі, па-юнацку даверлівымі вачыма.

У Тураўца варухнулася трывожнае пачуццё — ці справядліва рызыкаваць у гэтыя дні яе будучыняю і шчасцем?

— Як здароўе?

— Здароўе? Нішто...

Ніна ўважліва зірнула на Тураўца: да чаго гэтае пытанне?

— Ты не нядужая? — запытаўся камісар.

— Не... За ўсю вайну не хваірэла ні разу...

— Адпачыла добра?

— Добра.

— Не стамілася?

— Не...

З той хвіліны Туравец ужо больш не думаў, пасылаць ці не.

— Рыхтуйся ў дарогу.

— Куды?

— У Мінск трэба...

— У Мінск?! — мімаволі вырвалася ў Ніны.

Яшчэ не думаючы ні аб чым, яна ўзрадавалася.

— Пойдзеш на спецзаданне.

Яна моўчкі кіўнула галавой.

— Заданне, Ніна, вельмі важнае. Для штаба фронта.

Ён стаў расказваць, што ёй трэба зрабіць. Па сваёй звычцы, гаворачы пра заданне, Туравец не ўтойваў, што зрабіць усё будзе нялёгка. У такіх выпадках ён ніколі не падаваў з'явы прасцей, чым яны былі на самай справе. Ён хацеў, каб Ніна адкрытымі вачыма пазірала ў свой далёкі шлях.

Хоць ёй дапамогуць два надзейныя чалавекі, якіх яна спаткае ў Мінску, будзе ўсё ж цяжка. Не адна небяспека ў дарозе і ў родным горадзе будзе пільнаваць яе, пагражаючы смерцю. Многа ўважлівых варожых вачэй будуць вывіжоўваць яе. Ёй трэба будзе адчуваць небяспеку здалёк, асаблівым чуццём, здолець у час, не губляючыся, пайсці на смелую рызыку...

— Вы, таварыш камісар, гаворыце так, быццам хочаце напалохаць мяне, — прамовіла яна.

— Я хачу, Ніна, каб ты ўсё абдумала. І каб была гатовая.

— Я ўсё разумею, Нічыпар Паўлавіч...

Туравец адчуў па тым, як было выказана гэта, што яна сапраўды разумее. Ён падняўся, зняў са сцяны сумку, расшпіліў.

— Ну, што ж, калі разумееш, вось табе — пропуск.

Ён падаў ёй згорнуты лісток.

— З гэтай хвіліны ты ўжо не Ніна, а Алена. Перагуд Алена.

Ніна разгарнула пропуск, напісаны сінім чарнілам: так, яна цяпер Перагуд Алена і жыве ў сяле Барысавічы.

— Да Лапаціч правядуць цябе хлопцы. А адтуль — глядзі сама, Ніна... выбачай, Алена. Дарэчы, і ты прывыкай да новага імя. Ідзі, збірайся. Ні пуху, ні пяра.

Ён сціснуў Ніліну руку. Гледзячы на яе, Туравец падумаў, што ўсё будзе добра.

Пасля поўдня Ніна выйшла з лагера. Яна была апранута ў стары каверкотавы пінжак з падкасанымі доўгімі рукавамі, галаву павязала хусткай па-вясковаму: з ражкамі ўнізе і казырком угары. У руках жанчына несла плецены лазовы кошык з прадуктамі — ідзе ў горад, каб выменяць што-небудзь з адзежы.

Партызаны, якія праводзілі Ніну, увесь час перагаварваліся, жартавалі. Найбольш падсмейваліся над барадатым высокім мужчынам, якога звалі жартам «барада».

Пад вечар навокал стала хмурнець. Узняўся вецер, аднекуль прыгнаў хмары, якія паўзлі насустрач партызанам і неўзабаве закрылі ўсё неба. Было падобна, што збіраецца на дождж.

Калі ўночы мінулі мяжу партызанскай зоны, пайшлі ціха, не бразгаючы зброяю, па сцежках. Наперадзе ступаў «барада», усе брылі за ім услед, часам спатыкаючыся.

На ўскрайку лесу разведчыкі спыніліся.

— Вунь і Лапацічы! — сказаў «барада» і, здалося Ніне, кіўнуў галавою наперад. У цемры нічога не было відаць. Ніна ведала, што сяло тут праз якога паўкіламетра, але цемра хавала яго зусім.

Хоць Ніне хацелася хутчэй дабрацца да горада, ёй стала крыху сумна, як заўсёды, калі расстаешся з блізкімі і любымі людзьмі. Колькі хвілін усе моўчкі стаялі ў цемры і паціху гаварылі. З імі было лёгка і добра.

З такімі хлопцамі ўсюды добра. Яны, напэўна, ведаюць, што з імі прыемна стаяць ёй, і не спяшаюцца развітвацца.

А можа хто з іх падумае, што яна марудзіць, бо пабойваецца заставацца адной. Адной перад гэтаю цемраю, што запаланіла свет, перад невядомай будучыняю.

Хай жа не думае так ніхто, Ніна схамянулася і спакойна, нават бесклапотна, прамовіла:

— Ну, мне пара ісці! Ды і вам, мусіць, не лішняе паспяшацца...

— Так, часу і ў нас скупа...

— Бывайце.

— Шчаслівай дарогі, Ніна!

Ніна адразу падалася ў цемру.

3

Ледзь толькі на ўсходзе пасвятлела неба і пачалі гаснуць зоры, стары сувязны правёў Ніну за сяло. Ён усё шкадаваў, што яна, ідучы ў такую нялёгкую дарогу, не падрамала нават, і ўгаварваў, каб вярнулася, адпачыла дзянёк.

Але Ніна стаяла на сваім: сёння была акурат нядзеля, дзень, у які ў горад ідзе найбольш людзей. Між іх ёй будзе лягчэй прабрацца.

Стары доўга, падрабязна, паўтараючыся, тлумачыў Ніне, як ісці, чаго і дзе трэба асабліва асцерагацца.

Як толькі добра ўднела і пачалі хадзіць людзі, яна выбралася на дарогу. Паўз Ніну зрэдку праязджалі, сакочучы, калёсы, імчаліся нямецкія грузавікі. Уперадзе віднелася некалькі жанчын.

Апоўдня на выпадковым нямецкім грузавіку, што нагнаў яе на Магілёўскім шасэ, у акружэнні незнаемых жанчын, таксама падабраных на дарозе, яна дапала да Мінска.

Вунь і горад. З кузава машыны, што ўзбягала на ўзгорак, Ніна наводдаль убачыла шэрыя вуглаватыя абрысы Дома Урада, які ўзвы-

шаўся над іншымі дамамі, каля яго вострую, падобную на чырвоны аловак, вежу касцёла. Хоць яна ў гэтыя дні і думала багата пра Мінск, гэты знаёмы малюнак моцна ўзрушыў. Сэрца замерла і балюча сціснулася, а ў горле зашчымела, і яна адчула, што на вочы вось-вось набягуць слёзы.

«Люда-дачушка! Як ты цяпер жывеш, у такую пару, без мяне? Якая ты стала? Вырасла, мусіць, выцягнулася, гаварлівая, неспакойная, галасок мой! Ці ўспамінаеш ты хоць калі-небудзь сваю маму, якая вымушана жыць з табой у ростані, але носіць цябе ўсюды ў сваім сэрцы?..»

Адразу за ўзгоркам салдат-шафёр спыніў грузавік і загадаў усім, хто сядзеў у кузаве, сысці.

Расплаціўшыся з шафёрам, жанчыны пайшлі к гораду пеша..

Ніна з намаганнем, адганяючы ўспаміны, прымусіла сябе супакоіцца. Але па меры таго, як адыходзіла з душы размякчэласць, яе ўсё больш апаноўвала трывожная насцярожлівасць. Пазіраючы на знаёмы малюнак горада, яна ўжо жыла прытоеным адчуваннем-загадкаю: што там яе чакае?

Ці ўдасца зрабіць усё, што належыць? Ці ўдасца добра выйсці адтуль?

Прадчуванне блізкай небяспекі вярнула ёй сілу. Лёгкасці і спакою не было ў яе, але затое не было і разгубленасці, якую змяніла асцярога.

Ніна ішла цвёрда і, здавалася, зусім спакойна.

Перад горадам яе спыніў патруль — тры салдаты з аўтаматамі. Адзін з іх, бялявы, з блакітнымі нахабнымі вачыма, агледзеў Ніну з галавы да ног, нібы распранаючы, кінуў адно слова:

— Ausweis![1]

Ніна выняла з унутранай кішэні пінжака хустачку, разгарнула і паказала пропуск. Гітлеравец, не зводзячы з яе вачэй, пацягнуў паперку, прачытаў, абыякава пакруціў у руках. Другія тым часам капаліся пахапліва ў кошыку. Кавалак ружовага сала, густа пасыпанага соллю, знік у кішэні аднаго.

Ніна сачыла за іх прагнымі быстрымі рукамі, стрымліваючы гнеў.

— Ну, хопіць ужо, — раптам рашуча пацягнула яна кошык да сябе. — Бачыце, што ніякіх бомб няма. Трэба і мне пакінуць што прадаваць! Так і на рынак нечага будзе ісці.

Патрульныя моўчкі адступіліся.

---

[1] Пасведчанне.

4

Першае, што Ніна ўбачыла ў горадзе, былі два новыя дзоты абапал вуліцы. Збоку цягнулася калючая загарожа ў два рады з пераплеценымі накрыж дратамі, каля якой мерна шпацыраваў гітлеравец-салдат. На рагу высілася на слупах будка, і там была другая такая ж постаць, толькі, праўда, нерухомая.

«А на вуліцы пуста», — заўважыла яна. Ёй здавалася, што калючы дрот аблытаў, як павуцінне, увесь горад.

З гэтай хвіліны ў яе было такое адчуванне, нібы раптам надышоў прыцемак, страшны, загадкавы, пагрозны. Слых яе цяпер востра лавіў кожны гук. Яна прыкмячала ўсё, што рабілася вакол, хоць збоку здавалася спакойнаю і нават бесклапотнаю.

Калі Ніна падыходзіла да рынку, міма прашумела грузавая машына з салдатамі, за ёй такая ж другая і трэцяя.

«Аблава!» — мільганула ў галаве. Ніна адразу павярнула ў першую ж бакавую вулачку.

Сапраўды, непадалёк машыны рэзка спыніліся, і салдаты, што пасыпаліся з кузава, пачалі хутка разбягацца ў два бакі, акружаючы рынак.

Пачуліся крыкі і лямант.

Адчуваючы трывожны халадок у грудзях, Ніна старалася хутчэй адысці ад рынку. Паўз яе спалохана прабегла некалькі жанчын. Дзве з іх прытрымлівалі рукою нейкія скамечаныя абы-як тканіны, якія, мусіць, не ўправіліся прадаць, трэцяя несла за плячыма мяшочак, які пры бегу целяпаўся і біў па спіне. З мяшка цярушылася мука.

Услед за імі пратупацеў важкімі каванымі ботамі салдат. Ён на бягу крыкнуў нешта і стрэліў. Уцякачкі, пачуўшы стрэл, спыніліся...

Ніне вельмі хацелася павярнуць зараз жа назад, каб збочыць дзе-небудзь у завулак і кінуцца наўцёк. Але яна ведала, што гэта было б неразумна, і таму, як бы нічога не адбылося, пайшла проста да гітлераўца. Той азірнуўся на яе, хацеў было нешта сказаць, у яго нават смыкнуліся губы, але спакойны і бесклапотны выгляд жанчыны, якая кінула абыякавы ганарлівы позірк, спыніў яго.

Абмінуўшы небяспеку, Ніна пайшла хутчэй. Сэрца яе білася гулка і часта.

«Ледзь не папалася. Так недарэчна і бязглузда...»

Праз гадзіну, а можа і больш па ціхенькай, перарытай калдобінамі вуліцы яна падышла да адной з явачных кватэр.

Хуткім, пільным позіркам акінула дворык і драўляны, пахілены ад старасці дом, куды ёй трэба ісці. Пуста.

Яна заўважыла, што ў іх нейкі запушчаны, нібы нежылы выгляд — у вокнах ні адной фіранкі, а ў сярэднім — выбіта шыба. Няўжо жывуць з выбітай шыбаю?.. І каля расхрыстаных веснічак — рубчаты след аўтамашыны.

Усё гэта яна схапіла адным позіркам. Не прыпыняючы хады ні на хвіліну, прайшла паўз дом.

Ніна прыкмеціла маленькага чалавека ў вышыванай падпяразанай рубашцы, што паволі шпацыраваў наводдаль. Праходзячы паўз яго, яна з намаганнем стрымлівалася, каб не азірнуцца, адчуваючы, што ён сочыць за ёю.

Здаецца, Ніна недзе ўжо сустракала гэтага чалавечка. Дзе?..

Толькі, калі прайшла паўквартала, каля павароту, нібы рассеяна, азірнулася. Чалавек глядзеў услед. Чаго ён глядзіць? Можа, і ён прыпамінае? Значыцца, ён таксама недзе бачыў яе? Ці пазнаў ён?

Ніна ціха прайшла за рог. Тут яна прыпынілася, кінула позіркам у бакі і, нядоўга думаючы, раптам нырнула ў пралом спаленай будыніны. Між каменных руін яна хутка выбралася на другую вуліцу. Азірнулася: яго не было відаць.

Калі Ніна ішла да другой кватэры, яна знарок зрабіла вялікі круг, каб заблытаць свае сляды. Устрывожаная аблавай і падазроным чалавекам, яна цяпер была асабліва пільная.

Па меры таго, як яна падыходзіла да гэтай яўкі, трывога яе ўсё большала. Няўжо і тут тое?

Вось і другая кватэра. Вузенькі двор, акуратныя, зачыненыя веснічкі, каля вокан весела зелянеюць маладая ліпа і два кусты бэзу.

Ніна ўбачыла дзяўчыну, якая падмятала двор. Выгляд і занятак дзяўчыны былі такія, што адчувалася: тут спакойна.

— Мне гаварылі, што вы хочаце мяняць адзежу на крупы, — сказала Ніна, прывітаўшыся. Дзяўчына, бялявая, паўнатварая, уважліва паглядзела.

— А якія ў вас крупы?

— Пшано. Ёсць і грэчневых жменя.

— Ідзіце да Сяргея.

Дзяўчына правяла Ніну праз цёмныя сенцы з хісткай падлогай у нізенькі пакой. Там на лаўцы сядзеў малады, чыста паголены хлопец, які малатком нешта кляпаў з бляхі. Калі Ніна ўвайшла, ён перастаў кляпаць, выпрастаўся і, адкінуўшы з ілба пасму густых валасоў, спакойна зірнуў на яе. Ніна па прыкметах, пра якія казаў Туравец, пазнала, што гэта і ёсць Сяргей...

— Пшано прынесла. І грэчневых жменя... На абмен. Купіце?

— Пабачу, якую цану заломіце.

Па яго знаку дзяўчына выйшла. Упэўніўшыся, што ён якраз той, да каго яе паслалі, Ніна расказала пра сваё даручэнне. Яна зняла левы бот і з-пад халявы выняла невялікую паперку-запіску ад Тураўца.

Сяргей прачытаў яе, акуратна згарнуў і палажыў у кішэню на грудзях.

— Што ў вас новенькага? Нешта даўно не было гасцей, я непакоіцца пачаў... Як там дзядзька Нічыпар, што ён робіць?

— Сяўбою займаўся доўга. Сеялі хлеб, бульбу. Фрыцаў і ўсіх іхніх ганялі. Цяпер сходы розныя праводзіць, лекцыі чытае...

— Лекцыі, праўда? Цікава б паслухаць, па міжнароднаму!.. Скажыце, што новага там — па той бок?

Ён сказаў гэтае «там — па той бок» з такой пяшчотай, як гавораць імя любага чалавека. Тут, за калючым дротам, куды весткі даходзяць скупа, людзі асабліва востра адчувалі вялікі сум па радзіме. Ніна гэта сама некалі перажыла і таму ахвотна начала расказваць яму.

Сяргей прагна лавіў кожнае слова. Твар яго ажывіўся, вочы блішчалі.

— А што ў вас? — запыталася яна ў сваю чаргу.

Ён адкінуў рукою пасму валасоў з ілба, адразу стаў заклапочаным.

— Цяжка стала тут, іншага не скажаш. Цяпер, як прыехала СД са Смаленска і Гомеля, на кожнага падпольшчыка, напэўна, паўдзесятка гэтых сабак-гестапаўцаў. Хапаюць нашых аднаго за другім... Іншы раз нашы пападаюць выпадкова — трапяць дзе-небудзь пад аблаву і разам з другімі — у лагер. Гестапаўцы забіраюць цяпер адразу сотнямі, думаюць, гады, што так лягчэй выкараніць нас...

— Як яны сябе адчуваюць тут?

— Нервуюцца... Доты ставяць усюды, амбразуры ў дамах вырэзваюць, спадзяюцца, значыць, біцца за кожны дом. Вывозяць, нягоднікі, абсталяванне. З заводаў цяпер працуюць толькі тыя, што патрэбны для вайны: рамантуюць танкі, гарматы, вінтоўкі. Тытунёвая фабрыка, дэпо... Фраў ужо збіраюць свае манаткі і абы хутчэй — нах Дэйчланд.

Ён яшчэ нямала расказваў пра становішча ў горадзе. Ніна слухала ўважліва, стараючыся ўсё запомніць, каб не зблытаць чагонебудзь пасля, калі запытаюць у брыгадзе. Трэба сказаць, што ёй, акрамя гэтага, вельмі было цікава ведаць, што адбываецца тут, у яе горадзе.

Побач, у суседнім пакоі, пачулася п'яная песня.

— Хто гэта?

— Фрыцы. З акцыянернай кампаніі... Су-се-дзі, — іранічна сказаў Сяргей.— Праўда, з імі хоць спакайней крыху: паліцаі не такназаляюць...

Неўзабаве Сяргей падняўся.

— Я пайду да сваіх. Карта ў нас ужо амаль гатова, так што вы не трывожцеся. Усё будзе, як трэба. Вы тут пабудзьце з Клаўкаю, пагаварыце, — яна вам усё раскажа. Сястрычка мая ўмее расказваць!.. Клаў-ка-а! — гукнуў ён, падышоўшы да акна.

Скрыпнулі дзверы, і ў хату ўвайшла тая самая дзяўчына, што падмятала двор.

— Забаў тут госцю нашу, Клаўка. Ёй, мабыць, сумна ў нас... — сказаў Сяргей.

Яны засталіся ўдзвюх. Клава была невысокая, з круглым тварам, поўнымі вуснамі, каля якіх са шчок амаль не сыходзілі вясёлыя ямачкі, — напэўна, любіла пасмяяцца, павесяліцца.

— Вам, мусіць, і праўда сумна ў нас?.. — запыталася яна.

— Не, нічога...

— Вы ж, мусіць, не мінчанка? — запыталася Клава, стараючыся не маўчаць.

— Не...

— А я вось — у Мінску ўвесь час. І нарадзілася тут, і жыву...

Яны памаўчалі.

— І не былі раней у Мінску?

— Не... — Ніна дадала больш цвёрда. — Не даводзілася...

— Шкада.

— Чаму?

— Горад быў харошы...

Каб змяніць гаворку, Ніна запыталася:

— Вы ўдваіх жывеце з братам?

— Не... Маці таксама з намі. Яна — на Суражскім рынку.

— Гандлюе?

— Прадае таркі, карцы.

— Іх робіць Сяргей? — здагадалася Ніна.

— Сяргей... Пасля працы ці ў выходны дзень. Ён у гаражы «Ост» працуе.

— А вы не працуеце?

— Не, прыходзіцца таксама... Нічога не зробіш! Я ў сталоўцы — каля гаража...

— Памагаеце, значыцца?

— Памагаю, дзе магу.... — Клава раптам гарэзна ўсміхнулася.

Яны непрыкметна разгаварыліся.

Клава цікава апавядала пра розныя выпадкі з гарадскога жыцця.

Слухаючы яе, Ніна ўстала, падышла да нізкага, цемнаватага акна, пачала над зборчатай фіранкай паглядаць на вуліцу. З акна быў відаць толькі невялікі куток вулічкі, усяго чатыры старыя прыземістыя хаты...

Ці не ўбачыць яна Сяргея, — Ніна, прытуліўшыся шчакой да памытага нядаўна вушака, паглядзела на дальні край вуліцы. Сяргей нешта не паяўляўся.

Раптам з-за рога вынырнула легкавая машына з закрытым шклом, падскокваючы на няроўнай дарозе.

— «Чорны воран», здаецца, прыляцеў...

— Дзе? — адразу паднялася Клава і падбегла да акна. Машына за акном параўнялася ўжо з веснічкамі і, калыхнуўшыся з боку на бок на ямцы, паімчала далей. За шклом прамільгнула даўганосая, каршаковая галава ў фуражцы з высокім верхам.

— Не да нас...

— Некага схопяць.

Яны некалькі хвілін стаялі моўчкі.

Яна цяпер можа і не паспець выйсці з горада, бо хутка прыдзе час, калі забараняецца хадзіць. Пачынала непакоіцца і Клава. Ніна прайшлася па пакойчыку, зноў спынілася каля акна і, пазіраючы на вуліцу, запыталася:

— Строга цяпер з начоўкай?

— Строга.

— Што — аблавы часта?

— Часта...

Ніна не стала пытацца, што будзе з тым, у каго знойдуць чалавека ў забаронены час. Яна ведала: турма, а можа, і расстрэл.

— А вы не трывожцеся, — паспрабавала супакоіць яе Клава. — Сяргей прыдзе, усё ўладуе...

Ніна адышла ад акна і села на канапу. Раптам падступіла да сэрца туга: пабачыць бы, абняць бы дачушку!

Блізка-блізка дачушка, а спаткацца нельга. Здаецца, толькі ўбачыць, хоць бы на момант, хоць бы здалёк зірнуць!

Расказаць можа Клаве пра сваю тугу, паскардзіцца проста, пажаночаму? Не, штосьці стрымлівала Ніну.

— У вас, Клава, дзяцей няма?

— Ой, што вы! Няма, — адказала тая. — Я незамужняя.

«Яна нічога не зразумее, каб і расказаць», — супакоіла сябе Ніна.

Яна ўбачыла твар Люды, успомніла, з якім трывожным замілаваннем калісьці глядзела на дачку: толькі б усё было добра! Згадалася, як уладжвалася на працу, каб не выклікаць лішне падазрэння, як там, у канторцы аптэкі, ледзь не ўвесь дзень думала пра Люду: дома было неепакойна, кожны дзень каго-небудзь на вуліцы хапалі. Тады яна часта заносіла Люду да Залескіх...

Люда хутка падрастала. Яшчэ не мінула ёй года, як яна ўжо стаяла сама, а праз некалькі месяцаў, трымаючыся за маміну руку, магла прайсці праз увесь пакой.

Люда тады пачынала вымаўляць слова «тата» — першае слова, якому яе навучыла маці.

Ніна ўспомніла: слухаючы тое смешнае, мілае лапатанне дачушкі, заўсёды старалася ўявіць, як бы яго слухаў Аляксей.

Вечарэла.

На хвіліну недзе з-за хмар выглянула сонца, і ўсё за акном заяснела. Весела заблішчалі лісты на бэзавых кустах, запалала шыба ў хаце насупраць. Але неўзабаве зноў пацямнела, — пасля сонца прыцемак здаваўся гусцейшым.

А Сяргей не вяртаўся.

5

Ніна пачула яго спакойныя непаспешлівыя крокі яшчэ, калі ён увайшоў на двор.

Ніна нецярпліва ўскочыла: нарэшце! Ён прыкрыў дзверы і, адкінуўшы звычайным рухам пасму валасоў, сказаў:

— Зачакаліся, мабыць? Прыпазніліся крыху мы...

Сяргей выняў з-пад сацінавай падкладкі сваёй кароценькай курткі тоненькі скрутак:

— Доўга размалёўваць карціну гэту прыйшлося, стараліся, каб не прапусціць нічога. Затое цяпер усё ўпісалі, нават недабудаваныя доты. Чыста зрабілі, адным словам...

Ён працягнуў скрутачак Ніне. Тая адразу зняла жакетку, распарола асцярожна знізу «плячо» і схавала паперку. Калі Ніна стала зашываць, ён прамовіў спакойна:

— А што прыпазніліся крыху, — не такая вялікая бяда. Вядома, з горада выйсці ўжо не паспець, — позна. Але мы можам пераправіць вас уночы. Так што не трывожцеся, усё будзе як след.

Ніна і сапраўды была спакойная і ўпэўненая, хоць і ведала добра, што хадзіць уночы вельмі небяспечна. Ёй успомнілася, што перад тым, як яна пазалетась ішла з хворым прафесарам, адна група наскочыла на засаду. Траіх дзяўчат схапілі і закатавалі ў гестапа.

Ніна аддала Клаве ўсе крупы, што несла з сабой.

Тая, не адмаўляючыся, узяла.

Да поўначы яна хавалася ў адной кватэры на ўскраіне горада. У дарогу дадому яе выправілі толькі позняй ноччу. Перад ёю наперад вышаў хлопец праважаты. Затрымаўшы Ніну ў сенцах, ён крыху пастаяў моўчкі на ганку, прыслухоўваючыся. Цемра была такая густая, што яго постаць у прарэзе дзвярэй ледзь віднелася нават зблізку.

Недзе надрыўна і цягуча, як сірэна, гулі машыны.

— Пайшлі, — ціха прамовіў хлопец.

Ён сышоў з ганка, рушыў на двор, і следам за ім, мякка ступаючы, падалася Ніна.

Яны доўга прабіраліея па нейкіх руінах, то ўздзіраючыся на горы камення, то спатыкаючыся, то правальваючыся ў нябачныя ямы, потым нячутна пераступілі вулачку і, нарэшце папаўзлі ў сырой, гразкай канаве. Хлопец, відаць, хадзіў тут часта, бо ў цемры вёў, як днём.

Каля дарогі абое некалькі хвілін ляжалі.

Прайшлі, перагаворваючыся, патрулі. Іх боты пратупалі зусім блізка ад Ніны. Адзін вадзіў кішанёвым ліхтарыкам наперад і ў бакі.

Мёртва-жоўтая пляма, якая рэзала цемру, слізганула па мокрай бліскотнай траве зусім недалёка ад Ніны.

Ніна, уціснуўшыся ў адхон канавы, затаіла дыханне. Зараз нож святла знойдзе яе, увап'ецца ў плечы, у галаву. Не, нож адбег далей. Неўзабаве ён зноў наблізіўся, пераскочыў цераз бліскучы слупок. Варта яму толькі збочыць крыху больш... не, зноў адступіўся...

Цяпер ён ужо з кожнай хвілінай усё аддаляўся.

— А блізка ж быў, — здзіўлена шапнуў поблізу хлопец. — Каб крыху...

— Блізка.

Яна аддыхвалася, нібы пасля бегу.

— Папаўзем... Тут абы на той бок дарогі...

— Паўзі!.. — Ніна стала выбірацца на дарогу.

Далей яны ішлі полем. Збоку лёгкімі парывамі налятаў вільготны вецер. Яны былі за горадам, але хлопец вёў далей.

Ніна азірнулася: горада не было відаць, не блішчаў ні адзін агеньчык, — Мінск нібы патануў у цемры.

Недзе там, у цемры, спалі яе дачка і маці...

Калі яны былі ўжо даволі далёка ад горада, пачало світаць. Поблізу ад іх бегла каляіністая палявая дарога. Ісці на дарогу было яшчэ рана, бо можна было натрапіць на патрулёў.

На ўзлеску, прысеўшы на росную траву, спыніліся.

— Не прышлося, добры, паспаць,— сказала са спачуваннем Ніна.

— А мы, можна сказаць, і не спім ніколі. Толькі так, дрэмлем.

— Калі і свабодны, спакою няма?

— Цяпер такі час настаў, што ўсё трывожышся, прыслухоўваешся...

— Часта ўночы ходзіш?..

— Часта... — Ён ускінуў галавой. — Што праўда, то праўда, можна сказаць, не спім. Затое і фрыцам не даем спаць!..

Ніна толькі цяпер убачыла яго добра: хлапцу было не больш чатырнаццаці гадоў. Ён быў хударлявы, змардаваны, з упалымі вузкімі грудзьмі, вузенькія чорныя вочы глядзелі спакойна і не па гадах сур'ёзна. Калені залатаных штаноў і локці былі залеплены граззю. Стомлена сутулячыся, ён выціраў гразь жмутком травы.

— Не пускаюць мяне да вас. Кажуць, тут патрэбны людзі. А то б я ўжо даўно махнуў бы ў лес...

Ён пасядзеў з паўгадзіны, ледзь было не задрамаў, але схамянуўся — з намаганнем падняўся і падаў руку.

— Скажыце, — ён задумаўся: што ж папрасіць сказаць? — ну, значыцца, што мы не спім... не сядзім так сабе!

Ён знік, растаў у ранішнім прыцемку.

Ніна засталася ў ельнічку, каб пачакаць, пакуль уднее.

Справа ад мясціны, дзе быў Мінск, што хаваўся цяпер за ўзгоркамі, спакваля святлела, ружавела неба. У вышыні, што была яшчэ цьмяна-шэрай, раптам зачырванелі весела лёгкія нерухомыя воблакі.

Займалася зара.

## Раздзел VI

### 1

Партызаны хутка збіраліся ў дарогу. Бралі толькі зброю і прыпасы для падрыву — толавыя шашкі, шарыкі, шнуры, дэтанатары. Камандзіры сачылі за тым, каб не бралі нічога лішняга: камбрыг папярэдзіў, што ісці прыдзецца хутка, бо трэба дасягнуць патрэбны раён у адзін пераход.

Участак чыгункі, дзе брыгада Ермакова павінна была даваць «канцэрт», знаходзіўся даволі далёка ад партызанскага лагера. Трэба было прайсці больш за шэсцьдзесят кіламетраў.

Мясціны, куды выпраўляліся ермакоўцы, кішэлі гітлераўцамі і паліцаямі. Як паведаміла разведка, якую выслаў Ермакоў загадзя, у вёсках навокал былі гарнізоны, пры чыгунцы амаль скрозь стаялі дзоты, цягнулася калючая агарожа, а ў пасёлку, кіламетраў праз восем,

размяшчалася пабітая на фронце артылерыйская часць з шасцю гарматамі.

Апошняя акалічнасць, трэба сказаць, вельмі зацікавіла Ермакова. Ён, пачуўшы пра гарматы, загарэўся: ударыць знянацку, ушчэнт распатроніць і захапіць артылерыю! Ермакова так апанавала гэта спакуса, што ён намерыўся ўжо мацнейшую групу паслаць граміць гарнізон, выдзеліўшы для «працы на дарозе» адзін атрад і некалькі рот. Ермакоў ужо адчуваў славу, якая загрыміць, калі ён разаб'е гарнізон.

Але Туравец, якому Ермакоў сказаў свае думкі, адразу запярэчыў:

— Нашто табе здалося гэта, Коля? Слава? Шум?.. — Ён усміхнуўся. — «Сочтёмся славою, — вець мы свои», як казаў паэт...

Гэты мяккі, жартаўлівы тон пакарыў ганарлівага камбрыга, — Туравец знарок падступаў так, ведаючы, што лагодную размову Ермакоў любіць і, хоць і лічыць яго, Тураўца, хітруном, хутчэй паддасца там, дзе б з-за гонару ўпарціўся б пры іншым тоне гаворкі.

Ермакоў адступіўся ад свайго намеру. Ён, хоць і быў упарты і самалюбівы, умеў, аднак, падначаліць свае жаданні развагам.

— Вось за гэта ты малайчына, Коля.

Дамовіліся выконваць асноўную задачу, а супроць гарнізона вырашылі выставіць толькі заслон, каб прыкрыць сябе з гэтага боку.

Выправіліся перад вечарам. Байцы і камандзіры, прызвычаеныя да доўгіх паходаў, ішлі хутка. Нягледзячы на тое, што давялося несці на плячах тол і боепрыпасы, адстаючых не было.

Туравец ішоў з атрадам імя Кутузава. Ступаючы поруч з партызанамі, ён слухаў павольную гаворку. Туравец любіў гэтыя бясконцыя дарожныя размовы. Чаго толькі ні пачуеш тут — і ўспамін, і клопат, і вясёлую гісторыю, і казку, а нярэдка і чыю-небудзь запаветную думу.

Вось адзін пажылы расказвае, як яго, калі ён яшчэ хлопцам касіў сена, укусіла гадзюка, і што ён, напэўна, памёр бы, каб не бабуля — знахарка.

— Дала яна мне нейкае зелле, густое і горкае-горкае — такое, што я, як выпіў яго, спаў цэлых паўтара сутак, нібы мёртвы. І з таго часу, паверыш, пайшоў я на папраўку. Пухліна спала, палягчэла мне адразу...

Паслухаўшы гэтую гісторыю, парадаваўшыся за апавядальніка, паспачуваўшы яму, Туравец апынуўся каля двух хлопцаў — з кулямётам, якія разважалі пра аперацыю. Адзін з іх быў настроен вельмі ваяўніча, праз меру ваяўніча.

— Ну, усё-ткі бой ёсць бой. Усё можа быць... — умяшаўся ў гаворку Туравец. Ён памаўчаў. — Вось аднойчы ішоў хлопец полем. Ра-

ніцай справа была. Хораша — сонца, лён цвіце, а ў тым лёне дзяўчына такая красуня, што ад яе ўсё здаецца яшчэ прыгажэйшым... Ну хлопец і растаў, і кажа: які дзень харошы, які лён, а якая слаўная дзяўчына! Ах, ах!..

Хлопцы слухалі зацікаўлена, чакаючы, што ж будзе далей. Туравец не спяшаўся.

— Так. А тут гэтую гаворку і пачуў стары — ішоў насустрач. Стаў ён ды і кажа: хвалі, хлопча, лён восенню, дзень к вечару, ну а дзяўчыну — замужам.

— Лоўка! — засмяяўся адзін з хлопцаў. — Дзень к вечару, а дзяўчыну замужам!..

— Што такое расказалі, таварыш камісар? — пачуўся цікаўны голас збоку. У брыгадзе ведалі, што Туравец майстар на смешныя гісторыі.

Камісар часта ўмешваўся ў гаворку. То з якой-небудзь жыццёвай гісторыяй, то з паляўнічай прыгодай, а то і з такім анекдотам, пачынаючы які, трэба было папярэдне даведацца, ці няма паблізу жанчын. Запас розных гісторый у яго быў невычэрпны, і гаварыў пра іх ён ахвотна, дзе прыдзецца, у дарозе, на прывале, проста да слова. Ён адчуваў, што гэтыя гутаркі часта збліжалі яго з людзьмі, адкрывалі скрытныя душы, дапамагалі ў справе.

У гаворцы дарога праходзіць непрыкметна. Камісар і не заўважыў, як ціха, крадучыся, падступіў змрок. Вось ужо ў цемры спарахнелымі светлячкамі значацца ў руках цыгаркі. Раптам цемра расступілася, хаваючыся за кусты, у галлё дрэваў. На небе ўсплыў месяц. Каля яго заблішчалі некалькі празрыстых, пранізаных роўным ціхім святлом хмарак. Яны, падплыўшы паволі да месяца, зіхцелі, як серабрыстыя мярэжы.

Мінуўшы зону, вёскі пачалі абыходзіць. Ішлі пераважна па ўдзірванелых палявых дарогах, каб наблізіцца непрыкметна. Там і тут абапал калоны шчацініліся палоскі збажыны.

— Хлеб добры будзе, — загаварыў задаволена нехта, — хоць і пазнавата сеялі, але павінна ўрадзіць...

Туравец азірнуўся на голас і ўбачыў спакойную, у мернай хадзе, постаць пажылога аўтаматчыка. А той гаварыў далей, як бы разважаючы з сабой:

— Дождҗык яму вельмі ў час быў. Як на дражджах, — проста на вока відаць, як гоніць яго з зямлі. Будзем з пірагамі сустракаць!

— Гэта яшчэ пабачым. Я думаю, што пірагі твае не спякуцца да таго часу, а хутчэй — і ў печ не пападуць. — Камісар пачуў іранічны басок.

— То-очна, — весела падхапіў Ляхора, засмяяўшыся.

2

Пасля поўначы месяц схаваўся. Неба зацягнулі хмары. Туравец быў задаволены, што наступіла цемра, у ёй, можа, лягчэй удаецца падысці да чыгункі непрыкметна.

На досвітку пайшоў спорны дождж, дарога стала слізкай, каляіны і лагчынкі напоўніліся вадой. Партызаны лаяліся, калі траплялі ў лужыны або наступалі адзін другому на ногі.

Дождж, не перастаючы, сеяўся і на світанні. Раніца была непрыветная і хмурная.

Спыніліся на паляне ў лесе. Байцы прамоклі да ніткі, але кастроў разводзіць Ермакоў не дазволіў, каб не дэмаскіраваць брыгаду. Усім загадалі захоўваць цішыню і не адыходзіць ад месца днёўкі. Дрозд паставіў дазоры з боку вёскі, якія сачылі за наваколлем і ахоўвалі атрады.

На нейкую гадзіну дождж быў перастаў, а потым зноў пачало ліць. З мокрага галля на людзей то падала кроплямі, то сцякала струменнямі вада. Але амаль ніхто не прачынаўся. Скурчыўшыся, прыгнуўшы галовы да грудзей, каб саграваецца сваім дыханнем, людзі спалі.

Туравец, прылёгшы каля дубка, таксама задрамаў. Калі ён абудзіўся, то адчуў, што правы бок, на якім ён ляжаў, прамок, цела пачало дубянець ад холаду.

Прыкрыўшыся ад дажджу плашч-палаткаю, ён закурыў і зацягнуўся горкім дымам, ад якога ў сярэдзіне як бы пацяплела. Стараючыся не наступіць на сонных, выбраўся з лагера і накіраваўся да пастоў, што стаялі з боку сяла.

— Ну, што нагледзелі? — запытаў камісар у дазорнага Ляхоры, які сядзеў каля куста на ўскраі лесу. У набраклай пярэстай плашч-палатцы партызан быў падобны да вялікай нахохленай птушкі.

— Пакуль нічога, таварыш камісар. Спакойна.— Ляхора з сумам паглядзеў на цыгарку. Туравец, улавіўшы позірк, зацягнуўся і аддаў яму «бычка».

Камісар паглядзеў у поле, на вёску, што цягнулася праз кіламетр нізкаю панурых шызых хат з гонтавымі і саламянымі стрэхамі. З поля ў вёску паўзла фурманка з селянінам.

Злева наводдаль быў невялікі поплаў. Там хлапчук пасвіў некалькі кароў. Ён бег за каровай, якая адбілася ад гурту, і размахваў пугаю. Ад гэтага малюнка на Тураўца нібы дыхнула маленствам. Калісьці вось так хадзіў з пугай і ён, чорнагаловы, цыганаваты пастух, сірата Нічыпар. У камісара зацеплілася бацькоўская пяшчота, заха-

целася падысці бліжэй да хлопчыка, пагаварыць і ўсцешыць чым-небудзь. «Вось і ім цяпер, замест школы, даводзіцца ганяць каровы».

— У вас, у Чэхіі, менш дажджоў?— зірнуў Туравец на Ляхору.

— У нас вялікія дажджы, таварыш камісар, бываюць. Асабліва ў гарах, там, калі пройдзе лівень, маленькі ручай становіцца як рака. Раве, бы звер, і ўсё зрывае, што пападзецца на шляху. Дубы выварачвае і нясе, як... як трэскі!

Туравец сімпатызаваў Ляхоры. Хлопец добра вёў сябе ў баі, радаваў дысцыплінаванасцю, акуратнасцю ва ўсім. Ён быў сынам старога чыгуначніка са Славакіі і братам камуніста, арыштаванага гестапаўцамі.

— Ну, ты, відаць, у апошняй аперацыі з намі. Як толькі, Ляхора, прыляціць самалёт, адправім за фронт.

Ляхора падзякаваў: ён прасіў, каб адправілі ў Чэхаславацкі корпус, які быў ужо блізка ад Чэхіі.

— Мне будзе шкада, таварыш камісар, ехаць адсюль.... — прызнаўся хлопец.

— Шкада?

— Прывык...

Наказаўшы, каб затрымлівалі ўсякага, хто ўвойдзе сюды, Туравец падаўся назад, у глыб лесу.

Лагер ужо ажыў. Дрозд загадаў разбудзіць роту і цяпер разам з камандзірамі пільна, прыдзірліва правяраў, ці гатовыя людзі да бою, ці поўнасцю зберагліі тол, узрывацелі, шнуры. У яго ўсё гэта было падлічана да самай малой драбніцы.

«Гаспадар!— падумаў мімаволі з задавальненнем Туравец. — Так, недарма яго і тут называюць старшынёй калгаса».

Заўважыўшы Тураўца, Дрозд адразу падаўся да яго, сказаў, што затрымалі паліцая, які ішоў у разведку.

Паліцая адправілі к камбрыгу.

Туравец занепакоіўся, ці не даведаліся гітлераўцы аб намеры брыгады. Няўжо яны маглі пранюхаць? «Калі даведаліся, — падцягнуць сілы, і нам прыдзецца нялёгка». Ён накіраваўся да штаба, спадзеючыся там высветліць усё як мае быць.

Ермакоў з партупеяй, са шпорамі, угнуўшы галаву, стаяў супраць рослага разгубленага ваякі. Выгляд у камбрыга быў грозны і рашучы. Зеленаватыя вочы камандзіра, здаецца, прашывалі наскрозь паліцая, — у такія хвіліны нават партызаны пабойваліся свайго камандзіра. Паліцай, збялелы, спалоханы, вадзіў вачыма за кожным рухам Ермакова і лапатаў:

— Ей-богу, па самагонку... тут гнаць павінны... пахмяліцца хацеў...

— Брэшаш! Па вачах тваіх бачу, што няпраўду гаворыш. Кажы, чаго прышоў! — насядаў камбрыг.

Палонны кляўся, што паліцаі не ведаюць аб прыходзе партызан і адчуваюць сябе спакойна. Стараючыся вымаліць літасць, ён, хапаючыся, выказваў усё, што ведаў, дзе і якія ў немцаў гарнізоны, якая ў іх ахова, з якога боку лепш ударыць...

Многія з гэтых вестак пасля пацвердзіў селянін, якога пазней затрымалі паставыя.

Чалавек ішоў на нейкі лясны лужок касіць траву. У яго была на плячы каса, на дзержаку якой вісела невялічкая торбачка. Убачыўшы ў лесе столькі партызан, касец проста сумеўся.

— Ото ж войска, — узрадаваўся ён. — Адкуль гэта, скажыце, сабралася столькі?

3

Шашура ў гэтую ноч ухітрыўся пабачыцца з Аксінняй. Ён угаварыў Ермакова дазволіць яму з сваімі хлопцамі выправіцца раней: з грузам, маўляў, ісці не так проста, — і, зрабіўшы даволі вялікі круг, зазірнуў у гэтак помнае сяло. Людзям, якія з ім былі, Шашура даў дазвол адпачыць і сказаў, што павінен зайсці па адной неадкладнай важнай справе.

Пасля таго, як Шашура араў поле, яму ні разу не даводзілася быць у сяле. Ён, праўда, не аднойчы збіраўся наведацца сюды, але усё не выпадала.

Аксіння спаткала яго ветліва і, адчуваў падрыўнік, была рада, што ён прышоў. Палажыўшы дзяцей спаць і паслаўшы госцю ў садочку, яна доўга стаяла з ім пад яблыняй і размаўляла.

— Пара спаць... Позна, — схамянулася раптам жанчына.

Шашура паспрабаваў затрымаць яе, абняў за стан, нібы жартуючы, і прыцягнуў да сябе. Але Аксіння вызвалілася, развітаўшыся, пайшла ў сваю «хату».

Падрыўнік застаўся адзін. На душы ў яго было тужліва і неспакойна: ужо даўно ён не мог абыякава адносіцца да гэтай жанчыны. Яна вабіла яго, сеяла ў падрыўніку думкі аб адзіноцтве, якіх ён раней не ведаў.

Шашура толькі некалькі хвілін стаяў у роздуме. «Можа, яна тое ж адчувае і... чакае», — падумаў ён і, падбадзёраны гэтай развагаю, накіраваўся да хлява. Вароты былі прычынены. Калі падрыўнік пацягнуў іх да сябе, яны зарыпелі.

— Ты чаго? — запыталася ціха Аксіння.

— Сумна штосьці аднаму, Аксіння... спаць зусім не хочацца...

— Не хочацца? Вось гора! Што ж гэта?

— Ды чорт яго ведае! Не спіцца, хоць трэсні!.. Памагла б ты, ці што, каліна-маліна?

— А чым я табе магу памагчы? Парашкоў у мяне няма ад бяссоння.

— Парашкоў! Мне яны і не патрэбны. Я іх, гэтай поскудзі, зроду не піў... Сумна — аднаму — разумееш?

— Не разумею.

— Не разумееш. Эх, што ж ты такая — нездагадлівая!

Ён прысеў на ўскрай ложка і паклаў руку на яе плячо, гарачае і пругкае.

— Аксіння.

Яна зняла руку, параіла:

— Калі сумна, едзь да жонкі, стане весялей.

— Няма да каго мне ехаць. Я нежанаты...

— Усе вы аднолькавыя, нежанатыя.

— Нежанаты, праўду кажу.

— Даўно?

— Вось жа, не верыць! Пабажыцца табе, ці што?

— Нашто? Усё роўна... я весяліць не ўмею.

Шашуру, які лічыў сябе добрым знаўцам спагадлівага, на яго думку, жаночага сэрца, не вельмі збянтэжыла гэтая неласкавасць. Яшчэ з паўгадзіны ён гаварыў, не трацячы надзеі, што непрыязнасць жанчыны зменіцца прыхільнасцю.

Аксіння моўчкі слухала. Яна здавалася яму, як ніколі раней, прываблівай і роднай.

Расказаўшы некалькі смешных гісторый і анекдотаў і пачуўшы, што Аксіння раз — другі засмяялася, Шашура пяшчотным, але ўпэўненым рухам абняў яе за плечы. Іх цяпло апаліла яго.

— Аксіння, любая!..

Яна адразу паспрабавала вырвацца.

— Што ты робіш?

— Ды нічога, здаецца, — паспрабаваў ён жартаваць.

— Пусці!

— Аксіння, ды што ты! Супакойся!.. Не трэба...

— Пусці! — сурова прашаптала яна і вырвалася. — Якія вы ўсе, мужчыны, з вамі па-добраму, дык вы не разумееце дабраты...

— Ты — разумееш! Нібы чорт ведае, што натварыў!..

— Яшчэ што скажаш? Так я табе і дазволю!

— Проста — карціна, дакрануцца нельга...

— А што ты думаеш? Нельга!

Ён перамяніў тон размовы:

— Я ж, можа, таму, што люблю цябе.

— Няўжо? Нешта не заўважала...

Шашура пачаў апраўдвацца і паспрабаваў — цяпер з перасцярогай — абняць яе зноў, але Аксіння адштурхнула яго рукі і, лёгка выцяўшы, сказала:

— Ідзі адсюль... Па-добраму прашу...

— Просіш? Няма чаго сказаць — просьба.

— Як умею...

«Бач ты, якая строгая! — са здзіўленнем падумаў Шашура. — І хто б думаў, здавалася такою ласкаваю... Гэтых жанчын ніколі не зразумееш...»

— Ну, што ж, дзякуй... хоць за просьбу.

Ён устаў і вышаў.

Апоўначы ён разбудзіў яе, каб развітацца. Шашура быў, як звычайна, вясёлы, з Аксінняй размаўляў па-прыяцельску, жартаваў.

За тое, што было ўночы, ён не адчуваў ні сораму, ні каяння. Дарэчы, Шашура, здаецца, наогул ніколі не раскайваўся.

Ён цяпер думаў пра Аксінню з вялікай павагай. Строгая жанчына! Цвёрды чалавек, надзейны. На такую жонку можна было б спадзявацца.

«Я, здаецца, магу неўзабаве перастаць цаніць сваю халасцяцкую волю!» — падумаў здзіўлена падрыўнік.

Шашура быў да вайны жанаты, але няўдала. Жонка яго аказалася прыдзірлівай і страшэнна раўнівай жанчынай, у сям'і часта ўзгараліся спрэчкі, і, урэшце, Шашура не вытрымаў — развёўся з ёю.

З той пары ён вельмі скептычна адносіўся да кахання і да сямейнага шчасця. Таму ён і думаў пра сваю прыхільнасць да Аксінні са здзіўленнем. Гаворачы жанчыне ўночы, што любіць яе, падрыўнік сам мала верыў у свае словы.

Аксіння, здавалася, забыла пра нядаўняе здарэнне. Яна лагодна развіталася і нават папрасіла, каб ён не забываў дарогу да яе, заязджаў у госці.

— Ты што гэта? Так, для жарту?

— Сказаў! Якія тут могуць жарты.

— Сур'ёзна, значыцца.

— Сур'ёзна.

— Ну, што ж, трэба будзе падумаць... строгая ты надта!..

— А ты вельмі скоры!..

— Скоры? Гэта — праўда, ты гэта правільна!

Шашура зарагатаў.

— Значыцца заехаць?— Ён нахмурыўся, заклапочана пацікавіўся: — А біцца не будзеш?

Яна ўсміхнулася.

— Не буду, калі ты будзеш... разумнейшы... і хлусіць перастанеш!

— Хлусіць? Век не хлусіў...

— Кажы мне. Ну ідзі ўжо.

— Іду. Ну, што ж, бывай, сонейка мае строгае!

Ён паслаў ёй «пацалунак» і хутка, весела падаўся з двара.

4

Шашура паявіўся на месцы збору амаль адначасова з усімі. Адчуваючы сябе крыху вінаватым і стараючыся ўтаіць затрымку ў дарозе, ён, насцярожаны, паспяшаўся далажыць Ермакову аб сваім прыбыцці.

Шашура заўважыў, што Ермакоў у добрым настроі, і ў яго адлягло на душы. Калі і даведаўся, то, напэўна, не стане вельмі прыдзірацца. Але камбрыг не ведаў: ён спаткаў дабрадушна, ні словам не кранууўся той тэмы, якой асцерагаўся падрыўнік.

— Ну, пахавальных спраў майстар, рыхтуйся! Хутка пойдзем! — па-прыяцельску ляпнуўшы Шашуру па плячы, сказаў Ермакоў.

— Ды я гатоў, таварыш камбрыг, як піянер — заўсёды!

— Ну, ну — піянер, сказаў!.. Вагой дзевяноста кілаграмаў! З цябе магарыч трэба б: імяніннік сёння.

— Ды ўжо ж, свята маё!

Шашура сапраўды адчуваў сябе імяніннікам. Уся брыгада сёння будзе на «жалезцы». Гэты факт як бы пацвярджаў аўтарытэт яго падрыўной справы. Шашура быў бязмерна захоплены сваёй прафесіяй, таму такая павага да яе была яму найлепшай хвалой.

Ён славіўся ў брыгадзе як выдатны падрыўнік. Яго не выпадкова называлі — «пахавальных спраў майстар». Шашура пахаваў вельмі многа ахвотнікаў да чужых зямель і багаццяў.

Быў ён чалавекам вельмі дзейным і вялікім выдумшчыкам. Яго міны ірваліся не толькі на дарогах, але і ў кабінетах гестапа, і ў аўтамабілях гітлераўскага начальства. Шашура сам прыдумаў некалькі мін з «сюрпрызамі», якія ніхто не мог размініраваць. Ён умеў падрываць нямецкія саставы бомбамі, якія выкопваў у полі.

Багата чаго ўмеў ён.

Званне «пахавальных спраў майстар» далі яму недарма. Праўда, трэба сказаць, спачатку гэтае званне мела іншае значэнне, — аб чым цяпер у брыгадзе мала хто ведаў.

Вайна застала Шашуру ў ціхім беларускім гарадку. Гарадок захапілі немцы хутка, і Шашура не змог уступіць у армію. Першыя дні ён адседжваўся, не бачачы іншага выхаду са свайго становішча. Сядзець без справы ён не мог, але ісці працаваць лічыў ганьбаю для сябе. Ісці працаваць азначала — дапамагаць гітлераўцам, — а ён бярог сваю годнасць...

Між тым працаваць трэба было, ён не меў ні хаты сваёй, ні хлеба. І Шашура стаў думаць, чым бы пры такім становішчы заняцца? Пошукі-развагі яго доўга не давалі нічога добрага: усё выходзіла — працаваць на захопнікаў. Нарэшце, яго захапіла ідэя, якую ён назваў геніяльнай. Што гэта за ідэя, можна меркаваць з таго, што на другі ж дзень каля яго каморкі з'явілася шыльда: «Пахавальнае бюро. Майстар Шашура. Робіць труны, крыжы і г. д.».

Ён павесялеў: так можна працаваць на няпрошаных чужынцаў! Абы-толькі пабольш іх на той свет адпраўлялі.

Яго прадпрыемства некаторы час было без заказаў. Але неяк восенню гітлераўцы запатрабавалі адразу паўтара дзесятка трун, і майстар аддаў ім залежалы тавар.

Шашура, аднак, не адчуў палёгкі. Па-першае, хацелася нейкай, як ён казаў, «весялейшай працы», па-другое, робячы труны, ён усё-ткі нібы працаваў на ворагаў. Няхай бы гэтая поскудзь ляжала і гніла непрыбраная!

І Шашура стаў упарта падумваць, што трэба ісці ў лес, партызаніць. Ён перабыў зіму, а ўвесну з сваімі памочнікамі, іх было ўсяго тры чалавекі, са зброяй, накіраваўся ў лес. Сталі называцца дыверсійнай групай.

Праз месяц — паўтара «група» яго ўлілася ў даволі вялікі атрад Тураўца.

Але мянушка «пахавальных спраў майстар» засталася за Шашурам па-ранейшаму. Праўда, цяпер яе многія разумелі вобразна: сапраўды па-майстэрску адпраўляў фашыстаў на той свет падрыўнік!

5

Позна ўвечары рушылі да чыгункі, да якой было яшчэ кіламетраў шэсць ці сем. Самая вялікая штурмавая група з Ермаковым пайшла ў кірунку паўстанка, што быў умацаваны дзотамі. Ермакоў забраў з сабою і абедзве гарматы.

Разам з партызанамі папрасіўся ісці на дарогу і касец.

— Што ж я маю сядзець тут, як арыштант? Вазьміце і мяне, я пакажу ўсё. Я ж там, сказаць, кожную сцежачку ведаю.

Яго ўзялі з сабой. Дождж перастаў, хмары падняліся вышэй, нібы палягчэўшы раптам, і навокал змрок змяніўся прывіднай шэранню.

— Зараз выгляне дзе-небудзь месяц, — прарочыў Шашура. — Калі я іду на чыгунку, ён заўсёды высоўваецца, каб мне трэба было паўзці цішэй.

Калі, абмінаючы гарнізоны, атрады ціха наблізіліся да чыгункі, Дрозд паклікаў Крайко і сказаў:

— Вася, давай! Ды асцярожней.

Крайко, прыгнуўшыся, адбег да сваіх хлопцаў. Праз хвіліну хлопцы паўзком падбіраліся да агарожанага дзота каля насыпу. Дзот быў на правым флангу таго ўчастка дарогі, які павінен быў узарваць Дрозд. Ім трэба было непрыкметна падабрацца і, калі Ермакоў пачне штурм паўстанка, закідаць дзот гранатамі, прымусіць яго сціхнуць.

Туравец з Драздом, камандзірам атрада і Шашурам, выбраўшыся наперад усіх, ляжалі непадалёк ад чыгуначнага насыпу на ўскрайку лесу. Ад палатна іх аддзяляла цяпер толькі высека, якую зрабілі немцы абапал дарогі. У цемры чарнелі пні.

Па насыпу прайшлі, перагаварваючыся, патрульныя. У цішыні Туравец пачуў, як шоргаюць па шпалах ды па жарстве боты. Патрульныя то адзін, то другі часам прыпыняліся і азіраліся. Прайшоўшы крокаў сорак, пастаялі на месцы, потым маўкліва павярнулі назад.

Шашура ціха, але ўзварушана прашаптаў:

— Круцяцца тут на сваю пагібель!..

Туравец мімаволі ўявіў, колькі вачэй у гэтую хвіліну сочыць за патрульнымі.

Ён прыслухаўся. Там, куды пайшла штурмавая трупа, што павінна пачаць бой першая, было па-ранейшаму ціха. Туравец падумаў занепакоена: чаму яны позняцца?

— Трэба было б пачынаць, — варухнуўся нецярпліва Шашура. — Чаго яны, каліна-маліна, там?

— Нейкая замінка, мабыць...

Ціхая, спакойная ноч. У лесе спрасонку пракрычала нейкая птушка і сціхла. Галаву дурманіць густы пах лесу. Уночы, калі паветра напаўняецца вільгаццю, пахі мацнеюць. Пахне застаялай сырасцю, асіннікам, балотнымі травамі.

У галаве Тураўца заварушыліся думкі: «Якую безліч дрэваў высеклі каля чыгункі. І ці даўно, здаецца, было гэта. А вунь ужо на высецы такі хмызняк прэ»...

Яго развагі перабіла радасная думка: сёння павінна вярнуцца Ніна, — можа, нават яна ўжо дома...

Злева прагучалі два разложыстыя гарматныя стрэлы, узляцела малінавая ракета.

Услед закіпела страляніна бліжэй, дзе быў Крайко. Туравец адразу ўстрапянуўся: пачалося!

Па гуках бою ён чытаў пра тое, што робіцца на паўстанку. Бой быў зацяты: важка бухалі гарматы, амаль няспынна трашчалі аўтаматы і кулямёты. Пакуль нельга было сказаць, што немцы паддаюцца...

Між тым каля дзота пачуліся выбухі гранат. Значыцца, узвод Крайко падышоў блізка. Сячэ кароткімі частымі чэргамі кулямёт. Чаму раптам прыціхла ўсё? Не, не прыціхла. Здаецца, толькі кулямёт змоўк.

Цераз бязладную страляніну прарваліся напорныя ўрачыстыя воклічы. На дапамогу Васю пайшла ўся рота.

Яшчэ злева, дзе быў Ермакоў, кіпеў бой, а Туравец рашуча ўзняўся:

— Час пачынаць.

Дрозд услед паўтарыў:

— Час.

Павярнуўшыся тварам да лесу, Дрозд спакойна, але моцна крыкнуў:

— Наперад, хлопцы! На жалезку!

— На жале-е-е-зку-у!— як бы шматгалосае водгулле пакацілася па ўзлессю.

Відаць, там толькі і чакалі гэтага жаданага слова, бо яго адразу прагна падхапілі. Маўклівае, вільготнае ўзлессе адразу ажыло, заварушылася, зашумела нястрымна, як ад навальнічнага ветру.

Першымі рушылі партызаны са штурмавой групы. З пагрозным крыкам, аббягаючы пні, сыходзячыся, яны прабеглі, пратупалі паўз Тураўца, запоўніўшы пустую датуль высеку цёмнымі рухомымі постацямі.

Пры насыпу партызаны пачалі разыходзіцца ў абодва бакі, ачышчаючы чыгунку. Іх націск быў такі моцны і дружны, што нямецкая ахова зрабіла толькі некалькі бязладных стрэлаў, як была змецена.

Дачакаўшыся, нарэшце, сваёй пары, на насып узняліся падрыўнікі Шашуры. Некалькі чалавек падкладвалі шашкі, другія запальвалі шнуры, — неспакойныя агеньчыкі множыліся, мігцелі, варушыліся, разыходзячыся ўсё шырэй у абодва бакі.

Над адным агеньчыкам імпэтна кінулася белае зыркае полымя, здрыганулася зямля, і адразу рэзка, з металічным скрыгатам, ноч ірвануў моцны выбух.

Яшчэ не сціх пошчак, які пайшоў па наваколлі, як на насыпе грымнула ў другі раз, асвятліўшы на міг дарогу і высеку зыркім прагным полымем.

Выбухі ўскідваліся адзін за адным, бегучы ўправа і ўлева.

У Тураўца ў сэрцы ўсё заспявала, яму таксама хацелася кінуцца падкладваць шашкі. Ён успомніў, як у мінулы год з сялянамі вывarочваў рэйкі ломам. Вось і цяпер у яго было сілы якраз для такой працы!

Туравец не перакінуўся ні з кім і словам, бо грукат глушыў усё. Ды і не да гаворкі было!

Раптам ззаду, у лесе, сталі ірвацца снарады. Білі, відаць, гітлераўцы з далёкай вёскі. Стралялі яны наўздагад, і снарады звычайна рабілі пералёт, але некалькі са скрыгатам лягло непадалёк на высеку.

Хлопцы не зважалі на гэта і хутка, дзелавіта рабілі сваё.

...Нарэшце, па адным, па два, групкамі сталі адыходзіцца ад насыпу. Скончылі.

На хвіліну ўстанавілася цішыня.

Цяпер усе гаварылі голасна, уразнабой. Нехта зарагатаў.

— Ну, як, каліна-маліна, музыка? — крыкнуў Шашура, які з'явіўся знянацку, як з-пад зямлі.

Дрозд стрымана адказаў:

— Канцэрт што трэба.

— Сімфонія!

— Праўда, таварыш камісар! Сімфонія! Тут і другога слова не падбярэш. Такое каб моцнае, як «дамкрат», скажам, і... каб незразумелае. Ірванулі!.. А помніце, як летась мы «канцэрт» давалі пад Пагарэлым? Я тады пад мост падлажыў бомбу-двухсотку. Эх, калінамаліна, як фуганула, дык бэлькі ляцелі, як трэскі. Я ляжаў у ямцы наводдаль, дык мяне ад выбуховай хвалі спачатку як падыме, а пасля як бразне аб зямлю! Ледзь дух не выпусціў... Тады таксама «канцэрт» важны быў — на ўсіх дарогах ігралі.

— Хадзем, маліна-хлапчына, паглядзім, як ты цяпер паіграў,— перапыніў яго Туравец.

— Чыста, таварыш камісар, зрабіў.

Калі яны падняліся па невысокаму, але крутому затравеламу адхону на насып, у баку паўстанка ўскінулася барвовае клубістае полымя, і крыху пазней разлёгся выбух.

— Мусіць, нашы фрыцаўскае кубло ўзарвалі.

Туравец з Шашурам пайшлі па насыпу. Шпалы былі пашчапаны, жалезныя рэйкі парваны, пасечаны.

— Эх, пабіла рэйкі! — не ўтрываў падрыўнік.

— Пабіла... Можна сказаць, — загаварыў камісар, — «заваёўнікі» тут не разгоняцца. Зрабілі чыста. Ні дарогі, ні пуці...

— Цяпер ім тут праехаць не хутка ўдасца...— адгукнуўся Шашура.

Туравец павярнуўся быў ужо назад да лесу, як яго ўвагу прыкаваў глухаваты, прыцішаны далечынёю выбух. За ім хутка прагучаў другі, трэці.

Потым загрымела ў іншым баку, бліжэй. Нібы рэха перакатамі пакацілася па палях, па лясах, па далінах ва ўсе бакі.

Блізка і далёка, то гучна, разложыста, то ціха, ледзь-ледзь чутна, грукаталі, перагукаліея выбухі.

— Хто гэта? — запытаўся зачаравана Шашура.

Туравец стаяў, аветлены полымем недалёкага пажару, ад чаго на твары трапяталі чырвоныя водбліскі, і задумліва слухаў.

— Хто, кажаш? Хто ж — нашы знаёмыя ўсё... Тут і вось тут калінінцы і «Савецкая Беларусь». Далей, справа, напэўна, Першая Мінская. Вунь там, не інакш, Гаркуша... Каля яго гастэлаўцы... А хто за імі — і сам не ведаю...

«Канцэрт» Ермакоўскай брыгады, магчыма, было ледзь чуваць у агульным магутным «канцэрце». На ўсіх дарогах, па ўсёй Беларусі грымелі ў гэтую ноч выбухі.

Партызаны ірвалі дарогі над Бабром і пад Пухавічамі, пад Лунінцам і пад Лідай, пад Старушкамі і каля самага Мінска. Тол разбураў масты, рассякаючы, карэжачы важкія жалезныя бэлькі, раскідваючы бярвенне. Над сотнямі чыгуначных складаў палала трапяткое, грознае полымя. Эшалоны, якія ў гэтую ноч спрабавалі дабрацца да фронта, або гарэлі таксама, або валяліся пад адхонам.

У адну ноч мнагатысячная партызанская армія вывела са строю ўсе чыгункі, па якіх гітлераўцы жывілі свой фронт, адрэзала часці, што стаялі на «балконе», ад тылу, ад іх глыбокіх баз.

«Канцэрт» быў часткай агульнай падрыхтоўкі нашай арміі да наступлення. Ен быў першым громам, які абвяшчаў аб пачатку бітвы за Беларусь.

Пра гэта ўсе даведаліся праз тры дні.

## Раздзел VII

### 1

Пасля таго, як Ніна вярнулася з Мінска, яе паслалі да сувязных у мястэчка.

Зрабіць гэта было значна лягчэй, чым прабрацца ў Мінск. Яна ўжо неаднойчы хадзіла ў гэтае мястэчка, і кожны раз усё канчалася добра.

Але цяпер яе падсцерагала трагічная нечаканасць, тая нечаканасць, якая вельмі часта ідзе поруч з разведчыкамі.

Па дарозе назад, пераходзячы мяжу партызанскай зоны, Ніна траіпіла на нямецкую засаду.

З хмызняку насустрач выскачыў немец, які наставіў на яе аўтамат.

Першую хвіліну, калі Ніна пабачыла перад сабою гітлераўца і аўтамат, нацэлены ў яе твар, яна вельмі ўстрывожылася, але яшчэ не адчула ўсёй трагічнасці гэтай падзеі, відаць, таму, што яна не ўпершыню бачыла перад сабой аўтамат і гітлераўцаў. Тыя разы ўсё сыходзіла добра. Ёй удавалася выйсці з безвыходнага, здавалася, становішча, адхіліць небяспеку.

І цяпер у яе, недзе глыбока, у тумане трывогі, тлела надзея, што ўсё сыдзе неяк. Але гэта было далёка, прыцішана. Блізка ж, заглушыўшы іншыя адчуванні, адразу ліхаманкава завіхурыліся тысячы думак, быстрых, імклівых: што рабіць, што адказваць?

— Партызан? — запытаўся немец.

— Не...

«Трэба быць спакайней і смялей», — падказвала ёй нешта знутры, што сачыла цяпер за ёю.

Поруч з першым вырасла яшчэ некалькі салдат. Бязбровы, з маленькім падбародкам немец крыкнуў:

— Абшукаць!

Гітлераўцы адразу кінуліся да яе, сціснулі рукі, балюча іх заламалі. Адчуўшы прыкры дотык чужых рук, Ніна мімаволі ірванулася, але ледзь не застагнала ад болю.

Адзін з паліцаяў, з густым чорным чубам, начэсаным на вока, перахапіўшы гэты рух, сказаў зларадна:

— Не так, як у партызанах? Прывыкай!

Ён, відаць, быў старшым над паліцэйскімі, бо трымаўся вальней за іншых.

У яе не знайшлі нічога падазронага.

Бязбровы, уважліва разглядаючы, пакруціў яе пашпарт і пропуск, паклаў у кішэню.

Яе павялі ў камендатуру. Ідучы між двух немцаў, чуючы ззаду важкія крокі чубатага, Ніна стала абдумваць сваё становішча, і ёй здалося, што свет сціснуўся навокал. Яна адчула сябе раптам вельмі адзінокай.

Ніна, аднак, не гублялася. Думкі былі хуткія, чоткія і ясныя. Усе яны былі скіраваны на адно: што трэба зрабіць, каб выратавацца.

Перш за ўсё трэба быць спакойнай, каб ашукаць іх пільнасць. Яна будзе крыўдзіцца і нават пагражаць ад свайго знаёмага афіцэра... Хто ён, гэты ўяўны знаёмы?.. Яна ліхаманкава рыхтавалася ў думках да блізкай размовы.

У памяшканні паліцыі акурат некага дапытвалі. На стале разваліста паўляжаў нямецкі ефрэйтар. На падлозе, падгарнуўшы пад галаву голыя рукі, стагнаў збіты, акрываўлены чалавек. Ефрэйтар махнуў, каб вынеслі чалавека, абыякава выслухаў паведамленне бязбровага.

— Куды ішла?— запытаўся ён у перакладчыка, чытаючы між тым пропуск.

Ніна сама па-нямецку адказала, што ішла ў сяло, каб выменяць харчоў на свае рэчы. Ефрэйтар, пачуўшы адказ на нямецкай мове, уважліва паглядзеў на яе.

— Там партызанскі раён.

— Партызаны?! — сумелася яна. — Я не ведала...

Ніна падзякавала ефрэйтара, што яе ў час спынілі, бо яна б магла, не дай божа, папасці ў «партызанскія кіпцюры».

— Дзе вы навучыліся гаварыць па-нямецку?

— У мяне быў добры настаўнік! — Ніна пакрыўджана сказала, што з ёй гаварылі, як з партызанкай, што яна паскардзіцца свайму Карлу, штурмфюрэру. Яна выдумляла вельмі легка і ўдала, так што гітлеравец, напэўна, паверыў, бо стаў гаварыць з ёй мякчэй.

Ён не зусім упэўнена загадаў абшукаць яе.

У Ніны не знайшлі нічога.

Непакой яшчэ не праходзіў, але цяпер святлей заяснела надзея. Можа, — о, каб гэта сталася! — удасца вырвацца.

Неспадзеўкі здарылася тое, чаго яна ніяк не чакала і што прымусіла яе адразу затрывожыцца. У пакой увайшоў Грэчка. Ён быў у паліцэйскай форме, са знакам на рукаве.

Увайшоўшы, Грэчка казырнуў немцу і сказаў, што прывёў нейкага Варанчука.

— Добра, вядзі сюды. Я зараз кончу з гэтай... — ён кіўнуў рукою ў бок Ніны. Перакладчык пераказаў яго словы па-руску.

Грэчка мімаволі зірнуў туды, куды паказваў ефрэйтар. У першы міг, пабачыўшы Ніну, ён разгублена заміргаў дробнымі, глыбока сха-

ванымі вачыма. Грэчка, аднак, хутка паправіўся, перастаў міргаць, але адвёў позірк убок.

Ніна насцярожана чакала далейшага: выдасць ці не выдасць ён яе.

Можа, тое, што яна чула пра Грэчку, няпраўда, бо чуткі часта ашукваюць. Можа, ён застаўся сваім?

— А-а!.. вы знаёмыя, Хрэчка? — прамовіў раптам ефрэйтар.

Грэчка хутка зірнуў на немца і, убачыўшы яго ўважлівыя вочы, нерашуча кіўнуў галавою.

— Дзе ж вы пазнаёміліся?

Ён маўчаў.

— Ну?

—У... лесе,— неахвотна і нібы няўпэўнена прамовіў ён.

— О, у лесе! У партызанах?!

Грэчка кіўнуў.

— Даўно гэта было?..

— Нядаўна...

— Калі?

— Апошні раз мы бачыліся з ёю, калі я... перайшоў сюды, пан ефрэйтар...

— Падлюга! —толькі і знайшла што сказаць Ніна.

Яна з пагардай і нянавісцю акінула агідную постаць. Хіба знойдзеш вартыя словы, каб выказаць гэтаму нягодніку ўсё, што адчуваеш.

А ў галаве ўзнікла і апавіла холадам усю яе: «Прапала». Нібы праз туман аднекуль данёсся задаволены голас чубатага: «А-а! Папалася?»

Ефрэйтар ссунуўся са стала, падышоў павolі, пераваlivаючыся з боку на бок.

— Партызан?

— Так, — сказала Ніна, бачачы, што хавацца няма чаго, і смела, адкрыта паглядзела на яго.

— Адкуль ідзеш?

Яна маўчала. Ефрэйтар паўтарыў пытанне, раздзельна вымаўляючы кожнае слова. Яна і на гэты раз не адказала нічога. Ніна бачыла, як твар гітлераўца хутка наліваўся крывёю.

Ефрэйтар раптам размахнуўся.

Перад яе вачыма ўспыхнулі вогненныя вострыя іскры, што пранізалі безліччу пякучых джал. Ніна, глуха войкнуўшы, павалілася на падлогу.

Калі, ачнуўшыся, яна паднялася на дрыжачых руках і села, падлога перад вачыма хісталася, хілілася на бок, станавілася потырч, як

сцяна. На падлозе было цяжка ўтрымацца. Ніна чаплялася пальцамі за шчыліны...

Яна пачула пытанне, якое потым паўтаралі гітлераўцы, што дапытвалі тысячу разоў:

— Скажаш?

Яна, як і раней, маўчала. У роце было поўна крыві.

Ефрэйтар хадзіў вакол яе.

— Хто пасылаў?

— Якое даручэнне?

— З кім сустрэлася?

2

Ён дапытаў Грэчку, і той расказаў пра Ніну ўсё, што ведаў.

Збітую да паўсмерці, яе на калёсах павезлі ў другую камендатуру. Колы стукацелі ў цвёрдых, нібы каменных, каляінах, падскоквалі, хісталіся. Ад кожнага штуршка пякуча ныла цела, і Ніна сціскала зубы, каб не застагнаць. На драбінцы поруч горбіўся чубаты, зларадна час-ад-часу касавурыўся. Не, ён не пачуе ад яе пакутнага стогну, не парадуецца слязам. Ён будзе бачыць, як і раней, заўсёды ў вачах яе толькі пагарду і нянавісць.

«Нічога. Гэта без прывычкі, — супакойвала яна сябе, намагаючыся прыглушыць пякучы боль, што тузаў, ірваў усё цела.— Хутка сцішыцца». Ёй успомнілася, што нехта з партызан гаварыў, нібы чалавек больш за ўсё пакутуе спачатку, а пасля цела прывыкае да болю, бо нервы тупеюць. І яна, напэўна, таксама прывыкне.

Але чаму так гарыць усё цела? Як падумала, што баліць, дык боль адразу нібы ажыў. Не трэба думаць пра гэта. Лепш пастарацца думаць аб чым-небудзь іншым, тады лягчэй будзе трываць.

Успомніўся чамусьці адзін ясны, сонечны дзень маленства. Яна з маці тады гасцявала ў вёсцы ў цёткі. Гэта было даўно... Калі ж гэта было? Яна, здаецца, яшчэ не хадзіла ў школу.

Неяк, бегаючы з дзецьмі па вуліцы, Ніна басанож ступіла на абрывак калючага дроту. Калючкі на ўсю даўжыню ўпіліся ў нагу. Яна закрычала ад болю і, падагнуўшы параненую нагу, стала скакаць на адной. Паспрабавала адарваць калючкі, але не магла. Нібы хто прыбіў іх да пяткі.

На крык прыбегла ўстрывожаная маці. Ніна ўжо сядзела на зямлі і плакала, спалохана пазіраючы, як па назе цурчыць і цурчыць кроў. Маці адразу выцягнула калючкі і адкінула прэч. Хутка перавязала нагу хусцінкай, узяла Ніну на рукі і, пяшчотна абняўшы

рукою, панесла ў хату. О, той лагодны мамін абдымак! Ад яго адразу сцішыўся боль і высахлі, суняліся слёзы.

Мама, мама! Калі б ты ведала, як мне балюча сягоння... Але я не плачу і не буду плакаць, ні адной слязінкі не ўбачаць яны ў мяне. Я б сябе перастала паважаць, калі б паддалася ім... Самае горшае, што не ведаю, як будзе далей, ці ўдасца выратавацца. Што мяне чакае там, куды вязуць? Зноў, не інакш, будуць біць і зноў пытацца пра адно і тое ж...

Яна адчула на сабе лагодны дотык вадзяных кропель. Пайшоў няспорны дождж. Закрыўшы вочы, Ніна слухала, як частыя, халаднаватыя дажджынкі падаюць на твар. Ад іх агонь у целе прыціхаў. Дождж ішоў доўга, то слабеючы, то спарнеючы.

Калі дождж перастаў, Ніна ўбачыла сонца — яно цьмяна жаўцела праз хмары — і здзівілася, што яшчэ так рана. Няўжо толькі якіх чатыры гадзіны мінулася, як яе схапілі? А ёй здавалася немаведама колькі.

Гэтаму дню, напэўна, не будзе канца.

У камендатуры, невядома чаму, дапытвалі нядоўга. Яна, як і раней, маўчала. Быстры, неспакойны нейкі фюрэр ашалела накінуўся на Ніну з пагрозамі, тыцкаючы ў твар пісталет. Ён гразіўся, калі яна толькі будзе далей упірацца, тут жа, адразу, не размаўляючы, застрэліць.

Нарэшце фюрэр, пазелянелы ад злосці, крыкнуў, каб ёй звязалі рукі і вывелі на двор.

На двары Ніну ўштурхнулі ў нізкую, нібы сплюшчаную, легкавую машыну. Побач сеў эсэсавец з аўтаматам, вялізны, даўганогі — каля шафёра быў яшчэ адзін, — і яна падумала, што гэта, мусіць, канец, што яе, напэўна, вывезуць за сяло і расстраляюць. Ніна ведала, што гітлераўцы ў такіх выпадках распраўляліся хутка.

Яна цяпер забыла боль. Усё адышло некуды далёка перад тым вялікім і халодным, што адразу наблізілася, пеадхільна паўстала перад ёю.

Час раптам паскорыў хаду. Калі раней ён цягнуўся вельмі марудна, то цяпер пабег праз меру шпарка. Хутка шафёр завёў машыну, хутка паляцелі абапал хацінкі, закруцілася, пабегла назад поле, выскачыў насустрач, нібы з-пад зямлі, густы сасновы барок.

Потым мінулася яшчэ адно сяло, і машына вышла на гладкую асфальтаваную істужку. Гэта было, напэўна, Магілёўскае шасэ. У шкло пачаў секчы дождж. Кроплі вады цяклі па ім крывавымі ручайкамі. Навокал усё зацягнула мутнай павалокай, толькі віднелася паблізу мокрае, бліскучае шасэ з безліччу малых кружкоў-кропель і

бурбалак. Эсэсавец падняў шкло, стала цяжка дыхаць, нібы не хапала паветра. Машына яшчэ набавіла хуткасці, аж засычэлі па-вужачаму шыны.

«Няўжо ў Мінск вязуць?» — падумала Ніна. Яна на хвіліну адчула палёгку — значыць, яшчэ буду жыць.

Але затым сэрца сціснулася ад думкі аб невядомасці, што чакае ў Мінску. Зноў будуць біць, пытацца, зноў будзе заплываць крывёю рот. Толькі б не даведаліся, што тут жыве маці. Гэтыя нелюдзі пачнуць яшчэ мучыць і яе.

Усё-ткі недзе ў глыбіні сэрца стала лягчэй. Не цяпер, не цяпер... А разам з тым жыла, упарта не адступалася надзея: можа, удасца вырвацца.

3

Яна не памылілася. Яе са-праўды прывезлі ў Мінск. Машына спынілася каля турмы, немцы з камендатуры перадалі яе турэмшчыкам. Тыя абыякава паглядзелі на паперку з камендатуры, звыкла абшукалі, і Ніна апынулася ў камеры. Яна агледзелася. Людзей у камеры было столькі, што сядзелі яны і на нарах з грубых няструганых дошчак, і на бруднай падлозе. Многія проста на падлозе драмалі.

На яе прыход мала хто звярнуў увагу. Відаць, прыводзілі сюды часта.

У першы дзень у турме час для Ніны цягнуўся марудна. Яна чакала, што выклікаюць зараз на допыт у гестапа, імкнулася ўявіць, што там будзе, і ў думках рыхтавалася да ўсяго. Увесь час з віскам адчыняліся важкія, чатырохвяршковай таўшчыні дзверы, і турэмшчык выклікаў то адну, то другую жанчыну, пасля чаго іх некуды адводзілі.

Гэта была, як растлумачыла Ніне дзяўчына, што сядзела каля яе, камера папярэдняга заключэння. Акрамя гэтага, ёсць яшчэ камеры для тых, каго дапытваюць, і для тых, чый лёс ужо вырашаны, пасля сканчэння следства.

Ніна мімаволі сачыла за ўсім, што адбывалася ў камеры. Ёй было гэта нязвычнае і новае. Неўзабаве да яе дайшла ледзь чутная неразборлівая гаворка і нейкі незразумелы, дзіўны шум з-за сцяны. Ніна стала прыслухоўвацца, але гоман у камеры перашкаджаў ёй. Нечакана адтуль пачуліся дзікія, прарэзлівыя крыкі, ад якіх у Ніны ўсё пахаладзела, а ў камеры адразу наступіла трывожная цішыня.

— Што гэта? — запыталася Ніна ў дзяўчыны-суседкі.

— Ведама што, — б'юць, дапытваюць...

Дзяўчына сказала яшчэ, што вось раней вадзілі ў гестала, а цяпер у турме людзей так многа, што вадзіць не ўпраўляюцца.

Лямант і крыкі не сціхалі да вечара. Па калідоры, было чуваць, увесь час вадзілі людзей на допыт і валаклі назад збітых.

Ніна ўсё чакала, што і яе зараз паклічуць на допыт. Але гэты дзень абышоўся ціха. За ўсю ноч Ніна ні на хвіліну не заснула, усё думала аб сваім становішчы, пра тое, што трэба будзе гаварыць заўтра, пра таварышаў, якія чакаюць у лесе. Перад вачыма яе праходзілі малюнкі апошняга, нешчаслівага дня.

Крыкі і стогны за сцяной не сціхалі амаль да самай раніцы. Ад цяжкіх думак і ад бяссоння яна за ноч змарнела і пастарэла.

Уранні, нарэшце, Ніну выклікалі на допыт. Яе павялі не ў суседні пакой, а на двор. Ніна апынулася на вуліцы пад аховай чатырох рослых немцаў.

Чатыры адкормленыя, узброеныя эсэсаўцы з аўтаматамі напагатове вялі адну жанчыну. Яна здзівілася, калі ўбачыла, што яе, кволую з выгляду, так пільнуюць і баяцца. Абы-каму не даюць такую ахову.

На пустой вуліцы ёй сустракаліся рэдкія маўклівыя пешаходы. Некалькі з іх, убачыўшы жанчыну пад такой аховай, праводзілі Ніну ўважлівымі, то спачувальнымі, то сяброўскімі позіркамі. Ніна мімаволі выпрасталася і падняла галаву.

СД размяшчалася ў будынку былога Інстытута народнай гаспадаркі. Як і да вайны, тут перад вокнамі зелянелі ў два рады маладыя клёны, добра памятныя ёй з даўняй студэнцкай пары.

Пры ўваходзе ў СД, у вестыбюлі, Ніну затрымалі. Эсэсавец, што стаяў каля дзвярэй, старанпа абшукаў яе. Толькі пасля таго, як зрабілі вобыск, яе дазволілі правесці далей.

Ніну ўвялі ў доўгі інстытуцкі калідор, у якім яна калісьці не раз хадзіла з таварышкамі. Тут стаялі ў два рады, тварам да сцен, чалавек дваццаць жанчын і мужчын, якія нерухома глядзелі перад сабой. За іх спінамі павольі спацыраваў малады ружовашчокі, непадступна строгі наглядчык, гадоу, напэўна, семнаццаці, які памахваў кароткім, плеценым скураным бізуном.

Наглядчык штурхнуў Ніну да пажылой, з сівымі заплеценымі валасамі жанчыны. Ніна стала поруч і толькі павярнула галаву, каб азірнуцца, як у той жа час яе спіну апаліла агнём. Услед пачуўся злосны піскЛявы вокрык наглядчыка.

Стаяць, не бачачы нічога каля сябе, было млосна. Здавалася, што за спіною нехта замахваецца, каб ударыць. Яна мімаволі прыслухоўвалася да ўсяго, што робіцца ззаду, адольваючы жаданне азірнуцца. Недзе недалёка, за дзвярыма, чулася будзённая траскатня пішучых машынак, якая здавалася тут зусім недарэчнай.

Ніну апаноўвала трывога перад блізкай сустрэчай з гестапаўцамі.

Бываюць і ў брыгадзе, у баі, такія хвіліны, калі патрэбна вялікая сіла волі. Але там перамагчы любыя нягоды лягчэй, там кожны можа табе дапамагчы, падтрымаць, — поруч з табою таварыш. Тут яна адна будзе стаяць перад гестапаўцамі, перад усёй іх зграяй. Увесь сэнс свайго цяперашняга жыцця бачыла яна ў адным неспакойным жаданні — не паддацца, вытрымаць!..

Яе выклікалі хутка. Ніна ўвайшла ў пакой, які нагадваў канцылярыю. За маленькімі столікамі сядзела некалькі нафарбаваных немак, якія дзелавіта стукалі на машынках; каля адной, нахіліўшыся, стаяў гестапавец і нешта дыктаваў.

Ніхто з іх нават не зірнуў на Ніну: прывыклі.

Адсюль яе ўвялі ў другі пакой праз цяжкія, акаваныя жалезам дзверы. Тут дапытвалі бялявага юнака ў сіняй футболцы. Ён стаяў на нагах з натугай, як бы трымаў на сабе нейкі вялікі цяжар. Твар, яшчэ амаль дзіцячы, быў у крыві і распух ад пабояў. Каля яго круціўся гестапавец, тонка перацягнуты ў поясе.

— Значыць, ты не ведаеш нікога? І міну ніхто не прыносіў? Сам знайшоў?

Юнак кіўнуў галавою. Гестапавец некалькі разоў з усёй сілы выцяў яго бізуном, адышоў, сеў. Пасядзеўшы хвіліну, ён ускочыў, падбег да хлопца:

— Брэшаш! — і са злосцю з усёй сілы стаў біць канчуком бізуна па галаве, прыгаварваючы: — Брэшаш! Брэшаш!

Хлопец моўчкі, як падкошаны, грымнуўся на падлогу.

Яе штурхнулі да эсэсаўца, што сядзеў за сталом. Быў ён лысы, тоўсты, з двума падбародкамі. На мясістым носе сядзелі рагавыя акуляры, якія надавалі эсэсаўцу вучоны выгляд. Следчы нешта жаваў. Поруч з ім стаяў перакладчык.

Не перастаючы жаваць, немец падсунуў да сябе папку, адгарнуў вокладку, акуратна і старанна напісаў чырвоным чарнілам нейкі нумар і прамармытаў:

— Лагуновіч... Запытайся, Гельмут, гэта сапраўднае яе прозвішча? Ці можа таксама клічка? — Прозвішча Ніны выказаў у, камендатуры Грэчка.

Яна моўчкі кіўнула галавой — сапраўднае. Следчы, мусіць, не ведаючы, што яна разумее па-нямецку, прамармытаў задаволена:

— З брыгады Ермакова?.. Яна якраз дарэчы. Мяне цяпер вельмі цікавіць гэты Ермакоў і яшчэ... Туравец...

«Ведаюць! — падумала Ніна са злой радасцю. — Уеліся, значыцца, у косці!» Яна на нейкі міг убачыла ў думках Ермакова, Васю, камісара. Яны нібы пазіралі на яе, спагадліва і даверліва.

Эсэсавец запытаўся, дзе размяшчаецца цяпер брыгада. Ніна, не адказваючы, папрасіла спакойна:

— Я хачу піць. Дайце вады...

Па знаку следчага перакладчык прынёс шклянку вады. Ніна, не спяшаючыся, выпіла.

— Ну, працягнем размову,— прамовіў эсэсавец і паўтарыў пытанне.

Ніна, здавалася, ахвотна згадзілася адказваць. Але тое, што яна сказала, было няпраўдай: брыгада размяшчалася ў іншай мясціне.

— Вы разумееце, што мы зробім з вамі, калі вы ашукаеце нас?

— Ведаю.

І прадаўжала маніць, як магла. На некаторыя пытанні яна не адказвала. зусім: ёй гэта невядома...

Гестапаўца злавала, што Ніна таксама не хацела паведаміць, з кім звязана брыгада ў Мінску. Яна адмаўлялася назваць хоць бы адно прозвішча.

— Вы гэта павінны ведаць! Вы — разведчыца!..

— Я кажу, што нічога не ведаю пра Мінск!

— Вы хлусіце!..

Блізарукія, хваравіта прыплюшчаныя вочы за рагавымі акулярамі зрабіліся маленькімі і злымі. Ніне стала тужліва і страшна. Па спіне прабег халадок, і сэрца раптам нібы перастала біцца, замерла ў чаканні.

Як бы збіраючы сілу, шукаючы падтрымку, яна зноў на міг прыгадала Тураўца і іншых таварышаў. Не аслабець, утрымацца, перанесці ўсё, перацярпець усе здзекі, усе пакуты!

Ніна бачыла, што гестапавец перастаў жаваць і падняўся, і падумала: «Зараз пачнецца...»

4

Ніну прывезлі з допыту ўвечар. Яна была так збіта, што не магла сама дайсці ад машыны да камеры. Два турэмшчыкі падхапілі яе пад рукі і павалаклі абыякава па доўгаму змрочнаму калідору. Расчыніўшы дзверы, яе кінулі, і яна ўпала тут жа, каля дзвярэй.

Клапатлівыя, сяброўскія рукі паднялі Ніну, ціха перанеслі, асцярожна паклалі на нары. Яна не магла паварухнуцца. Усё цела было адным балючым камяком і гарэла так, нібы яго безупынна палілі

пякельным агнём. Ёй падалі вады. Ніна ўбачыла над сабою незнаёмы, спагадлівы твар жанчыны і ціха, прыглушана застагнала.

— Нічога, нічога... Патрывай, — прамовіла суцешліва жанчына.

Ніна доўга не магла заснуць, хоць і вельмі змарнела. Агонь, які паліў яе ўвесь час, то крыху спадаў, то мацнеў неспадзявана зноў.

Вочы нясцерпна рэзала белае зыркае святло лямпачкі, якая ад іскрыстых праменняў, што разыходзіліся ва ўсе бакі, была падобна на нейкую бліскучую калючку. Тыя праменні прарэзваліся нават пад заплюшчаныя векі, уядаліся ў галаву, ад іх нельга было схавацца.

Скрыпелі дзверы, некага выводзілі і прыводзілі назад, нехта лемантаваў безупынку за сцяной. Усё гэта дзіўна сплёталася ў адно з тым пякучым агнём, які ірваў, тузаў яе цела. Пад раніцу яна знебылася на гадзіну ў неспакойным хваравітым сне, аб нечым усё трызніла і стагнала.

Калі яна вярнулася да прытомнасці, ёй пачало пакрыху зноў прыгадвацца ўсё, што адбылося ўчора...

— Алена!— пачуўся побач голас.

Якую гэта Алену клічуць? Ніна павярнула на гэты голас вочы і ўбачыла поблізу сябе дзяўчыну, якая, аказваецца, гаварыла да яе. Твар дзяўчывы быў знаёмы.

«Дзе мы бачыліся?» — падумала Ніна, намагаючыся ўспомніць.

— Я ж Клава. Сняжко Клава,— падказала ёй дзяўчына.

Ах, Клава!.. Нібы ў тумане прыгадаліся Ніне пакойчык, бэз за акном, прыгадалася, як яны ўдзвюх сядзелі ў гэтым пакойчыку і гаварылі. Тады Сяргей, Клавін брат, хадзіў рыхтаваць карту...

Ніна паспрабавала падняцца.

— Ты ляжы ціха,— параіла Клава. І, нахіліўшыся да Ніны, з пяшчотай і спачуваннем прамовіла: — Ты ў сне стагнала і гаварыла нешта. Моцна цябе яны... Але ты, Аленка, не паддавайся. Галоўнае, не прыслухоўвайся да болю. Баліць табе, а ты старайся сабе думаць, што не вельмі, што трываць можна. Не паддавайся, адным словам, сабе... Мяне ўжо чатыры разы вадзілі, пячонкі адбілі, мусіць, а я нічога. Не даюся сабе!.. Тут на мяне дзівяцца, лёгкі ў цябе характар, кажуць. Нібы мне не так, як усім, баліць. Проста я стараюся адагнаць боль. Ты разумееш?

Ніна кіўнула. Ей было прыемна слухаць гэты лагодны таварыскі голас.

Ад Клавіных слоў неяк сцішваўся боль.

— Ты, напэўна, першы раз?.. Калі цябе ўкінулі сюды? Учора? А я пяць дзён ужо. Тут гэта здаецца цэлым годам... Я ўжо тут нагледзелася ўсяго, не дай бог. На месяц, дапраўды, расказваць. Ты ве-

даеш, што я табе скажу,— перайшла яна на шэпт,— ты будзь асцярожная. Да нас сюды падсылаюць шпікаў, падслухваць. Яны сядзяць, як і мы. Іх нават б'юць часам для выгляду, каб ашукаць нас. І часам як бы на допыт водзяць, падкармліваць, як сабак...

Яна заўважыла на твары Ніны цень болю, загаварыла клапатліва:

— Табе нязручна ляжаць. Дай я памагу табе.

Клава дапамагла Ніне павярнуцца, потым, дзіўна падмячаючы смешнае, пачала расказваць аб апошніх падзеях у камеры, аб вестках, якія прыносілі людзі з горада.

— А дзе Сяргей?.. Таксама схапілі?..— перапыніла яе Ніна.

— Выратаваўся, здаецца.

Адолеўшы смутак, што набег на твар, Клава пачала расказваць, як жыла раней, вясёлыя і смешныя гісторыі. Яна, мусіць, хацела, каб Ніна, слухаючы гэтыя ўспаміны, забылася на свой боль.

Прыгадала, як настаўнік у школе скардзіўся, што яна няўважліва слухае яго, круціцца ўвесь час на парце, і ставіў звычайна тройкі па паводзінах. За гэтыя тройкі бацька і маці папракалі яе, прасілі выбачэння ў настаўніка, але пачыналася новая чвэрць, і ўсё ішло паранейшаму. Не любіла Клава доўга сядзець над кніжкамі, «сушыць галаву», зімой ледзь не ўвесь свой вольны час коўзалася на лыжах, летам ездзіла да сваякоў у вёску, купалася, загарала, хадзіла з вясковымі хлопцамі грабсці сена, збіраць ягады...

Ніна моўчкі, заплюшчыўшы вочы, слухала. Часам ёй здавалася, што голас даходзіць аднекуль здалёк. Тое, што яна чула, перарывалася яе ўласнымі думкамі і ўспамінамі. Малюнкі паўставалі перад ёй нейкія нязвязныя і блытаныя... То бачыла чорнае галлё бярозы на лагодным блакіце неба, згадвала ўсё, што думала тады пад тым дрэвам, то нібы прыходзілі ўніверсітэцкія сябры, то між іх раптам выплывала постаць эсэсаўца ў акулярах, які казаў ёй: «Ты гэта павінна ведаць!.. Ты хлусіш!»... Яна расплюшчвала вочы, каб адагнаць трызненне...

Пад ціхую, лагодную Клавіну гаворку Ніна задрамала.

Калі яна прачнулася ад віску дзвярэй, на парозе стаялі два эсэсаўцы. Адзін з іх, які трымаў паперку, павольна, мутнымі, п'янымі вачыма акінуў усіх, хто тут быў, і людзі адразу прыціхлі. Усе пазіралі на яго і на маленькі блакноцік, што быў у руцэ з бліскучым пярсцёнкам. Па той трывожнасці, якая запанавала, Ніна здагадалася, чаго ён прышоў і куды павядуць тых, каго ён выкліча.

Каго ж? Ніна прыўзнялася на локці.

Можа і мяне.

Яна азірнулася на Клаву, тая таксама насцярожана чакала.

— Івашына!— рэзка, як стрэл, прагучаў урывісты вокліч.

Усе вочы павярнуліся да прыгожай чарнявай жанчыны з растрапанымі валасамі, якая маўкліва паднялася. Ідучы да дзвярэй, недарэчна папраўляючы хустку, яна раптам спаткнулася на роўнай падлозе.

— Бывайце, людзі... таварышы!— сказала жанчына, прыпыніўшыся каля дзвярэй і азірнуўшыся.

Адзін эсэсавец штурхнуў яе ў калідор...

За ёй выклікалі яшчэ пяць чалавек...

Калі дзверы зачыніліся, у камеры нейкі час панавала цішыня. Потым нехта крыкнуў з пагрозаю:

— Душагубы! Дачакаецеся і вы, праклятыя!..

Хоць іншага Ніна і не чакала ад гітлераўцаў, хоць у думках рыхтавалася да ўсяго, падзея гэтая яе вельмі ўразіла.

Праз некалькі хвілін шасцярых не стане...

Небяспека смерці абудзіла ў Ніны прагнае жаданне жыць. Жыць, жыць!..

Ёй было знаёмае гэтае пачуццё, якое Ніна не раз ужо зведвала ў баі. Але тады было інакш. Там яе жыццё залежала ад яе, ад таго, як яна паводзіла сябе, а тут — ёй быццам рукі скруцілі.

У баі небяспека нярэдка забывалася, яе засланялі розныя клопаты. Тут жа не было чаго рабіць, заставалася адно — чакаць. Зносіць нечалавечы здзек і чакаць.

Яна ўспомніла Людку, прыгадала да самай дробнай дробязі апошнюю сустрэчу з ёй. Ніна тады вельмі спяшалася, цалавала дачку прагна і паспешліва. Ёй так цяжка было адрывацца. Хто тады мог ведаць, што пабачыць дачку зноў, можа, не давядзецца.

А колькі дзён, гадзін чакала яна Аляксея! Няўжо ж і не дачакаецца?..

— Ты не думай,— спагадліва сказала Клава.— Не гаруй: чаму быць, таго не мінаваць. Яшчэ і невядома, як яно ўсё пойдзе. Хочаш, я табе раскажу што-небудзь?

## 5

Уранку Клаву выклікалі на допыт. Ніна засталася адна са сваімі думкамі. Цяпер яна адчула, як не хапае ёй Клавы.

Яна з трывогаю і нецярплівасцю чакала Клаву і кожны раз, калі адчыняліся скрыпучыя дзверы, з надзеяй пазірала на іх.

То адна, то другая вярталіся з допыту спакутаваныя, змардаваныя жанчыны, але Клавы не было.

Удзень некалькі чалавек пагналі на работу, разгружаць на складах машыны.

Яны вярнуліся пад вечар. Калі дзверы зачыніліся, усе, хто быў у камеры, сталі распытваць: «Што там, на волі?»

Але тыя, што вярнуліся, спачатку нічога цікавага не гаварылі, асцерагаючыся шпікоў і даносчыкаў. Усё важнае звычайна расказвалі толькі ў маленькім гуртку, надзейным сябрам. Агледзеўшыся ў адной такой купцы, у якую прынялі і Ніну, жанчына, апранутая ў старэнькі пярэсты дамашні халат, як найвялікшую тайну, адкрыла, што чула сваімі вушамі ад знаёмага шафёра, хлопца з Камароўкі, быццам сёння павінны прыляцець нашы.

— Так пра гэта і скажуць!— адгукнуўся нехта недаверліва.— Адкуль ён ведае?

— Значыцца, ведае! А адкуль,— пра тое ідзі, спытайся ў яго! Цяпер многія шмат чаго ведаюць, ды толькі язык за зубамі трымаюць.

— Каб не ведаў, не казаў бы!— пачуліся галасы.

І, здаецца, ніхто больш не сумняваўся ў словах жанчыны, хоць і ўсім было вядома, на чым яны грунтуюцца,— кожнаму хацелася верыць!

Другая расказала, што бачыла на Таварнай багата спаленых вагонаў, мусіць, ад таго налёту, што быў чатыры дні назад.

— А пра... наступленне нічога не чуваць?— прашаптаў раптам з бліжніх нар узрушаны голас, і ўсе адразу прыціхлі.

— Нічога...

З «работы» адна з жанчын прынесла ў камеру сыры бурак, некалькі бульбін і галовак часнаку. Як ёй удалося гэта — невядома, бо пры ўваходзе ў турму кожнага, хто хадзіў працаваць, старанна абшуквалі і за ўсякую схаваную рэч няшчадна білі.

«Трафеі», як назвалі жартам здабытак, падзялілі. Дзяліла жанчына ў пярэстым халаце, якая гаварыла, што сёння прыляцяць самалёты. Яна абмінула дзвюх жанчын, якія нядаўна прыйшлі з волі і выглядалі добра,— як яна сказала жартам,— «аб'еліся там». Кавалачак сырога бурака перадалі і Ніне, хоць яна і была з «новых».

На наступны дзень некалькі дзяўчат выклікалі мыць падлогу. Паднялі сілком і Ніну, не зважаючы на тое, што яна была знясіленая.

— Ты глядзі, ці няма недакуркаў — мужчыны прасілі. Як знойдзеш, прынясі мне, я пастараюся перадаць ім,— шапнула ёй, калі выйшлі ў калідор, дробная, з рабаціннем пад вачыма, дзяўчына, якая часта хадзіла мыць падлогу. «Тут ёсць нават сувязныя з мужчынскімі камерамі»,— здзіўлена падумала Ніна.

Ёй далі нейкую анучу і вядро і павялі. Жандар штурхнуў яе ў пакой і сказаў:

— Тут.

Гэта быў невялікі паўзмрочны пакой з замураванымі больш як да паловы вокнамі. Ніна акінула абыякавым позіркам падлогу і ўбачыла на ёй цьмяны масляністы бляск вады. Яна ступіла ў ваду і ледзь не паслізнулася.

— Ну ты, што стала?— крыкнуў паліцай і таўхануў яе кулаком у спіну.— Запрашэння чакаеш?..

Перамагаючы пякучы боль, які адразу ажыў на спіне, ва ўсім целе, яна сагнулася. Рукі дакрануліся да нечага густота і ліпкага.

— Што гэта?— вырвалася ў яе.

— Кроў, не бачыш?— сярдзіта адгукнуўся паліцай...— Не віно французскае!..

Калі яна вярталася ў камеру, дзяўчына з рабаціннем, якая мыла ў той час калідор, шапнула:

— Недакуркі ёсць?

Ніна хітнула галавой: няма.

У камеры яна ўбачыла Клаву. Тая нерухома ляжала на нарах, тварам уніз, адна рука з разадраным да пляча рукавом звешвалася з дошчак, як у нежывой.

Ніна з непакоем наблізілася да яе і моўчкі стала, не адважваючыся патрывожыць. У Клавы толькі павольна, цяжка ўздымалася і апускалася спіна ў кофтачцы з закарэлымі плямамі крыві ды чулася хрыплае дыханне.

«Эх, што з ёй, гады, зрабілі!»— жахнулася Ніна перад гэтай нерухомай, здаецца, амаль нежывой жанчынай.

— Ты, Ніна?— сказала ціха, не павяртаючы галавы, Клава. І, памаўчаўшы, дадала: — Ой, як мяне білі!.. Ніколі яшчэ так не білі...

Яна зноў сціхла, так ёй, відаць, цяжка было гаварыць. І раптам у хрыплым голасе Клавы пачулася ўпартая, ціхая гордасць:

— Усё-ткі яны ад мяне нічога не дабіліся!

Ніна, асцярожна прысеўшы каля яе на край нар, пяшчотна дакранулася рукой да яе галавы з густымі цёмна-русымі валасамі.

## Раздзел VIII

### I

Незадоўга перад гэтымі падзеямі ў Мінску паявіўся маёр Вольф. Размова маёра з Клямтам на могілках перад Паплавамі была іх апошняй размовай, бо праз кіламетры два Вольфа раніла асколкам міны, якая прыляцела з недалёкага ляска.

Вольф апынуўся ў шпіталі, у Баранавічах, дзе ён праваляўся месяц з лішкам. Выпісаўшыся адтуль, маёр пабыў яшчэ колькі часу там жа, у Баранавічах, у рэзерве і, нарэшце, атрымаў прызначэнне ў Мінск.

Ён прыехаў сюды семнаццатага чэрвеня. З'явіўся да дзяжурнага ваеннай камендатуры, які, паглядзеўшы яго дакументы, папрасіў прысці заўтра да каменданта. Пакуль жа дзяжурны накіраваў яго ў афіцэрскую гасцініцу.

Маёр быў у гасцініцы нядоўга. Справіўшы хутка фармальнасці, неабходныя для ўсялення сюды, ён зайшоў у пакой, дзе стаяў яго ложак. Пакой дастаўся вялікі, высокі, і гэта не спадабалася Вольфу, тым больш, што тут было яшчэ сем ложкаў. Праўда, гэтая акалічнасць яго мала турбавала: колькі тут яму жыць у гэтым пакоі. Можа быць, заўтра трэба будзе ехаць з горада. Ён нават рашыў не браць сваіх двух чамаданаў, здадзеных на вакзале ў камеру захоўвання.

Маёр крыху пастаяў каля акна, абыякава пазіраючы на запылены каштан паблізу, на дамы насупраць: вялікі, чырвоны, і меншы, з аблезлай афарбоўкай.

Рабіць Вольфу не было чаго, і ён падаўся бадзяцца па гораду. На вуліцы было ціха і амаль пуста. На хвіліну ажыўленне прынёс сюды трамвай, які пралескатаў, калі маёр стаяў каля кінотэатра, разглядаючы яркую стракатую афішу. Кінотэатр, пабудаваны «nur für Deutschen»[1] барак з вострым чарапічмым дахам, быў побач з гасцініцай. Вольф паглядзеў, калі пачынаецца бліжэйшы сеанс, і, даведаўшыся, што чакаць нядоўга, узяў білет.

Увечары маёр, якому пасля кіно хутка надакучыла бадзяцца без справы між нудных пустыроў, падаўся ў рэстаран пры фабрыцы-кухні. Рэстаран, як і кінотэатр, быў вельмі блізка ад гасцініцы. Вольф сеў пры століку, які прымыкаў да сцяны, і стаў маленькімі вадзяністымі вачыма разглядваць чатырох афіцэраў, што былі ў рэстаране.

Калі афіцыянткі пачалі апускаць шторы маскіроўкі, у рэстаран увайшло яшчэ некалькі наведвальнікаў — афіцэры і жанчыіны. Адзін з іх, у форме эсэсаўца, стройны, з пешчаным ганарлівым тварам і з вялікімі рукамі, выбіраючы вачыма столік, раптам накіраваўся да маёра.

— О! Вольф! Як ты сюды трапіў?

— Ды так... Прызначэння чакаю...

---

[1] Толькі для немцаў.

Рука Вольфа патанула ў яго руцэ. Эсэсавец пазнаёміў маёра з танклявай, рудаватай, прыкметна палінялай жанчынай, якую ён трымаў за локаць. Яе звалі Ані.

— Ты не супраць таго, спадзяюся, каб мы селі поруч?— ледзь усміхнуўшыся, пацікавіўся эсэсавец.

— Не, сядайце...

Гэта быў штурмбанфюрэр Рэйзе. Вольф пазнаёміўся з ім даўно, яшчэ ў далёкім сорак першым годзе, у час аперацыі пад Растовам, дзе маёр камандаваў ротай у Клейста. Потым больш за два гады яны не бачыліся, і толькі тры месяцы назад, калі Вольф прыязджаў сюды з Барысава, яму выпадкова трапілася спаткаць Рэйзе ў Мінску. Яны тады весела правялі час у адной кампаніі афіцэраў.

Цяпер усе ўтраіх пілі віно і захмялелыя гаварылі пра што прыдзецца. Вольф даведаўся, што Ані працуе ў гестапа. Рэйзе кпіў над Ані, што дарэмна яна стараецца спадабацца маёру, што з гэтага нічога не выйдзе...

— Не плявузгай, Вілі...

— Вось пабачыш, нічога ў цябе не выйдзе...— падбіваў яе Рэйзе.

— Ты ўпэўнены, Вілі?

— Так, вядома.

— Ты не надта рызыкуеш?

— О, не. Тут ніякай рызыкі.

— Праўда?..

— Маёр вельмі добры сем'янін — ён нідзе не забывае пра сваю сям'ю. І акрамя таго... Ён беражлівы. У яго кожная марка на ўліку...

Вольф пачырванеў і непрыхільна зірнуў на эсэсаўца.

— Слухай, штурмбанфюрэр... Калі вы зноў...

— Што зноў?

— Калі вы... гэтыя дурныя жарты...

— Якія жарты?

— Гэтыя!..

Ані паспяшалася іх памірыць; Вольф не прымусіў сябе ўпрошваць,— у яго быў сёння лагодны настрой.

— Ну, добра... толькі няхай гэтыя свае... жарты — пакіне на другі раз...

Ад таго, што вакол было чыста і ціха хадзілі афіцыянткі, і прыемна звінела шкло чарак, Вольфу здавалаея, што вайна недзе далёка, што тут поўны спакой...

Радыёла, што стаяла непадалёк у прасценку між вокнаў, зажурчэла бесклапотна і пяшчотна:

Es geht alles früber

es geht alles vrbei.
Auf jeder Dezember
flgt wieder ein Mai.

Ані стала ціха падсвістваць, весела ківаючы галавою. Вочы яе заблішчэлі памаладзела і мякка.

Ані, якая цяпер амаль увесь час балбатала, запытала Вольфа, як яму падабаецца ў «тылу».

— Ён пагарджае тылавікамі,— сказаў насмешліва Рэйзе.

— Так? Чаму?

— Ён лічыць, што нам дарэмна даюць хлеб...

— Няўжо?— Тоўстыя, з аблізанай фарбай губы Ані сабраліся ў кружок.— Гэта праўда, Вольф?

— Зноў — жарты?

— Ну што вы, маёр! Вы, відаць, хваравіта недаверлівы...

— Не крыўдуйце на яго, Вольф, гэта ў яго такая манера гаварыць... Значыцца, ён няпраўду сказаў?

— Няпраўду. Глупства сказаў... Я ў гэтым тылу ўжо ледзь не адправіўся да прародзічаў. Хай ён будзе пракляты!— злосна прамовіў маёр.

— О, што з вамі было? Гэта цікава — праўда?

— Нічога цікавага!..

— Ну, раскажыце, я хачу ведаць...

Яму прыйшлося апавядаць пра аперацыю «мокры мяшок». Ён стаў узлаваны і пануры, яго важкі нос наліўся чырванню.

— Ты дарэмна злуешся, Вольф,— сказаў яму тонам старэйшага Рэйзе,— ты наіўны. Здзіўляюся, як можна мець дасюль такія патрыярхальныя погляды! Ты думаеш, фронт толькі там...

— Гэта праўда. Вілі, ты — мудрэц!

— Ты думаеш, што я не рызыкую што ночы галавою?.. Я быў у сталовай СД, калі там выбухнула міна, але мяне толькі кантузіла.

— Мы тады разам былі...

— Я вышаў на хвіліну з тэатра, — не адказаўшы ёй, працягваў Рэйзе, — калі там узарвалі партэр... Чорт пабяры, мне на дзіва шанцуе, відаць, суджана сто гадоў жыць...

— Ты шчаслівчык, Вілі.

2

— Штосьці рускія не ў меру разлёталіся цяпер... Ніводнай ночы не прапусцяць — проста спакою ад іх няма... — Зноў загаварыла Ані. — Усё ж гэта дзікая думка ісці ў такі час у рэстаран. Табе заўсёды, Вілі, прыходзяць нейкія дурныя жаданні...

— Ты шкадуеш?
— Так. Шкадую... Чаму я толькі згадзілася, не ведаю...
— Нават — каешся?
— Так.
— Ты на дзіва ўмееш псаваць настрой, сабе і другім...
— Ты яшчэ больш!..
— Умей трымаць сябе... — стрымана, павучальна сказаў Рэйзе.
Вольф прымірэнча адгукнуўся:
— Сёння нічога не будзе.
Рэстаран быў амаль пусты. Радыёла спявала нейкую вясёлую песню, але гэтая песня, відаць, наводзіла на Ані сум.
Раптам песня абарвалася на паўслове, і не паспеў заціхнуць апошні акорд, як пачулася аднекуль з рэпрадуктара трывожнае: «Ахтунг, ахтунг!..» На двары маркотна і цягуча завыла сірэна.
— Ну, вось я і казала! Пачынаецца! — Ані хутка ўскочыла і, дробна перабіраючы ножкамі, кінулася да выхаду. За ёй заспяшаліся Рэйзе і Вольф.
Калі яны выбеглі на двор, самалёты былі ўжо недалёка. У небе скрыжоўваліся, мітусліва бегалі доўгія прамяні пражэктараў. Ударылі гучна зенiткі.
Сядзець у бамбасховішчы прыйшлося доўга. У скляпенні было змрочна і цяжка тхнула сырой зямлёй. Нацята прыслухоўваючыся да выбухаў недзе ўгары, да штуршкоў зямлі, Ані заўважыла каля нагі дзіўны прытоены камяк. Яна кранула яго наском туфля і віскнула з агідай: гэта быў пацук!
«Фі, якая брыдота!» — Ані, гідліва моршчачыся, штурхнула яго. Пацук неахвотна адпоўз.
Час цягнуўся нязмерна доўга, а бамбёжка ўсё не сціхала.
Ані пачала было зноў насвістваць, што пасля кожнага снежня надыходзіць май, але хутка абарвала свіст. Якая нуда сядзець так!..
— Калі гэта ўсё скончыцца! — зазлавала яна.— І няўжо не могуць іх адагнаць, гэтых рускіх?
Скарыстаўшы кароткі перапынак у бамбёжцы, Рэйзе нечакана знік. Ён сказаў, што яму трэба недзе абавязкова быць — неадкладныя справы. Вольф застаўся адзін каля Ані, якая раззлавана маўчала.
Калі Вольф з ёй выбраўся, нарэшце, на двор, яна ні за што не захацела ісці назад у рэстаран.
— Хопіць, я ўжо сытая сёння! Праз меру!.. Леш правядзіце мяне дамоў,— амаль загадала яна. — Я тут — на Камандатурштрасе...

Так немцы называлі вуліцу Карла Маркса. Вольф нязграбна ўзяў яе пад руку, збіраючыся весці, але яна запатрабавала, каб ён выняў пісталет з кабуры і паставіў на баявы ўзвод...

— Нашто гэта?

— Зрабіце. Я прашу.

Ён паслухаўся.

— Ну вось цяпер хадземце...

Яна гаварыла, дзе трэба павярнуць направа, налева.

Калі падышлі да яе кватэры, Вольф намерыўся развітацца, але Ані ўзяла яго за руку:

— Куды вы так спяшаецеся?

— У гасцініцу трэба...

— Управіцеся.

Яна правяла маёра на лесвіцу, адчыніла ключом дзверы.

— Заходзьце... Гэта мае жыллё... Не бойцеся — я жыву адна. Вілі жартам сказаў: адзіночная камера.

Яна гаварыла ціха, мусіць, непакоячыся, што могуць пачуць у суседнім пакоі.

— Сёння мне чамусьці боязна ў маёй адзіночцы,— прашаптала Ані, гуллівa і капрызна.

Яна на момант лёгка прытулілася да грудзей маёра.

— Я сёння баюся адна заставацца...

Вось яшчэ чаго не хапала: дзяжурыць каля гэтай шлюхі, якая надакучыла Рэйзе! Не запальваючы святла і нічога не гаворачы Вольфу, яна хутка распранулася і забралася пад коўдру. Маёр хвіліну пачакаў, вагаючыся.

— Вольф! А вы што ж? Як у гасцях...

— У гасцініцы будуць чакаць...

— Будуць чакаць? Хто? Сястра ці жонка?

Яна засмяялася.

— З камендатуры могуць паклікаць...

— Уночы?.. Вам, мусіць, у гасцініцы лепш?! Ну! Які вы ваўчок!

Ані пстрыкнула запальнічкай, закурыла.

— Ладуйцеся ж. На канапцы, каля акна!..

Яна сказала апошнія словы так, нібы падсмейвалася.

Вольф памацаў край канапы, стаў раздзявацца. Цьмяна бялеючы ў цемры споднікамі, тупаючы босымі нагамі, падаўся да ложка, да яе.

— Зачыні зашчапку, — загадала яна.

Уранку, перад тым як ісці да каменданта, ён забег у гасцініцу. Дзяжурная, пажылая, вельмі разбухлая немка, сказала яму:

— А мы тут, гер маёр, непакоіліся за вас, Думалі, што пад бомбу папалі... Ці, мой бог, задушылі дзе-небудзь на цёмнай вуліцы...

3

У гэты час штурмбанфюрэр Рэйзе быў на аэрадроме. Ён суправаджаў свайго начальніка, групенфюрэра Готберга.

На аэрадроме было ціха і пуста, і ніхто б не падумаў, што тут зараз могуць адбывацца якія-небудзь важныя падзеі. Роўнае, голае, з пажоўклай дзе-ні-дзе травою аэрадромнае поле спакойна млела сабе пад сонцам, і такім жа спакойным здавалася і блакітнае глыбокае неба. Адзіным, што парушала спакой неба, былі два знішчальнікі, якія патруліравалі аэрадром.

А між тым дзень быў не зусім звычайны. Невялікая група, што стаяла каля барака аэрадрома, складалася амаль уся з высокапастаўленых нямецкіх генералаў і афіцэраў на чале з самім генерал-камісарам. Генералы і афіцэры пахаджвалі, зрэдку перакідваліся словамі, часта пазіралі ў заходні бок на небасхіл.

Чакалі прылёту спецыяльнага ўпаўнаважанага фюрэра генерал-лейтэнанта Баумволя.

Місія генерала была Рэйзе невядома, але ён разумеў, што генерал ехаў сюды не са звычайнымі паўнамоцтвамі. Рэйзе добра ведаў генерала, ведаў яшчэ з той пары, калі Баумволь быў кіраўніком нацысцкай арганізацыі ў тым горадзе, у якім вучыўся хлапчуком будучы штурмбанфюрэр. Баумволь неаднойчы прыходзіў да яго бацькі ў госці. Неўзабаве Баумволя перавялі на працу ў Берлін, і ён за некалькі год зрабіў такую бліскучую кар'еру, так падняўся, што ў доме Рэйзе гаварылі пра яго як пра вялікага чалавека. Гаварылі, што ён мае асобую прыхільнасць у фюрэра.

Рэйзе вельмі цікавіла, з якімі паўнамоцтвамі ён ляціць.

Ледзь у небе з усходняга боку акрэсліліся абрысы пасажырскага самалёта, які браў кірунак на аэрадром, усе заварушыліся, узрушана загаварылі.

Самалёт ішоў у суправаджэнні трох знішчальнікаў. Ён зрабіў нізка над аэрадромам паўкруга і, выраўняўшы крылы, хутка пайшоў на пасадку. Калі ён падрулiў да месца, дзе звычайна спыняліся самалёты, яшчэ да таго, як перасталі раўсці маторы, група, што чакала, падалася да машыны.

Генерал, высокі, хударлявы, з акулярамі, у шэрым летнім паліто, лёгка сышоў па лесвічцы, прывітаўся, выкінуўшы ўперад угару руку. Заўважыўшы сярод генералаў і высокіх цывільных «чыноў» Рэйзе, які стаяў за сваім начальнікам, ён затрымаў на ім позірк, недаўменна

нахмурыўся, стараючыся, відаць, прыпомніць. Генерал, аднак, не запытаўся нічога.

— К машыіне... — суха сказаў ён Готбергу.

Генерал-камісар павёў яго да машыны, што выехала насустрач. Каля машыны ўпаўнаважаны, ужо адчыніўшы дзверцы, раптам азірнуўся да штурмбанфюрэра і запытаўся стрымана:

— Вілі Рэйзе?..

Рэйзе з радасцю, адчуваючы на сабе агульную ўвагу, адрапартаваў:

— Я, мой генерал! Штурмбанфюрэр Рэйзе.

Ён быў задаволены, што Баумволь пазнаў, — пазнаў і назваў не афіцыйна, а па імені «Вілі».

Генерал па-бацькоўску міласціва, ужо без ранейшага холаду, кіўнуў яму.

Уся сустрэча гэтым і закончылася. Праз хвіліну на полі ўжо нікога з тых, што сустракалі, не было.

Генеральны камісар запрасіў упаўнаважанага паехаць у яго дом, і Баумволь неўзабаве быў у адным з пакояў камісарскага асабняка. Тут ён развітаўся з Рэйзе, прамовіўшы напаследак:

— Я бачу, Вілі, што друг мой Отто мае сапраўднага сына. Спадзяюся, мы яшчэ пабачымся.

— Я буду мець гэта за чэсць, генерал,— адказаў з пашанай Рэйзе.

Больш Рэйзе не даводзілася бачыць генерала ў гэты дзень.

Баумволь развітаўся і з Готбергам, сказаўшы, што стаміўся і хоча адпачыць.

Ён пазваніў гаспадару і вышаў да яго ўжо ўвечары.

Седзячы за сталом, вячэраючы, п'ючы віно, генерал з далікатнасцю свецкага чалавека расказваў пра берлінскае жыццё, і фрау-гаспадыня, апранутая ў багатае аксамітнае вячэрняе плацце, са старанна ўкладзенымі і закручанымі падфарбаванымі валасамі, уздыхала, успамінаючы вялікі горад, тэатры, шумлівыя вуліцы, багатыя магазіны.

— Тут такая нуда, — паскардзілася яна, і на твары яе з'явіўся выраз капрызнага і раней пешчанага, несправядліва пакрыўджанага чалавека. Яна паглядзела на мужа, чакаючы, што ён падтрымае яе, а можа, сочачы, як ён пастаўіцца да яе слоў.

Муж аб'ядаў парасячае рабро і быў, здавалася, цалкам заняты гэтай справай. Ён нібы не чуў яе слоў. Фрау-гаспадыню гэтая недалікатнасць мужа непрыемна кальнула, і яна падумала, колькі разоў ёй

даводзілася чырванець за яго няўважлівасць, бестактоўнасць. Яна наогул лічыла, што ён быў грубы, заўсёды грубы чалавек.

— Салдацкая доля! —прамовіў са спачувальнай усмешкай госць. — Яна адна тут і ў мужоў, і ў іх падруг.

Генерал наліў ёй віна, потым гаспадару і сабе, падняў сіні з залатой каёмкай бакальчык — за спадарожніц! Гаспадыня з удзячнай усмешкай, усмешкай царыцы, зіхкаючы каменнямі на бледных пальчыках, паднесла да яго свой бакальчык. Яна была проста ў захапленні ад генерала.

Гадзіне а дзесятай генерал устаў, нахіліўшы да гаспадыні галаву з зачасанымі на бок рэдкаватымі і рудаватымі валасамі, далікатна пацалаваў руку гаспадыні і разам з генеральным камісарам вышаў у свой пакой.

Застаўшыся адзін на адзін з Готбергам, ён быў ужо не такім мяккім, усмешлівым, твар яго, шараваты, касцісты, неяк асунуўся і нібы падаўжэў. Сашчэпленыя тонкія губы і халаднаваты позірк надавалі яму выраз волі і ўнутранай сабранасці. Хоць у тым, як трымаў сябе Баумволь, не было прыкметна фанабэрыі, Готберг, аднак, адчуваў да яго насцярожанасць. Можа, гэта такі ўжо закон жыцця, што ўсе ўпаўнаважаныя прымушаюць адносіцца да іх асцярожліва.

— Вы задаволены Рэйзе? — запытаўся Баумволь, закурваючы сігарэту.

— Так. Ён энергічны, здольны.

— Здольны?

— Так.

— Я добра ведаў яго бацьку Отто Рэйзе. Отто зрабіў нам калісьці не адну паслугу...

Готберг кіўнуў галавою. Ён адчуваў, што ўпаўнаважаны хутка загаворыць пра больш цікавыя рэчы, і чакаў гэтага. Але Баумволь не спяшаўся. Апусціўшыся на мяккае крэсла, ён курыў, разглядваў карціну, што вісела насупраць: пейзаж з кучаравым ляском, вострымі чарапічнымі дахамі і мірным старасвецкім пастухом са статкам авечак.

— Якая фальш?—прамовіў ён незадаволена.

— Што?

— Гэта — авечкі, пастух. Цішыня...

— Так, старое...

— Генерал, мае паўнамодтвы ў асноўным датычацца фронта, — сказаў упаўнаважаны пасля паузы, як бы адказваючы на думкі Готберга.— Аднак я маю некаторыя даручэнні і ў адносінах вас.

Готберг, што адразу ажывіўся, спаткаўся позіркам з упаўнаважаным.

— Фюрэр незадаволен вынікамі акцый супраць партызан. Ён не давярае вашай інфармацыі, на яго думку, яна не дастаткова аб'ектыўная. Ён лічыць, што становішча ў вас нездавальняючае. Фюрэр лічыць, што вы не ўжылі дастаткова захадаў, не праявілі дастатковай цвёрдасці для стабілізадыі становішча...

Генерал пастукаў муштуком аб край попельніцы, асыпаў попел.

— Актывізацыя бандыцкіх труп на нашых камунікацыях выклікала яго незадавальненне работай тылавых устаноў на ўсходзе. Ён лічыць, што такое становішча нельга цярпець далей, што яно ставіць перад вялікімі цяжкасцямі нашы войскі. Гэта тым больш занепакоіла фюрэра, што фельдмаршал Кейтэль падаў у часе апошняга даклада абстаноўку ў тылах войск у вельмі сумным выглядзе...

Готберг нецярпліва паварухнуўся.

— Але ж у акцыях супраць бандытаў былі скарыстаны і ваенныя сілы. Гэта не толькі мая справа.

— Адказнасць за іх фюрэр ускладае на вас...

Баумволь замоўк. Ён маўчаў даволі доўга, прыплюшчыўшы вочы за акулярамі і аб нечым сам сабе думаючы. За дзвярамі ў сталовай чуўся звон пасуды: відаць, прыбіралі са стала.

— Абстаноўка, лічыць фюрэр, патрабуе новых захадаў да таго, каб умацаваць становішча «а ўсходніх землях, у тым ліку і ў Вайсрутэніі... Нельга абмяжоўвацца ў сродках — акцыі супраць бандытаў трэба дапоўніць іншымі захадамі, больш гнуткімі, дыпламатычнымі. Мы не можам абапірацца на адну зброю. Фюрэр лічыць, што вы недаацэньваеце гэтыя сродкі... Неабходна ў сувязі з гэтым, лічыць фюрэр, паскорыць афармленне самастойнасці для Вайсрутэніі. Трэба ў самы хуткі час склікаць кангрэс і аб'явіць ад імя Германскай дзяржавы самастойнасць. Падумайце, старанна падрыхтуйце склад урада, натуральна звяртаючы асаблівую ўвагу на адданасць членаў урада... Гэты акт — аб'яўленне самастойнасці — можа зрабіць добрае ўражанне на частку патрыятычна настроанага насельніцтва Вайсрутэніі...

— Мы пачалі ўжо некаторыя падрыхтоўчыя захады, мой генерал.

— Трэба пераходзіць ад падрыхтоўчых захадаў да канкрэтных спраў. Ствараецца такое становішча, што мы не можам валаводзіцца з падрыхтоўчымі мерапрыемствамі.

На гэтым госць спыніў размову. Генеральны камісар, згадаўшы, з чаго пачалася размова, запанурыўся: не, прадчуванне не ашукала яго — з упаўнаважанымі заўсёды нейкая непрыемнасць прыдзе ў тваё жыццё. І клопаты, і непрыемнасць.

— Заўтра мне трэба спаткацца з генерал-фельдмаршалам...

— Машыны і ахова будуць арганізаваны, генерал. На які час?

— На раніцу. Я хачу паехаць а сёмай. Дарэчы, пашліце са мной Рэйзе...

Баумволь даў знак гаспадару, што размова скончана і што ён хоча застацца адзін.

Генеральны камісар пажадаў яму спакойнай ночы, казырнуў і вышаў.

4

Яны ўжо селі за стол, засланы абрусам, на якім былі пляшкі з віном, чаркі, талеркі з закускай, калі генерал-фельдмаршала папрасілі ў кабінет да тэлефона. Фельдмаршал незадаволена паморшчыўся, раздражнёна запытаўся, хто звоніць і, кінуўшы на стол салфетку, устаў.

— Прашу прабачэння...

Баумволь і Рэйзе засталіся адны за сталом. Генерал, прыпершыся грудзямі да стала, прыплюшчыўшы вочы, думаў аб нечым сваім, ніжняя губа яго, рэзка акрэсленая, незадаволена ўздрыгвала.

— У цябе, Вілі, нездаровы выгляд, — прамовіў ён раптам, не пазіраючы на Рэйзе.

— Я адчуваю сябе добра, генерал...

— У твае гады я выглядаў лепш... — Ён усім тулавам павярнуўся да штурмбанфюрэра, вочы за шкельцамі акуляраў зірнулі на Рэйзе дзіўна пільна. — Жанчыны, відаць, вінаваты.

Ён не даў адказаць Рэйзе.

— Жанчыны вельмі зношваюць мужчыну. Ты малады і яшчэ не можаш ведаць, як дорага плоцім мы за мімалётныя ўцехі. Яны бяруць у нас многа сілы, і многа часу, які можна было б скарыстаць на іншыя, значныя справы...

— Недасыпаю начамі, генерал. Неспакойна начамі...

— Рускія самалёты?

— Так. Яны наведваюцца ў апошні час са здзіўляючай настойлівасцю. Вам пашанцавала, генерал, мінулая ноч — адна з нямногіх ціхіх начэй... Мы адвыкаем спаць...

— У Германіі, Вілі, цяпер таксама многа людзей, якія развучыліся спаць па начах. Так, развучыліся... Я адпачываю па-сапраўднаму, калі выбіраюся з Берліна ў вілу...

Ён устаў, падышоў да краю веранды і пачаў паглядаць у садок, што падступаў да фельдмаршальскага асабняка з гэтага боку. Садок быў невялікі, усяго некалькі дрэваў. Між дрэваў жаўцела роўная дарожка, пасыпаная пясочкам, а перад самай верандай пярэсціў рознакаляровымі кветкамі старанна дагледжаны газон.

Пачуўшы, што фельдмаршал вярнуўся, Баумволь азірнуўся да яго:

— Вы, аказваецца, любіце кветкі?

— Так.

— Гэта добра. Кветкі надаюць чалавечаму жыллю ўтульнасць і — як бы гэта сказаць... — гаспадарскі выгляд. Адчуваецца, што не госць, а гаспадар жыве...

— Я ўсюды адчуваю сябе гаспадаром,— лаканічна адказаў фельдмаршал.

Ён наліў віна і прапанаваў выпіць за фюрэра. Пасля гэтага ён не надта гасцінна змоўк, адно падкладваў і падкладваў сабе ў талерку ды жаваў.

— Я ўчора яшчэ раз адчуў, як наблізіўся ўсходні фронт да Германіі, — першы загаварыў Баумволь.— Ад Берліна тры гадзіны лёту — і фронт! Мінск — гэта ўжо фронт.

— Так, фронт, — згадзіўся фельдмаршал.

— Але ж гэта не самая блізкая адлегласць. Гэта балкон, што навіс над рускімі... Мы стаім перад вялікай пагрозай. Пагроза гэтая ўжо амаль перад Германіяй.

— Яна заўсёды была над Германіяй.

— Пагроза, фельдмаршал, яшчэ ніколі не была такой рэальнай, такой трывожнай. Гэтае адчуванне пагрозы цяпер усюды ў нас. Уся Германія насцярожана чакае, прыслухоўваецца. Прыслухоўваецца да гулу бамбардзіроўшчыкаў, чакае, што будзе на ўсходзе, дзе каласальная руская армія рыхтуе невядомыя планы... Настала пара, калі свет павінен убачыць веліч германскага духу.

— Германская армія яшчэ не аднойчы здзівіць свет, — адказаў спакойна фельдмаршал.

Рэйзе не ўмешваўся ў іх гаворку. Ён толькі слухаў, паглядваючы то на аднаго, то на другога, прафесійным вокам адзначаючы сабе іх дачыненні. Фельдмаршал, хоць і выказваў генералу-ўпаўнаважанаму ўсе знакі, пашаны, разам з тым трымаўся сухавата, нават самаўпэўнена, як чалавек, які пераканаsucc ў сваёй сіле, у сабе. Стары, заслужаны ваенны, ён, адчуваў штурмбанфюрэр, у душы звысака адносіўся да генерала, які, маючы вялікае званне, не меў вялікіх ваенных заслуг. Партыйныя заслугі Баумволя для фельдмаршала значылі, відаць, вельмі мала.

Фельдмаршал, аднак, крыху пабойваўся ўпаўнаважанага, — недарма ён трымаўся насцярожана і часцей лічыў за лепшае паслухмяна згаджацца ці гаварыць аптымістычныя ісціны. Баумволь таксама адчуваў халаднаватасць камандуючага, і Рэйзе заўважаў, што

генерал стараўся плаціць тым, што атрымліваў. Ён адносіўся да фельдмаршала таксама і ветліва, знешне, і холадна, высакамерна, у душы.

— Якія вашы меркаванні пра нашы перспектывы на лета? — запытаўся ўпаўнаважаны, падліваючы ў шклянку з чорным кофе каньяку.

— Я ўжо дакладваў пра гэта фельдмаршалу Кейтэлю,—лаканічіна адказаў камандуючы.

Ён коса глянуў на Рэйзе, і Баумволь папрасіў штурмбанфюрэра пакінуць іх адных. Рэйзе, пачырванеўшы, падняўся.

Фельдмаршал выцер руку аб салфетку, паклаў яе. Памаўчаў.

— Я думаю, што найбольш небяспечны для нас правы фланг. Ковельскі ўступ, які абмяжоўвае наш «балкон». Варта зламаць абарону ў раёне Ковеля, і «балкон» можа апынуцца перад катастрофай.

— «Балкон» можа абваліцца?

— Можа стварыцца вельмі цяжкае для нас становішча.

— Фельдмаршала Кейтэля таксама непакоіць Ковельская яма, — прамовіў Баумволь.

Генерал зрабіў доўгую паузу.

— Фюрэра турбуе дзіўнае маўчанне рускіх у вашым раёне. Ужо сярэдзіна чэрвеня, фельдмаршал, а рускія маўчаць. Гэта маўчанне павініна, я лічу, насцярожваць нас.

— Па нашых разліках, яны даўно павінны былі пачаць спробы наступаць...

— Што гаворыць разведка? Ёсць доказы таго, што рускія рыхтуюцца?

— Гэта тое, што нас найбольш цікавіць цяпер. На фронце ў рускіх звычайнае жыццё. Ніякіх сур'ёзных фактаў на тое, што яны маюць намер наступаць. Авіяцыя выявіла нават, што рускія ўсцяж усяго фронта капаюць акопы... Але мы, вядома, не можам думаць, што рускія будуць пасіўнымі і надалей.

— Так, рускія не могуць адмовіцца ад спроб зламаць «балкон». Гэта аксіёма.

— Бясспрэчна. Наступленне іх трэба чакаць і, магчыма, у бліжэйшы час. Самае важнае, што нас цікавіць і чым займаецца разведка, — гэта — адкуль яны паспрабуюць ударыць і — калі. Мы гэтага не ведаем... Нам прыходзіцца, генерал, распыляць сілы, размяркоўваючы па ўсім фронце...

— Так, у наступаючых ёсць адна бясспрэчная перавага: яны могуць выбіраць. Збіраць войскі ў кулак і выбіраць месца для ўдару...

— Наша лінія фронта празмерна расцягнута... Стаўка не мяркуе выдзяліць для нас яшчэ войск? — сказаў няўпэўнена фельдмаршал.

— Мы ўжо знялі з захаду некалькі дывізій, фельдмаршал. Яны тут, на ўсходзе. Мяне прасілі напомніць вам, што сюды аддадзены лепшыя дывізіі, цвет германскай арміі...

— Я гэта ведаю. — Фельдмаршал незадаволена засоп: яму не спадабалася павучальная манера гаворкі ўпаўнаважанага.

— Фюрэр надае вельмі важнае значэнне становішчу групы «цэнтр». Вынікі вашых аперацый, фельдмаршал, будуць мець не толькі ваеннае, але і палітычнае значэнне, ад вас залежыць у вялікай меры прэстыж германскай дзяржавы ў гэты адказны час. Крушэнне будучага рускага наступлення магло б значна ўмацаваць аўтарытэт Германіі, умацаваць нашы палітычныя пазіцыі...

У садзе калыхнуліся ад наляцеўшага парыву ветру дрэвы. Хваля яго ўварвалася на веранду, сыпнула на беласнежны абрус пяску, збіла на падлогу салфетку генерала.

Фельдмаршал незадаволена паморшчыўся. Ён гукнуў салдата, які прыслужваў за сталом, і той ураз уляцеў на веранду, выцягнуўся, гатовы да ўсяго.

— Пясок. Салфетка, — павёў вачыма фельдмаршал, і салдат кінуўся змятаць пясок са стала. Праз момант ён прынёс чыстую салфетку.

Калі ён вышаў, Баумволь недаверліва азірнуўся:

— Нас не могуць чуць?

Фельдмаршал пакруціў галавою.

— Важная вестка, — упаўнаважаны наваліўся грудзямі на стол, наблізіў твар да фельдмаршала. — Берлін мае намер пачаць сакрэтныя перагаворы з Лонданам і Вашынгтонам. У нас, лічаць, ёсць сур'ёзныя шансы дамовіцца. Англа-саксы, вядома, будуць выгадваць, прынюхвацца. Наш поспех там будзе залежаць у вялікай меры ад вашых поспехаў тут, разумееце?

Фельдмаршал уважліва паглядзеў на генерала, нібы хацеў яшчэ штосьці дазнацца.

— Вы гаворыце вельмі цікавыя рэчы, генерал...

— Больш я не магу нічога сказаць. Усё, што я паведаміў вам, вы павінны здагадвацца,— дзяржаўная тайна. Аб ёй ведаюць толькі некалькі чалавек... Час мяняецца, — прамовіў ён інакшым тонам,— калісьці генералам трэба было ведаць толькі вайну. Цяпер належыць быць і палітыкам.

Упаўнаважаны, ледзь падняўшы куточкі тонкіх губ, усміхнуўся. Фельдмаршал не адказаў на яго ўсмешку, — камандуючы думаў над пачутай нядаўна весткай.

— Што вы можаце, фельдмаршал, сказаць пра назначэнне рускімі генерала Чарняхоўскага?

— Пакуль амаль нічога,— адарваўся ад сваіх думак фельдмаршал, — акрамя таго, што Чарняхоўскі — малады, энергічны генерал. Ён, як лічаць рускія, добра праявіў сябе пад Кіевам і зрабіў маланкавую кар'еру, Відаць, рускія ўскладаюць на яго нейкія свае надзеі...

— Ці не значыць назначэнне маладога, энергічнага генерала, што рускія не збіраюцца тут сядзець?

— Можа быць... У маладосці многа энергіі, але, звычайна, мала вопыту... У іх ёсць Ракасоўскі, на паўднёвым флангу. Мяне асабіста больш непакоіць Ракасоўскі. Гэта вельмі вопытны, небяспечны працаўнік...

— Ракасоўскі— так, небяспечны,— згадзіўся Баумволь.

Ён устаў, абцягнуў мундзір, павярнуўся к саду за верандаю. У гэты час вецер, падняўшы ў садзе пыл і пясок, зноў уварваўся на веранду, дыхнуў у твар Баумволя халадком. Генерал мімаволі прыжмурыў вочы за акулярамі. Зірнуўшы незадаволена ў той бок, адкуль уляцеў вецер, дзе зашумелі дрэвы, заўважыў, што за садам на белавата-мутнае воблачнае неба наплывае сіняя, панурая, з чорнымі краямі і дном, важкая шырокая хмара.

— Навальніца, відаць, збіраецца.

Фельдмаршал таксама паглядзеў на неба.

— Будзе.

5

Лейтэнанту Клямту выпала ў той вечар спаткацца з высокімі генераламі.

Ён ужо амаль цэлы месяц жыў на непрыкметным, мокрым астраўку, акружаным балотам, куп'ём, асакою. З астраўка была добра відаць недалёкая магістраль, на якой размяшчаліся суседнія роты, камандны пункт батальёна, была відаць суша. Усцяж магістралі яшчэ дзе-ні-дзе віднеліся пашчапаныя, пакалечаныя тэлеграфныя слупы.

Магістраль амаль увесь час то абстрэльвалі, то бамбілі, і Клямт на сваім мокрым астраўку не зайздросціў тым, каму выпала жыць на сушы.

Клямт убачыў генералаў не ў сябе на астраўку, а ў камандзіра батальёна. Пра іх прыезд і Клямт, і батальённы даведаліся ўжо тады, калі начальства выправілася са штаба палка. Батальённы, рослы, негаваркі баварац, што сядзеў у сарочцы, паспешліва ўсцягнуў на плечы мундзір і загадаў салдату прыбраць у памяшканні. Сам ён таксама кінуўся рабіць парадак. Па тым, як ён сябе паводзіў, Клямт

бачыў, што сустрэча, якая зараз мелася быць, яго нямала ўсхвалявала. Прыбраўшы ў бліндажы, батальённы, пакрыху спакайнеючы, стаў званіць у роты, загадваючы праверыць, ці ўсё ў парадку, і не адкрываючы прычыны сваёй трывогі.

Толькі пасля гэтага ён паведаміў Клямту, што перадалі яму са штаба. Паведаміў адным словам:

— Фельдмаршал!..

Ён цяпер быў нават задаволены, ва ўсякім разе, так здалося Клямту, бо баварац быў чалавекам скрытным і выглядаў, як звычайна, спакойным.

Батальённы спаткаў генералаў з такім спакоем і такой упэўненасцю, што Клямт, чалавек таксама не бянтэжлівы, проста падзівіўся з яго. Батальённы вельмі выразна, без запіначкі далажыў, і з гатоўнасцю і разам з тым не губляючы сваёй годнасці стаў адказваць на запытанні. Ён умеў паказаць і вялікую пашану да высокіх гасцей і не панізіць лішне сябе.

Клямт заўважыў, што камандзір дывізіі, строгі і прыдзірлівы, быў задаволены абыходжаннем і паводзінамі баварца.

Незнаёмы Клямту генерал-лейтэнант раптам бліснуў у бок ротнага, што моўчкі назіраў ды слухаў, не варушачыся, амаль не дыхаючы, і запытаўся, хто гэта.

Баварац адказаў, і генерал павярнуўся да лейтэнанта:

— Дзе ваша рота?

Клямт сказаў, што рота размяшчаецца праз пяцьсот метраў адсюль.

— Вы правядзеце нас, — прамовіў генерал такім тонам, што нельга было зразумець, просіць ён ці загадвае. Генерал зірнуў на фельдмаршала:—Я спадзяюся, гер генерал-фельдмаршал, што вашы намеры супадаюць з маім жаданнем?

Фельдмаршал ледзь нахіліў галаву. Генерал з выглядам чалавека, які не хоча марнаваць час, загадаў Клямту весці, адступіў убок, нібы даючы дарогу. Тут да Клямта падскочыў, гатовы рынуцца з ім, стройны, прыгожы штурмбанфюрэр з генеральскай аховы. Але баварац асмеліўся запыніць генерала, сказаўшы, што туды ісці нельга.

— Чаму?

— Балота, мой генерал.

Генерал — гэта быў Баумволь — правёў дапытлівым позіркам па лейтэнанту, заўважыў, што той мокры вышэй каленяў, у яшчэ не ўсюды засохлых плямах твані. Відаць, генерал усё-ткі не спыніўся б, але камандзір дывізіі сказаў, што той участак абароны мала цікавы, і гэта было прычынай таму, што ўпаўнаважаны змяніў свой намер.

— Вы проста ў балоце ўмацаваліся? — пацікавіўся генерал у Клямта, які яшчэ чакаў загаду ісці.

— Маленькі астравок.

— А-а...

Камандзір дывізіі паведаміў, што амаль трэць дывізіі сядзіць у балоце, у вадзе. Падхапіўшы словы камандзіра дывізіі, Клямт смела, задаволена сказаў, што хоць і кепска на балоце жыць, затое і рускім будзе з ім клопату.

— Многа клопату!

Генерал усміхнуўся, — праўда, скупавата, стрымана, але ўсміхнуўся. Відаць, адказ яму ўсё ж спадабаўся. Фельдмаршал з павагай, спачувальна прамовіў:

— Гэта адказ салдата. Вы былі салдатам?

— Яволь, гер фельдмаршал.

— Я таксама... Мяне самога здзіўляе германскі салдат, — фельдмаршал дабрадушна зірнуў на Баумволя. — Здзіўляе сваім уменнем прыжывацца ў любым месцы.

— О, так. І ў любых умовах...

Клямт прыняў словы фельдмаршала за пахвалу сабе. Стоячы нерухома, ён сачыў то за фельдмаршалам, то за генералам, сачыў задаволеным, адданым позіркам. У гэтым позірку была і затоеная цікаўнасць да незнаёмага генерала. Клямта вельмі інтрыгавала тое, што хоць генерал і быў значна ніжэй за фельдмаршала званнем, абыходзіўся з ім як роўны з роўным. Лейтэнант здагадваўся, што гэта нейкая важная асоба.

— Як вядуць сябе рускія? Не збіраюцца наступаць яны?

Клямт адчуў, што пытанне гэтае генерал сказаў зусім інакш, чым пытанне пра балота, што генерал чакае сур'ёзнага, грунтоўнага адказу. Ён падумаў, што сказаць.

— Яны спрабавалі наступаць, гер генерал, але ім не ўдалося. Яны цяпер маўчаць...

— Маўчаць... Я гэта без вас ведаю, — генерал незадаволена смыкнуў губою. — Колькі яны будуць маўчаць?

— Гэта пакуль невядома. Мы захапілі некалькі палонных, але яны ўпарта гавораць, што ў рускіх ціха...

— Вы іх добра дапыталі?— Генерал бліснуў акулярамі на камандзіра дывізіі.

— Добра, гер генерал.

Упаўнаважаны нечакана катэгарычна запярэчыў:

— Не, дрэнна.

У бліндажы стала вельмі ціха.

— Сярод іх павінны быць, якія ведаюць патрэбную нам загадку. Павінны быць! Ніякай літасці — да іх! Гарачым жалезам выцягваць з іх! Гарачым!.. Рэйзе, — гукнуў ён.

Тонкі, перацягнуты поясам штурмбанфюрэр казырнуў.

— Займіцеся палоннымі! Пагаварыце вы!

— Яволь, генерал! — Штурмбанфюрэр гатоў быў хоць зараз кінуцца выконваць загад,— ён нагадваў цяпер каршуна, які нарыхтаваўся ўчапіцца ў здабычу.

Клямт ужо з непакоем чакаў, што яшчэ зажадае даведацца генерал, але генерал павярнуўся да батальённага і сказаў, што хоча пазнаёміцца з абарончымі збудаваіннямі..

Калі генералы вярталіся з размяшчэння батальёна ў тыл, было ўжо за поўнач. Пярэдні край, які заставаўся ззаду, праводзіў іх дрымотным спакоем, — толькі кулямёт, нібы спрасонку, ускінуўся, залапатаў, але, пераможаны цішынёю, адразу змоўк.

Фельдмаршал, што ішоў побач з панам упаўнаважаным, запытаўся, якое ўражанне зрабілі на генерала абарончыя збудаванні. Баумволь яшчэ раней заўважыў, што фельдмаршал ганарыцца гэтым, і генерал, якога раздражняла самаўпэўненасць, скрытая непашана старога ваеннага, адчуў, што яму хочацца сказаць камандуючаму непрыемнае. Ён адказаў стрымана:

— Я лічу, што збудаванні — нядрэнныя. Нашы інжынеры, відаць, не патрацілі марна гэтую вялікую перадышку ў баях. У мяне, вядома, ёсць некаторыя заўвагі, але я іх скажу пазней, калі стане больш відным агульны абсяг. Я не хачу паўтарацца... Як гэта сказаў камандзір роты пра рускіх? Пра балоты?

— Яны будуць мець многа клопату, гер генерал,— падказаў камандзір дывізіі.

— Так, многа клопату! Ім, вядома, будзе многа клопату і з нашымі інжынерамі. Са збудаваннямі нашых інжынераў. Трэба толькі, каб дух салдат, якія займаюць іх, быў такі ж моцны, як гэтыя збудаванні...

— Нашы салдаты, генерал, заўсёды былі стойкімі ў абароне. — Фельдмаршал, відаць, быў незадаволены адказам Баумволя.

Камандзір дывізіі, маўклівы, пануры, сказаў, што яго дывізія з гэтых збудаванняў адступіць толькі па загаду.

—Яна не павінна адступіць ні ў якім разе.

— Дазвольце генерал... Я сказаў: толькі па загаду...

— Такога загаду не будзе, — адрэзаў суха пан упаўнаважаны.

Некалькі хвілін ішлі моўчкі. Поруч генерал-упаўнаважаны чуў цяжкае сапенне фельдмаршала.

— Балоты... гэта вельмі добра, — прамовіў Баумволь амаль тонам прабачэння перад фельдмаршалам. — Самім богам, здаецца, яны тут прызначаны для нас...

Фельдмаршал не адказаў. У твар ім раптам ударыла парывам моцнага халоднага ветру, і фельдмаршал схапіўся за фуражку, каб не сарвала. Пан упаўнаважаны набычыўся, падняў каўнер летняга генеральскага паліто, полы якога прыліплі да ног, нібы стрыножыўшы, сталі замінаць ісці.

Пан упаўнаважаны заўважыў,— у тым баку, адкуль яны ішлі, успыхнула маланка. Там панавала навальніца. Вецер данёс пагрознае басавітае водгулле недалёкага грому. Навальніца з маланкамі, з грамамі, з бураю хутка набліжалася сюды.

Чорнымі былі хмары наперадзе, чорным было неба, і толькі гарачыя ўспышкі маланак час-ад-часу разрывалі гэту чарнату. Але яны не радавалі, а рабілі ўвесь малюнак яшчэ больш неспакойным.

Генералу-ўпаўнаважанаму стала трывожна.

## Раздзел IX

### 1

У брыгадзе Бяссонава чакалі камісію са штаба фронта. Не толькі маладыя, але і бывалыя афіцэры, што бачылі ўсяго на фронце, хваляваліся, быццам курсанты перад экзаменам.

Рыхтаваўся да гэтай праверкі і Аляксей Лагуновіч, які хоць і стараўся ўдаваць сябе бесклапотным, таксама завіхаўся больш, як звычайна. Востры на язык Быстроў нават шапнуў на вуха Сонцаву з гэтага поваду:

— У нас два абсалютна спакойныя чалавекі — Якавенка і Рыбакоў. А наш старшы лейтэнант, як вучань, непакоіцца.

Цэлымі днямі займаліся ў полі, бясконца чысцілі і змазвалі механізмы і прыборы машын, кожную ноч ускаквалі па «трывозе». І ўсюды бачылі перад сабой няўрымслівага стожыльнага палкоўніка, які неяк упраўляўся ўсё ўбачыць, усё ўвесь час трымаць пад прыдзірлівым наглядам. Ён агледзеў, і не адзін раз, кожную машыну, не адзін раз прымусіў мыць і мыць іх, зрабіў вялікую «чыстку», зноў выкідваючы з танкаў усё лішняе.

Як жа пастражэў ён, калі даведаўся, што брыгаду едзе правяраць сам камандуючы фронтам.

— Ну, падвядзі мяне цяпер! — пагразіў палкоўнік Аляксею.

Камандзір брыгады ніяк не мог забыць даўняй сустрэчы Аляксея з Чарняхоўскім, даравать старшаму лейтэнанту заўвагу камандуючага.

Старшы лейтэнант абышоў у апошні раз перад праверкай экіпажы, даючы парады, стараючыся знайсці, ці няма якіх-небудзь непаладкаў.

Ён у гэтыя дні адчуваў асаблівы ўздым — прыліў энергіі, быў у тым добрым настроі, калі мог, не стамляючыся, працаваць цэлымі суткамі. Яго абавязак супадаў з жаданнем.

Аляксей убачыў Чарняхоўскага ўжо на маршы: брыгада атрымала задачу, увайшоўшы ў прарыў, дзейнічаць ва ўмовах глыбока прарванага фронта ворага. Чарняхоўскі стаяў каля пераправы з Бясонавым і яшчэ некалькімі генераламі і афіцэрамі і, сочачы за танкамі, штосьці гаварыў палкоўніку...

«Не здарылася б чаго,— мімаволі падумаў Аляксей пра роту. — Бясонаў тады ўсё жыццё будзе прыпамінаць...»

Яшчэ раз старшы лейтэнант убачыў Чарняхоўскага, калі яго рота на ўзлессі ладавалася для атакі. За бярозавым і асінавым падлескам слалася перад ім незасеянае бура-зялёнае поле.

Чарняхоўскі стаяў поблізу, у бярэзнічку, сочачы за танкамі, што наводдаль рушылі цераз поле і часта стралялі. Генерал зняў фуражку, і вецер варушыў яго густыя, з глянцаватым водбліскам валасы. Каля Чарняхоўскага, як і раней, было некалькі вайсковых, а крыху ззаду стаяла тры ці чатыры машыны.

Усё гэта старшы лейтэнант бачыў якую-небудзь хвіліну, бо тут жа ў шлемафоне пачуўся голас камбрыга,— трэба было выходзіць атакаваць. Аляксей закрыў люк над галавой і ўжо бачыў у перыскоп, як бяжыць насустрач, разыходзячыся ўшыр, пустое поле і набліжаецца лясок, дзе быў праціўнік.

Аляксееў танк стаў біць і біць rіа гэтаму ляску...

Больш старшы лейтэнант з Чарняхоўскім не сустра' каўся. Ад Бясонава перадавалі, каб падрыхтаваліся да праверкі, бо хутка зойдзе камандуючы фронтам, наказвалі, што ён асабліва цікавіцца, як навучаны экіпажы, як дзейнічаюць самастойна ўзводы, роты. Потым стала вядома, што Чарняхоўскі ўжо у суседзяў, і ў Аляксеевай роце і ва ўсім батальёне чакалі — вось-вось прыедзе.

Але генерал-палкоўнік ад суседзяў паехаў некуды ў іншае месца.

Аляксей чуў, як вечарам, сабраўшыся ля зямлянкі, яго танкісты распытвалі ў суседзяў:

— Ну, які ён з сябе? Строгі дужа?

— Строгі... Да ўсяго, брат, стараецца дабрацца сам. Сам у «трыццацьчацвёрку» палез і пачаў ганяць — а як вы гэта робіце, а як гэта? А сержанту — а вы навядзіце гармату на тую цэль, вылічце, якая туды

адлегласць. Пакуль той навадзіў, зірнуў на гадзіннік. Засек, значыць, час...

Сухі, з белымі брывамі, гаварлівы старшына прыкурыў цыгарку.

— А ў мяне запытаўся, што ты будзеш, таварыш старшына, рабіць, калі, маўляў, камандзір выйдзе са строю?

— Ну, а ты што ж?

— Што ж? Ясна што! Адказаў па форме... Калі хочаш падвучыцца, магу паўтарыць, — падчапіў цікаўнага старшына.

— Бач ты, малады які, а ўжо генерал-палкоўнік, камандуючы фронтам! Ён старэйшы за мяне гадоў на пяць, не больш, — прамовіў Рыбакоў.

— Глядзі ты, куды ён цэліць, у генералы! — засмяяўся нехта з сержантаў. — Ды ты праз пяць год і да старшыны не дацягнеш. Галава, брат, малаватая!

— А кім ён быў у пачатку вайны, камандуючы, а? Не інакш, генерал-маёр ці, мо', і з палкоўнікаў, — адгукнуўся Сонцаў. — А вось камандуючы! Заслужыў, і не паглядзелі ні на што, фронт далі.

Сонцаў неспадзявана перамяніў кірунак размовы:

— Нездарма ён прыехаў! Хутка здымемся адсюль. Сур'ёзнае заданне, напэўна, дадуць. Не так сабе ён даходзіў да ўсяго.

— Факт — сур'ёзнае. Нам абы-якога не дадуць,— падтрымаў Быстроў і перайшоў на жарт: — З такімі машынамі да бабкі Ганны ў агарод не пашлюць. Такіх сур'ёзных, геройскіх хлопцаў, як я ды ты...

— Адным словам, можна складаць чамаданы.

— А што, нам, малярам, не прывыкаць. Зборы кароткія.

Аляксей таксама лічыў — цяпер хутка.

— Зрабі, Якавенка, каб усё было да ладу, напагатове. Раптам пабудзяць ноччу, каб адразу — у дарогу. У момант.

— Оцэ вона і скончылася перэрва, — заключыў Якавенка.

З вечара да паўночы Аляксей сядзеў з Сонцавым, пішучы ў Сібір, на Урал, на Паволжжа віншавальныя лісты сем'ям узнагароджаных.

Ён быў стомлены за дзень, але не хацеў адкладваць, бо ведаў, што з гадзіны на гадзіну можа прыдзецца ехаць на фронт, а тады невядома, калі выдарыцца вольная хвіліна.

Наогул Аляксей пісаў часта, больш за ўсё лісты да старшынь калгасаў ці гарсаветаў, прасіў або патрабаваў, каб дапамаглі сям'і якога-небудзь свайго байца. Ён пісаў гэтыя лісты таму, што лічыў сваім абавязкам рабіць «парадак» і ў асабістым, сямейным жыцці салдат. Хоць звычайна старшы лейтэнант і не любіў «пісаніны», тут стараўся быць пунктуальным.

У той вечар два лісты напісаў ён на радзіму Якавенкі. Камандзір узвода днём скардзіўся, што жонка жыве з трыма дзецьмі ў хаце з паўразбураным дахам, а старшыня сельсавета жыллё ўладаваць не хоча дапамагчы. «Як дождж ідзе, схавацца недзе, цэ дзіло? Дзіты мокнуць...» Ён увесь дзень быў пануры, толькі ўвечары, атрымаўшы даўнюю ўзнагароду, павесялеў. Аляксей, як і абяцаў, напісаў скаргу ў райвыканком.

— Славуты вы чалавек! — сказаў Сонцаў.

— Ну, сказаў — славуты! — усміхнуўся насмешліва і збянтэжана Аляксей.

— А хіба не? Па ўсяму Савецкаму Саюзу ведаюць.

— Не выдумляй!.. Эх, што гэта жонка не піша,— горка прамовіў старшы лейтэнант і нахмурыўся. Пісьмы, якія ён пасылаў Ніне, зніклі недзе без следу, як у бяздонні. Ён не атрымаў ніводнага адказу.

— Вось возьмем Мінск, будзеце і вы атрымліваць. Па два кожны дзень.

Аляксей не сказаў нічога. Мусіць, праўда, ён раней прыдзе ў Мінск, чым дачакаецца ліста.

Калі Сонцаў пайшоў, Аляксей, патушыўшы капцілку, яшчэ доўга сядзеў у цемры. Чаму ж усё-ткі няма адказу? Няўжо яна не атрымала ніводнага яго ліста? Мусіць, не атрымала, бо не магла ж яна не напісаць...

Ён успомніў, як часта прысылала Ніна лісты да вайны, просценькія, шчырыя, ад якіх нельга было адарвацца, не прачытаць некалькі разоў. З іх уяўляўся, здаецца, кожны яе дзень, з усімі думкамі і клопатамі. Дзіўна, ён тады, хоць яе лісты-весткі атрымліваў заўсёды з радасцю, сам пісаў нячаста.

Калі б хоць слова прыйшло ад яе! Відаць, ужо не атрымае тут, адкуль заўтра, паслязаўтра, напэўна, здымуцца.

## 2

Над дваром, на якім у зялёнай мураве і ў вішанніку размясціліся гурткі салдат папаўнення, з'явіўся «юнкерс» і даў некалькі чэрг. Усе заварушыліся, замітусіліся, пачуліся бязладныя стрэлы. Некаторыя спалохана кінуліся на зямлю.

Генерал-маёр Шчарбацюк, машына якога якраз падышла да двара, правёўшы позіркам самалёт, што аддаляўся, усё так жа пастрэльваючы, агледзеў спакойна ўстрывожаны двор. Ён заўважыў каля пачарнелага зруба калодзежа чарнявага хлопца, які трымаў рукою вочап з кацялком і з нянавісцю пазіраў услед «юінкерсу».

— Чаго ўглядваешся? Не пазнаеш?

— Пазнаю, таварыш генерал, — выпраміўшыся, але ўсё яшчэ не пускаючы вочап, адказаў ён.

— Бачыў, значыць?

— Бачыў, таварыш генерал, — баец схамянуўся, апусціў вочап.

— Дзе?

— У Мінску, таварыш генерал... У першыя дні.

— Ты што ж пачаў вайну раней за мяне?! — хмурна, як бы незадаволена сказаў камандзір дывізіі. Генерал-маёр гаварыў праўду: да пачатку зімы ў сорак першым ён вучыўся ў ваеннай акадэміі.

— Як прозвішча?

— Туравец, таварыш генерал.

Камандзір дывізіі накіраваўся да групкі байцоў, што пазіралі зводдалек на яго. Але тут выбег насустрач яму высокі, са шрамам на шчацэ, лейтэнант і стаў дакладваць. Генерал спыніўся.

— Што, патрывожыў фрыц? — запытаўся ён, разам насмешліва і спачувальна, падыходзячы да групкі. — Нічога не зробіш, прыдзецца цярпець... Фронт.

Сяржант з нашыўкамі за раненне зухавата падтрымаў, што тут табе не ў мамкі за спіною, няньчыцца няма каму.

— Так, няньчыцца няма каму, — згадзіўся генерал. — А вось маці ёсць. Строгая, праўда, але ёсць... і добрая маці... Дывізія наша... Яна не дасць у крыўду, праўда, і спуску не чакайце ад яе.

Генерал стаў знаёміцца з байцамі. Ён любіў знаёміцца з навічкамі, любіў пагаварыць з імі, пахваліцца дывізіяй, — лепшая на фронце! Шчарбацюк пры выпадку расказваў, што прышоў у дывізію пад Арлом, начштабам палка, а стаў генералам, камдывам, што, калісьці, у грамадзянскую, ён быў таксама салдатам. Генерал у такія дні прыязджаў у кіцелі з залатой зоркай.

Сёння Шчарбацюку не давялося пагутарыць з навічкамі, бо прыехаў капітан са штаба дывізіі з паведамленнем, што камдыва тэрмінова выклікаюць на камандны пункт арміі.

Генерал-маёр адразу падаўся да машыны. Садзячыся поруч з шафёрам, ён заўважыў, што зухаваты сержант, з нашыўкамі за раненне, накінуўся за нешта на байца. Камандзір рукою падазваў лейтэнанта са шрамам на шчацэ:

— Даведайся, чаго раскрычаўся гэты Аніка-воін. Ды скажы, што ў нас крычаць не паложана. Скажы, што ў нас любяць лагодную размову...

Выехаўшы за вёску, генерал накінуў на плечы бурку, якую заўсёды вазілі ў машыне. Ён нядаўна перанёс запаленне лёгкіх і цяпер бярогся, а яго нешта зранку халадзіла. Ці не грып, чорт пабяры?

Перад сустрэчаю з камандармам генерал адчуваў сябе крыху неспакойна. Шчарбацюк прывык да таго, што дывізію хваляць, а яго самога цэняць. Камандуючы ж арміяй, у якую перадалі нядаўна дывізію, заўсёды выказваў незадаволенне станам дывізіі, генералам. Стрыманы педантычны камандарм, прыязджаючы ў дывізію, амаль заўсёды вышукваў розныя непаладкі.

Апошні раз ён быў у дывізіі ўсяго некалькі дзён да гэтага, і Шчарбацюк прадчуваў, што камандуючы на нарадзе абавязкова будзе гаварыць пра становішча ў дывізіі. Зноў, мусіць, скажа, што зладжанасці няма...

А ў сапраўднасці ж дывізія адна з лепшых у арміі. Гэта прызнаюць многія.

На камандным пункце, акрамя камандарма, быў камандуючы фронтам. Каля Чарняхоўскага, схіліўшыся над картаю, стаяў невядомы чалавек у камбінезоне, у палявой генеральскай фуражцы.

Усе ўтраіх разглядалі карту.

Генерал-маёр, увабраўшы жывот, які напінаў кіцель і яўна псаваў вайсковы выгляд, далажыў камандуючаму арміяй, што прыбыў па яго загаду. «Відаць, не нарада, — падумаў Шчарбацюк, — штосьці іншае».

Ён мімаволі запытальна зірнуў на чалавека ў камбінезоне.

— Васілеўскі,— назваўся Маршал Савецкага Саюза. Ён працягнуў Шчарбацюку руку.

— Далажыце абстаноўку на вашым участку.

Генерал-маёр пачаў гаварыць, паказваючы алоўкам на карце. Маршал, апусціўшы галаву, уважліва сачыў за картаю; ён раз спыніў Шчарбацюка, папрасіў удакладніць абстаноўку на цэнтральным участку.

— Участак дывізіі бясспрэчна неабходна разы ў тры скараціць, — узняўшы галаву ад карты, прамовіў ён, калі Шчарбацюк скончыў.

— Я прадугледзеў гэта, таварыш Маршал Савецкага Саюза, — адказаў Чарняхоўскі.— Акрамя таго, мы таварышу Шчарбацюку дадзім авіяцыі, артылерыі. Артылерыя пачала ўжо сканцэнтроўвацца.

Маршал, звярнуўшыся да камандарма, запытаўся:

— Як дывізія, добрая?

— Нядрэнная,— не адразу, як бы падумаўшы, адказаў камандарм.

— Участак вельмі важны. Можа, замяніць, іншую паставіць сюды?

— Дывізія добрая, — сказаў Чарняхоўскі, — баявая, людзі загартаваныя... Праўда, камандзір, я сказаў бы, залішне заспакойлівы...

— Так, грэх гэтакі ёсць у яго — заспакойваецца, калі не падштурхоўваць, — згадзіўся камандарм.

— Абвінавачванне для камандзіра вельмі сур'ёзнае, асабліва цяпер... Ну, а што вы скажаце, таварыш генерал? — павярнуўся Чарняхоўскі да Шчарбацюка. — Справіцеся?

— Спраўлюся, таварыш генерал, — адказаў Шчарбацюк, выпростваючыся так, як толькі можна, пазіраючы на маршала і з просьбай, і з надзеяй, і з гатоўнасцю ўсё зрабіць.

— За што героя атрымалі?

— За Курскую дугу, таварыш Маршал Савецкага Саюза!

— Я думаю, яму можна паверыць, — падтрымаў Шчарбацюка Чаріняхоўскі.

— Ну, паглядзім! — прамовіў Маршал Савецкага Саюза, пазіраючы на камдыва строгімі, уважлівымі вачыма.

3

Аляксей сядзеў на вежы, звесіўшы ногі ў баявое аддзяленне. Наперадзе яго быў, закрываючы грудзі, быццам шчыт, круглы бранявы дыск-люк, злева пружыніста гайдаўся падобны на прудкую лазіну штыр рацыі. Управа, улева, — калі машыну кідала з боку ў бок, назад і наперад, — калі яна набаўляла хуткасць або спынялася...

Аляксей, крыху сутулячыся, падаўшыся грудзьмі наперад, таксама ківаўся ў такт машыне: згінаўся ўправа, улева, каб быць у раўнавазе. Да чаго ж добра гэта — сядзець на вежы магутнай машыны, што рушыць, імкне па дарозе, адлічваючы гусеніцамі кіламетр за кіламетрам, пакідаючы за сабой дзвешырокія зубчатыя каляіны.

Танкі безупынна рушылі адзін за адным. Фары нідзе не блішчалі. Адно ляскаталі, пераклікаліся гусеніцы ды неспакойна гучалі маторы.

Часам абапал дарогі асцярожліва ціснуліся густыя ланцугі пехацінцаў, кавалерысты, што прытрымлівалі неспакойных наравістых коней, шафёры з сустрэчнымі грузавікамі, чакаючы, пакуль праляскочуць танкі. Аляксею бачыць гэта было прыемна. Так прапускаюць наперад паважанага чалавека, якому належыць асаблівая, важная праца.

Наперадзе былі ўжо добра відаць зарнічныя выбліскі ад стрэлаў батарэй, якія, як агні маякоў, указвалі напрамак танкістам. Гукі бою ледзь даходзілі, іх глушыў гул матораў.

Набліжаючыся да фронта, Аляксей паддаваўся таму добра знаёмаму франтавіку ўзрушэнню, у якім перамешваюцца і вострая цікаўнасць да будучыні, што прымушае чалавека неспакойна падганяць час, і трывога, і добрыя надзеі.

— Хто гэта жанчына, што з вамі так добра развітвалася? — запытаўся неяк, на выпадковым супынку, з хітрынкай Касцючэнка.

— А-а... гэта Надзя Мазалькова, — крыху збянтэжыўся Аляксей, — старшыня калгаса. Помніш, я хадзіў у вёску, калгасам быў заняўся... Тады яе выбралі старшынёй...

Надзя падышла да яго, калі калона надвячоркам стаяла на ціхай дарозе каля сяла. Ласкавыя, крыху засмучаныя вочы, смуглы твар з круглым прыгожым падбародкам, моцныя загарэлыя рукі.

— Вось вы ўжо і едзеце... Пішыце, як вы там будзеце жыць. Не забывайце...

Паспешліва, неяк нясмела, працягнула клуначак— падарунак. Потым, калі танкі крануліся, стаяла нерухома, сачыла ўслед.

Аляксею ўспомнілася яе даўняе, на ўзлессі: «Прыходзьце!» — і нейкая вінаватасць перад ёю на час лягла на сэрца. Так і не выканаў Аляксей абяцання, не прышоў больш. І нельга сказаць, каб хвіліны вольнай не знайшлося б, — але адкладваў са дня на дзень, ды так і не прышоў.

«Што ж, гэта і на лершае... Няхай не крыўдуе...»

— Харошая, відаць, жанчынка?

— Харошая — працавітая, сумленная. Яна там навяла парадак. Людзі задаволены ёю.

— Не, я кажу, што так, сабою прыгожая. Для такой і родную Кубань можна прамяняць на Смаленшчыну.

— Я пра гэта не думаў, — не адказаў на жарт Аляксей. — У мяне, брат, зусім не тое на душы. Ты ж ведаеш...

— Ведаю, то ведаю. Але гэта, можа, не перашкодзіла б прыгарнуць дзе-небудзь удаву. Гогабярыдзе, той, кажуць, не адну... Надзя ж засумавалася, відаць, ды і, здаецца, вельмі вы ёй спадабаліся.

— Можа быць... Я, брат Касцючэнка, не магу напалову...

Касцючэнка сціх.

— З такімі коньмі хутка заявімся да Тураўца? — сказаў Аляксей.

— Ды яно і нядоўга, сказаць. Якіх тры сотні кіламетраў тут. Гэта не матухна-пяхота, якой трэба ўсё адзінаццатым перамераць... Толькі яшчэ невядома, калі мы рушым туды, — разважліва прамовіў Касцючэнка, кранаючы Аляксееву трывогу.

— Ну не, стаяць, напэўна, не будзем. Мы ж не саюзнікі, што другі фронт адкрывалі тры гады ды ваявалі тушонкай. Канешне, хто ведае, якія там планы ў нашых генералаў, але таптацца без справы мы не павінны.

— Не павінны, — згадзіўся Касцючэнка. — Гэта факт! Не шпацыр. Вучыліся мы таксама не на шпацыр, ды і зброю нам сур'ёзную

далі, з такою стаяць попусту проста ганьба. Бывала, у нас, на Кубані, камбайн у стэпе, калі жніво, пастаіць гадзіну, то таму камбайнеру галаву адразу намыляць. А то ж цяпер!

— Думаю, што стаяць доўга не будзем, Касцючэнка. Па ўсяму відаць. Не маем права...

Аляксею прыгадалася, як яны недалёка ад гэтай дарогі паўз рунеючыя палі, па ўзрытых бомбамі шляхах яшчэ зусім нядаўна ішлі ў тыл, як потым у грузавіках дабіраліся да паўзабытых зямлянак. Тады яны здалі старыя, не раз рамантаваныя, не раз латаныя жалезам танкі, гусеніцы якіх ведал і дарогі Смаленшчыны, палі пад Курскам. Цяпер ідуць машыны, што яшчэ нядаўна былі на заводскіх дварах.

Якія шляхі ўведаюць гэтыя гусеніцы, якія падзеі ўбачаць новыя, без баявых рубцоў вежы?

Колышаў пазіраў на выбліскі агнёў, што паволі набліжаліся, як зачараваны дзівосным казкай. У яго чыстых, адкрытых шырока вачах успыхвалі цікаўныя і неспакойныя светлячкі.

Яго вабіла гэта незнаёмая, нязведаная далеч, пра якую ён столькі думаў і чуў, але разам з тым у душу пракрадваўся нейкі неспакой і нязвыклы жаль. Пазіраючы нецярпліва наперад, ён аглядваўся часамсьці і назад. Тое звыклае, што было за плячыма, паўставала цяпер новым, асабліва прынадным. Ён спачатку мімаволі паддаўся спакусе ўспамінаў, але адчуў, як пачынае завалодваць ім засмучэнне, і схамянуўся.

Сёння трэба думаць толькі пра тое, што там, дзе бліскаюць агні, і далей за агнямі. Недзе там яго, можа, чакае, не дачакаецца нечая маці. Або пазірае насустрач жанчына з дзіцём на руках з-за калючага дроту, як на плакаце, што вісеў у калідоры на іх курсах, кліча: «Ратуй мяне!» Ён прыдзе да іх і прынясе збавенне. Хлопец так рэальна ўявіў тую хвіліну, што адчуў на сваіх плячах удзячны поціск абдымку, адчуў позірк, поўны слёз і гордасці.

Шкада толькі, што не ўбачыць яго ў такую хвіліну Рая. Яна б ведала, што ён даўно ўжо не той зялёны хлопец, якім звыкла яго лічыць.

На світанні батальён быў на месцы, у невялікім лясочку. Каля дрэваў, пад якімі яшчэ трымалася цяпло і парадзелы прыцемак ночы, мірна стаялі нейкія грузавікі і фурманкі. Калі падышлі «трыццацьчацвёркі», вакол іх замітусіліся людзі.

— Эй, пяты эшалон! Просім пацясніцца!— крыкнуў задзёрыста Быстроў, саскочыўшы з машыны.

— Куд-ды гэта?

— Кіламетры на два ўправа.

Шафёры і ездавыя, акружыўшы Быстрова, спачатку пачалі было спрачацца, пагражаць начальствам. Але дзе там, хіба ўстаіш перад гэтымі хлопцамі з махінамі-танкамі. Адзін за другім, хоць і неахвотна, пачалі выводзіць свае грузавікі і павозкі, а на іх месца, ламаючы галлё, пасунуліся танкі.

Неўзабаве маторы сціхлі. Танкісты маскіравалі машыны галлём, адусюль было чуваць, як там і тут весела цюкаюць сякеры і трашчаць дрэвы.

Сляды гусеніц зацярушвалі дробным веццем.

У ранішняй шэрані Аляксей акінуў вачыма месца, дзе яны стаялі

Наперадзе, перад узгоркам, была батарэя — прыземістыя гарматы з апушчанымі стваламі. Гарматы яшчэ не былі акапаны, толькі дзе-ні-дзе скупа значыліся купкі свежай зямлі, мусіць, артылерысты таксама нядаўна падышлі.

Цяпер яны спяшаліся да ўсходу сонца замаскіраваць пазіцыю. Галлё для маскіроўкі неслі з ляска, валаклі за сабой, прымінаючы траву, часам цэлыя ссечаныя каля кораня маладыя бярозы і алешыны.

Аляксей убачыў непадалёк камандзіра брыгады Бяссонава. Ладны, прысадзісты, у лёгкай летняй гімнасцёрцы, не зважаючы на ранішнюю свежасць, палкоўнік легка, бадзёра, але паважна падыходзіў да роты, і Лагуновіч хутка падаўся да яго.

Ідучы насустрач яму, ён адчуваў тую скрытую насцярожанасць, каторая заўсёды бывае да чалавека, які не любіць цябе і ад якога можна ўсяго чакаць.

Бяссонаў спыніўся перад Колышавым, зірнуў вострымі, крыху прыплюшчанымі вачыма ў вочы лейтэнанта.

— Як прозвішча? Чаму я цябе не ведаю?

Колышаў збянтэжыўся.

— Відаць, ваюеш кепска! Усіх добрых салдат я ведаю,— прамовіў ён упэўнена баском. — Салдат па прозвішчу, а афіцэраў па імю.

Колышаў сказаў, што ён з папаўнення.

— Новы? А, тады іншая справа,— на ілбе камбрыга сабраліся клопатныя маршчыны.— А ты, выпадкам, не трус?

— Не ведаю, таварыш гвардыі палкоўнік,— няўпэўнена, шчыра адказаў Колышаў.— Не быў...

— Не ведаеш? Відаць, не трус. Трус бы сказаў, што ён не баіцца нічога. Ну-ну, глядзі, Колышаў!

Выслухаўшы Аляксееў даклад, Бяссонаў уладным тонам прабасіў:

— Парадак каб быў да сонца, асабліва маскіроўка ад авіяцыі. Нас тут няма, тут толькі бярозы ды дзятлы. Спакой... Ясна?

— Ясна. Парадак будзе поўны!

Палкоўнік акінуў позіркам лагоднае ранішняе неба, цьмяная бясколернасць якога ўжо змянялася глыбокім і шырокім блакітам. Справа купаліся два ружовыя воблачкі, усміхаючыся нявіднаму з зямлі сонцу.

З захаду, лёгка, задаволена гуркочучы, плыла ў вышыні эскадрылля бамбардзіроўшчыкаў. На іх крылах таксама чырванелі прамені сонца. Аляксей падумаў, што самалёты ідуць аднекуль здалёк, можа, ад Мінска.

— Маскіроўку зрабі ідэальную,— прамовіў Бяссонаў, пазіраючы на Аляксея.— Сонца будзе свяціць на ўсё неба. За кіламетр згары травінку можна будзе бачыць. Праз гадзіну буду зноў, праверу!

Дзень ішоў ціхі. Хутка ўжо ніякі знак не паказваў, што рыхтуюцца якія-небудзь грозныя падзеі. Сонцаў недзе ўправіўся назбіраць спелых чырвоных суніц, прынёс старшему лейтэнанту.

Ягады былі вельмі смачныя і пахлі лесам і сонцам.

4

Танкісты, сабраўшыся ў гурт, лежачы гаманілі.

Вакол іх буяла густая трава, сярод якой чырванелі, жаўцелі, бялелі розныя кветкі. Каля галавы Быстрова стаяла, як бы ў задуменні, нерухомая мятліца. Над танкістамі ляніва варушыла шызымі, нібы з байку, лісцямі вечная трапятуха асіна,— яна паціху лапатала, нібы таксама хацела гаварыць.

Моцна пахла чабарком.

Быстроў ляніва слухаў, як Гогабярыдзе жартаваў.

— Дзе справядлівасць? Няма справядлівасці! Нашто Якавенку такое хараство? Хараство даецца для таго, каб жанчыны любілі, а Якавенка — не любіць іх... Нашто ямутакія бровы?

Поблізу гаварыў Рыбакоў:

— Прыязджаем на станцыю. Ну, і адразу — кірмаш... імяніны — без гарэлкі якія імяніны? І тут лейтэнант кажа: грошай няма, дадому паслаў. Адну кішэню вывернуў, другую — толькі дробязь. І ў мяне — пад мяцёлку... Што рабіць? Дык ты думаеш, што я ўдумаў? З атэстата рэалізаваць, з прадуктаў... Стаім ля акенца, атрымліваем. Як толькі вышлі, я за банку кансерваў ды суседу. Той — «Колькі?» — «Пяцьдзесят». Ён і выняў паперку...

— Лоўка. Знайшоўся,— пахваліў хтосьці Рыбакова.

Быстроў цераз дрымоту прыслухаўся, пра што гаворыць у другім баку Сонцаў: — Ну, дырэктар МТС у мяне і пытаецца: «Чаму стаіць твой «націк»?» — «Падшыпнікі выплавіліся»...

«Зноў тую ж самую гісторыю — Бранскі летапісец»,— варухнулася ў галаве Быстрова. Ён пазяхнуў і сказаў голасна да таварыша:

— У прыемнай кампаніі — прыемна пазяхнуць!..

Сонцаў зрабіў выгляд, што не звяртае на яго ўвагі.

— І праўда, чаму б не падрамаць? А, Касцючэнка? Яшчэ ніводзін салдат, кажуць, не памёр на вайне ад сна...

Але заснуць Быстроў не мог,— вельмі ж неспакойная ў яго была натура. Неўзабаве ён пачуў, што размова набывае цікавы змест. Другі фронт.

— Сіла ў іх, канешне, немалая,— сказаў Касцючэнка.— Гэтую высадку яны зрабілі здорава. Вось толькі што ідуць марудна: колькі часу ў Італіі тапталіся, зноў жа ў Францыі нешта туга ў іх. Хто іх ведае, чаму. Ну, у Італіі, там, напэўна, горы перашкаджаюць.

— А ў Францыі — раўніны,— падхапіў Быстроў.— Заўсёды штонебудзь знойдзецца. Затое тут — абрусам дарога. Ідзем па асфальтах, фрыцы самі рукі падымаюць угару, бягуць хутчэй у палон.

Пачуўся смяшок.

— Ну, чаго ж яны тады марудзяць?

— А ты, Сонцаў, запытай у Чэрчыля, — параіў Быстроў. — Ён табе скажа, чаго ён сядзеў у Афрыцы, потым у Італіі, пакуль мы пад Сталінградам біліся ці Курскую дугу ламалі.

Раптам загаварыў Якавенка:

— Як бы ты, Сонцаў, дужа верыў чалавеку, які аднойчы намерваўся, скажам, забіць цябе?

— Забіць?.. — не чакаў Сонцаў такога пытання.

— Мусіць, не верыў бы! А Чэрчыль арганізоўваў інтэрвенцыю на нашу краіну ў грамадзянскую вайну. Ён і Гітлера ў свой час цкаваў на нас, ды так выйшла, што фюрэр асмеліўся падняць руку на свайго апекуна. Можна верыць такому чалавеку?

— Як жа яму верыць, таварыш лейтэнант.

— Чы не падобна на тое, што такі чалавек мала дбае аб тым, каб нам было лягчэй? Чы не ўсё роўна такому, што там, недзе на чужыне, у няволі гінуць нашы людзі?

— Хоча, старая ліса, заграбаць жар чужымі рукамі!— адгукнуўся ўзрушана Рыбакоў. Лагуновіч пераканана прамовіў:

— Не ўдасца!

— Я думаю таксама, не ўдасца,— згадзіўся спакойна Гогабярыдзе.

— Эх, спадзявайся там на розных чэрчыляў!..

— Та-ак! На саюзнічкаў спадзявайся, а сам не хіб!

— Ды ўжо ж, хібіць не прыходзіцца.

— Не схібім, думаю!

Гадзіну пазней да Аляксея падышоў лістаносец і падаў трохкутнічак; старшы лейтэнант адразу заўважыў,— почарк быў незнаёмы. Ад Аляксея лістаносец падаўся да вадзіцеля, ад якога накіраваўся да другіх,— размахваючы канвертамі, трохкутнічкамі, выклікаючы прозвішчы.

Некаторыя танкісты выбягалі насустрач яму, пытаючыся пра адно: ці няма лістоў, другія аб тым жа крычалі яму з машын.

Старшы лейтэнант атрымаў ліст ад маці былога свайго байца Курнева, якая непакоілася, што ад сынка ўжо тры месяцы як няма вестак. Курнеў быў у адным экіпажы з Быстровым, а калі брыгада ішла на перафарміроўку, застаўся ў новай часці. Аляксей цяпер не ведаў, што з ім.

Якавенка, шчаслівы, працягнуў Аляксею лісток.

— Глянь. Мішка напісаў!..

На лісточку было старанна выведзена сантыметровымі крывымі літарамі: «Тата, любы». Якавенка адчуваў сябе без меры ўсцешаным. Аляксей не раз заўважаў, што ён вельмі любіць дзяцей, — колькі разоў непакоіўся пра іх, пра сына Мішку, пра двух дзяўчынак. Ён любіў гаварыць пра іх, і ледзь не ўся рота завочна ведала ўжо ўсю яго сям'ю.

Калі праўда, што ў кожнага чалавека ёсць які-небудзь талент, то ў Якавенкі гэта, бясспрэчна, талент бацькі, — падумалася Аляксею. Ды і ў яго адносінах да байцоў ёсць таксама нешта бацькоўскае...

Можа Быстроў што-небудзь раскажа пра Курнева: яны ж былі, здаецца, сябры. Камандзір гарматы цяпер сядзеў пад бярозай каля танка разам з Сонцавым, які чытаў ліст. Старшы лейтэнант, падышоўшы да іх, запытаўся пра Курнева: не, Быстроў не ведае пра яго; як перайшоў Курнеў у другую часць, дык не падаў аб сабе ні слова.

— Ад каго пісьмо, Сонцаў, калі не сакрэт?— пацікавіўся Аляксей.

— Калі мне чытае, то, відаць, не сакрэт,— пакпіў-пажартаваў Быстроў.— Сакрэтныя ён чытае адзін і толькі вачыма, нават без шэпту...

Пісьмо было ад сястры.

— Ад тае, ад студэнткі? Ну, як яна маецца?

Аляксей прысеў на траву поруч з танкістамі. Ён ведаў, што сястра Сонцава вучыцца ў тэхнікуме. Сонцаў неяк расказваў, што, калі ён ішоў на фронт, Юлька, сястрычка, была зусім малая; перад тым часта прыбягала на поле, узбіралася на трактар, прасілася патрымацца за руль. І якая шчаслівая была, калі ён дазваляў крыху правесці «СТЗ». Цяпер ёй пайшоў ужо семнаццаты год...

Сонцава не прышлося ўпрошваць расказваць: звычайна маўклівы, ён на гэты раз пачаў гаварыць нечакана ахвотна.

— Ды як маецца, — вядома як: прыходзіцца і вучыцца, і адбудоўваць дом, у якім тэхнікум. Палова яго была разбіта бомбаю. Юлька пісала, што зімою давялося вельмі памерзці...

— І дапамогі, відаць, чакаць няма адкуль? На адной тэхнікумаўскай стыпендыі ў цяперашні час...— Аляксей спачувальна пакруціў галавою. Так, цяпер студэнтам цяжка: раней, калі ён вучыўся, было інакш.

— Ды адкуль дапамога, таварыш гвардыі старшы лейтэнант? Я паслаў разы два па сто рублёў, а больш не магу. Маці ж таксама трэба падтрымліваць...

— Адным словам — усюды фронт...— Быстроў зламаў бярозавую галінку, якую трымаў у руцэ. Ён ледзь не вылаяўся, але, зірнуўшы на камандзіра роты, стрымаўся, толькі напружыліся важкія вуглаватыя сківіцы...

Старшы лейтэнант устаў, нерашуча ступіў, задуменны, некалькі крокаў, потым, нібы штосьці прыгадаўшы, павярнуўся да вадзіцеля:

— Дарэчы, Сонцаў, — хадземце са мной!..

Ідучы поруч з Сонцавым, Аляксей заклапочана думаў пра сястру сержанта. У памяці на міг ажыў час, калі ён сам быў студэнтам...

Ён, здаецца, нічога не пашкадаваў бы для гэтай незнаёмай дзяўчыны, якую, напэўна, і не ўбачыць ніколі. Але яна можа пакрыўдзіцца, калі даведаецца, што грошы пасылае ёй невядомы чалавек...

Аляксей адвёў Сонцава ў бярэзнік і, павяраяўшыся спіной да танкаў, няёмка выняў з кішэні камбінезона пачак чырвонцаў, амаль усю сваю месячную палучку.

Сонцаў пачырванеў:

— Таварыш гвардыі старшы лейтэнант...

— Бяры... — перабіў яго строга, тонам загаду Аляксей.— Бяры, ну дзівак! І зараз жа пашлі! Ад свайго імя...— дадаў ён мякчэй.

Сонцаў падаўся назад збянтэжаны. Каля люка вадзіцеля ён азірнуўся і, убачыўшы, што старшы лейтэнант пайшоў да суседняга танка, клікнуў Быстрова. Ён шчыра расказаў таварышу пра ўсё.

— Нядобра як атрымалася? — шкадуючы, скончыў Сонцаў.

— Чаму нядобра?

Яны ж яму і самому патрэбны, грошы... У Мінску...

— Што з таго?

— Трэба вярнуць, мусіць.

— Вярнуць?! Ён іх табе даў?

— А... каму ж?

— Гэта ж, можна сказаць, ужо грошы сястры,— зрэзаў Сонцава Быстроў.

— Сястры?

— А чые ж? Эх ты, гора!..

Быстроў сам прывёў лістаносца, загадаў Сонцаву зараз жа напісаць адрас і аддаць грошы.

Адно здарэнне крыху парушыла мірную будзённасць таго дня. Пад поўдзень Рыбакоў прывёў да Аляксея незнаёмага чалавека, якога затрымаў недалёка ў лесе.

Чалавек, немалады, з русымі вусамі і даўно нязголеным падбародкам, быў у мятай ватнай паддзёвачцы, да якой ліплі травінкі і жаўтлявыя знакі гліны: напэўна, на гэтай паддзёвачцы чалавек спаў. У руках ён трымаў самаробны, з вяровачкамі, даволі вялікі заплечны мяшок. Незнаемы глядзеў на танкістаў дабрадушна і даверліва.

— Што вы тут робіце?— строга хмурачыся, тоячы цікаўнасць, запытаў яго Аляксей.

— Што раблю? — спакойна адказаў чалавек.— Ды, можна сказаць, нічога. Адлежваю бакі, на сонцы прыходзіцца загараць. Адным словам, чакаю.

— Чаго чакаеце?

— Чаго ж яшчэ,— наступлення нашага. Ды нешта вы, не ўрокам кажучы, марудзіце. Топчацеся на месцы, аж цярпення няма!

Выявілася, што ён быў да вайны старшынёй аднаго з калгасаў на Міншчыне, што чакае тут ужо другі тыдзень. Спяшаўся, баяўся не паспець, а цяпер прыходзіцца марнавацца. Дакументы яго былі ў парадку, нават даведка, што «тав. Жывіца сапраўды адпушчаны з работы».

Аляксей зацікавіўся ім. Ён ад душы паспачуваў нецярпліваму земляку.

— Так, чакаць — рэч цяжкаватая. Асабліва — пасля трох год... Сам па сабе ведаю... Тры гады там не былі?

— Тры, тры, дарагі! Толькі некалькі дзён і не хапае.

— А сям'я ваша таксама там?

— Там, там, залаты ты чалавек!.. Яно то не ўсе там, сказаць,— жонка ды меншы сынок — там, а два другія — на фронце.

— Лісты атрымліваеце?

— Ад аднаго, дарагі, ёсць. Знайшоў яго. Цераз Наркамат... А другі, адказалі,— без вестак. Без вестак.

— А ў мяне вось жонка не піша. У акупацыі,— як скаргу, паведаміў Аляксей.

— Жонка? Ай-яй. Скажы ты!.. Раскалолася сямейка, у такія маладыя твае гады!.. Э-эх, вайна-разлучніца!..

— На фронце самі былі ці — у тылу?

— Быў трошкі ў пяхоце. Трошкі пабыў, толькі вылез у поле — міна — вз-з. Стукнула — і прэч, па чыстай. Кульгаю, бачыш, ад таго. Ну, а потым у тылу.

Засмяяўся неяк па-дзіцячы.

— А цяпер вось зноў на фронт трапіў!

— Гэта правільна.

Аляксей задумаўся, — што з ім рабіць?! Аднекуль з'явілася звыклае, насцярожанае: а што, калі ён ніякі не Жывіца, прыкідваецца толькі. Ён адразу ж запярэчыў сабе: «Глупства якое!» — аднак лагодна сказаў:

— Вось што, бацька. Не хачу вас крыўдзіць, але — павінен сказаць. Вы ведаеце, што вам тут не належыць быць?

— Чаму гэта, дарагі. А дзе ж мне быць?

— Тут — забароненая зона, нельга тут пабочным хадзіць.

— А які ж я пабочны?

Аляксей не адразу адказаў:

— Не ваенны, вось і пабочны.

Парадак ёсць парадак. Хоць Аляксей адчуваў сябе няёмка перад гэтым добрым, відаць, гаварлівым чалавекам, прыйшлося адправіць да камандзіра батальёна. Камбат жа, не надта дапытваючыся ўсяго, загадаў весці ў штаб брыгады:

— Няхай там разбяруцца! Можа, наш, а можа... хто яго ведае!

## Раздзел X

### 1

Два дні было ціха. Але па ўсім адчувалася, што з дня на дзень павінна пачацца.

Уночы ўсё прыбывалі ды прыбывалі войскі. Без шуму — толькі зрэдку бразне дзе-небудзь зброя ці кацялок — праходзіла наперад пяхота. Уперамешку з пехацінцамі цягнуліся грузавікі, гарматы, мінамёты. Цемру тады поўніў асцярожны гул машын, чуліся прыцішаныя галасы артылерыстаў, фырканне коней.

Усё рухалася без агнёў. Не толькі фары, але і цыгаркі не бліскалі. Не чулася і моцных камандных выкрыкаў, нібы яны таксама маглі парушыць маскіроўку.

З кожнай гадзінай прыфрантавая зямля ўсё больш напаўнялася войскам. Яго было так многа, што Аляксей толькі дзівіўся, дзе гэта ўсё падзяецца. Але салдаты, гарматы, павозкі ішлі ды ішлі.

Цемра, як бяздонне, праглынала ўсё.

Уранку поле цішэла. Паспешна канчалі капаць акопы, прыкрывалі маскіроўкай. Калі ўздымалася сонца, поле здавалася ціхім і мірным.

Гарматы цяпер стаялі густа ўсюды ўсцяж пярэдняга краю, у некалькі эшалонаў. Накрытыя маскіроўкай, яіны зусім зліліся з зямлёй, некаторыя нават зблізку амаль немагчыма было адрозніць.

На другі дзень Бяссонаў рашыў пазнаёміцца з абстаноўкаю на ўчастку, які займае стралковая дывізія Шчарбацюка. Палкоўнік узяў з сабою некалькі афіцэраў.

Генерал быў на КП. Танкістаў правёў туды маленькі сержант.

Камандзір дывізіі, залажыўшы назад пухлыя рукі, расставіўшы ногі, сагнуўшыся, каб не перашкаджаў жывот, стаяў каля стэрэатрубы. Ён павярнуўся насустрач танкістам, павольны, спакойны, з маладжаватым ружаватым тварам, прывітаўся.

— Што, Бяссонаў, дарогу сабе хочаш выгледзець?

— З вашай дапамогай, генерал.

— Магу паказаць. Толькі паабяцай спачатку дапамагчы расчышчаць.

— Добраму суседу, генерал, я заўсёды гатоў дапамагчы...

— Дапаможаш?! Ведаю я цябе — будзеш чакаць, пакуль расцярэбяць шлях і скажуць: калі ласка...

— Калі гэта мы чакалі, генерал? — Бяссонаў гатовы быў вось-вось кінуцца ў контратаку.

— Ну-ну, не будзем спрачацца,— прымірэнча сказаў Шчарбацюк.— Прашу адчуваць сябе чаканымі гасцямі ў прыветлівага гаспадара... Прашу пазнаёміцца з маім гняздом,— ён абвёў рукамі перад сабой.

— Вы тут абжыліся за гэты месяц,— прамовіў Бяссонаў.

— Э, гэта што! Мы што, мы, можна сказаць, яшчэ новыя. Вось тут каля нас пушкары, тыя абжыліся. Кожны прышч на балоце ведаюць, не тое, што бліндажыкі.

Ён выняў з кішэні кісет, скруціў цыгарку. Бяссонаў працягнуў каробку «Казбека», але генерал пакруціў галавой.

— Мы, пяхота, любім, каб у горле драла...— Лагодны, душэўны генерал меў звычку, размаўляючы з роўнымі сабе, ужываць моцныя выразы, выстаўляць грубыя прывычкі салдата.

Бяссонаў не любіў Шчарбацюка за мяккацеласць, за марудлівасць, і ў душы зайздросціў яму, якому невядома чаму так шанцуе ў жыцці — Герой і генерал,— і якога ўсе ўважаюць за вельмі адукаванага чалавека. Бяссонаў вучыўся толькі на курсах ды і то без асаб-

лівага поспеху. Ён лічыў сябе практыкам у працівагу Шчарбацюку і ганарыўся гэтым.

Усё ж генерал і Бяссонаў неўзабаве перайшлі на той таварыскі тон, што вельмі легка ўстанаўліваецца паміж франтавікамі, у якіх адна агульная, блізкая справа. Генерал загадаў пяхотнаму маёру падаць карту і, разлажыўшы яе, сам стаў знаёміць з абстаноўкаю, паказваючы Бяссонаву асобныя аб'екты і арыенціры ў трубу.

З каманднага пункта Бяссонаў уважліва разглядваў поле будучай бойкі.

Перад КП угіналася нешырокая лагчына, а за ёй пачынаўся нізкі, ледзь прыкметны ўзгорак, на якім некалі было сяло. На тым месцы валялася толькі бітае каменне ды дзе-ні-дзе тырчалі абсмаленыя, пасечаныя камлі дрэваў. Зямля ўся была перарыта варонкамі; на ёй не віднелася не толькі людзей, але наогул нічога жывога. Нават трава не расла.

Далей узгорак паступова паніжаўся, і пачыналася балота: там цягнуліся нямецкія траншэі, схаваныя балотнай раслiннасцю і хмызняком, што рос усюды рэдкімі купкамі. Прасцяг увесь здаваўся амаль пустым, хоць там усё было перакапана і густа заселена немцамі. Шырокімі палосамі цягнуліся нябачныя мінныя палі, за якімі насцярожана таіліся незлічоныя кулямёты і гарматы.

Дзе-ні-дзе на балоце ўскідваліся ўгару чорныя стаўбуры торфу, потым даходзіў запознены глухі гук выбуху. Вяла пераклікаліся кулямёты. Бяссонаў ведаў, што хаваецца за гэтым спакоем і млявасцю.

Ён азіраў балота, як гаспадар, як чалавек, якому трэба выбраць месца для работы. Ссунуўшы фуражку з патыліцы на лоб, на самыя вочы, што ён рабіў часта, калі быў заклапочаны, палкоўнік з-пад казырка ўважліва аглядваў незнаёмы прастор.

Справа, сярод балота, значылася шэрая, з жоўтымі глінянымі плямамі дарожка. Бяссонаў зацікавіўся ёю.

— Чыгунка была,— сказаў зацягнуўшыся генерал,—вузкакалейка. Разабралі немцы...

— Які там грунт?

— Цвёрды. Звычайны насып, праўда, невысокі.

Справа і злева ад чыгункі, у глыбіні зеленаватага прасцягу, добра акрэсліваліся чорныя, з простымі лініямі тарфянікі; наперадзе, кіламетры праз тры, млела ў плыўкай блакітнай смузе невысокая выспачка.

На ёй гарбаціўся разбураны цагляны будынак. Бяссонаву трэба будзе прабівацца з машынамі туды. Як прайсці з танкамі праз гэты вялізіны, зыбкі тарфяны абшар? Вядома, толькі па насыпу, іншага

выбару няма. Пакласці ад узгорка да насыпу грэбельку — тут, мусіць, будзе з паўкіламетра,— а далей па той простай вузенькай дарожцы, да астраўка.

Што ж за выспаю? Таксама балота, яшчэ большае, на якім толькі дзе-ні-дзе грэюцца абнадзейлівыя вузкія насыпы, якія цягнуцца на захад. Трывалы грунт, жаданы шырокі прастор, дзе можна разгарнуцца — далёка.

Генерал расказаў, што ў балотах, перад імі выяўлена некалькі паралельных абарончых ліній, уся шырыня якіх перавышае два дзесяткі кіламетраў. На астраўку — вялікі ўмацаваны вузел, з якога немцы падтрымліваюць свае часці навокал. Гэты нешырокі «пятачок» увесь шчэрыцца гарматамі.

— Арэшак, што і казаць, моцны!— прамовіў Бяссонаў, калі камдыў намаляваў поўную карціну абароны.

— Сем месяцаў яны тут усё капалі, будавалі, мініравалі,— адгукнуўся Шчарбацюк.

Ён зняў фуражку і выцер запацелы цыратавы абадок унутры. У яго была шырокая ружовая лысіна, якую прыкрывалі толькі некалькі бялявых валасоў, зачэсаных назад,— ад гэтага генерал здаваўся старэйшым за свае сорак чатыры гады. Твар жа ў яго быў яшчэ свежы, амаль без маршчын, поўны, з мяккімі рысамі і дабрадушнымі таўставатымі губамі.

— Ну, я думаю, у вас для гэтага будзе добры малаток. Вас не пакрыўдзяць. І птушак, і запалак падкінуць. Багацеем становіцеся, генерал,— гаспадарка, што ў арміі.

— Клопату прыбавіцца. Адна галава — на ўсё!..— паскардзіўся Шчарбацюк, але было відаць, што ён задаволены гэтым.

Маёр-пехацінец прамовіў:

— Хоць бы тут зямля як зямля была, а то дрыгва адна! Тут і разгарнуцца недзе.

— Зямля добрая. Наша, савецкая!— заўважыў спакойна генерал-маёр.

З нямецкага боку правылі некалькі мін, шмякнуліся поблізу КП. Маёр занепакоіўся, ці не засеклі іх немцы. Сонца хілілася да захаду, і на тым баку маглі заўважыць бляск шкелца стэрэатрубы. Але наступныя міны ўпалі далей. Бяссонаў сабраўся ісці назад.

— Правядзі іх, старшына,— сказаў генерал аднаму пехацінцу,— ды вяртайся хутка. Тут табе работа ёсць. Будзьце асцярожны,— папярэдзіў генерал, паціснуўшы танкістам рукі.— Недзе злева снайпер сядзіць, уранку сержанта ў мяне забіў. Уцэліў, нягоднік, проста ў скроню.

На адным павароце вузенькага, звілістага ходу старшына даў знак прыгнуцца да вямлі. Дзесяткі два метраў усе паўзлі. Калі вышлі на спакойнае месца, старшына, атрасаючы з каленяў ліпкія камячкі гліны, прамовіў:

— Чорт! Колькі я зямлі прапоўз, палічыць бы цікава. Мусіць, не адну сотню кіламетраў. Штаноў адных парваў дзесяткі тры за вайну. Больш за ўсё, праўду кажучы, на каленях і ірваліся. І штаны, здаецца, нічога, жыць бы ім яшчэ, жыць, а на каленях свецяцца!

2

Ноч. Грымне, пракоціцца блізка ці далёка гарматны выбух, рассыплецца частая, заядлая кулямётная чарга, і наступіць на нейкі час цішыня.

І чуваць тады: мірна, лагодна шэпчуцца, пакалыхваюць свае пругкія тонкія галіны пад лёгкім чэрвеньскім ветрам беластволыя бярозкі. Дробна, несціхана трапечуць лісточкі асін. Недзе сонна запырхала крыламі птушка.

Колькі разоў быў у баі, прывыкнуць, здаецца, пара, а вось жа не, — перад кожным насцярожваешся, падбіраешся, непакоішся!

Аляксей праходзіў паволі па роце. Усюды, каля цёмных маўклівых машын, якія ледзь віднеліся між дрэваў, спалі, спачывалі танкісты.

Каля адной «трыццацьчацвёркі» старшы лейтэнант убачыў нерухомую постаць, што стаяла, абапершыся аб гусеніцу. Ён падышоў бліжэй, запытаўся:

— Хто?

Гэта быў Колышаў.

— Не трэба,— сказаў Аляксей, заўважыўшы, як лейтэнант выпрастаўся.— Што, Колышаў, не спіцца? Думкі якія-небудзь адольваюць? Заклапочаны чым?.. Ці, можа, успаміны найшлі?

Камандзір роты не абы-як, адчувалася, быў зацікаўлены гэтым. Колышаў шчыра прызнаўся:

— Успаміны...

— Маці твая ў Горкім адна?

— Адна... Бацька ў арміі, на Далёкім Усходзе... Таксама лейтэнант, у артылерыі.

— І ў мяне маці дома. Там, па той бок. Чакае, старая, мусіць, не дачакаецца,— уздыхнуў старшы лейтэнант. Памаўчаў, закурыў асцярожна, хаваючы агеньчык, зацягнуўся і запытаў па-сяброўску:

— Дзяўчына, пэўна, згадалася? Ты ж ні разу і не пахваліўся, якая яна ў цябе, скрытны, мусіць? Шкада, што цёмна, паглядзеў бы картку. Вельмі мне хочацца пабачыць. Як завуць?

— Рая. Мы з ёй разам вучыліся ў школе. Цяпер яна ў інстытуце, урачом будзе. Там жа, у нашым Горкім, і вучыцца...

— Добрая дзяўчына?

— Добрая! Яна такі душэўны, чысты, прыгожы чалавек!.. Кожны раз, калі прачытаеш яе пісьмо, радасна і светла становіцца. Мы з ёю, ведаеце, хоць і вучыліся разам, неяк мала былі знаёмы. Бывае ж так, што жывуць людзі, кожны дзень сустракаюцца, а не ведаюць добра адзін аднаго. Ну, як чужыя.

— Гэта бывае.

— Так і ў нас выйшла. Я пачаў яе разумець, калі яна з'явілася на вакзал, развітацца. Дзіўна, праўда? Яна, ведаеце, што сказала: «Помні, кажа, дзе б ты ні быў, як бы цяжка ні было — я пра цябе буду думаць!» Гэтыя словы я нібы і цяпер чую. Тады першы раз мы пацалаваліся... проста, ведаеце, на людзях, пры маёй маці. Маці засмяялася яшчэ: «Эх вы, кажа, цалавацца не ўмееце!» Цяпер яна, Рая, часта прыходзіць да нас. Ну, адным словам, стала сваім чалавекам, нібы сястрою ці як... І для мяне яна... быццам іншая...

— Што, даўно не бачыліся?

— Даўно. Хутка год. Мы зараз праязджалі, ведаеце, цяпер з эшалонам праз Горкі... былі каля самага дома; наша вуліца тут жа, недалёка ад чыгункі. Хацелася вельмі пабачыцца з Раяй. Ды не давялося. Амаль не стаялі ў горадзе.

— Тужыш?— запытаўся Аляксей тым жа мяккім, спагадлівым голасам.

— Тужу,— прызнаўся Колышаў.

Ён сціх і задумаўся.

Відаць, разважыўшы, што таіцца не трэба, шчыра прамовіў:

— Раптам, таварыш гвардыі старшы лейтэнант, заўтра мяне тут... недалёка ад гэтага лесу... разумееце?.. А я ж нічога не бачыў, здаецца. Вось толькі пачынаю па-сапраўднаму жыць. А мяне... Гэта кепска, што ў мяне такія думкі перад боем?

— У кожнага, відаць, бываюць такія думкі ці, можа, падобныя. Жыць хочацца.

— Значыць, гэта не... баязлівасць? Камбрыг мяне запытаў, ці не трус я, а я і не ведаю. Ну, адкуль мне ведаць, калі я яшчэ не быў там? Я толькі ад другіх чуў, як яны ішлі ў першы раз, яны расказваюць усе па-рознаму.

— Тут галоўнае, Колышаў, не паддацца! Калі трэба будзе, умець забыць, перамагчы ўсё, што замінае, і адчуваць толькі адно — абавязак перад Радзімай, перад таварышамі. Усяго сябе, усе свае думкі аддаваць аднаму, салдацкаму абавязку. І яшчэ — думай, што тое месца, на якім ты стаіш,— важнейшае, што ад яго залежыць лёс усёй брыгады, усёй, калі хочаш, вайны. Цані, адным словам, сваю, можа, сціплую працу, без гэтага ты не будзеш салдатам. Мы любім жыццё, і калі рызыкуем ім, то толькі ў імя вялікай мэты. Я так лічу.

— Я буду помніць пра гэта,— задумліва прамовіў Колышаў.

Лагуновіч адчуў, што лейтэнанту хочацца нешта сказаць, але ён вагаецца. Аляксей знарок маўчаў, чакаючы. Ён не памыліўся.

Колышаў раптам запытаў:

— А вы таксама, таварыш гвардыі старшы лейтэнант... не спалі тады?

— Не спаў. — Аляксей паглядзеў у неба, у глыбокай чарнаце якога цьмяна бялеў млечны шлях, і сказаў: — Помню, у пачатку, у першыя ночы, не спаў... і ўспамінаў многа. У баі — салдат, як трэба. А як ноч настане, усе храпуць, а я адзін варочаюся, як закляты, з боку на бок, не засну, ды годзе! Малюнкі мне дзённыя чаўпуцца. Усё, што ўбачыў за дзень, зноў паўтараецца. І страшнавата робіцца, як успомню. Але ў баі не дрэйфіў, бо абавязак свой памятаў. Потым паспакайнеў, паступова абвыкся. Спаў тады седзячы і стоячы, хоць з гарматы бі, бывала, не дабудзішся.

Нібы спрачаючыся з сабою ці раздумваючы, прамовіў:

— Я, брат, таксама не ведаю — смелы я ці не? Адвагі ў мяне мала, адчуваю...

— Што вы гэта, таварыш гвардыі старшы лейтэнант!

— А так, брат, — страшна мне часам бывае. Нават вельмі. Асабліва бамбёжак праклятых не люблю... Душу пераварочваюць мне яны. Толькі што я стрымліваю сябе, трымаюся, словам!.. Але гэта няхай будзе так, між нас, а?

— Не трывожцеся, не скажу.

— Я, брат, у маленстве амаль ніколі не лез у бойку. Так хіба часам, калі вельмі задзенуць. А наогул стараўся быць далей ад гэтага. Ціхі быў!..

Узлессе раптам пачало хутка напаўняцца магутным гулам, ад якога дрыжала зямля. Аляксей і Колышаў адразу змоўклі і глядзелі адно ў неба. Там ішлі на захад самалёты.

— У вас душа, напэўна, у Мінску? — загаварыў першы Колышаў. — Ніну бачыце ўсё, не дачакаецеся...

— Бачу, часта бачу... — і нечакана: — А ў цябе, Колышаў, не ляціць туды душа? Табе ўсё роўна?

— Чаму ж! — адразу запярэчыў лейтэнант.

— А чаго ж ты, скажам, туды імкнешся? У цябе ж там няма нікога? Маці ў Горкім. Рая таксама далёка ў тылу. У цябе ж у Беларусі нават знаёмых няма. Няма нікога, адным словам, да каго б ляцела душа.

— Як нікога, таварыш гвардыі старшы лейтэнант? А людзі нашы?

— Дык і я не адну яе, Ніну, бачу. Я таксама, брат, бачу, як і ты, людзей нашых, народ, што яшчэ там змагаецца, гаруе і чакае нас з табой. Я ж не толькі муж, я салдат. І камуніст! У Якавенкі жонка зусім не там, а ён спяшаецца, як і я...

Зноў, напаўняючы гулам неба і лес, прайшла на захад эскадрылля. Калі гул пачаў сціхаць, старшы лейтэнант зірнуў на ручны гадзіннік, на якім свяціліся лічбы і стрэлка, адразу схамянуўся, — трэба адпачыць!

— Ну, бывай, Колышаў, ды лажыся спаць. Ужо небагата часу засталося. Абавязкова прыкарні, чуеш, дружок: пойдзем у бой — там невядома, калі прыдзецца падрамаць.

## Раздзел XI

### 1

Падрыхтоўка да наступлення падыходзіла к канцу, Усё большы круг камандзіраў знаёміўся з планам бітвы. Ідэя яго коратка была такая: нашы войскі павінны раздрабніць варожы фронт на асобныя групіроўкі, акружыць іх і па частках знішчаць.

Ставілася, такім чынам, задача не проста гнаць ворага, а знішчаць.

Галоўныя ўдары нашых войск меркавалася нанесці на флангах: на поўначы арміямі Чарняхоўскага — 3-ці Беларускі фронт, і Баграмяна — 1-ы Прыбалтыйскі, на поўдні — войскамі 1-га Беларускага пад шамандаваннем Ракасоўскага. 2-гі Беларускі фронт, якім кіраваў Захараў, павінен быў нанесці дапаможны ўдар у цэнтры.

У ноч з 22 на 23 чэрвеня, праз тры гады пасля таго, як першыя гітлераўскія салдаты ўварваліся на зямлю Беларусі, на ўсім фронце ішла напружаная, заключная праца. За дні падрыхтоўкі былі выяўлены і дакладна засечаны тысячы бліндажоў, артылерыйскіх і мінамётных батарэй, кулямётных гнёздаў, дзотаў, чыгуначных эшалонаў. Цяпер заносіліся на карты папраўкі і апошнія данясенні разведкі.

На ўсіх галоўных напрамках у нас была цяпер значная перавага ў людзях, у тэхніцы, мелася ў поўную меру гаручага і баявых прыпасаў, — усяго, што неабходна для наступлення.

Усю гэту ноч Чарняхоўскі быў на каманднa-назіральным пункце.

КНП 3-га Беларускага фронта размяшчаўся ў 12 кіламетрах ад горада Дуброўна, каля невялічкай вёскі Рэдзькі. Тут, за вёскай, на паўночным захадзе ўзвышаецца ўзгорак, звычайны, нічым не адметны ад многіх іншых такіх узгоркаў на беларускай зямлі.

Да КНП вялі доўгія ходы зносін. Па іх камандзіры прабіраліся да ўваходу на каманднa-назіральны пункт Чарняхоўскага, напоўнены людзьмі і клопатам падземны гарадок. Тут былі бліндажы камандуючых артылерыяй, бранятанкавымі войскамі, паветранай арміяй, а крыху далей — бліндажы аператыўнай групы, дзе апрацоўваліся аператыўныя дакументы, што прыходзілі з часцей і накіроўваліся ў часці.

Недалёка ад апергрупы размяшчаўся рабочы пакой і пакой адпачынку Чарняхоўскага. Тут генерал-палкоўнік працаваў у апошнюю ноч перад наступленнем. На століку ляжала вялікая карта фронта са стрэлкамі, абазначэннем часцей, датамі — карта аперацыі. Поруч стаялі два тэлефоны.

Наперадзе, над заходнім схілам узгорка, быў абсталяваны назіральны пункт, маленькі пакойчык, у сценцы якога свяціліся амбразуры. У іх віднелася поле, шасэ Масква — Мінск з радам тэлеграфных слупоў, што зніклі ў далечыні. Адсюль шырока адкрываўся прастор на захад. З гэтых амбразур, каля якіх стаялі стэрэатрубы, скіраваўшы шкелцы-вочы ў поле, назіраў Чарняхоўскі за пярэднім краем удзень і ўвечары 22 чэрвеня. Абапершыся локцямі на столік, заклапочана думаў пра бітву, якая павінна была пачацца заўтра.

Поле наперадзе было маўклівым, загадкавым.

Колькі неспакойных думак прайшло ў галаве Чарняхоўскага, калі ён глядзеў туды.

Ці ўсё ён прадугледзеў, ці не забыў улічыць чаго-небудзь такога, што нельга абмінаць? Ці не здагадваюцца немцы, што рыхтуецца назаўтра, наколькі нечаканым будзе для іх гэты ўдар? Цяжка скрытна правесці такую агромністую падрыхтоўку! Ён мімаволі нецярпліва заглядваў наперад: як пойдуць заўтра справы, стараўся прадбачыць, дзе давядзецца, мяркуючы па вестках разведкі і па сваіх меркаваннях, асабліва цяжка...

Успомніў, чым жыў гэтыя два месяцы — незлічоныя паездкі ў палкі, дывізіі, арміі, праверкі, нарады, як змагаўся з абыякавасцю, з лёгкадумнасцю, вялікімі і дробнымі непарадкамі, як старанна вучыў

камандзіраў і салдат. Усё, што мог, ён стараўся зрабіць для справы,— якія ж вынікі дасць заўтрашні дзень, бязлітасная праверка вайны...

Успомніў, што ўжо не раз спрабавалі збіць ворага з гэтых рубяжоў, асабліва пад Віцебскам, — але няўдала. Праціўніку ўдавалася ўтрымацца. Вядома, цяпер становішча, суадносіны сіл іншыя, — у нас тут зараз войск і тэхнікі столькі, колькі не было ніколі дасюль,— але памяць усё ж нагадвала тыя няўдачы.

Успомніў Маскву, кабінет у Генеральным штабе, размову з генералам Антонавым, які сказаў, што яго рашылі паслаць на 3-ці Беларускі фронт. Потым трывожна-радаснае пачуццё, з якім ехаў сюды...

Хутка вечарэла. Назіраць за полем было цяжка, бо сонца свяціла з таго боку.

Ён вярнуўся ў рабочы пакой.

Ад'ютант напомніў пра вячэру — ці падаваць. Камандуючы папрасіў падаць, але ён амаль не дакрануўся да талерак. Калі ўвайшла афіцыянтка, каб забраць пасуду, яна здзівілася: генерал нічога не еў... Ад'ютант са спачуваннем зірнуў на камандуючага: «хвалюецца вельмі».

Усю ноч Чарняхоўскі і яго штаб трымалі сувязь з арміямі, з усім сваім вялікім войскам. Вузел сувязі, абсталяваны на КПП, рацыі працавалі напружана, з поўнай нагрузкай.

Яшчэ раней у часці і злучэнні былі пасланы афіцэры аператыўнага ўпраўлення штаба фронта. Яны ў апошні раз правяралі гатоўнасць часцей да наступлення. Цяпер афіцэры адзін за адным вярталіся ў апергрупу і дакладвалі аб выніках сваёй праверкі.

Чарняхоўскі ўважліва сачыў за ўсім, што адбывалася на фронце, даваў ясныя і дакладныя ўказанні.

У штабах франтоў, армій, брыгад дапрацоўваліся апошнія дэталі, удакладняліся тэрміны, абставіны, сувязь пры агульных аперацыях. Да пярэдняга краю падыходзілі апошнія палкі і роты.

Авіяцыя зрабіла моцныя налёты на аэрадромы ворага ў Бабруйску, Мінску, Оршы, Баранавічах, Брэсце.

Доўга чакалі нашы людзі гэтай хвіліны. І вось яна надышла.

Чатыры франты — тры Беларускія і Першы Прыбалтыйскі — гатовы былі вось-вось уступіць у вялікую бітву. Агромністая армія, што займала чатырыста пяцьдзесят кіламетраў усцяж пярэдняга краю, застыла насцярожана, чакаючы жаданага слова каманды.

Наступала бітва за Беларусь. Над знявечанай зямлёй, над гераічным народам, што быў яшчэ па той бок франтавой лініі, вось-вось павінна была заняцца зара вызвалення. Яна займалася на ўсходзе, павінна была зліцца з ранішняй зарой, з усходам сонца.

Не пачало яшчэ святлець неба на ўсходзе, а ўвесь фронт стаў ажываць. У палках, узводах, на пазіцыях, якія яшчэ берaглі цішыню, апошнія яе хвіліны, — палітработнікі чыталі зварот Ваеннага Савета Фронта.

І заплёскалася ў ціхіх поцемках, завіравала, пайшла па ўсяму фронту, па артылерыйскіх пазіцыях, па аэрадромах, па пяхотных бліндажах і акопах, па стаянках замаскіраваных танкаў, па сапёрных батальёнах і аўтаротах, па складах і ў санбатах, па лясках, палях, ярах, — то ўголас, то — на самым пярэднім краі — пошапкі, каб не чуў яшчэ вораг, — радасныя, нястрымныя, рознагалосыя каманды, загады — да блізкай бітвы, да вялікага наступлення.

Яшчэ ніхто, акрамя франтавікоў, не ведаў, што надыходзіць вялікая, запаветная хвіліна. Не ведалі гэтага ні Ермакоў, ні Шабуніха, ні Ніна, ні Туравец. Не ведалі мільёны людзей, — не ведалі, але прагна чакалі тры доўгія пакутныя гады.

А артылерысты ўжо скідвалі з халаднаватых выносістых ствалоў і дульных воранёных тормазаў замасленыя чахлы, круцілі ручкі пад'ёмных і паваротных механізмаў, дасылалі снарады ў патроннікі.

Дулы гармат уздымаліея гнеўна ў неба, у заходні бок.

Пачыналася раніца.

2

Аляксею здавалася, што світае марудна, — на дзіва марудна.

Увесь напоўнены чаканнем даўно-даўно жаданай, незвычайнай хвіліны, ён нецярпліва паглядваў на гадзіннік, на ціхае неба, па якому ўсё прасторней, усё пераможней разлівалася барвовая зара. Чым далей, тым больш пунцавела, разгаралася неба, і ўсё навокал яснела,— вачам адкрывалася маўклівая, мірная далеч. І палі, і лясы ад водсвіту зары былі ружаватыя.

Ужо з-за далёкага лесу пырснула сонца, пераліўчата зазіхацеўшы на расе вільготных кустоў, на ярка-зялёных, маладых бярозках, на прытоеных машынах, а ў прыродзе яшчэ панавала цішыня. Дзівосная, незабыўная была цішыня ў гэтую незвычайную раніцу, цішыня вялікага чакання.

Твар Аляксея абвяваў пругкі, халаднаваты вецер, што ледзь шапатаў у лісцях бяроз.

Раптам наперадзе яго, па ўсяму прастору, віднаму воку і схаванаму за ўзгоркамі і лясамі, загрукатала, забухала.

Праз міг паасобныя выбухі зліліся ў адзін суцэльны магутны гром. Адтуль, дзе Аляксей стаяў, не было відаць, як на нямецкім баку, за ўзгоркам, пачалі ўзлятаць чорныя грывы выбухаў, ускідваючы

ўгару абломкі, стаўбуры зямлі. Ён бачыў толькі нашы гарматы з паднятымі ствaламі, над якімі амаль бесперапынна ўспыхвалі імклівыя белыя языкі, віўся, уздымаўся сіні дым.

Каля гармат заўзята завіхаліся артылерысты.

Усё навокал грымела. Зямля калацілася, нібы побач праходзіла незлічоная калона танкаў.

Аляксей мімаволі зліўся з гэтым вялікім громам, яго напоўніла ўрачыстае адчуванне сваёй магутнай сілы. Нібы ўсё гэта гаварыла па яго загаду. Ён адчуваў сябе незвычайна, нявідана вялізным і моцным чалавекам, асілкам, для якога няма нічога такога, чаго б ён не змог. Адчуваць гэтую сілу і моц было вельмі радасна, так радасна, нібы зведваў іх упершыню, нібы не чуў артпадрыхтовак пад Курскам і Сталінградам.

Аляксей, здаецца, забыўся на ўсё. Напэўна, няма больш жаданай музыкі, чым гэтая. «Так іх! Каб помнілі гэтае балота! Каб помнілі гэты дзень!» — шаптаў ён сам сабе.

Гордым позіркам Аляксей пераглянуўся з Якавенкам, які стаяў каля яго: «Чуеш, а!» — запытаў ён вачыма.

Над узгоркам, што быў наперадзе, ад выбухаў выплыў і пачаў уздымацца густы, чорны, клубісты вал.

Угары эскадрыллямі плылі самалёты. Яны ішлі нязвыкла ціха, нібы планеры: гул іх тануў у громе артылерыі. Ранішняе сонца весела паблісквала на іх нябесна-блакітных крылах. Трохкутнік за трохкутнікам праходзілі і праходзілі над лясочкам.

Неўзабаве яны вярталіся назад, спяшаючыся справіцца ў другі раз. А насустрач ім ляцелі іншыя.

З дрэваў, заўважыў Аляксей, ад грукату, кружачыся, ападала маладое, яшчэ клейкае лісце.

Поруч са старшым лейтэнантам стаяў камбат і некалькі афіцэраў. Усе маўчалі і слухалі. Колышаў быў асабліва ўсхваляваны, твар яго свяціўся амаль дзіцячай урачыстасцю.

— Вось такую падрыхтовачку паслухаць бы таму, у каго яшчэ чэшуцца рукі ваяваць з намі, а? — прамовіў ён на вуха Аляксею. — Можа, хутка адпала б ахвота лезці да нас!

— Нажаль, Колышаў, тыя, хто пасылаюць з вайной да нас, не чуюць гэтага. Адседжваюцца сабе, нягоднікі, дзе-небудзь у зацішку.

— Нічога. Я думаю, цяпер многія заракуцца. Вядома, такія, хто яшчэ не страціў зусім розуму ад нянавісці...

А вогненны ўраган усё грымеў і грымеў.

Нарэшце, агонь перанеслі далей...

На ўзгорак пачалі хутка падымацца цяжкія танкі прарыву. Яны перавалілі за грэбень і сталі адзін за адным знікаць. На ўзгорак узыходзілі другія. Недзе ўперадзе паднялася пяхота, яе не было відаць.

З-за ляска вырваліся некалькі груп штурмавікоў. Яны з рэвам нізка пранесліся і таксама зніклі за ўзгоркам.

Лагуновіч чакаў, што перададуць зараз і яго роце каманду — наперад, на зыходную пазіцыю, а там — і ў бой. Усё яго цела напружылася, сабралася. «Хутчэй бы толькі камандавалі!» — прыспешвала яго неспакойнае, нецярплівае сэрца, якое не любіла доўга чакаць. У грудзях было прывычнае перад боем адчуванне нейкан пустаты, калі іншыя пачуцці змяняе а дно — чаканне і прага блізкай бітвы.

Старшы лейтэнант акінуў позіркам сваю роту, нібы правяраючы, ці гатовая яна. Збоку здавалася, што ўсё было спакойна. Машыны, укрытая маладым алешнікам і бярозавым галлём, стаялі нерухома. Купкамі ля машын усюды віднеліся танкісты і аўтаматчыкі з дэсанта. Поблізу Аляксей убачыў прысадзістую ўпэўненую постаць Быстрова, поруч з ім неразлучнага Сонцава і падумаў радасна, што добра мець такіх салдат.

Гарматы раптам сціхлі. Аляксей не адразу заўважыў, што наступіла цішыня; у галаве яшчэ стаяў артылерыйскі гром.

Потым ён пачуў, што за ўзгоркам, як кіпень у вялізным катле, клякоча бой, трашчаць кулямёты.

— Вёска, напэўна, — прамовіў старшы лейтэнант,— перастала быць «нічыёй». Праворны са сваімі хлопцамі працуе ўжо недзе там... Больш не будуць сыпаць на яе жалеза.

— Ёсць такія вёскі, — адгукнуўся Якавенка, — якім дастаецца асабліва моцная порцыя жалеза і толу. Вернуцца людзі і месца не змогуць пазнаць. Перакапана ўсё па-новаму — акопы, варонкі.

— Пазнаюць! Цікава, што там будзе гадоў праз дзесяць. Цяжка проста ўявіць цяпер. На тым месцы зноў вырастуць хаты, і будзе там... чалавек хадзіць спакойна, не баючыся, што яго прашые куля ці асколак. Нашы акопы і той КП заараць, засыплюць зямлёю...

— Тады, мусіць, забудуць, як мы тут стаялі, чакалі, што думалі.

— Будуць помніць. Усё, што мы робім, будуць ведаць. Кожны лясок, дзе мы былі, помніць будуць. Такога нельга забыць!

— А я думаю, забудуць, — заўважыў Якавенка.— Людына забывае, калі следу не застаецца.

— А гэта не наш след, Якавенка. Бітае каменне і кроў — гітлераўскі след. А наш след тое, што вырасце на тым каменні, акопах, усюды, дзе мы пройдзем. Гэты след будзе вечны!

Яны змоўклі. Аляксей сачыў за ўсім, што рабілася навокал, і чакаў,чакаў.

Адтуль, дзе кіпеў бой, пачалі насіць раненых. Іх было многа. Аднаго раненага танкісты Аляксея затрымалі і акружылі. Шырокая галава яго была перавязана бінтамі, над якімі кустом тырчалі русыя валасы, правы рукаў злінялай гімнасцёркі быў разадраны і падрэзаны, а забінтаваная рука вісела на марлевай касыначцы. На твары цямнелі палосы перамешанага з гразёй поту.

— Ну што там, зямляк?

— Што? Міны, дрот — кроку не ступіш.

— Ну, усё-ткі, нашы ціснуць?

Пехацінец павярнуў да таго, хто пытаўся, упарты, з кароткім аблупленым носам твар і прамовіў рашуча:

— Ціснем. А як жа! Пытаешся...

Прайшоўшы крыху наперад, нашы часці прыпыніліся, нібы не маглі прабіцца далей. Вораг, відаць, падкінуў падмацаванне. Потым бой пачаў зноў павалі аддаляцца. Аляксей услухоўваўся ў гукі бітвы і загараўся яшчэ больш. Яму хацелася туды, куды пайшлі ўсе, хоць ён і ведаў, што трэба чакаць сваёй пары, што хутка яна прыдзе.

— Колькі мы будзем стаяць тут?— запытаўся Колышаў нецярпліва ў Аляксея.

— Колькі загадаюць, столькі будзем стаяць. Відаць, чарга не наступіліа. Прыдзе — скажуць!

Аляксей падумаў, якія вялізныя памеры наступлення і — колькі тут войск, людзей, што так, як і яны, яго рота, нецярпліва, парыўна чакаюць сваёй пары!..

Артылерысты палявых батарэй пакацілі наперад гарматы. Пасунулася далей, падскокваючы і пакалыхваючыся, некалькі павозак з боепрыпасамі.

Упершыню Аляксей падумаў, што ісці будуць яны вельмі доўга. Пачалі тут, а дзе прыпынак — невядома. Дарогі знікалі недзе за Мінскам у летняй смузе, недзе вельмі далека.

Раптам Аляксей убачыў непадалёк ад сябе земляка, якога ён затрымаў. Жывіца, у той жа мятай паддзёвачцы, з мяшком за плячыма, з бярозавым кіем у руцэ, пакульгваючы, ішоў услед за павозкамі.

— Вунь і Жывіца ў наступ пайшоў!— пажартаваў Быстроў і крыкнуў: — Эй, старшыня! Хуткасць павяліч, адстанеш!

Той азірнуўся на голіас.

— Ад каго адстану, а ад каго — і не!— адгукнуўся задзёрыста ён. — Вас з вашымі машынамі я і з кійком пераганю; стойце толькі даўжэй тут! — з усмешкай, весела пакпіў ён. Зняўшы шапку, дадаў:

— Бывайце здаровы! Бо мне часу няма.

Паправіўшы за наплечную вяровачку мяшок, Жывіца хутка пакульгаў далей. Побач з ім тарахцелі павозкі, якія паволі ўздымаліся на ўзгорак.